№6 (121)
/лістапад-снежань/ 2022

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Фелікс Баторын



...У свеце, што будзе ні пеклам, ні раем,
Аднойчы прачнемся й сябе не пазнаем...

# Ужо нас мала, ды яшчэ мы ёсць

## *ЛЯ РУЧАІНЫ*

*(З народнага)*

Мые дзеўка ў ручаіне
Ножкі белыя свае
І самой сабе ці плыні
Ціха песеньку пяе.

Пад'язджае неспадзеўкі
У вазку шыкоўным пан.
– Добра ты спяваеш, дзеўка.
Твар прыгожы твой і стан.

Бачу я ў табе пароду.
Я ж пародзістых люблю,
І цябе, дай толькі згоду,
Я графіняю зраблю.

Засмяялася, без злосці
Дзеўка свой адказ дае:
– Я не сучка, ягамосцю,
І пароды не тае.

П'ю з каўша, а не з графіна,
Ем я з місы, а не з блюд.
І ці ж стану я графіняй,
Пагадзіўшыся на блуд?

Пачастуйся дзікай вішняй,
Пакаштуй маіх дурніц[1]
І ў мясціне нейкай іншай
Пашукай сабе дурніц!

Сонца ззяе. Дзень чароўны.
Лёгкі ветрыка павеў.
У вазку сваім шыкоўным
Едзе пан, як мыла з'еў.

*2021*

## *ВОСЬМЫ КОЛЕР*

Быў вецер рэзкі, дождж ільдзіста-колкі
І ў хмарах сонца ўжо чатыры дні.
Сем невясёлых колераў вясёлкі
Сутула паўставалі ў вышыні.

Было мне на душы журботна, золка.
І, гледзячы на цьмяны паўавал,
Пералічыў я колеры вясёлкі –
І восьмым я сябе прымаляваў.

*2021*

## *СУЧАСНАЙ ЧЭРНІ*

*– Ідзі сабе, – сказаў Агасфер.*
*– І ты ідзі, – мовіў Езус.*

**З прыпавесці пра Езуса і Агасфера**

Свет будзе помніць вашыя імёны.
Вы безумоўна вартыя таго,
Як Агасфер, пракляты без праклёну
За злую абыякавасць яго.

*2021*

---

[1] Дурніцамі шмат дзе ў Беларусі называюць буякі, бо яны растуць звычайна ўпярэмешку з багуном, пах якога выклікае лёгкае ачмурэнне.

* * *

Укацілася поўня ў вакно,
Абудзіла,
Паказала кіно – не кіно,
Але дзіва.

З-за вакна, дзе абразіла хмель
Дзёрзкасць ветру,
У пакой уплываў карабель
Па паветры.

Рубка ясна была мне відна,
Срэбны вымпел.
Быў я ў хмелю, хоць кроплі віна
Нат не выпіў.

Дзьмуў зюйд-вест між сталом і вакном,
І не слаба.
Але хто там стаяў за стырном?
Гэта ж я быў!

Абер*у*ч павяртаў я стырно
Гэтак звыкла...
Тут ускочыў наш кот на вакно –
І ўсё знікла.

Стала крыўдна. Пакінуў пасцель,
Выйшаў з дому.
А куды я той вёў карабель? –
Невядома.

*2021*

* * *

Пад сённяшняю вавілонскай вежаю
Я посцікі жабрацкія развешваю:
Як міласціны, міласці прашу.
А людзі ўсе кудысьці расспяшаліся,
А ў мовы ўсе жаргоны намяшаліся,
Бы ў шапку, дробязь сыплецца ў душу.

*2021*

* * *

Каб ведаць, чым закончыцца твой жарт:
Ці смехам, ці слязьмі, ці тым і гэтым?

І ў самым мяккім слове ёсць той гарт,
Што пакідае ў сэрцы злую мету.

*2021*

### *У ЗІМОВЫМ БЯРЭЗНІКУ*

Устаў на познім золку я.
Тапчу сцяжынку к гаю.
Запозненае золата
На срэбра ападае.

Чарнее галка вугальна
Між золатам і срэбрам.
Чапляе галаву галлё,
Сукі таўкуць у рэбры.

Сарвалі шапку: хочацца
Цяпла замерзлым дрэўцам.
Вярніце ўбор, налётчыцы! –
Самому трэба грэцца.

*2021*

* * *

Зімовы вечар. Дзесяць.
У цішы снег рыпіць.
З-за хмаркі выйшаў месяц –
І ну свяціць, свяціць...

Ідзем па дачнай вулцы
Мы двое: кот і я.
Сабакі азавуцца
Дзяжурныя здаля.

І зноўку стане ціха,
І толькі снег рыпіць.
І хочаш верыць: ліха
Нябуджанае спіць.

*2021*

* * *

Нехта змераў адлегласць да Месяца.
Нехта змераў адлегласць да Сонца.
А адлегласць між душаў людскіх

Невымернай, як Космас, здаецца.
І не хопіць жыцця, каб яе
Скараціць хоць на нейкую цалю.

*2021*

* * *

Як цяжка стала мне насіць душу,
Напоўненую смеццем і каменнем.
Палёгкі ва Ўсявышняга прашу,
Ды вее з Вышыні неразуменнем.

“Душу ў цябе ўдыхнуў я, гэта – дар.
Яна твая, твая над ёй і ўлада.
Калі душы сваёй ты гаспадар,
Давесці мусіш сам яе да ладу.

Каменне па пустэльнях раскідай
І на памыйку вытрасі ўсё смецце.
І ўбачыш ты, што ёсць у свеце рай –
Не ў іншым нейкім, але ў вашым свеце”.

Ну як жа не паслухаць мне было?
– Зраблю, – кажу, а голас нейкі тонкі.
Каменне ж не скрануць, як прырасло,
Захрасла й смецце, не трасецца вонкі.

*2021*

* * *

Пахне карой і жывіцай,
Пахне хваёвай ігліцай.
Гэтым паветрам жывіцца –
Богу лясному маліцца.

Тоўчу натоўчана процьма,
Хоць ты яго зацюкоўвай.
Мы раскаваліся, хоць мы
Не заўважалі аковаў:

Звыкласці нудных жалезаў,
Быту пудовых вярыгаў.
Як жа нам душы нарэзаў
Цяжкі ланцуг інтрыгаў!

Тут, у бары, ля крыніцы,
Хораша спіцца на моху.
Дыхаеш сонцам, жывіцай –
І ажываеш патроху.

*2021*

## *А ТЫ СКАЗАЛА*

А ты сказала: не тужы.
Ды дзе ж узяць мне тую нетуж,
Калі скруціла цела недуж
І па душы паўзуць смаўжы?

Паўзуць і холадна, і ліпка,
Казычуць, не! – вярэдзяць, так,
Што пачуваешся, як ліпка,
З якой кару садралі,
Як
Пазбаўлены іголак вожык,
Як жук без крылцаў і без ножак
Ці як распораты пінжак.

А ты сваё ўсё: не тужы –
Ці ж нарасціць кару́ тугою,
Іголкі, крылцы – ўсё такое?
Маўляў, лепш песеньку злажы.
Пра што? Пра ўсё: пра Задыяк,
Пра лес, пра мора ці пра жыта,
Ці, як той бард, пра перашыты
Стары паношаны пінжак.

*2021*

* * *

На спелыя вішні злятаюцца птушкі і восы,
Хаваюцца-тояцца ў лісці вайшнёвым дзівосы.
І шэпчуць праменьчыкі сонца: з нас кошык спляці ты
І вішань збяры, жыццядайнаю сілай налітых.
Іх сок расцячэцца, напоўніць душы капіляры.
Вішнёваю ноччу прымроіш вішнёвыя мары.

*2021*

* * *

О колькі – немаведама! – разоў
У слоўніку, дзе розных слоў значэнні,
Вышукваць намагаўся я назоў
Таго, чаму не маю тлумачэння.

Праменнем асвятляла сонца стол,
А вецер памагаў гартаць старонкі.
Спыніўся ж на артыкуле АСЁЛ.
Намёк, быць можа, быў у гэтым тонкі?

Учытваўся я зноў, яшчэ, яшчэ...
Шматзначнае, – але не тое слова.
А тое, што душу маю пячэ,
Прапушчана, мажліва, выпадкова.

*2021*

* * *

Мы цяплу забытаму рады,
Стол і крэслы ў сад свой выносім,
Дзе алхімік па імені восень
Робіць золата са смарагдаў.

Я плачу́! – і сыпле дукаты
Нам на стол шырокай рукою.
Сумны труцень паўзе па ляўкоях,
Што цвітуць па краях цыраты.

Сваім выглядам кажа труцень,
Гэта ўсё, маўляў, паказное,
Раскідайся, маўляў, казною,
Покуль снежань не абанкруціў.

*2021*

* * *

Нас шукалі – сабе.
Мы шукалі – сябе
Даўнім метадам спроб і памылак.
Хтосьці каменем стаў, што і сталь не ўдзяўбе,
Ну а хтосьці – нібы той абмылак.

Не згінаючы спіны, свой лёс я нашу.
І ступаю я цвёрда, без мыліцаў.

Але ўпотай памацваю ўсё-ткі душу:
Ці не мыліцца?

*2021*

## *У ВЯНОК ЯНУ НЕСЛУХОЎСКАМУ*

Воды ў чорнай бросні,
Неба ў шэрай плесні.
Не снуюцца кросны.
Не пяюцца песні.

“Можа быць, паночку,
Вам гарбаты ўлеяць?
Будзе мжыстай ночка:
Ручкі-ножкі млеюць.”

Ах ты, восень, восень,
Скруха ты – скрушына.
Іскры, нібы восы,
З цьмянае лучыны.

“Доўга давядзецца,
Пане, жыць без сонца.
Ды куды ж падзецца?
Трэ снаваць красёнцы”.

Так, за справу брацца
Трэба адмыслова:
Трэба песням ткацца
З нашых родных словаў.

Сонца будзе. Будзе!
Сёння ж для зачыну
Нашым бедным людзям
Свеціць хай лучына.

*2021*

* * *

Снег крактаў пад цяжарам крокаў,
Каля ганку нарэшце змоўк.
Ад падвалін да самых крокваў
Апусцелы прамерз дамок.

Пад паветкаю – клетка дроваў,
У пакоі – няўтульны змрок.
Загудзела грубка, і з броваў
Іней сцёк па маршчынах шчок.

І запахла сасною смачна,
І пачулася ў напаўсне,
Нібы шэпча дамок удзячна
Штосьці добрае пра мяне.

*2021*

## ТРЫ ДУДКІ

*Надзея, патрабуй жыцця!*

**Ніна Мацяш**

Столькі бруду наўкол, столькі змроку наўсцяж,
Што, жыццё, ты б магло і абрыдзець.
Тры чароўныя дудачкі Ніны Мацяш
Не даюць мне жыццё зненавідзець.

Шмат наўкола нязводных духоўных калек
У раскошных асілкавых целах.
Ды на іхні змяняць свой бязлітасны век –
Не, паэтка таго не хацела.

І праз боль адчуваючы радасць жыцця,
Што было нескончоным змаганнем,
Тры чароўныя дудачкі Ніна Мацяш
Ажыўляе і сёння дыханнем.

Калі ў першую дзьмуць, высыхае сляза,
У другую – агорне лагода,
Ну, а ў трэцюю – так заспявае лаза,
Што пускаецца ў танец свабода.

*2021*

* * *

Праз пустэльні сонных гоняў,
Праз віхураў каламуць
Гоніць снежань белых коней,
Сані, свішчучы, лятуць.

Ад зімы такой адвыклі
Мы ў апошнія гады.
Дух, прывялы і паніклы,
Зноў крамяны, малады.

Промнем гурбы сонца ліжа,
Зазірае ў сінь лагчын.
Просяць ногі лёгкіх лыжаў,
Вабіць сэрца далячынь.

*20.12.2021*

* * *

Стражэе муза. Ды не-не,
А засваволіць, загарэзіць.
А потым зноў давай цвярэзіць
Разблазнаванага мяне.

А я ў адказ ёй: смех ці ж грэх?
Ці ж праўды я жыцця не бачу?
І я хіба ж ад смеху плачу?
І гэты смех – хіба ён смех?

*2022*

* * *

Ужо нас мала, ды яшчэ мы ёсць.
Нас бачылі, нас недзе сустракалі,
Ва ўсіх грахах па звычцы папракалі –
Яшчэ камусь мы нібы ў горле косць.

Мы неўзабаве сыдзем, як сышлі
Шумеры, і этрускі, і дулебы.
Ды ўгноіўшы сабою шчодра глебу,
На гэтай застанемся мы зямлі.

*2022*

* * *

У цэнтры Мінска, каля Трэцяй клінікі,
Гняздуюць салаўі ў галлі прысад.
Іх не пужае ляск трамвайнай лініі
І стадыёна матчавы азарт.

Шмат вёснаў салаўі сюды вяртаюцца,
Каб у вакно радзільнай залы пець.
Тут асабліва радасна спяваецца.
Чаму? Зусім няцяжка зразумець.

*2022*

* * *

Яна расчыніць дзверы. Стане золка.
Яна прамовіць: час нам парадніцца.
Як вожык, натапыру я іголкі,
Але яна іголак не баіцца.

Як вожыка, яна мяне ў прыполе
У край знясе нязнаны і вядомы
І спыніцца ў пустым і цёмным полі,
І скажа, уздыхнуўшы: вось мы й дома.

*2022*

* * *

Я ўдзячны больш няўдачы, чым удачы:
Даруе ўдача дробныя грахі,
Няўдача ж прымушае жыць іначай,
Змятаючы ўсё смецце да крыхі.

*2022*

* * *

Зносяцца і сітчык, і ядваб.
Гурт дзяўчынак стане кучай баб.
Перад непазбежнасцю згасання
Вольны ты душой, а целам – раб.

*2022*

* * *

У застылай праўдзе фатаграфій
Непазбежна селіцца мана.
Крэўнаю сястрою эпітафій
Мне заўсёды бачыцца яна.

Тыя абвяшчаюць вечнай скруху,
Вечным боль ад незагойных ран...

Гояцца ўсе раны. Праўда ў руху.
Праўда, што спынілася, – падман.

*2022*

* * *

Два галубы масціліся ў паддашшы
І ціха буркаталі пра сваё.
Спаў каля плота інвалід, паддаўшы.
Базарыла на ліпе вераб'ё.

Шматкі ляцелі тапалёвай ваты,
На голаў наліпалі, на штаны...
Быў пяцьдзесят другі, галаднаваты,
У ранах, не загоеных з вайны.

За тое, што не дадавала рэшты,
Мужык у краме прадавачку крыў.
А Ромка, за мяне на год старэйшы,
Пра будучыню нашу гаварыў.

“Тады не будзе п'яных інвалідаў,
А хлеба будзе – еш – ды не хачу.
Пасадзяць у турму касмапалітаў
І можна будзе верыць урачу.

Праклятую Амерыку мы звалім
І станем жыць, не ведаючы бед.
І кожнаму хлапцу таварыш Сталін
Падорыць асабісты лісапед”.

*2022*

* * *

*Хай жа вам так не здаецца,*
*Што бяда ўжо і зацісне.*
*Знайце, ліха ператрэцца*
*І маланкай доля блісне.*

**Янка Купала**

Перабалелы розум свой ахмелім,
Забудзем словы клятвы і кляцьбы,
Бяду на жорнах долі перамелем,
У нашых печах выпечам хлябы.

Забудземся хаця б на міг адзіны:
Хай здасца шчасце яваю жывой.
Да сэрца абыякавай радзімы
Прынікнем беспрытульнай галавой.

*2022*

## ЭПІТАФІЯ НА МАГІЛЕ СТРАЧАНЫХ МАГЧЫМАСЦЯЎ

Задні розум з часцінкаю “бы”
Хіба ж гоіць разбітыя лбы?

*2022*

## ДАЛЁКА-ДАЛЁКА

Далёка-далёка, за лесам, за морам
Насуперак страхам, сумненням і зморам
Ідзе па залітым святлом беражку
Ядвабнае шчасце
у сціплым вянку.

Гуляе, не ведае сварак, сутычак
У коле вясёлых братоў і сястрычак
Пад спевы саловак, пад водары руж,
Не знаючы слоты, віхураў і сцюж.

А мы ў неспакоі і думках бясконцых
Забылі, як ззяе спагаднае сонца,
Забылі пра гукі і пахі вясны
І снім у знямозе нязбытныя сны

Пра тое, як дзесьці за лесам, за морам
Насуперак страхам, сумненням і зморам
Ідзе па залітым святлом беражку
Ядвабнае шчасце
у сціплым вянку.

*2022*

## ПАМЯЦІ ПАЭТА АНАТОЛЯ ВЯРЦІНСКАГА

Хоць каляндар назад гартаецца
Па тыднях, месяцах, па днях,
Але ўсё лепшае вяртаецца
Да нас адно, на жаль, у снах.

У зразумелае, вядомае,
А значыць, ва ўчарашні дзень
Нас кліча нешта падсвядомае,
Што ўсё не голіцца ў каршэнь.

Таму́ заўсёды ў чымсь няшчасныя
Мы на працягу многіх год,
Што з нас і самыя сучасныя
Вядуць з учора радавод.

*2022*

* * *

Ходзім па самым краі,
Носім на шыях петлі,
Пекла робячы раем,
Які нам стане за пекла.

Раны свае вярэдзім мы,
Сябе за грахі караем
І не знаходзім сярэдзіны
Паміж апраметнай і раем.

*2022*

### *ГАЛУБЫ*

Кружацца, садзяцца, узлятаюць зноўку
У прадвесня высі галубы.
А блакіт празрысты то падобны шоўку,
То паркаль нагадвае рабы.

Галубы з касцёла на царкву садзяцца,
З даху сінагогі – на мячэць.
Там, дзе ім утульна й зацішна, гняздзяцца,
Бог адзін – даюць нам зразумець.

*2022*

* * *

Твар, як у лорда.
Прыгледзеўся – морда!

*2022*

* * *

Доля, з цяжкіх жалезаў скутая,
Параўняла тых дзвюх сурова:
Што ў Ял*а*бузе адпакутаваць,
Што ссамоціцца ў Камарове.

Дзве жанчыны, два светлых геніі
У раі напаўняюць чашы,
Прапануюць Ларысе Геніюш:
“Далучайся да трызны нашай”.

*2022*

* * *

Грае нешта скрыпач – пуста ў шапцы –
Ў пераходзе каля казіно.
На спагаду ловячы шанцы,
Ён стаіць тут ужо даўно.

У рулетку жыцця прайграўся,
Мучыць скры́пачку дзень пры дні.
Ні пад Шнітке, ані пад Штраўса
Не даюць ні рубля ані.

*2022*

### ХАЎТУРЫ

*А хто там ідзе?..*

**Янка Купала**

Ці пяюць, ці адпяваюць,
А ці плачуць нараспеў?
І каго ж ці што хаваюць?
Ён памёр альбо даспеў?

Праз калоддзе і пакуты
Што/каго нясе народ,
Што з сябе зрывае путы
З дня ды ў дзень і з году ў год?

О, бясконцыя хаўтуры
Дзён учорашніх сваіх!
Ані буры, ні віхуры
Ні на міг не спыняць іх.

*2022*

Франц Сіўко



...што ні крок, то схрон,
што ні чалавек, то нораў...

# Манерка

***Апавяданне***

Вады ў фабрычнай асадзе[1] Міжрэчча ў любую пару года са збыткам. Асабліва ўвесну, калі пачынаецца на рацэ паводка, і яна, знябыўшыся за зіму пад сцюдзёным лядовым панцырам, весела шугае праз край берага ў прырэчную лагчыну, у так званы Халуй. Дзе надалей і застаецца да радасці спачатку жаб, што з прыходам цёплых дзён аздабляюць чэрава лагчыны звілістымі суплётамі жабурыння, пасля, бліжэй да сярэдзіны лета, – буслоў ды чапляў, што тым жабурыннем, толькі ўжо ў выглядзе порсткіх апалонікаў і маладых жвавых жабак, ласуюцца.

Праўда, здараецца ў гэтым раі для цыбатага птаства падтапленне і ўлетку, падчас залеваў. Вады прыбывае тады ў раку з раўчукоў і канавін так шмат, і яна такая нястрымнаваяўнічая, што нават некаторыя драўляныя навакольныя млыны яе ціску не вытрымліваюць, касабочацца, а то і зусім бурацца.

На шчасце, цаглянаму міжрэчанскаму млыну рэзрух з-за лішку вады ў рацэ ні ўвесну, ні ўлетку не пагражае. Падтопіць таліна ці дажджавая вадзіца падмурак ды і схлыне, не даўшы рады змагчы яго каменна-непрабівальнае моцы.

Зрэшты, і без рэзруху млын ужо другі год не працуе. І ці адновіць калі-небудзь працу – невядома. Хутчэй за ўсё, насуперак спадзеву Зімака Самаваронка, сына былога гаспадара асады, што – тыц пахвалёны! – заявіўся сюды, на котлішча прашчураў, следам за немцамі з намерам вярнуць адабранае ў бацькі да вайны саветамі, – не. Прынамсі Дуні і Юзю Нямірам і іх маці Зосечцы такая мроя маладзёна, што і сёння вунь ад ранку раз-пораз мільгае паставаю на сцежцы ад хаты да вадаспада ды цікуе спадцішка за пазапінанымі вокнамі суседзяў, збытнаю не здаецца.

Бо і вада ўжо з прымлыннае запруды ўбок адведзеная, і кола ды жорны за час прастою, мабыць, страцілі кандыцыю. Таму адзінае, што яшчэ дадае Зімаку аптымізму, – сам будынак млына з вадаспадам наўзбоч. У які таксама, аднак жа, без належнага спрыту ды ўмельства, а толькі з разлікам на помач Духа Святога жыцця не ўдыхнеш. А адкуль узяцца спрыту-ўмельству ў гэткім кволым – хоць ты на пеліну[2] яго, бы таго малёначка, вазьмі ды люляй – інтэлігенціку, як Зімак, і пытацца не выпадае.

Дуня счэквае, калі чарговы раз знікне за рогам хаты Зімакова спіна, выходзіць на ганак. І адразу трапляе ў какафонію гукаў.

Вадаспад, што ўтварыўся пры плаціне наўзбоч млына пасля спынення кола, утрапёна гудзе, поўніць наваколле нязмоўчным, бы скавытанне ветру на гарышчы ў глухую восеньскую непагадзь, грукатам. Вада ліецца праз плаціну без супынку, але асабліва гучным выдае яе грымоцце ўранні, калі яшчэ ўсюды па надрэччы вісіць туман і нічога скрозь яго за два крокі не бачна. Здаецца, выпрастай у такую хвіліну руку, каб датыкнуцца да яго, як і патонеш з галавою ў непранікальнай белавата-шызай гусціні.

Цяпер, аднак, ужо амаль паўдзён, і ўсё навокал вадаспада і хаты пры ім праніцанае пукамі сонечных прамянёў, што прабіваюцца на панадворак праз карункі спавітых павуціннем галінак ніцых яблынь на глiністым узгорку воддаль ад ледзь прыкметнай у траве сцежкі на Халуй. Глеба ў асадзе дрэнь, адзінае, што больш-менш вольна пачуваецца на ёй, – кустоўе. Рабіннік, шыпшыннік, лазняк, маліннік так і пырскаюць атожылкамі ва ўсе бакі, запаўняюць сабою вузкую прастору паміж хатаю і сушарняй. Усё, апроч брукаванкі, якая са спыненнем млына паціху, але таксама няўмольна, як і сцяжына на Халуй, робіцца ўсё больш незаўважнай сярод хмызу.

Палову асадаўскае хаты на два канцы, з асобнымі ўваходамі ў адзін і другі, Няміры занялі пасля таго, як з прыходам саветаў збег з сям'ёю за мяжу, у Польшчу, яе гаспадар, сяржант памежнай стражніцы[3] Пётра Самаваронак па мянушцы Дзяч. Спехам засяліўшыся, не паспелі, аднак, у ёй навасёлы агледзецца, як Янушака Няміру, Зосеччынага мужа і Дунінага і Юзевага бацьку, забралі ў савецкае войска.

Тут неўзабаве немцы прысунуліся, і зноў усё памянялася з іх прыходам і вяртаннем Зімака. Які, праўда, дзякуй яму, адразу высяляць самазваных жыльцоў з занятай паловы, памятаючы пра іх прыязныя даўнейшыя, дасавецкія яшчэ стасункі з бацькам, не стаў, даў часу хаця б збольшага агледзецца ды падшукаць пад жытло штосьці больш-менш прыстойнае.

Вось і аглядаюцца, падшукваюць салдатка Зосечка з сынам і дачкою жытло па селішчах паблізу.

Учора досвіткам Зосечка выправілася ў мястэчка ў краму і вырашыла разам паглядзець хутар за пяць вёрстаў ад асады. І калі яна вернецца цяпер дахаты – невядома. Магчыма, сёння к вечару, магчыма – заўтра. У выпадку няўдалых агледзінаў прылепіцца дзе-небудзь у добрых людзей унаначкі, каб потым не цягнуцца зноў па ліпеньскім сквары на пошукі. Балазе гаспадаркі ў Няміраў пасля таго, як збылі напрадвесні авечак, вобмаль: паўдзясятка курэй ды пара індыкоў. Дык і шаснаццацігадовая Дуня, адмалку нічоганяробленнем не спешчаная, дасць гэткім куртатым хатнім клопатам рады. Такой увішнай дзеўцы курэй з індыкамі накарміць і суды[4] вады прынесці з ракі на кароміслах – раз плюнуць.

Баба Люцця Вайцюліха выпростваецца ў бурачышчы ля верхняе сушарні з пукам батоўя[5] ў прыполе нязменнае свае зялёнае шавіётавае спадніцы, глядзіць здаля ў Дунін бок. І хаця адлегласць паміж імі не меней за сотню метраў, Дуня скураю адчувае суседчыну злосць. Адварочваецца, каб не глядзець на зласлівіцу, ды тут жа зноў падымае галаву, агаломшаная не менш сярдзітым за Люцін пагляд сабачым брэхам.

З-за рога сушарні выбягае Мармон, шмыгае ў разору паміж градамі. Шчанюком сабаку падабраў бабін мужык Ганэрак дзесьці на шляху з заробкаў у Амерыцы. А назваў Мармонам у гонар нейкага свайго амерыканскага прыяцеля-мармона, што быццам бы апекаваўся ім на чужыне. Хаця, хутчэй за ўсё, быў то не прыяцель, а прыяцелька: нягледзячы на пашанотны век, Ганэрак яшчэ і да нядаўняга лічыўся гулякам будзь-будзь, ніводнае спадніцы ў наваколлі не прапускаў.

Памёр жа Ганэрак Вайцюль на пачатку гэтага лета неяк зусім па-дурному – з завароту кішак, пачаставаўшыся ў Няміраў гарачым лапуном[6] з вымененым Зосечкай напярэдадні ў Люці на жмут воўны казіным маслам. Прыйшоў надвячоркам да суседзяў адбіць на бабцы касу ды і спакусіўся пачосткаю з пракіддзю[7] жончынага вырабу.

Пад'еў да смаку, а праз два дні памёр. Можа, і не сканаў бы, калі б у пару звярнуўся да доктара. Але ж заўпарціўся і застаўся праз тое без помачы. А калі спахапіўся, доктара на месцы не аказалася, паехаў штосьці немцам памагаць. Ляжаў пасля Ганэрак у труне з абразікам Маці Божай у сашчэпленых на грудзіне руках, касавурыўся на прысутных з-пад няшчытна прыкрытых павек.

І хаця не сказаць, каб ужо так перанялася неўспадзеў аўдавелая Люцця смерцю мужа ды пачала помсціць за яе суседзям, штосьці ў яе стаўленні да Няміраў усё-такі ад таго часу памянялася. Што ўроілася кабеціне – Бог ведае, а толькі зусім жанчына іншай стала, як была раней. Асабліва пасля таго, як знікла тыдзень таму яе каза Манюта. Мабыць, драмала-падрэмвала да часу крыўда-непрыязнасць да суседзяў у душы ў Люці з-за смерці мужа, пакуль не вылілася ў рэшце рэшт, падштурхнутая новаю стратаю, у – дай ты рады! – гэтку во страхавітаую, нялюдскую злосць. Такую нялюдскую, што, ёю, мабыць, намоўленая, вунь на якую нечуваную ў тутэйшых краях гідкасць – крадзеж – жанчына наважылася.

Ды каб жа на што вартае паквапілася дурніца! На такую нікчэмную дрэнь пагалілася Люцця, што і сказаць сорам – на шчарбатую бляшаную манерку[8].

Дуня на ўласныя вочы бачыла, як старая, вяртаючыся праз іх панадворак ад вадаспада да сваёй хаты ўвечары таго дня, калі прыходзіў у асаду Юзя, захінала над поясам кофту, быццам штосьці хавала пад ёю. Як потым вятрыска знячэўку расхінуў адзежыну, і нешта бліщчастае вытыркнулася вонкі з-пад яе. Што там яшчэ магло быць, апроч манеркі? Якраз курам вады перад гэтым за якую хвіліну падумала Дуня наліць, сюды-туды паткнулася, а манеркі няма, бы карова языком злізала. Вядома, рэч тандэтная[9], ды не ў кошчэ ж справа.

На панадворку задушліва, як ў перанапаленай лазні. Здаецца, вусны расшчапі – і ў роце зашашчыць ад гарачыні. Каты і тыя пашыліся ў цень, не чутно іх і не бачна. Затое індыкам – воля. Сядзяць разамлелыя, з растапыранымі крыламі ў пыле на сцежцы наўзбоч гародчыка, не зварухнуцца. Паспрабуеш зрушыць каторага з месца – шыі ў твой бок, упартае стварэнне, не паверне.

Дуня сыходзіць з ганка, узіраецца ў неба. Ведае: з такое спёкі глядзі, каб бяды не нарабілася. Як нарабілася тры гады таму, яшчэ пры паляках, акурат во гэткаю парою, перад самым фэстам[10]. Хмара спадцішка ўвобміг тады насунулася, ды такі жудасны градабой з яе пачаўся – Божа літасцівы! Буслянятам на буслянцы крылы градзінамі пааббівала, а палеткі ды сады наўкола так пашкуматала, што не толькі без яблыкаў з грушамі ды сліваў к зіме, а і без зярнятка да новае сяўбы засталіся. Добра, на запыт гміннага начальства некалькі вагонаў жыта ў мястэчка палякі прыгналі, дык сяк-так перажылі асадаўцы бясхлебіцу. Цяпер, як што падобнае здарыцца, немцы наўрад пасобяць.

Горача на дварэ, да таго ж і бязветрана, і з-за гэтага, мабыць, гул вадаспада выдае сёння яшчэ больш гучным за звычайны. Аднастайны, як надвечарковае дзвэнканне камара ля вуха, толькі тысячакроць гучнейшы, ён сягае па-над прыбярэжным кустоўем, па-над вяршыняю Чырвонае гары, мкнецца далей у накірунку Дзвіны. Далятаць да самай ракі, вядома, не далятае, хаця Янушак і казаў неяк, быццам чуваць яго і аж там, быццам сам неаднойчы на ўласныя вушы чуў ад прыстані.

Баба Люцыя вылазіць з градак, ідзе да сушарні. Што яна там робіць у сушарні, Дуні не бачна. Але па глухіх згуках сячкарні няцяжка здагадацца: рыхтуе сечку для птаства. Цяпер гэта, пасля таго, як прапала Манюта, адзіны клопат старой, якому аддаецца яна даастатку. Так дазвання, бядачка, аддаецца, што, здаецца, адбяры ў яе гэты клопат – і жыццё кабецiны цалкам страціць сэнс.

Сцеражэ цётка адзіную сваю радасць, што засталася па згубе гарэзы Манюты, ды з кожным днём усё больш адгароджваецца ад людзей завесаю суровасці. На любы зварот адзін адказ у яе: “гыр!” ды “гыр!”, і слова насуперак, барані Бог, не скажы. Усё адно як шалёная муха ўкусіла жанчыну, ды праз тое душа мохам незычлівасці да ўсяго жывога, апроч, мабыць, курэй, пачала абрастаць.

Куды падзелася тыдзень таму дойная Манюта, ніхто не ведае. Можа, ваўкі ўначы сцягнулі, можа, злодзей які звёў. Додня, калі ўсе спяць, пад’ехаў да сушарні, стрыножыў жывёліну пад грукат вады, у рэдалі[11] паклаў – і бывайце здаровы. Страта нежартоўная, пад два літры малака штодзень каза давала

пасля таго, як прадалі Ганэрак і Люця трохмесячнае казляня. І малако ж якое было – праўдзівы лек. А ўжо колькі радасці прыносіла Манюта сваімі свавольствамі ў аднастайнае жыццё не толькі гаспадароў, але і іх суседзяў, – не злічыць.

І вось на табе – прапала козачка. І ўсё гэтае нялюдскае неяк уадначас апошнім часам у асадзе здарылася: Юзя знік, затым каза прапала, потым дробязь гэтая нікчэмная, пагбаная старая манерка, – цьфу на яе! – быццам бы згубілася, а насамрэч у сквапныя Люціны рукі перайшла.

Юзю Дуня бачыла апошні раз таксама тыдзень таму, калі той прыходзіў дахаты па бялізну. Сказаў, немцы прычапіліся, каб ці ў самаахову гэтую іхнюю ішоў, ці ў Нямеччыну збіраўся. Маўляў, такі загад цяпер – выбіраць адно або другое, і не падпарадкавацца яму не выпадае, калі жыць не надакучыла. А хлопцу, вядома справа, ні туды, ні сюды не хочацца, дык перачакаць надумаўся.

Хацеў застацца ў хаце на колькі дзён, ды, як убачыў здаля на сцежцы ля Люцінай хаты Зімака, шніткі[12] спехам пасёрбаўшы, вандзэлак з бялізнаю аберуч схапіў і збег. А куды, у якія прочкі падаўся – Бог адзін ведае. Бо па сёння ані разу не азваўся.

Бродае Дуня ўначы ля сушарняў у надзеі, што, можа, прыбіўся брат звечара да каторай у пошуку зацішнейшага-цяплейшага кутка, ды ўсё дарэмна. Як у ваду кануў Юзя.

Сушарняў пры вадаспадзе дзве. Адна, большая, накшталт адрыны, хаваецца ў засені асін паблізу моста. Другая, меншая, у выглядзе звычайнай загародкі з адкідным бляшаным дахам на выпадак непагадзі, месціцца на вяршыні пагорка метраў за дзвесце ад Вайцюлёвай хаты. Абедзве – напамін пра кардонную фабрыку, што дзейнічала тут год за сем да вайны, перад тым, як перарабілася на млын. У абедзвюх кардон даводзілі да ладу перад адпраўкаю ў Вільню. Цяпер першая служыць Нямірам схронішчам для рознага гаспадарчага начыння, другая, што да нядаўняга з'яўлялася стойлам для Манюты, – катухом для курэй і індыкоў.

Хаця ні шашкоў, ні лісаў у наваколлі не чуваць, заганяюць Няміры курэй і індыкоў у загародку штовечар. Бо, крый Бог, заявіцца ўначы шэры ці руды бандзюк, парэжа птаства. І не гэтулькі зжарэ ён тае індычаціны ці кураціны, колькі пусціць, нягоднік, на зглум. Горла перагрызе няшчаснай ахвяры, два разы кусне і дасць лататы. І бывайце тады і яйкі на снеданне, і пер'е на падушкі. А гэта цяпер, калі пасля збыцця авечак і на цёплыя шкарпэткі ды ісподкі з валёнкамі к зіме надзея ляснула, вунь якая была б бяда.

А найгорай, як прыцягнуцца прыцемкам з кустоўя ды пачнуць шнарыць па падвор'і ліхія людзі. Ад гэтых ужо ніякая загародка не ўратуе. Абскубуць гаспадарку да паўсціны ды яшчэ і зброяй перад носам, шмайсерамі сваімі, намахаюць. Настрашаць так, што крыкам уласным пасля, узгадаўшы ўсё тое ў сне, захлынешся. Хаця і не чужыя людзі, яшчэ нядаўна плыты з асінавымі качурамі на кардон разам пераймалі ды арэхі ўвосень па кустоўі хаўрусам лушчылі. І вось – забыта прыяцельства-сяброўства, як яго і не было. Так грунтоўна забыта, што, здаецца, ніколі ўжо яму не адрадзіцца.

Сям'я Няміраў – мяшаная. Янушак каталік, Зосечка – праваслаўная. Да шлюбу дзяўчына адгукалася на імя Зоя, ды, пабраўшыся з сімпатычным абыходлівым іншаверцам, дзеля суладдзя ў сям'і згадзілася перарабіцца на Зосю.

А вось дзецям-пагодкам імёны, каб крыўдна ні аднаму, ні другому не было, сужэнцы далі адпаведныя веры кожнага. Дачку, паводле праваслаўнага іменаслову, Дуняю назвалі. Сына, паводле каталіцкага, – Юзем. Хацелі Дзісікам, то бок Здзіславам, хлопца назваць, ды ксёндз-паляк адгаварыў. Маўляў, імя дазвання іншаземнае, тутэйшага адпаведніка не мае, то лепш пры сваім заставайцеся, без вас палякаў хапае. Ужо потым, як касцёл у мястэчку па прыходзе саветаў зачынілі, вядома стала, што гэта гэтак пад уплыў мясцовага паходжання святароў патрапіў той польскі ксёндз, пераняўся справамі тубыльцаў.

За час, пакуль працаваў у асадзе пры паляках млын, кім толькі Янушак на ім ні набыўся. З раніцы да позняга вечара ў справе, не прадыхнуць. Памольшчыкаў з мяхамі збожжа на падводах ды жыдоў-перакупшчыкаў як наедзе каторы раз – аж цёмна на двары ад людскіх паставаў ды ўспацелых конскіх крупаў. А ад лязгання колаў па бруку часам ажно вушы закладвае. А ўжо працы заўсёды – і наогул век свой[13] вышэй галавы. Добра, як да заходу сонца дасі ўсяму рады ды выкраіш хвіліну бучы[14] па вірах павытрасаць.

Малоць, вальцаваць, пытляваць зерне – глузды кругам, не прадыхнуць. А яшчэ ж воўну часаць, што нанясуць-навязуць з усяго наваколля, а яшчэ ж начынне млыноўскае чысціць. Ад пахаў мукі ды воўны так за змену ачмурэеш, так яны цябе з галавы да ног абвалакуць, што ніякіх іншых і адчуваць не дасі рады. Адзінае станоўчае пры гэткай пякельнай мітусні – заробак неблагі. Дык і трываў Янушак: трыццаць пяць злотых на дарозе не валяюцца. Сам трываў і дзецям трывушчасць, як мог і ўмеў, прышчэпліваў. То і нездарма выраслі абое, што сын, што дачка, непапушчы[15] бацька, трывушчымі. Асабліва Юзя.

Хлопец, што з твару, што з паводзінаў, – акурат Янушак. І гэткі ж спраўны ды ўчэпісты, дарма што яшчэ падлетак. Не які-небудзь пусці павалюся. Вось збожжам налаўчыўся гандляваць. Скупляюць на пару з колішнім аднакласнікам па навакольных хутарах збожжа, возяць прадаваць за Дзвіну, у Латвію. Да ракі на тачцы валакуць мяхі, праз раку на лодцы перавозяць.

Здараецца, што і па колькі дзён дахаты з заробкаў увішныя хаўруснікі не вяртаюцца. Начуюць у задзвінскай цёткі-ўдавы, стрыечнай Зосеччынай сястры. Там жа і харчуюцца за сякую-такую – дроў напілаваць-нашчапаць ці ў гародзе што зрабіць – помач па гаспадарцы. Гандаль так сабе, ды, глядзіш, на сякую-такую абнову і наскрабецца. Вунь штаны сабе крамныя картовыя справіў Юзя замест калючых самаробных ільняных. Зосечцы і Дуні па хусце купіў.

Спраўны Юзя, ды матцы з сястрою праз такую ягоную спраўнасць – адны турботы. Па-першае, Дзвіна наравістая, дык ці мала што можа здарыцца на ёй? Віхура каторага разу як заспее пасярод ракі, узляцеўшы знянацку, то адно і глядзі, каб не патанулі мальцы разам з мяхамі. Каму-каму, а Зосечцы не аднойчы такое пагражала.

Апошнім разам – год пяць таму, калі з пошты з латвійскага боку вярталася. Лодка перакулілася, і добра, вецер хутка сціх, дык дагрэбла да берага. Нават лістоў з далоні не выпусціла, так Бог памагаў, а магло ж і іначай стацца.

Па-другое, гарнізон нямецкі адразу за ракою, у прыбярэжных Кошкаўцах,

месціцца, і чорт ведае, што тым фашыстоўцам у галаў стрэльне. Пачнуць страляць наўздагон, паспрабуй тады ўнікнуць іхніх дурных куляў.

Неаднойчы чула Дуня, як Зосечка намаўляла Юзю кідаць дурное гэтае гандлярства ды заставацца дома. Дзе там! Паслухаць паслухаў, а зрабіў усё адно па-свойму. Бо наравісты акурат не менш за тую страхавітую дзвінскую ваду.

Дахаты вярнуўся, каб перачакаць у надзеі, што, можа, забудуцца немцы на яго, аж тут – Зімак. Спужаўся, мабыць, што ўдасць чужынец, і знік. От дурань, мог бы ж і застацца. Няўжо ж яна, Дуня, калі што якое, не знайшла б куды брата схаваць? Вунь хаця б у гроце на вадаспадзе можна было б. А то во яшчэ лепш – у будане, што з маткаю збудавалі.

На грот у вадаспадзе Дуня натрапіла выпадкова, падчас вуджання акунёў. Замест акуня трапіў на зазуб мянтуз, хвастом матлянуў у празрыстай вадзе – і даў лататы пад плаціну. Понізу плаціны камяні, дык, мабыць, вырашыў, хітраван, сярод іх паратунку шукаць. Залёг, цешыцца, што надзейна схаваўся.

Дуня боўць у ваду, рукою шмаргель па муры ў пошуку лёскі – чуе, быццам выемка нейкая пад вадой. Вымыла яе струменямі, тую выемку, ці то праз недагляд будаўнікоў яна тут з’явілася – невядома, але ладны такі, з паўметра ўшыркі, закуток пад плынню вады ўтварыўся. Як след сціснешся, дык акурат цалкам, усім целам і змесцішся ў ім, прыхінуўшыся грудзьмі ці, наадварот, спінаю да аблепленага цінай і багавіннем камення. Так дазвання зліешся з ім, што і не ўгледзіць ніхто цябе звонку па-за воднаю завесаю. А ты, наадварот, усё, што па-за ёю дзеецца, будзеш са схрону свайго бачыць.

Лёсу намацаўшы, ментуза, аднак, тым разам рады не дала ўтрымаць Дуня: адарваўся, слізняка, разам з зазубам, калі таргала з-пад каменя. Засталася з папсаванаю вудаю руках, без рыбіны, затое вось куды больш цікавае нешта – грот – неўспадзеў апышкала. Хіснулася зноў пад халаднаватыя струмені, ускулілася ніцма на мур. Праўда, зусім нядоўга так стаяла, бо сцюдзёна зрабілася.

Вымкнулася вонкі. Глядзь угору, а там на мосце... Зімак з папяросінай у зубах спінаю да яе стаіць. Дымам пыхкае ды з нагі на нагу, бы тое цяля ў чаканні матчынай цыцкі, раз-пораз пераступае.

І так раптам захацелася Дуні азвацца, каб павярнуўся тварам ды падзівіўся з яе нечаканага з’яўлення, што ажно дыханне ёй перахапіла. Так штосьці неўспадзеў абудзілася ў ёй дагэтуль нязнанае, мройліва-зваблівае, так закарцела ёй ступіць насустрач невядомаму раней пачуццю, што ледзь не ўскрыкнула яна ад абурэння на саму сябе.

Ці не таму, ледзь сцепануўся Зімак, каб памяняць, мабыць, позу, як зноў яна шмыганула ў нагледжаны закуток за вадзяною завесай. І вылезла з яго толькі тады, калі ён ужо прэч пайшоў.

Сонца вісіць колькі часу на адным месцы, боўтаецца ў пройміну паміж вяршыняю Чырвонае гары і шыхтам дубоў наўзбоч яе. Вечарэе, і спякота, як заўсёды, калі цень накрывае асаду, адразу саступае прахалодзе, што спачатку нясмелымі хвалямі, а затым усё больш рашуча павявае ад вады. Той доўгачаканай свежасці, якой так бракуе ў гэткія во, як сёння, задушлівыя летнія дні абгароджанай з усіх бакоў узгоркамі і кустоўем асадзе. Але гэта –

тут, у лагчыне побач з вадаспадам. На гары ж, дзе нават Мармона штосьці не бачна, па-ранейшаму сонечна.

Зімак выходзіць са сваёй паловы хаты на двор, сунецца да вадаспада. Але доўга пры вадзе не бавіцца, адразу ж зварочвае ўлева, ідзе берагам ракі ў накірунку Закуцця, нешырокай лыткі папасу наўзбоч лазовага зарасніку пры Халуі метраў за трыста ад хаты. Акурат да таго зацішнага, недасяжнага староннiму воку тупіка паміж берагам ракі і пагоркам, дзе месяц таму Дуня з Зосечкай, напалоханыя ледзь не штодзённымі візітамі немцаў, зладавалі ў хмызе з аполкаў і фабрычных кардонін, што знайшлі на гарышчы, буданчык.

Перанеслі цішком, употай ад бабы Люці кардоніны ў Закуцце, прымацавалі пругкімі вырасткамі хмелю адну да адной ды, склаўшы стрэшкаю, сціснулі звонку і з існоду аполкамі і камлямі арэшын, прыкрылі зверху кавалкам цыраты – і зусім прыстойны атрымаўся схоў. Можа, і не такі надзейны, як хацелася б, а ўсё ж схоў. Галоўнае, наводшыбе, не як у той сушарні, дзе сядзіш, бы на дозарках, і не тое што крок ступіць – варухнуцца баішся. Зручны сховік: ад хаты блізка, а паспрабуй знайдзі яго... Нават і ўголас гаманіць у ім можна, бо з-за шуму вады на вадаспадзе ні гуку адтуль не пачуеш.

І вось акурат туды, да таго самага схрону, і пасунуўся цяпер Зімак. Зразумела, нічога там цікавага, апроч камар'я ці іншага якога гнюсу, што, мабыць, натачылася ў будан, хаваючыся ад сонца да пары, як з'явіцца шанц наталіць смагу, джгнуўшы каго-небудзь у скуру, няма, ды ўсё адно нядобра. Як любіў казаць нападпітку падчас сваркі з Люцяй нябожчык Ганэрак, благое вока і за самы дурны язык горш. Ды і ці мала што можа быць наўме ў таго танкарукага прыгожага чужынца, маладога Дзячка?

Дуня прыспешвае хаду, каб не прапусціць момант, калі Зімак паверне з Халуя на Закуцце, але дарэмна. Маладзён абмінае прыбярэжную касу, крочыць далей, у накірунку броду на другі бераг. Крочыць хутка, ледзь не подбегам, ажно кашуля ўздымаецца пухіром у яго на спіне. Дык калі Дуня дапінае следам за хлопцам да касы, ён ужо, напалохаўшы бусла, што ашываецца тут у пошуку харчу, хаваецца ў лазняку на тым беразе.

"Ну, дзякуй Богу", – думае яна і зварочвае на ледзь бачны ў траве пасак ад ног у накірунку будана.

Будан на месцы. І ўсё навокал таксама на месцы. Апроч раслiннасці, што быццам жывёліна нейкая ўсяедная абскубала, так што засталося ад бухматага разнатраўя наўзбоч будана адно ніцае бадылле. Усё адно як градам кшталту таго жахлівага, трохгадовае даўніны, вырасткі раслін пааббівала або ненажэра Манюта спатоліла імі тут, у бязлюдным зацішшы, свой голад ды і знікла, не даўшы сабе клопату хаця б гукам да няўцешнай гаспадыні азвацца.

На месцы і ўсе прычындалы, што яны, Дуня з маткаю, пры ім пакінулі, калі, стомленыя, пакідалі мясціну, прыкрыўшы збольшага схоў галінамі хмызу.

Усё гэтаксама, як і было, але сёе-тое і вельмі нават не гэтак. Купка бэбахаў, што невядома якім ветрам сюды занесла, на доле ў пуку святла паміж камлямі будана... Відэлец з лыжкаю ў шчэлцы паміж галінкамі... Пара абгарэлых, ледзь заўважных сярод смецця запалак у куце...

А гэта што? Спражка ад рэменя, акурат такая, як тая, што яна, Дуня,

у перадапошні братаў надвячоркавы прыход дадому па ягонай просьбе да рэменя прышывала. Яшчэ голкі тады, памятаецца, не знайшла, дык шаршаткаю давялося прычэпліваць да тканіны, чыста пальцы скалола ў прыцемку без напарстка.

А самае дзіва – дай рады! – бляшаная манерка наўзбоч увахода, акурат тым месцам, да якога лёгка ад разасланых на доле бэбахаў рукою дацягнуцца.

І – ні душы. А галоўнае, да радасці Дунінай, – ні следу барацьбы нідзе. Быццам вось проста так сабе падняўся чалавек вольна ўранні з месца, папіў з манеркі вадзіцы (а лепш, вядома, – сырадойчыку), выслізнуў з будана ды і растаяў у прырэчным тумане.

Быў – і не стала яго. А што за чалавек, і як імя ягонае – ніколі, пакуль на ўласныя вочы не ўбачыш, не даведаешся. Убачыць жа – справа нялёгкая. Бо як раптам малады ды на ногі спрытны, паспрабуй ты яго ўпалюй. Асабліва тут, пры асадаўскай вадзе, дзе што ні крок, то схрон і што ні чалавек, то нораў.

Дуня падхоплівае манерку, вылазіць з будана, ідзе кустоўем да Халуя. Адтуль, прыхоўваючыся па-за густымі зараснікамі арэшніку, – да асады. І толькі паспявае збольшага аддыхацца ля хаты пасля хуткае – подбегам ды подбегам – хады, як і Зімак ступае на панадворак. Акурат туды, дзе ўжо падчэквае іх абаіх, лушчыць у падол набраныя падчас двухдзённае вандроўкі па наваколлі струкі гароху Зосечка.

– Баба Люця гэтая ваша, халера яе, якая лютая кабеціна, – кажа Зімак. – Іду гэта берагам, глядзь: валачэ праз Халуй казу на вяроўчыне. Тая ўпіраецца, а яна тузае нябогу, ды лаецца, ды розгаю па баках лупцуе. Запытаўся жартам, дзе хавала гэтулькі дзён жывёліну, дык так на мяне глянула – усё адно як варам абліла. Лепш бы не чапаў...

– Ну, канечне, Люця табе скажа праўду... З Люцяй у маўчанку толькі гуляць. Люця як занатурыцца, дык хоць страляй тады яе – не адгукнецца. Ну, але затое і кашалёў розных, як іншыя, не напляце, – кажа Зосечка і глядзіць здзіўлена на манерку ў Дуніных руках. – Во, бач, і пасудзіна знайшлася. А грашыла, дачка, надоечы на старую: скрала, маўляў... Аж, бачыш, знайшлася твая бляшанка. Дзень цудаў, далібог.

– Дзень цудаў, ага, – кажа Дуня і глядзіць у кірунку верхняе сушарні, дзе бавіцца з Мармонам – то падскокне, матляючы набраклымі дойкамі[16], гарэзліва ўгору, то ўпадзе на пярэднія ногі, то хіснецца ўбок – шчаслівая Люціна знаходка – каза.

– Занясі ў хату цацку, пастаў дзе-небудзь на бачным месцы, – кажа Зосечка. – А то згубіцца – будзеш зноў усіх падазраваць.

– Ну, усіх наўрад, – кажа Дуня і зноў скіроўвае пагляд на сушарню, дзе, бачна, баба Люця ўжо корміць курэй ды абрывае раз-пораз злаславым вокрыкам вясёлыя шалы Манюты і Мармона.

---

[1] Асада – сядзіба асадніка, пасяленца-каланіста на заходнебеларускіх, пераважна памежных, землях у перыяд 1920–1939 гг.

[2] Пеліна – прыпол (*абл.*).

[3] Стражніца – пагранічны пост, застава.

[4] Два вядры (*абл.*).

[5] Батоўе – бацвінне (*абл.*).

[6] Лапун – тоўсты содавы блін, сінонім – какора, какорына (*абл.*).

[7] Прокідзь – тое, чым запраўляюць страву, тут – масла (*дыял.*).

[8] Манерка – металічная пляшка, біклажка.

[9] Тандэтны – танны, нізкаякасны.

[10] Фэст – касцельнае ці царкоўнае прастольнае свята.

[11] Рэдалі – від калёсаў (*абл.*).

[12] Шнітка – шматгадовая травяністая расліна сямейства парасонавых, тут у значэнні – страва са шніткі.

[13] Век свой – увесь час (*рэгіян. фразеал.*).

[14] Буч – рыбалоўная снасць у выглядзе круглага каша з лейкападобным уваходам; верша; нерат.

[15] Непапушчы – акурат, якраз (*абл.*)

[16] Дойка – цыцка (*абл.*).

Віктар Жыбуль



...жыццё мінулае
глядзіць акулаю.
А раптам – гам! – і праглыне?..

# Святламузыка

### *ХАПАЦЦА*

Хапацца за выратавальнай саломінкі канец,
хапацца за пакамечаны пусты гаманец,
хапацца за руку, працягнутую ворагам,
хапацца за кашаль сухотнага хворага,
хапацца за старую шчарбатую брытву,
хапацца за вызубраную не тую малітву,
за ржавыя свердзелы, коўзкія дошкі,
за шэрхлы кавалак бычынай ляпёшкі,
за дробную мэту, за марную працу
хапацца, хапацца, хапацца, хапацца!

Хапацца за высакавольтны аголены провад,
хапацца за разбіты на кавалкі ровар,
за шкельцы, відэльцы, напільнікі, лёзы,
за здрадніцкі смех, кракадзілавы слёзы,

за гумку ад шортаў, затычку для ванны,
за мокры кардон і замок спілаваны...
Стаміцца, зваліцца, заснуць і праспацца –
і зноўку хапацца, хапацца, хапацца!
Хапацца.

## *СВЯТЛАМУЗЫКА*

У гэтым доме святло даўно не гарыць.
Тое, што бачыш ты, – проста адбітак акна насупраць.
Яго падманны бляск захопіць і завалачэ
ў кут, дзе спыніўся час і пацук павесіўся.

Мігцяць агеньчыкі роўнай рытмічнай паласой,
і шарыкі паступова запаўзаюць за ролікі.
У адключаным водаправодзе і абясточаных правадах
грае святламузыка з няўдалым сурдаперакладам.

Бойся халодных галодных кропляў дажджу:
яны нас хочуць дастаць з-пад лесвіцы доўгімі дзюбамі.
Вуліца сонным вусенем крадзецца ў туман
туды, дзе зімы няма, дзе зіму напалохалі.

Тут быццам спакойна і ціха, але гэты спакой –
спакой коткі, якая плаўна круціць хвастом.
У ейных зялёных вачах – хваляванне з трывогаю.
Тут спеў нямы, тут дыскатэка прывідаў.

Тут такое прыгожае ўтульнае месца, але
я, напэўна, больш не вярнуся сюды: не будзе куды вяртацца.
І гучыць, цурчыць шапялявая мелодыя жыцця
на зажаванай старым магнітафонам стужцы.

Трава, трава... праз дах расце трава, трава...
Правал, правал... у памяці правал, правал...

* * *

Замятай, ліса, сляды хвастом –
снегу навáліла па калена...
Замірай... хавайся пад кустом...
Чуеш гэты пах ацэтылену?

Замятай хвастом сляды, ліса!
Кідай, елка, шышкі-падарункі!

Усміхайся, лесапаласа!
Серабрыся, палатно чыгункі!

Замятай, рудая, замятай!
Прывітанне шлі палям-далінам!
Грэй пад снегам свой Індакітай!
Капай на мазгі адрэналінам!

Мерцвякі гуляюць у дурдом.
Хто іх паглыбей перахавае?
Варушыся, рэчка, пад ільдом!
Танчы, лінія берагавая!

Уздымайся, радасць, найвышэй
з дапамогай дзесяці дамкратаў!
Пракладай, ліса, вузлы траншэй
у падмурках снежных зікуратаў!

Падпалі, ліса, хвастом абшар,
пагуляй з агнём намаляваным,
на нябёсным тле раздзьмі пажар,
увядзі прастору ў стан нірваны!

Замятай, ліса, хвастом сляды!
Хай яны вядуць у нікуды!

### *ГАНС ФРЫДЭРЫК*

Неяк пачуў за акном я крык:
– Ганс Фрыдэрык! Ганс Фрыдэрык!
Я паглядзеў: нікога няма –
гэта ці зроку, ці слыху падман.

Сонца надзела руды парык.
– Ганс Фрыдэрык! Ганс Фрыдэрык!
Хмара тапырыць чорны лыч.
Ганс Фрыдэрык не йдзе на кліч.

Што пнём аб саву, што савой аб пень –
Так безразважна праходзіць дзень.
Савою аб пень, а пнём аб саву –
Ганс Фрыдэрык, я табой жыву.

З жахам гляджу ва ўсе бакі.
Ганс Фрыдэрык, ты хто такі?

Можа, ты сон? Можа, ты здань?
Хочаш рэальным стаць? Стань!

Калі ў кране няма вады –
Ганс Фрыдэрык залез туды.
А калі ў кране ёсць вада –
Ганс Фрыдэрык напор паддаў.

Чуецца зноў той самы крык:
– Ганс Фрыдэрык! Ганс Фрыдэрык!
Там рассыпаюцца гарады.
Ганс Фрыдэрык, не йдзі туды!

Тры вадалазы пілуюць сасну,
не абуджаючыся ад сну.
Чую абрыўкі замежных моў –
Ганс Фрыдэрык паўзе дамоў.

## *АТЭЛЬЕ*

Робім працу шчыра мы,
аж да забыцця
ў атэлье па вырабе
лялек для біцця.

Круцяцца канвееры,
бліскае ліхтар,
сыплецца ў кантэйнеры
новенькі тавар.

Вырабім багата мы
лялек для біцця:
бронзавых, агатавых,
срэбнага ліцця.

Каб была ўзаемная
з лялькай нелюбоў,
на яе паверхню мы
панаб’ем шыпоў.

Ведай, кожны п’яніца,
кожны грубы гун,
як пераплаўляецца
золата ў чыгун!

З некім павячэраем,
нехта нам нальe.
Цяжкай артылерыяй
пахне атэльe.

Будуць гульні шумныя,
будзе карагод.
Кожны з нас хай думае,
што ён лялькавод!

Лялька матам лаецца,
токам б'е ў адказ.
З ёй вам спадабаецца
бавіць вольны час!

*2016*

## *СТРЭЛКАПАД*

Адвальваюцца ад гадзіннікаў
старыя секундныя стрэлкі,
ляцяць на людзей – і ў выніку
ўпіваюцца, быццам стрэмкі.

Гадзіннікаў многа-многа.
Іх цэлы лес, цэлы сад.
На вуліцах, плошчах, дарогах
суцэльны йдзе стрэлкапад.

Ідуць мінакі прахожыя,
на якіх панападалі стрэлкі –
такія забаўныя вожыкі
альбо навагоднія елкі.

Калі ж абляцяць гадзінныя
стрэлкі з хвілiннымі разам –
іх ахвяры нявінныя
ператворацца ў дзікабразаў.

## *ТРЫА*

яны спявалі нібы ва ўнісон
электрачайнік на тумбе
сістэмны блок пад сталом
і самалёт за вакном

электрачайнік супакоіўся першым
ён прывык жыць па адведзеным часе
на працу даецца роўна дзесяць хвілін
і адпачывай пакуль не ўключаць ізноў

сістэмны блок таксама замоўк
гудзенне непатрэбны прыступ хваробы
якой ён усё адно не заўважае
гатовы гераічна дзейнічаць круглыя содні

а самалёт кружляе і гудзе
гудзе і кружляе і невядома
чаго чакаць ад яго
ці ён носьбіт чагосьці жарснага і гарачага
ці таксама праява чыёйсьці хваробы

## ЧАРАВІК – ЧАРПАК, ШНУРОК – ЧАРВЯК

Сакавік – адметны чараўнік.
Ён наробіць рэчаў з іншых рэчаў.
Я і сам ішоў, ішоў, ды знік –
мабыць, я ператварыўся ў вечар.

Па вясновых лужынах чвяк-чвяк –
шлёпаю ды хлюпаю ў паўзмроку.
Чаравік – чарпак, шнурок – чарвяк,
аж нага цяжэе з кожным крокам.

І звычайны побыту прадмет
тут судакранаецца з нябытам.
У сакрэт ператварыла свет
неба колеру чаравікоў нямытых.

## ЕЎРАРАМОНТ

*(на курыных лапках)*

хатка хатка на курыных лапках
устань да лесу задам
а да мяне фасадам

хатка хатка на курыных лапках
хлопні шклопакетам
узляці ракетай

хатка хатка на курыных лапках
нацяжная столь
у замку пароль

хатка хатка на курыных лапках
на вітражнай лоджыі
сцяг
Вясёлы Роджэр

### *ІШЛА ПА ВУЛІЦЫ НАГА*

Ішла па вуліцы нага,
ішла адна, без тулава,
і грукала, як качарга,
чужая, беспрытульная.

І грукат ейны абуджаў
мясцовых сабутэльнікаў,
сабак ганяў, катоў пужаў
і адрываў ад тэлекаў

бабуль цікаўных, што з вакон
уважліва высоўваліся,
чулі звон, не ведалі, дзе ён,
і ў вокны зноў засоўваліся.

Сігналіў гучна той назе
наземны транспарт зморany.
Тырчаў у смогу і смузе
завода комін чорны.

У шатах – лісця мітульга
шасцела, раствараючыся.
Йшла па вуліцы нага,
шалёна азіраючыся.

* * *

павышаю градус
падымаю тонус
прыбіраю мінус
набываю бонус

паліваю фікус
вырашаю рэбус

вызначаю модус
выпраўляю ляпсус

выціскаю цытрус
забіваю вірус
высякаю конус
выціраю анус

павышаю статус
арандую офіс
ты не суйся свінтус
заганю пад плінтус

### *ПАВЕТРАНАЕ*

гумовыя жанчыны
напампаваныя геліем
узлятаюць у паветра

гумовыя мужчыны
надзьмутыя вадародам
сягаюць вышыняў

робяць кульбіты пад аблокамі
займаюцца паветранай аэробікай

самыя лёгкія
паветраныя гімнасткі
самыя спрытныя
нябесныя каскадзёры

з бязгучным смехам без прычыны
увысь лятуць гумовыя жанчыны
у іх удзьмулі вадарод
дыханнем рот у рот

гумовыя мужчыны любяць гелій
мы з імі за адным сталом паелі
іх кліча ў неба карагод
і подых рот у рот

займаюцца паветранай аэробікай
не зважаючы на супрацьпаветраную абарону

самыя зграбныя
паветраныя гімнасткі

самыя пругкія
нябесныя каскадзёры

і дошка з цвікамі
гнілая дошка з цвікамі
лятае за гумовымі жанчынамі й мужыкамі

* * *

ружа вятроў гэта
пацалунак навыварат
гэта вір агню
нябачны стрыжань цяпла
ключ які захрасае ў замку
ператвараючыся ў стужку Мёбіуса
крэм выціснуты на торт
кранштэйн які марыць стаць
шасцяронкай
лясная багна што прагне
вызваліцца з берагоў
даскочыць да сонца
і апячыся каб сагрэць
гэты шар зямны
выціснуты як лімон

* * *

У гутарцы пра пошук выйсця
мяне спыталі сябрукі:
– Ці можна рухацца кудысьці
адначасова ў два бакі?

Сказаў я:
– Так! Вось паглядзіце,
як я не ў два пайду, а ў сто! –
і апынуўся на арбіце.
Мяне не бачыў больш ніхто.

* * *

Стварыць свой сусвет і схавацца ў яго
А раптам не схаваешся
А раптам не змесцішся
Бо сусвет атрымаецца замаленькі

Схавацца ў створаны ўласны свет
Але раптам атрымаецца завялікі
і ты там заблукаеш і згубішся
і мала таго
там будзе яшчэ куча народу
які трапіў туды
невядома як

* * *

Знаёмства марнае
з уласнай кармаю
нядаўна здарылася мне:
жыццё мінулае
глядзіць акулаю.
А раптам – гам! – і праглыне?

* * *

Стаіць мужык і цыгарэту паліць.
Ён зацягнуўся так, што страціў памяць.
Я не палю, не баўлю дні ў віне,
а памяць, курва, здраджвае і мне.

Іна Снарская



...гэта быў час, калі ад смутку да радасці ўсяго адзін крок, час, калі збываюцца запаветныя мары...

# Таямніца самаробнай шафы

***Абразкі з аповесці "Зачараваны скарб"***

### Мой тата

Ноччу глядзела на зорнае неба і думала, што, магчыма, душы памерлых людзей знаходзяць свой прытулак на далёкіх планетах, якіх мільярды мільярдаў, дзе няма войнаў і пакут, дзе ўсім хопіць месца. Хацела пабачыць у сне бацьку, бо 18 жніўня – дзень яго смерці, а прысніўся ўлюбёны акцёр Алег Янкоўскі. Магчыма, такім чынам тата намагаўся перадаць мне сваё прывітанне... Раней з бацькам мы часта глядзелі на зоркі й размаўлялі пра тое, што, магчыма, недзе на далёкіх планетах жывуць разумныя істоты і вось так, як і мы, у тое ж самае імгненне, стаяць, задраўшы галовы, і глядзяць на нас. Мы для іншапланецян – зоркі, свет ад якіх ідзе нават тады, калі іх саміх ужо няма...

Мой тата быў летуценнікам. Рамантычная і мройная я менавіта ад бацькі, які захапляўся фантастыкай, легендамі

й міфамі, усялякімі дзіўнымі прыроднымі з'явамі і трохі містыкай. Яго прафесія была абсалютна зямной і празаічнай – інжынер-будаўнік, хоць і скончыў лясны тэхнікум. Калі б бацька стаў ляснічым, як мой дзед і прадзед, то, магчыма, я б нарадзілася ў вёсцы, паблізу лесу, як усе мае продкі, а не ў Полацку. Люблю Полацк, але заўсёды цягне да лесу, мабыць, завуць гены. Лес – лёс...

У бацькі было шмат непраяўленых ці не заўважаных большасцю здольнасцяў, напрыклад, ён умеў стракатаць сарокай, і цяжка было адрозніць яго голас ад сапраўднай птушкі... Тата трохі рыфмаваў, прыдумляў смешныя вершыкі на дні народзінаў сваіх калег, розныя святы. Перад тым чытаў і мне, смяяўся, мабыць, уяўляў тых людзей з разяўленымі ад здзіўлення ратамі. Часам пісаў заметкі на тэму будаўніцтва ў раённую полацкую газету «Сцяг камунізму» (цяпер «Полацкі веснік»), і яму падабалася гэтая справа. Бацька быў вясёлым і камунікабельным па сваёй прыродзе, яму падабалася спяваць і танчыць, ды жыццё ва ўмовах жорсткай эканоміі фінансавых сродкаў не дало актыўна праявіцца гэтым яго здольнасцям. Выпіць мог, але хутчэй сімвалічна, за кампанію. Ён сапсаваў сабе страўнік яшчэ ў дзяцінстве, калі даводзілася есці бліны з лебяды ды мёрзлай бульбы. Яго маці, мая баба Маня, у дваццаць сем год засталася ўдавой з двума дзецьмі, бо дзеда арыштавалі й расстралялі ў 1937 годзе. Дзяўчынка, бацькава сястра Валя, памерла ад менінгіту ў маленстве, тата выжыў, але ўсё жыццё быў хваравітым...

Бацька быў «акуратыстам»: за стол не сядзе не памыўшы рукі, не пойдзе на работу ці ў госці ў нясвежай кашулі. Яму падабалася апранацца з густам, магчыма, так праяўлялася шляхетнае карэнне, насіў капялюш з шырокімі палямі. Калі сустракаў знаёмых, здароўкаўся першым, ветліва нахіляў галаву. Ёсць дужа смешнае фота, дзе малады тата стаіць на плоце на адной назе ў паліто і капелюшы. Побач дрэва, за якое ён трымаецца, магчыма, ад некага хаваецца і непрыкметна стракоча сарокай. Ён заўсёды нешта выдумляў, жартаваў, да канца сваіх дзён быў тым маленькім хлопчыкам, які аднойчы задрамаў, а прачнуўся дарослым.

Неяк тата купіў сабе гармонік. Марыў навучыцца граць на слых, ды так і не давёў справу да канца. Нерваваўся, калі ў яго не выходзіла падабраць знаёмую мелодыю, твар пакрываўся чырвонымі плямамі ад напружання, кучаравыя валасы макрэлі на ілбе, ды бацькавага цярпення хапала толькі на пачатак песні, далей ішла суцэльная какафонія, якая дужа мне падабалася, бо смяшыла. Я падыходзіла да сур'ёзнага бацькі, абдымала, і яму рабілася смешна з самога сябе. Ён дазваляў мне націскаць кнопачкі-гузікі, як на душу кладзецца, а сам толькі расцягваў гармонік, як цыганскі мех. Музычныя практыкаванні перарасталі ў суцэльнае балаўства, мы заходзіліся ад смеху аж да ікаўкі, пакуль не прыбягала мама і не разганяла нас па розных пакоях, бо задурылі галаву... Калі да нас прыходзілі госці, напрыклад, на мой ці братаў дзень народзінаў, у пэўны момант застолля бацька даставаў з антрэсоляў шафы гармонік, насавічком выціраў пыл і пачынаў граць. Не надта ў яго выходзіла, але запал і энергія перакрывалі фальшывыя ноты.

– Ай, Слаўка, які з цябе музыкант, курам на смех. Не мучай ты людзей!

Гэта гаворыць мама, яна такі канцэрт не вытрымлівае першай, бо лічыць, што любую справу трэба або рабіць якасна, або не рабіць зусім. Матуля злуецца, а нам з братам весела. Тата яшчэ й спяваў пад гэтую сваю музыку...

У вольны час бацька любіў вудзіць рыбу, марыў купіць сабе надзіманы човен. У Варонічах, дзе ён нарадзіўся, цячэ цудоўная рэчачка Вушачка, чыстая, хуткаплынная. Калі я там бываю, адведваю магілы бацькі, бабы Мані й цёткі Мілі, пасля таго доўга стаю на мосце і ўглядаюся ў маляўнічую далеч. «Рэчачка-рэчка, чаму ж ты ня поўная?..» – гэтую песню тата дужа любіў... Грошы з невялікай зарплаты інжынера (120 рублёў з прэміяльнымі), вядома ж, адкладаліся, ды потым знаходзілася нешта больш неабходнае для сям'і, і татаў човен так і заставаўся марай...

Вера ў Бога, як і яшчэ шмат чаго ў ягоным жыцці, заставалася нерэалізаванай. Яна жыла ў бацькавым сэрцы хутчэй на ўзроўні падсвядомасці, генетычнай памяці. Хоць ён і быў хрышчаным католікам, непрыкметна маліўся часам, у касцёл не хадзіў, баяўся, што нехта пабачыць і тады яго выганяць з работы. Гэта быў савецкі час, а тата працаваў у райвыканкаме. Калі тата моцна захварэў і ведаў, што жыць яму засталося мала, сам неяк загаварыў са мной пра Бога. Яму хацелася верыць у жыццё пасля смерці. Мы дагаварыліся, што калі «той свет» існуе, ён неяк перадасць мне «адтуль» вестачку. Пакуль што не дачакалася, калі не лічыць адзін дзіўны сон... Аднак сон – рэч хімерная і незразумелая, хутчэй метафара, нешта набліжанае да паэзіі... Як бы там ні было, але, насуперак усім матэрыяльным законам, мне хочацца верыць, што плыве сёння лёгкая бацькава душа па зорных рэчках, такіх прыгожых, што нам і не снілася, плыве без чаўна і ветразяў, як можа плыць толькі душа добрага чалавека.

## Таямніца самаробнай шафы

Гарышча дыхнула мне ў твар цеплынёй і пахам яблыкаў. Восень. А значыць, рана пачынае цямнець. Трэба паспець вярнуцца назад да цемнаты. Гарышча нагадвае хату, толькі навыварат. Тут жывуць яе ўспаміны, мінулае, як быццам усё заснула і спіць, можа, ужо сто год. Павуціннe абляпіла рэчы, старую мэблю. Тут нават паветра іншае, яно мае вагу, як пуховая бабуліна коўдра. Святло падае на падлогу праз шчыліны ў дошках, і калі дакрануцца да праменьчыка, можна пабачыць колер паветра. Яно трохі памаранчавае, як перад навальніцай, але размытае, непраяўленае. Усе рэчы на гарышчы зацярушаныя пылам, пад якім хаваецца іхняя гісторыя. Прынамсі, адну таямніцу я збіраюся сёння разгадаць, вядома, калі пашанцуе.

Рэч у тым, што раніцай у спальні пад ложкам я знайшла вельмі дзіўны ключ. Ён быў невялікі, нібы цацачны, з пляскатым, трохі сагнутым вушкам. На ключ, якім дзядуля заводзіць гадзіннік, гэты быў непадобны. Цікава, якія дзверы ён адмыкае? Няма ключа без дзвярэй. Што там, за гэтымі дзвярыма, якая таямніца хаваецца? Сёння я адчувала сябе следапытам – дзень прайшоў у пошуках запаветных дзвярэй. Усё, што магло ў хаце адмыкацца, я абышла з гэтым ключом. Шафы, сталы і нават вялікі мамін чамадан, з якім яна яшчэ да мяне ездзіла ў Казахстан, не абмінула сваёй увагай. І ўсё дарэмна. Нічога ў хаце гэтым ключом не адмыкалася. Ну як такое можа быць? І тут я ўспомніла пра гарышча. Магчыма, там я знайду дзверы, якія шукаю?..

...Па гарышчы рухаюся павольна, нават дыханне стрымліваю, каб раптам не прапусціць тое чароўнае "нешта", што дапаможа ў пошуках. Букецікі зёлак, маміны падручнікі, кошык з рэшткамі markрознакаляровых нітак і кавалачкамі тканіны, старое крэсла, лядашчае адзенне і абутак, – усё гэта

сёння мяне не цікавіць. Я шукаю дзверы ад таямніцы, бо ў маёй руцэ чароўны ключык. Фух, ажно ўспацела ад напружання... Неўзабаве звечарэе, і я зусім нічога не пабачу. І бабуля хутка вернецца з горада, бо да вечара абяцала вярнуцца. Я паглядзела на гадзіннік, які тата падараваў на мой шосты дзень народзінаў, і горка ўздыхнула: палова на пятую ўжо, і калі я не знайду запаветных дзвярэй да цемнаты, прыйдзецца прыпыняць пошукі і злазіць з гарышча. Калі сцямнее, мне тут будзе вельмі страшна, нават ліхтарык не дапаможа. Гэты дом навыварат невядома якія можа выкінуць сюрпрызы. Кажуць, што на гарышчы жывуць душы памерлых. Бабуля распавядала, што шмат гадоў назад ад запалення лёгкіх памерла яе першая дачушка. Яна нарадзілася на два гады раней маёй мамы і пражыла ўсяго месяц. Бабуля назвала дзяўчынку Евай, яе нават пахрысціць не паспелі... Жах-жахліва, пра што я думаю? Калі не разгадаю таямніцу ключыка, ноччу не змагу заснуць, а назаўтра будзе балець галава. А потым я не вытрымаю і раскажу пра ўсё дарослым. Тады таямніца перастане быць таямніцай. Знікнуць чары...

Аж раптам у дальнім кутку гарышча я пабачыла шафу. Як раней яе не заўважыла? Шафа была самаробная, збітая з негабляваных дошак. Адна ножка ў яе зламалася, і пад яе падклалі стос старых газет. У клышаногай шафы былі дзверы з невялікім навясным замком. Дрыготкімі рукамі, ажно вільготнымі ад хвалявання, я ўставіла ключык у замочную шчыліну і павярнула... Ура! Мой ключык знайшоў свае чароўныя дзверы! Што там? Што?!

На імгненне я застыла на месцы і задумалася. Нешта мне падказвала, што не трэба адчыняць гэтую шафу. Лепш вярнуцца ў хату і добра падумаць, гэта ж не мая таямніца. Але голас сумлення быў слабейшым за прыроджаную цягу да ўсяго загадкавага. Рашучым рухам я адчыніла дзверы. Клышаногая шафа нахілілася, і на падлогу пасыпаліся featured рознакаляровыя паштоўкі. У свае шэсць з паловай год я ўжо добра чытала, але ад хвалявання радкі расплыліся перад вачамі. Прыглядзеўшыся, я пазнала татаў почырк, ён не раз прысылаў мне паштоўкі ў вёску: вітаў з рознымі святамі, пісаў смешныя вершыкі, якія сам прыдумляў. Я збірала паштоўкі – не толькі ад бацькі, а ўсе, якія да нас прыходзілі – і калі ў мяне быў дрэнны настрой, раскладвала іх перад сабой і... марыла. Аднак паштоўкі з клышаногай шафы былі не да нас, не да мяне...

"Дарагі сыночак Віталік! Віншую цябе з Новым 1960-м годам! Табе ўжо амаль два гадочкі. Ты цудоўны хлопчык, і я хачу, каб ты ведаў, як я цябе люблю. Расці вялікім і здаровым, слухайся маму. Я цяпер жыву далёка ад вас, у іншым горадзе, але думкамі застаюся заўсёды з вамі. Быў, ёсць і буду... Твой тата Слава". Паштоўка з зялёнай ялінкай і вясёлым Дзедам Марозам выпала з маіх рук...

"Які сыночак?! Якую маму?!" – думкі загудзелі ў маёй галаве, як восы. Мой брат Андрэй нарадзіўся ў 1970 годзе. Ён малодшы за мяне на 5 год. Што за Віталік, якому ў 1960 годзе было два гады?

У вачах пацямнела. Ліпкая густая цемра насунула халоднай хмарай, і мне здалося, што я падаю ў гэтую цемру. Цемра без дна – гэта прорва, і я падаю туды ўніз галавой... Навошта я знайшла гэты ключ? Навошта залезла на гарышча? Навошта адамкнула дзверы клышаногай шафы? Мой знаёмы свет вывернуўся навыварат, як пальчатка. Я ўжо не разумела, дзе верх, а дзе ніз, дзе дабро, а дзе зло, дзе праўда, а дзе хлусня. Мой тата, мой

родны тата, якога я так люблю і якому давяраю ўсе свае таямніцы, называе нейкага незнаёмага хлопчыка сваім сынам. Выходзіць, бацька хлусіў, калі гаварыў, што любіць толькі нас з Андрэем, хлусіў, што мы самыя дарагія ў яго жыцці... А гэты хлопчык, гэты Віталік, атрымліваецца, наш старэйшы брат? Дзе ён жыве? Я падняла з падлогі яшчэ адну паштоўку і паглядзела на адрас: горад Валгаград, вуліца Садовая, 6. А вось нейкі дзіўны штамп: "Ваш адрасат змяніў месца жыхарства". На ўсіх іншых паштоўках – тое ж самае. Што азначаюць гэтыя словы? Выходзіць, гэтыя рознакаляровыя віншаванні не дайшлі да Віталіка, а вярнуліся да майго бацькі... Ад напругі і купы пытанняў без адказу ў мяне страшэнна разбалелася галава, але я знайшла сілы пакласці паштоўкі туды, дзе яны ляжалі да гэтага і замкнуць дзверцы шафы...

* * *

Канечне, ноччу я не змагала заснуць ні на хвіліну. Вочы былі на мокрым месцы, і вялікіх высілкаў каштавала не выдаць сябе, нічога не расказаць бабулі. Пасля абеду, калі яна пагнала карову ў поле, я зноў залезла на гарышча. Седзячы на пыльнай падлозе каля самаробнай шафы, чытаючы лісты бацькі да невядомага мне сына Віталіка, якія той так і не атрымаў, я адчувала, як мая крыўда і боль паступова змяняюцца на жаль. Я шкадавала свайго бацьку, незнаёмага хлопчыка Віталіка і ўсіх нас разам. Было ў гэтым пачуцці адчуванне незваротнасці лёсу, нечага наканаванага раз і назаўжды, таго, што немагчыма змяніць, перапісаць неяк інакш.

Гэта не жахлівая казка, не сон, а нешта сапраўднае і балючае. Гэта іншае жыццё майго бацькі, пра якое я раней нічога не ведала. Калі я не пагавару з татам, не распытаю ў яго пра ўсё, то веданне гэтай таямніцы разарве маю свядомасць на маленькія кавалачкі, і я ўжо ніколі не змагу быць той, якою была раней. Я не змагу радавацца жыццю, гуляць з сябрамі, весяліцца... Татачка, ратуй мяне. Ратуй!..

Тата прыехаў у Сястронкі сярод тыдня, нібы адчуў, што са мной адбываецца нешта нязвычнае, чаго ніколі раней не было. Я пакутавала, і гэта было, як хвароба... У гэты дзень тата быў асабліва ласкавы і ўважны:

– Іначка, я сказаў на рабоце, што ты захварэла, і мне далі адгул. Вось прыехаў... Мне падалося, што нешта здарылася... Не мог дачакацца выхадных...

– Тата, я даведалася пра тваю таямніцу... Пра Віталіка... – слёзы пырснулі з вачэй, голас задрыжаў. – Тата, ты яшчэ любіш мяне? Я адкрыла тую шафу на гарышчы, разумееш? Я кепская дзяўчынка, так нельга рабіць! Ты згубіў ключ, а я знайшла... і адчыніла тую шафу...

Бацька заплакаў уголас, як плачуць жанчыны на хаўтурах. Гэта было так нечаканана, што я нават спужалася. Ніколі раней я не бачыла, каб бацька так плакаў. Па яго шчоках цяклі слёзы, такія буйныя і цяжкія, што я кінулася па ручнік. Добра, што нікога больш не было ў хаце. Я прытулілася да бацькі ўсім сваім кволым целам, і шчакой, і вуснамі, гладзіла яго па галаве, як маленькага...

– Татачка, ну супакойся, не плач... Лепш раскажы мне ўсё-ўсё пра Віталіка. Я зразумею. Павер... Ведаеш, там на гарышчы, мне здаецца, я пасталела...

Калі тата трохі супакоіўся, ён расказаў мне пра свайго сына ад першага

шлюбу. З той жанчынай, маці Віталіка, яны разлучыліся. Так бывае, жыццё бывае жорсткім. Тата вярнуўся ў Полацк, на радзіму. Сустрэў маю маму. Праз нейкі час нарадзілася я, потым мой брат Андрэй. Тата пісаў Віталіку лісты, пасылаў паштоўкі, каб той не забываўся пра яго і ведаў, што ў яго ёсць родны бацька, які любіць яго.... Тата баяўся, што пра яго пасланні да сына даведаецца мая мама, гэта вельмі засмуціла б яе, выклікала чарговую спрэчку. Бацька не мог знішчыць паштоўкі, бо там была яго душа, і памяць, і любоў, таму схаваў сваю таямніцу на гарышчы...

Апошні ліст бацька паслаў Віталіку на яго васямнаццацігоддзе. Павіншаваў з Днём нараджэння. Расказаў сыну пра сваё жыццё, пра нас з братам. Прасіў прабачэння за тое, што не змог выгадаваць і выхаваць яго, што іншы мужчына замяніў яму бацьку. Яшчэ пісаў, што заўжды любіў і любіць Віталіка, што ў яго сэрцы ніколі не загоіцца гэты боль... Апошні ліст бацькі неяк дайшоў да Віталіка, і ён збярог гэтае пасланне. Мы са старэйшым братам нарэшце знайшлі адзін аднаго і сустрэліся. Але бацькі ўжо не было на гэтым свеце...

“Дарагі сынок, Віталік, калі ты думаеш, што я забыўся пра цябе, гэта не так. Ты назаўсёды ў маім сэрцы...”

## Колькі можна чакаць?

Падрыхтоўка да святкавання Новага года пачынаецца з мамінага торта. Ах, якая ж гэта смаката! Бегаю вакол матулі, нюхаю шакаладна-ванільнае паветра і ўсё часцей залажу пад стол, на якім стаіць торт. Адтуль, як з дрэйфуючай ільдзіны, пасылаю тэлепатычныя сігналы «sos», ды яна іх не чуе... Вядома ж, мама мае рацыю. Што за Новы год з надкушаным тортам? Таму і не прашу, не ныю, толькі час ад часу падыходжу да торта і нюхаю. Трэба неяк пратрымацца да вечара, дакладней, да ночы. Пытаю ва ўсіх дарослых па чарзе, колькі гадзін засталося да Новага года, але час паўзе, як чарапаха. Мне здаецца, што стрэлкі гадзінніка проста застылі на месцы. Я хачу часу дапамагчы, хоць крыху яго падштурхнуць, але дзядуля не пускае да насценнага гадзінніка.

– Дзядуля, а ты ўпэўнены, што наш гадзіннік не адстае? Можа, стрэлкі заржавелі?

Дзядуля нічога не адказвае, толькі незадаволена крэкча й пакрыквае на маю маму:

– Алька, што ты з дзіцяці здзекуешся, схавай нарэшце гэты торт! Разваліў тут калянарыю...

Уяўляю, што торт на самой справе не смачны і каляны, але ад жадання непрыкметна адламаць духмяны кавалачак ратуе толькі... ёлка. Дзядзька Міша заносіць яе ў хату, пушыстую, з рэшткамі снегу на галінах, і марозны зімовы дзень разам з хваёвым пахам напаўняе пакой і маю свядомасць, запаўняе па венца. Які там торт? Снег на галінках растае і ператвараецца ў іскрыстую расу. Бегаю вакол ёлкі з ліхтарыкам, падсвечваю залатыя кроплі. Нават без цацак елка выглядае таямнічай каралевай з краіны казак! Упрыгожваем елку ўсе разам. Мама, бабуля, дзядуля, дзядзька Міхась, кожны ўдзельнічае ў працэсе, а я курсую паміж елкай і вялікай скрыняй з цацкамі, выбіраю самыя прыгожыя. Зверху, звычайна, вешаюць вялікія цацкі, шары ці срэбныя шышкі. Як дацягнуцца? Малая ж... як жа мне хочацца хутчэй падрасці... Дзядзька Міхась нібы чытае мае думкі, адным

рухам закідвае мяне на плечы, і вось я ўжо вялікая, пад самую столь. Так нечакана стаўшы волатам, я асцярожна вешаю цацкі на верхнія галіны. Кожны з маіх родных намагаецца падаць мне свой шар: на, Іначка, а я смяюся:

– Ой жа, пачакайце, рук жа не хапае! – хачу, каб цацкі ніколі не канчаліся, і вось так я глядзела б на родных зверху скрозь яловыя галінкі, і каб цацкі свяціліся каляровымі агеньчыкамі... Апошняй чапляю вяршынную зорку, і дзядзька Міша вяртае мяне на падлогу. Ганаруся, што ніводную цацку не разбіла, бягу па Дзеда Мароза са срэбранай ваты, штурхаю яго пад ёлку.

– Вось... пільнуй нашу красуню, каб не скралі мядзведзі!

Чаму мядзведзі – невядома, мядзведзі ж спяць зімой, ды мне здаецца, што нават мядзведзі прачынаюцца ў неверагодную казачную навагоднюю ноч... Менавіта ў гэты момант матуля кажа, што мне пара падрамаць, каб дачакацца апоўначы. Які сон, матуля?! Як жа ж мне прапусціць гадзіну ці дзве доўгачаканай навагодняй ночы? Мне здаецца, што менавіта цяпер, калі я лягу спаць, адбудзецца ўсё цудоўнае і фантастычнае. Без мяне?! Вось не засну, і ўсё! І не глядзі на мяне, матуля, так строга! А раптам пра мяне ўсе забудуць і не разбудзяць? Новы год тады пачнецца без мяне?! Што застаецца? Толькі раўсці... Хоць і не надта хочацца, але раву, можа нехта пашкадуе... Прыбягае бабуля, пачынае мяне ўгаворваць, кажа пра падарункі пад падушкай, якія з’яўляюцца толькі калі дзіця спіць, і што Дзед Мароз пакрыўдзіцца на мяне... Ну вось ужо і апошняе: «Калі ты не заснеш, тата ў вёску не прыедзе!» Тату чакаю-не-дачакаюся, нешта ён сёння затрымліваецца, абяцаў яшчэ зранку прыехаць. Разумею, што работа, разумею, што спяшаецца, але ж тут Новы год на носе, не спазніся, татачка... Што рабіць? Засну неяк... сумую ж... а ў сне час бяжыць хутчэй.

– Іначка, прачынайся! Хутчэй зазірні пад падушку, – будзіць мяне таямнічы голас матулі.

Яшчэ з заплюшчанымі вачамі – рукі пад падушку. Ого! Цукеркі, арэхі, мандарыны... З чаго ж пачаць?..

– Не пераядай, Інуся, салодкага, каб жывот не забалеў і зубы не сапсаваліся, – строга кажа мама, але я ўжо разгортваю абгортку за абгорткай... Ну вось, усё як заўсёды: яна забірае ў мяне пакунак і хавае ў шафу. Ды гэта мне настрой не сапсуе, потым вазьму, калі дарослыя забудуць. Яны так хутка пра ўсё забываюць...

Ой, стукае нехта! Вы чуеце? Першай бягу адчыняць. Тата! Татуся! Апрануты як сапраўдны Дзед Мароз, толькі без валёнак, у звычайных ботах. Які ж Дзед Мароз без валёнак? І барада з ваты трохі набок, па ўсім бачна: тата вельмі спяшаўся. Раблю выгляд, што веру татаваму Дзеду Марозу, каб не пакрыўдзіўся. Тым больш за плячамі – чароўны мех з падарункамі. «Прыйшоў! Прыйшоў!» – скачу на адной назе вакол бацькі. Ён высыпае падарункі проста на падлогу. Машына... пісталет... татуся ведае, што мне падабаецца гуляць з хлапечымі цацкамі... Ну, усё, не магу больш прыкідвацца...

– Татулька, хопіць ужо гуляць у Дзеда Мароза, я ведаю, што гэта ты! Сапраўднага Дзеда Мароза ўбачыць немагчыма, ён прыходзіць, калі дзеці спяць! – амаль па-даросламу кажу я, а бацька трохі расчаравана здымае накладную бараду...

Тым часам мама і бабуля ўжо збіраюць святочны стол. Мясная салата,

халоднае, катлеты, селядзец пад футрам... А вось і торт. Дык і што з таго? Мне яго зусім не хочацца. Чаму, не ведаю. Ну вось, нарэшце, сабраліся ўсе сваякі, селі за стол... Я на каленях у таты, як жа інакш, столькі чакала... Дзядзька Міхась пачынае адкаркоўваць шампанскае... Ура! Свята пачынаецца!..

Але ў гэты момант дзядуля незадаволена хмурыць бровы і пераводзіць стрэлкі насценнага гадзінніка на пяць хвілін назад.

– Зноў гэты гадзіннік спяшаецца... Як ні рамантуй... Што ж... Пачакаем...

– Цэлых пяць хвілін?! – крычу са слязамі на вачах. – Ды сколькі ж можна чакаць!

## Няродная

– А Інка ж – няродная дачка... – сцішаным голасам шэпча баба Маня майму бацьку. Я адсланілася ад дзвярэй і абамлела – адчула сябе рыбай, выкінутай на бераг. Слова "няродная" балюча рэзанула свядомасць, вывернула звычны свет, як пальчатку, перакуліла ўніз галавой... Пабегла ў спальню, упала галавой у падушку, як у хмарку, – ратуй мяне, ратуй! Вось бы завязаць хмарку, як хустку, і тады гукі навокал сцішацца і знікнуць... Чую толькі, як б'ецца маё сэрца. Раз, два, тры, чатыры, пяць... Пяць, чатыры, тры, два, адзін... Час пачынае ісці ў зваротным накірунку... Я ўяўляю, што ніколі не чула гэтых слоў, ніколі не стаяла пад дзвярыма кухні і не падслухоўвала, а раней баба Маня не прыехала да нас са сваіх Вароніч, тата не забраў мяне ў горад з маіх любімых Сястронак, а маміны канікулы яшчэ не пачаліся, і цяпер не лета, а зіма... Ды хіба гэта дапаможа?

Сэрцу халодна, нібы пачалася сапраўдная зіма. Навокал белае-белае поле, мяцеліца, а я, няродная дачка сваіх бацькоў, іду цераз гэтую мяцеліцу, і вецер зрывае з галавы хустку, затрушвае валасы снегам...

– Якая няродная сівая дзяўчынка, – гаворыць воўк чалавечым голасам, і на яго вочы наварочваюцца слёзы... Недзе я чула, што ваўкі плачуць перад тым, як разарваць сваю ахвяру... Ой, не ваўкі, а кракадзілы, я пераблытала, толькі цяпер усё роўна, бо я непатрэбная бацькам... бо няродная...

– Іначка, што ты тут ляжыш? Захварэла? – бацька дакранаецца да майго лоба, у вачах – знак пытання.

– Не разумею, – жаліцца бацька бабулі, – і што такое з Інкай здарылася? Зранку была здаровая... А мы яшчэ хацелі ў парк культуры пайсці катацца на каруселях...

Я чую і не чую бацьку, адвярнулася да сцяны, а маё нясшчасце падбухторвае: «Маўчы, маўчы, колькі б яны цябе ні прасілі, маўчы ўсё жыццё! Што ім да цябе, ты ж няродная...» Не патрэбныя мне вашыя каруселі і ваш парк адпачынку! Гэта вы добранькія, бо робіце выгляд, нібы я родная дачка і вы мяне любіце. Вось чаму рэдка ў Сястронкі прыязджалі, чаму столькі ўвагі Андрэю, а не мне... Таямніца раскрылася! Дзякуй, бабулька і татулька, я нарэшце ўсё зразумела...

– Аля, паглядзі, што з Інай здарылася? Нічога не разумею, – бацька бяжыць да мамы, якая толькі што вярнулася з крамы і разгублена стаіць у калідоры. Бацька падхоплівае сумкі, нясе на кухню, адчуваю, што там ёсць і нешта смачненькае для мяне... Ды мне гэтыя прысмакі зусім не патрэбныя! Не чую, не гавару, не бачу... Заплюшчыла вочы так шчыльна, што нават мятлікі ў чорным змроку лётаюць. Нізашто не расплюшчу

вачэй! Вось так і буду жыць у чорным няродным свеце з электрычнымі мятлікамі ў вачах...

Да майго ложка падышла матуля.

– Іначка, а паглядзі, што я табе прынесла... Ты нават не паверыш... Марожанае... Сунічнае... Панюхай, як пахне!

Не, мамачка, не дачакаешся! Ты ж не ведаеш яшчэ, што я не чую, не бачу, не размаўляю... і нос у мяне закладзены, бо нараўлася. Усё роўна – сунічнае марожанае, ці ванільнае, ці шакаладнае... Чужая вам дзяўчынка ляжыць у ложку і памірае...

І тут нарэшце маіх капрызаў не вытрымлівае баба Маня.

– А ведаеш, Аля, трэба марожанае Інцы з суседняга пад'езда занесці. Во! Яна будзе вельмі рада. Бедная дзяўчынка. Няродная сваім бацькам. Гэта ж мне Апанасаўна ўчора расказала па сакрэту. Яны ж яе ўдачарылі, забралі з дзетдома, калі яшчэ была немаўляткам. А другая дачка Лісоўскіх, Ірка, родная, яна пазней нарадзілася... Ужо і не чакалі, думалі, што так і застануцца бяздзетнымі... Во як у жыцці бывае! Такі лёс...

Бабуля яшчэ нешта гаварыла пра Лісоўскіх, ды я далей не слухала, бо невымоўная радасць адклала мне вушы, нос і расплюшчыла вочы. Скарыстаўшыся тым, што мама ўважліва слухае гісторыю Інкі Лісоўскай, я выхапіла з яе рук марожанае, разгарнула абгортку і з насалодай адкусіла халодны кавалачак сунічнай смакаты.

– Інка, хітруха такая, што гэта ты робіш? Забылася, што табе нельга есці марожанае халодным? У цябе ж гланды! Захацелася па-сапраўднаму захварэць? Як растане, тады і з'ясі. Хуценька бяжы на кухню па свой кубачак! Пакладзеш марожанае, няхай плавіцца...

Калі б я нават не пачула гісторыю пра Інку Лісоўскую з суседняга пад'езда, з маміных паводзін я б дакладна зразумела, чыя я насамрэч дачка, бо толькі матуля так моцна хвалюецца за маё здароўе. Родная я вам, родная! Якое гэта шчасце! Дзякуй Богу, усе мае страхі дарэмныя. Хаця, шчыра кажучы, плаўленае марозіва – рэдкая брыдота.

## Сэрца кветкі

Бацька хацеў, каб я была хлопчыкам. У тым сэнсе, што марыў пра сына, а нарадзілася я. Што рабіць? Палюбіў і мяне... Калі бацька з'яўляецца ў Сястронках, адразу бярэ дзядулевы інструменты і пачынае майстраваць мне цацкі: машынкі, драўляныя аўтаматы, возікі й калёсы, якіх нават у маіх сябрукоў-хлопчыкаў няма. Гэтыя самаробкі мне мілейшыя нават за плюшавага мядзведзіка і вясёлага шэрага коніка на колах...

Лялькі звычайна прывозіць матуля. Я даю ім імёны, расчэсваю залацістыя валасы палавінкай грабеньчыка і саджу на этажэрку пад сценачку. Лялькі разгублена плюскаюць блакітнымі вачамі з даўгімі веямі й чакаюць паяўлення на свет маіх стрыечных сясцёр. Светка народзіцца праз год, Аксана праз тры, а Вольгу чакаць яшчэ доўга, яна з нас найменшая...

Мой тата – майстар на розныя выдумкі. Калі надыходзіць Новы год, ён ператвараецца ў Дзеда Мароза. Я раблю выгляд, што не пазнаю бацьку, не заўважаю, што ён апрануў белы халат дзядзькі Вані, прычапіў бараду з ваты, абуў дзедавы валёнкі. Абодва валёнкі – на левую нагу, бо ў дзядулі толькі адна нага. Ды ўсё роўна, цудоўны Дзед Мароз выйшаў з майго таткі, вунь як кіем грукае, і падарункаў прынёс поўны мех. Я спяваю,

чытаю вершыкі, толькі б тата-Мароз дастаў нарэшце са сваёй торбы падарункі. Што б я хацела больш за ўсё? Канечне, алоўкі! Шмат алоўкаў... Яшчэ апельсіны. Яшчэ... брацікa. Але разумею, што такі падарунак нельга дастаць з торбы. Нават смешна...

– Татачка, я веру, што ты сапраўдны Дзед Мароз, толькі... хутчэй ужо даставай мой падарунак, – не вытрымліваю нарэшце я. Усё, як заўсёды, ну не ўмею я чакаць! Матуля кажа, не хапае мне волі сілы, ой, пераблытала, сілы волі... І вось тата дастае з меха... чорненькае пухнаценькае кацяня. Божачка ж мой, я і не чакала... Абхапіла кацяня рукамі, прытулілася шчакой, а яно такое ласкавае, муркоча, нібы маленькі маторчык у ягоным горле працуе.

– Трубачыст. Я буду зваць цябе Тру-ба-чыс-там! – па складах вымаўляю я і бачу, як бацькавы вочы становяцца вільготнымі, ён добра ведае, што ўлетку машына збіла майго вусатага-паласатага сябрука Ваську. Як я тады плакала, проста не магла супакоіцца. Бабуля ўжо не ведала, што са мной рабіць, якімі прысмакамі частаваць, каб тое гора перабіць. Усё мне было нясмачнае, аж горкае, не лезла ў горла. Нават Алегаву маму, фельшарку цётку Таісу пазвалі, думалі, што я захварэла. Канечне, з часам я супакоілася, ды ўсё роўна сумавала...

Тата разумее мяне без слоў. Вось сядзім мы неяк улетку на беразе возера і рыбу ловім. Прыгажосць вакол, спакой, хмаркі па небе плывуць, адна другую абганяе. Раптам бачу – адна, ну, выліты Мішутка. Я на тату і зірнуць не паспела, як ён кажа:

– Глядзі, Іначка, хмарка плыве, падобная да твайго плюшавага мядзведзіка, і нават аднаго вуха няма... Пазнаеш?

Сорамна, што ніяк не прышыю свайму мядзведзіку вуха, але радасна, што тата ўмее чытаць мае думкі. Для яго гэта прасцей паранай рэпы. Дарэчы, зусім нядаўна я даведалася, што гадоў трыста назад замест бульбы варылі рэпу. Мне тата расказваў. Вось дзіва, дык дзіва...

Мой бацька ўмее стракатаць, ну, вылітая сарока. Не раз такое было: спачатку я чую голас сарокі, а потым на ганку з'яўляецца тата. Або схаваецца недзе за дрэвам і стракоча адтуль. Я ж не ведаю, што там тата. А, можа, і ведаю, толькі ўсё роўна раблю выгляд, што вельмі здзівілася.

– Татачка, а дзе ў нас пасялілася сарока-белабока?

Аднойчы ў сарочыным гняздзе мы з татам знайшлі матуліну срэбную завушнічку з каменьчыкам александрытам. Мама вельмі любіла гэтыя завушніцы, берагла, нанач здымала, клала на падваконне ў парцалянавы сподачак. Неяк раніцай хацела надзець завушніцы, а адной не знайшла. Дзе толькі ні шукалі... Падумалі, што завушнічка недзе між дошак пад падлогу праваліласяя... Хто б мог падумаць, што гэтую красу ўкрала сарока. Мабыць, каменьчык бэзавага колеру ёй прыглянуўся... Калі мы з татам знайшлі сарочына гняздо, чаго там толькі ні было: кавалачкі рознаколернага шкла, ружовыя пацеркі і нават медны пярсцёнак, падарунак дзядзькі Міхася, які я даўным-даўно згубіла. Сінявока блішчэла і матуліна завушнічка...

Увечары бацька расказвае мне чароўныя гісторыі: пра цэрквы, якія праваліліся скрозь зямлю, зачараваныя скарбы, князёўну: каб не дастацца ворагам, яна запрэгла коней і з'ехала з гары ў возера. Мне так цікава, што аж страшна, асабліва гісторыя пра князёўну падабаецца. Слухаю тату, а сама малюю, і ўсё ажывае, нібы ў кіно. Вось на гары стаіць велічны замак, у ім жыве добры справядлівы князь, княгіня і маладая князёўна. Яны

стаяць перад замкам, трымаюцца за рукі, усміхаюцца, а ў небе сонейка. Вось пасліню аранжавы аловак і вясёлую ўсмешку сонейку намалюю. Усе шчаслівыя... А на другім малюнку ўжо насоўваецца навальніца, усё неба зацягнулі чорныя хмары. Гэта наступае варожая конніца, вунь як пыл курыць, нібы смерч нейкі... А вось ужо ідуць палонныя дзяўчаты і хлопцы, рукі ў іх звязаныя, вось так, крыж-накрыж. Гараць хаты, агонь, дым навокал, нават неба не відаць... А вось князь б'ецца з басурманамі. Ён адзін, а іх шмат... На наступным малюнку нібыта забіты князь ляжыць на траве, а над ім гаруе княгіня... У мяне ўжо ў самой слёзы цякуць, проста капаюць на малюнак, але гэта не слёзы, а вада таго возера, што паглынула юную князёўну... Ноч, свеціць месяц, а па вадзе блукаюць адбіткі чароўнага святла... таму князёўна і коні, ну, як жывыя. Не, яны сапраўды ажылі!

– О, як цудоўна ў цябе выходзіць, Іначка! Гэта ж не проста малюнкі, а сапраўдныя гісторыі! Магчыма, у будучым ты станеш рэжысёрам...

– Тата, няўжо ты забыўся, што я хачу быць артысткаю?

Ой, а колькі я ўжо фільмаў у Сястронскім клубе паглядзела, нават не падлічыць! Лічу-лічу, а іх усё больш становіцца. Асабліва мне падабаюцца індыйскія фільмы, іх часта ў наш клуб прывозяць. «Валацугу» і «Сланы – мае сябры» некалькі разоў бачыла. У гэтых кінах усе артысткі вельмі прыгожыя, яны спяваюць і танцуюць, закохваюцца, а потым плачуць, а потым зноў спяваюць і танцуюць... Як жа мне падабаецца вось такое жыццё – сонечнае, яснае, нават нягоднікі мне падабаюцца, бо дабро мацнейшае, яно заўсёды перамагае зло. Індыйскія фільмы мне падабаюцца за прыгажосць, а татулька за дабрыню. Ён усіх шкадуе: і катоў, і сабак, і дрэвы, і птушак, а найбольш мяне. «Бо ты наша зярнятка», – кажа, а я ўляўляю, як тата з мамай садзяць у зямлю зярнятка, а вырастае вялікае дрэва, раскідзістае такое, зялёнае, а сярод галінак – я... Не магу ўявіць той час, калі мяне яшчэ не было. Якім быў той свет без мяне? Як усё рухалася, расло, радавалася, гаравала? Як мама без мяне ў Казахстан ездзіла, а тата ў Валгаградзе працаваў? А потым тата і мама сустрэліся ў нейкай кропцы прасторы і часу, закахаліся, нарадзілі мяне... І ўсё пачалося нанова – новы свет, у якім ёсць я...

Чакаю тату, ён вось-вось прыедзе ў Сястронкі, бабуля сказала – аўтобусам у абед. Мае бацькі апошнім часам ездзяць у Сястронкі па чарзе, каб не сварыцца. У вёсцы іх спрэчкі мацнеюць, а я тады слабею, пачынаю задыхацца, нібы паветра не хапае.

– Нервовая дзяўчынка, – кажа бабуля, – ёй спакой патрэбны, пашкадавалі б...

Вось яны і шкадуюць... Сёння прыедзе бацька.... А тым часам я малюю матулінай памадай чырвоную кропку на ілбе: сёння буду індыйскай прынцэсай. Накідкай з падушкі ўкрываю галаву, як вэлюмам, нібы я нявеста, кручуся перад люстэркам і так, і сяк, нават намагаюся спяваць тоненька, як Зіта і Гіта. Дужа стараюся. Галоўнае ў песнях – інтанацыя і добры настрой, тады і словы няважныя...

– Тата, татулька! – кідаюся на шыю, нарэшце дачакалася. Як добра, што нікога больш няма ў хаце! Зараз пакажу ўлюбёныя сцэны з індыйскіх фільмаў. Нават калі нешта не атрымаецца, бацька ўсё роўна пахваліць, падтрымае. Танцую, спяваю... стараюся, аж пот градам. Тата смяецца, апладзіруе, і мне весела, бо весела яму. Натхнёная падтрымкай, хапаю з вакна гаршчок з чырвонай геранню і пачынаю кружыцца па хаце. У індыйскіх фільмах

шмат прыгожых кветак, раслін, і мне хочацца расказаць пра гэта бацьку з дапамогай танца. Ды раптам... о, жах... я наступаю на краёчак пакрывала, у якое загарнулася, як дзяўчаты ў індыйскіх фільмах, спатыкаюся і падаю. Гаршчок з геранню разбіваецца, зямля рассыпаецца па падлозе.

– Нічога, не хвалюйся, дачушка, галоўнае, кветка ўцалела, – бацька прыходзіць на дапамогу, выблытвае мяне з пакрывала. – Ты не забілася, Іначка?

«Ай, тата, ты такі смешны, як можа забіцца індыйская прынцэса?» – не сказала, але падумала я. Разам мы прыбіраем падлогу, ратуем кветку, а потым смяемся над гэтай прыгодай. Мне хочацца цалаваць маршчынкі ў куточках татавых вачэй, аднак стрымліваю сябе: ён вельмі чуллівы, слёзы блізка. Пачну супакойваць, а ў мяне яшчэ палавіна прадстаўлення наперадзе...

– Татулька, нам так добра разам! Застанься, калі ласка, са мной... – Гэтыя словы я скажу назаўтра, калі мы з бабай Мурай будзем праводзіць яго на аўтобус. Ведаю, што не застанецца, ды ўсё роўна кажу. Мой тата працуе інжынерам у Полацкім райвыканкаме, у яго адказная пасада, справы чакаць не будуць... Ды як жа мне хочацца, каб яны пачакалі! А яшчэ мне хочацца татку нешта падарыць...

– Тата, я падару табе кветку, у якой гаршчок разбіўся, калі я танцавала. Сёння я перасадзіла герань у сваё вядзерца. Ты паставіш кветку на падваконне ў сваім кабінеце і будзеш кожны дзень успамінаць мяне... Татулька, я хутка: адна нага тут, другая – там.

Бацька і адказаць не паспеў, як я крутнулася на месцы, толькі мяне і бачылі, пабегла ў хату па кветку. Герані на падваконні я не знайшла. Ну дзе яна, дзе? Пачала мітусіцца па хаце, шукаць кветку... Дык вось жа яна, на стале, як я адразу не пабачыла? Схапіла, прыціснула да сябе, і сэрца герані забілася сугучна з маім. Галоўнае цяпер не спатыкнуцца! Вось так, ціхенька... адчыняю дзверы... на ганак... за вароты... бягу... І раптам бачу, як аўтобус, вельмі павольна, нібы ў сне, ад'язджае ад прыпынку. Бягу з усёй сілы, амаль наперарэз, можа, кіроўца мяне пабачыць і спыніцца. Маё сэрца выскоквае з грудзей, намагаецца затрымаць аўтобус, ды нічога не выходзіць, ён толькі набірае хуткасць. Ужо не паспець... не паспець... «Тата, ну чаму ты мяне не дачакаўся?!» Плачу, бягу за аўтобусам, як шалёная, ды разумею, што ўсё дарэмна... Разварочваюся, павольна брыду да прыпынку. «Ну і няхай, няхай!» – гэта гаворыць у ва мне нібы нехта іншы, абыякавы, які нікога не хоча бачыць... Бабуля нешта крычыць, махае мне рукамі, ды я нічога не чую. У галаве звініць адна думка: тата мяне не дачакаўся... не дачакаўся, яна заглушае ўсе іншыя. Кветка дрыжыць у маіх руках, нібы адчувае, што яна мне ў імгненне абрыдла і я хачу проста кінуць яе ў траву каля дарогі. Навошта цяпер яе прыгажосць, калі побач няма таты? І раптам... і раптам...

– Дачушка, пачакай... Вось... спыніў аўтобус, хачу яшчэ трохі пабыць з табой... Заўтра паеду ў Полацк. Рана-ранкам... Давай паднясу тваю кветку, яна ж цяпер мая...

Няўжо бацька застанецца сёння са мной?! Азірнулася на аўтобус, які, падняўшы слуп пылу, ужо знік за паваротам, а мне ўсё яшчэ верыцца і не верыцца такому нечаканаму шчасцю...

Гэта быў час, калі ад смутку да радасці ўсяго адзін крок, час, калі збываюцца запаветныя мары і жыццё здаецца вечным... Наш з татам час.

Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў



...Адно ў прарока зерне – Божы голас,
адно ў прарока поле – свой народ...

# Літургія часу

*I*

Сорак гадоў раздражняў Мяне род гэты, Я сказаў: гэта народ, які заблудзіўся сэрцам; яны не спазналі дарог Маіх; і таму прысягнуў Я ў гневе Маім, што яны не ўвойдуць у Мой спакой.

**Псалтыр 94:10-11**

Сорак гадоў...
Сорак гадоў...
Сорак...
Ты перайшоў
шляхам нязнаным мора.
Ты абхітрыў
лёс незайздросны рабства.
Волі віры
для неабуджаных – пастка.
Для ненароджаных
свет, дзе жывуць, – скруха.

Шляхам няходжаным
голас бяжыць да вуха.
Вушы глухіх,
вочы сляпых...
Годзе!
Так у спакой
Мой не ўвойдзеш, народзе!

*11 жнійўня 2022*

## *II*

...Няма больш прарока, і нікога няма,
хто б ведаў, як доўга гэта будзе.

**Псалтыр 73:9**

Ніхто не ведае,
ці доўга будзе
студзіць нас бедамі
бясконцы студзень.
Праклён звычайнасці –
хвілін бясконцасць.
Не распадаецца
чакання стронцый,
не распадаецца,
адчаю радый –
не дачакаешся
іх паўраспаду.
Гады і месяцы –
праклён ці шчасце?
Бо не нап'ешся ты
вадой бясчасся,
як не падыхаеш
агню паветрам.
Хадзіць – не выхадзіць
стагоддзя нетры.
Няма прарока тут,
каб часу голас
пачуў у рокаце
жалезных колаў.

*12 ліпеня 2022*

## *III*

Вось народы – як кропля з вядра, і лічацца
як пылінка на вагах.

**Кніга прарока Ісаі 40:15**

Народ мой – кропля з вядра.
Вада, ці кроў, ці сляза?..

З якіх незагойных ран
піла майго часу лаза?
Хто скажа, народзе мой,
ці лёс твой – уздых пустаты?
Трымценне кроплі адной
ці значыць штосьці прад Тым,
Хто плача рыданнем рэк,
маўчыць маўклівасцю гор?..
.......................................
Ты кропля з ЯГО павек,
народ адчаю майго!

*11 жніўня 2022*

***IV***

Не зрабіў Ён таго ніякаму іншаму народу,
і судоў Ягоных яны не ведаюць.

**Псалтыр 147:9**

...І судоў Яго яны не ведаюць,
бо суды Яго прайшлі над намі,
як аблокі чорныя і светлыя,
як агонь, што з вечнасцю яднае,

як палын, што з неба яркай зоркаю
падае ў Бярэзіну і Прыпяць.
Ці крывёю, ці слязою горкаю
келіх гневу поўны. Піць – не выпіць.

Бо шляхоў бяды – хадзіць не выхадзіць,
бо Яго суды – дарунак шчодры.
Хмара бэзу сумнай парадзіхаю
праліе салодка-горкі водар.

Бо суды Яго ў зямлі егіпецкай
Ніл паілі чырванню Ірпені,
а віно Дняпра – слязою Прыпяці,
ноч Пітома – магілёўскім ценем.

І маўчыць нямая апраметная,
і аглухлі рэкі Вавілона,
бо судоў Яго яны не ведаюць
і струменяць у палон з палону.

*23 мая 2022*

***V***

Хлеб наш заўтрашні[1] дай нам сёння:
толькі Заўтра накорміць нас.
Бо з бясчасся святога ўлоння
нарадзіўся ў пакутах час.

Гэтак з чэрава беспрастор'я
нарадзіўся Сусвету крык.
І яго адвечнае гора
смехам заўтрашнім азары.

Твайго Вечнага Заўтра хлебам
голад сённяшні наталі.
Хай высокая воля неба
будзе
воляй
зямлі.

*27 чэрвеня 2022*

***VI***

Цяпер адпускаеш слугу Твайго...

**Евангелле паводле Лукі 2:29**

І ўбачыў я, што скончана сяўба,
убачыў плод, што нарадзіла дрэва.
Адна ў прарока на зямлі патрэба...
Цяпер адпусціш Ты Свайго раба.

Садам маім нястрашны недарод,
палям маім не быць зямлёю голай.
Адно ў прарока зерне – Божы голас,
адно ў прарока поле – свой народ.

І хутка ўстануць тут рады стагоў,
бо голас неба стаў дзіцячым плачам,
і вырасце Дзіця, а гэта значыць,
што адпускаеш Ты раба Свайго.

Так з безаблічнай немасці эпох
аднойчы паўстае адна гадзіна,
што мае твар і голас – свой, адзіны...
І гэтым голасам гаворыць Бог.

*11–12 жнійня 2022*

---

[1] У малітве «Ойча наш» «хлеб наш надзённы» можна перакладаць і як «хлеб наш заўтрашні».

## *ВІТРАЖЫ МАРКА ШАГАЛА «ДВАНАЦЦАЦЬ КАЛЕН ІЗРАІЛЯ»*

### *1. Рувім*

Мора нястрымныя воды.
Неба няспынная сінь...
Першы з князёў народа,
першы Якуба сын.
Неба глядзіцца ў мора,
дух углядаецца ў плоць.
Неўтаймаваны нораў –
прорвы злавеснай святло.
Моц, і праклён, і згуба
змрочнае мілаты...

Першы з сыноў Якуба –
першым не будзеш ты!

*29 ліпеня 2022*

### *2. Сымон*

Крылаты конь вайны,
крылаты бык ахвяры,
планеты, птушкі, сны,
кроў, кветкі, сонца, мары,
дзень, ноч, дабро і зло,
малітвы і праклёны...

Адвечны каталог
жыцця і скону.

*29 ліпеня 2022*

### *3. Лявій*

Золата храма,
песня меноры –
сонечнасць гукаў
вечнага хору.

Зорка Давіда,
камень скрыжаляў...
Дыхае ў храме
сонечнасць даляў.

Сонечнасць літар –
вось твая маці.

Слова праменне –
вось тваё брацце.

*30 ліпеня 2022*

### *4. Юда*

Карона царская і царская парфіра –
вось колеры віна... Або віны?
Чакай Цара, што ўздыме келіх міру,
а не вайны.

Бо колер смерці і жыцця – той самы –
скрываўлены рубін.
Заслона па-над сцэнай вечнай драмы
пафарбавана ім.

*30 ліпеня 2022*

### *5. Завулон*

Як сонца коціцца
з нябёс у мора –
так кроўю поўніцца
жыцця прастора.
Багаты скарбамі
марскіх бяздонняў –
чырвонай фарбаю
паі сутонне.
Багаты тайнаю
прарочай ежы –
быцця адчайнае
кармі бязмежжа.
Ахвярай шчыраю
накорміш горы...

...Вячэрняй чырванню
смяецца мора.

*30 ліпеня 2022*

### *6. Ісахар*

Панадная зелень зямлі.
Прынаднае рабства спакою.
На плечы цяжар узвалі,
зрабіся зямлі слугою.

Зрабіся моцным аслом –
упрыся ў зямлю нагамі.

Глядзі, як жыццё парасло
спакуслівай цішы стагамі.

Пра волю ўспамін не цвялі:
навошта шчасце такое?
Панаднае рабства зямлі.
Прынадная зелень спакою.

*31 ліпеня 2022*

***7. Дан***

Хітры змей у траве не тоіцца –
на дарозе прывольна лёг,
быццам кажа вясёлы забойца:
«Паспрабуй абысці свой лёс!
Што хавацца мне, строіць хітрыкі?
Сам што трэба з дрэва з'ясі».

Разліло на празрыстай палітры
неба стылае срэбную сінь.

*2 жніўня 2022*

***8. Гад***

Шуганула чырвонай магноліяй
над лістотаю крылле вайны.
Так змагаюцца колер з колерам,
гэтак з явай ваююць сны.

Гэтак чырвань рубіну выбухам
у атруце смарагду зеўрае.
Гэтак глыба ўразаецца ў глыбу,
сутыкаецца хеўра з хеўраю.

Як распусце ў суседстве з цнотаю,
гэтым побач няўтульна фарбам.
Над зялёнай мокрай лістотаю
крылле смерці раскінула барва.

*3 жніўня 2022*

***9. Асір***

Сад птушак і маслін. І сем галін меноры.
Рака твая – алей, імя тваё – Асір[1].

---

[1] Імя *Асір* азначае «шчасце».

Нясі віно цару, каб цар быў у гуморы,
бо цар святкуе мір.

Спеў птушак і маслін, і праз галлё праменне
ліецца, бы алей, бруіць ля тваіх ног...
Тваё імя – адно
няўлоўнае імгненне,
калі смяецца Бог.

*4 жніўня 2022*

### *10. Нефалім*

Пояць нябёсы золатам
мірную лань.
Будзь на зямлі вясёлым ты,
сыне святла!

Захад і поўдзень – твой
вечны надзел.
Слова тваё – спакой,
подых надзей.

Слова тваё – аб сыне,
што вярнуўся з шэолу[1].
Гэтак гучыць у пустыні
водаў прарочых голас.

*5 жніўня 2022*

### *11. Язэп*

Як лёс тканіну тчэ сваю?
Як незямное ўсходзіць царства?
– Хаваюць зернетка ў зямлю
і брата прадаюць у рабства.

І думку песціць чалавек:
«Мае шляхі ў маёй уладзе».
Ды іншы спеў жыццё раве,
і лёсу суд не гэтак радзіць.

Стаў залатым раба ланцуг,
і парастак зрабіўся кронай,
дзе ўзносяць пераможны лук
цар-птушкі ў незямных каронах.

---

[1] Паводле некаторых уяўленняў, Нефалім першы паведаміў Якубу, што Язэп жывы. *Шэол* – прыстанішча мёртвых у іўдаізме.

Насенне кідаюць у гразь,
ды зернетку няшмат і трэба...
З раба паўстаў магутны князь,
з труны жыцця паўстала дрэва.

Дабраславенні вышыні
нясуць яму далоні ветру,
і п’юць удзячна карані
дабраславенні чорных нетраў.

І хіліць дрэва цераз плот
цяжкіх галін дабраславенне,
каб зноў у вечнасць паплыло
непераможнае насенне.

*6 жніўня 2022*

### *12. Веньямін*

І вечар – *быў*, і раніца – *была*,
бо гэты свет аднойчы змог *адбыцца*.
Рахіль заснула. Значыць, ёй прысніцца
сем колераў празрыстага святла.

Як сем пялёсткаў, сем вялікіх дзён,
сем нот, што загучалі па-над хмарай...
Пад ружай – воўк з забітаю ахвярай.
Не бойся: тым, хто спіць, нястрашны ён.

Бо сёмы дзень вярнуўся назаўжды,
каб адпачыў нямоглы і нядужы.
Забудзь усё, што чуеш ты пад ружай,
забудзь стагоддзі, твары, гарады,

Парыж, і Віцебск, і Ерусалім.
Бо насамрэч тут не было і твараў.
Тут кветкі, птушкі, воўк з яго ахвярай,
зямля, нябёсы, мора і што ў ім.

А ўсё, што *за*, – аб тым не трэба слоў:
калі пяе святло, сціхае розум.
Адзін прарок пачуў, але *sub rosa*...
*Шабат шалом*, калі пяе святло!

*7 жніўня 2022*

Давід Шульман



...жыццё – гэта сцэнар,
але ў яго ёсць варыянты...

# Толькі для цябе

***Два апавяданні***

## Сеня, мой хросны

***1***

Цяжка стомлены ад пражытых гадоў, з прыадкрытым для дыхання ротам, твар, – глядзеў на мяне. Лысы чэрап з некалькімі выспамі – прылепленымі кароткімі валасамі, здаваўся шурпатым. Напэўна, ад рассыпанай то тут, то там "грэчкі" – рыжаватых плямак.

Сціснутыя ў кулакі цяжкія рукі ляжалі на стале. Іх гаспадар толькі што скончыў трапезу і нібы вачыма нешта шукаў ува мне. Глядзеў неадрыўна. І я глядзеў на яго. Я першым не вытрымаў позірку яго моцных, выгаралых вачэй. І зноў узяў у рукі кубак з кавай, зрабіў некалькі глыткоў.

Ён сядзеў за два сталы ад мяне. Як і я, адзін. Пераглядкі скончыліся, калі ён рукой паклікаў мяне да сябе.

– Я – Сеня, – сказаў ён. Сеню было гадоў пад восемдзесят. – А ты хто?

– А навошта, Сеня, вам ведаць, хто я?

– Не будзь падобным да дрэнна выхаванага чалавека. Вельмі, не хацелася б. Табе старэйшы таварыш выказаў рэспект. Звычайна робяць зваротны жэст. Але вам, трыццацігадовым... Я ж, просячы цябе падысці, нешта ж меў на ўвазе. Інакш навошта ты патрэбен мне?

– Добра, Сеня. Я таксама... Сеня, калі па-вашаму, а так я Шыман.

– Натуральна. Цябе прывезлі сюды дзіцём?

– Так. Мне было шэсць гадоў, а зараз...

– Не кажы. Я скажу. Табе зараз дваццаць шэсць.

– Вы бачылі мой пашпарт?

– Не.

– Тады адкуль такія дакладныя веды?

– Ты ўнук Шмуэла Карагодскага?

– Так, майго дзядулю звалі Шмуэлам.

– Даўно яго сэрца стала на ўсе тармазы?

– Вось ужо шэсць гадоў няма яго з намі.

– А твая бабуля Сіма?

– Рыхтуецца да сустрэчы з дзедам. Пасля ягонага адыходу бабуля адчула сябе вельмі нязручна на гэтым свеце.

– Дык гэта сур'ёзна?

– Ужо вельмі. Атрымліваецца, што вы былі з імі знаёмы?

– Вельмі добра. Табе, Шыман, не казалі, што на дзеда свайго, – табе на доўгія гады! – ты вельмі падобны?

– Бабуля ў апошнія гады вельмі часта, трымаючы маю руку, глядзіць на мяне, пускае некалькі слязінак. Потым кажа: "Ну, досыць, ідзі ўжо". Зараз, пасля вашых слоў, Сеня, я зразумеў, чаму так адбываецца. Як зразумеў, чаму дзядуля, калі быў яшчэ жывы, гледзячы на мяне, нечаму ўсміхаўся.

– Аднойчы ён казаў мне, што зрабіў праз сына сваю копію. Толькі пойдзе "копія" далей за яго.

– Гэта мой дзед так казаў?

– Твой дзядуля Шмуэль. Цябе, Шыман, не здзіўляе, адкуль я добра ведаю твой узрост?

– Здзіўляе.

– Дык вось, кажучы хрысціянскай мовай, я – твой хросны бацька. А па-нашаму, па-габрэйску, я быў сандакам на тваім абразанні: трымаў на сваіх каленях цябе васьмідзённага, пакуль маэль рабіў цябе габрэем. І назвалі цябе ў гонар мяне, хоць у габрэяў не заведзена даваць імя ў гонар тых, што яшчэ жывуць. Адбылося так таму, што твой дзед, Шмуэль Карагодскі, паабяцаў мне, што ці буду я жывы, ці – не прывядзі Гасподзь, не ў гэтым свеце, першага свайго ўнука ён назаве ў мой гонар. Ты яшчэ знаходзіўся ў сваім прыродным маміным сховішчы, чакаючы выхаду ў гэты свет, калі я ў чарговы прыезд з'явіўся ў нашым горадзе. Жывы.

– А чаму ён так паабяцаў?

– Пэўна, табе не расказвалі пра некаторыя вашы сямейныя гісторыі.

– Я закажу нам выпіўку. Што вы хочаце, Сеня?

– Віно. Папіваючы яго, можна весці размову і дагаварыць тое, пра што збіраюся расказаць.

Нам прынеслі бутэльку “якаснага”, – так я прасіў афіцыянта, добрага віна. Сеня, паглядзеўшы на бутэльку, сказаў: “Мяркуючы па наклейцы, яно добрае. Налівай, Шыман. Так, яно прыемнае”, – зрабіўшы два глыткі, сказаў Сеня.

– Мы з тваім дзедам займаліся боксам, былі запісаныя ў секцыю. Дарэчы, бокс вельмі габрэйскі спорт. Шмат хто з чэмпіёнаў свету былі габрэямі, не кажучы ўжо пра трэнераў-зорак. Твой дзед у той час быў чарнавалосы, разумны і фантастычна абаяльны. Цёмныя вочы былі глыбокія і апантаныя. Нездарма ж твая бабуля, самая прыгожая дзяўчына нашага гарадка, гаворачы сучаснай мовай, “запала” на яго. Яны адзін на аднаго запалі.

– А якім былі вы, Сеня?

– Я таксама быў на ўсе сто. Сябраваў з сястрой, стрыечнай, тваёй бабулі.

– Баба Рахель?

– Так. Але воляй лёсу, а карацей кажучы, будучых падзей, мы не змаглі “скамплектавацца”. Жанчыны нашай маладосці амаль ніколі не вяртаюцца да нас. Часы былі антысеміцкія, вельмі антысеміцкія. Жыццё габрэя ў СССРы каштавала танней за жыццё карэннага насельніцтва. І гэта нягледзячы на тое, што галоўнага антысеміта Савецкага Саюза *шэм бегробн*, ужо закапалі, умоўна кажучы. На самой справе яго выклалі на агляд. Ён назаўсёды пайшоў туды, дзе яго даўно чакалі мільёны ім загубленых.

– Вы, Сеня, маеце на ўвазе Сталіна?

– Яго, ката, ката роду чалавечага. І хоць скончылі апраўданнем “справу дактароў”, – калі ты раптоўна ўрач-забойца па нацыянальнай прыкмеце, – але пасеяна нянавісць да габрэяў была густа. Афіцыйна “поле” хацелі пераараць, але мала ўдавалася. Вельмі ўжо ўгнаенні былі шматвяковыя, а потым дададзены самым галоўным савецкім чалавекам.

Мне расказваў адзін чалавек, які ў мяне трэніраваўся. У дзяцінстве, гадоў у шэсць, дзед прывёў яго на гасцявую трыбуну маўзалея. Я запомніў слова ў слова, часам памяць здольная “ўдрукоўваць”: “Я быў узрушаны, убачыўшы замест прыгажуна з вусамі ўбогага рудога карліка з такой мордай, нібы па ёй праехала сеялка. І нічога не пасеяла”.

Хай будзе праклятая памяць аб тым, хто куражыўся над усёй краінай!

Але вярнуся на год раней, у 1952 год. У нашым гарадку разгул антысемітызму. Зусім дрэнны год для габрэяў, як і па ўсёй краіне. Майго бацьку з начальнікаў перавялі ў рабочыя. Добра, што не звольнілі. Ён быў адзіным кармільцам у сям'і. Шмат каго і звольнілі, і пасадзілі.

Недзе ў снежні мы “арганізаваліся” – пяцёра габрэйскіх хлопцаў. Для самаабароны. Канечне, неафіцыйна. Праходжваліся па двое, утрох, “дзяжурылі” каля таксама неафіцыйнай сінагогі ў адным з прыватных дамоў. Білі ў цемры, нацягнуўшы на твары навагоднія маскі, хлопцаў, што чаплялі нашых жанчын і дзяцей. Яшчэ газетчыкаў, што сыпалі нянавісць.

Вядома, органы арганізавалі сачэнне: “Разумееш, нейкія людзі, хутчэй за ўсё габрэі, б'юць нашых”. І аднойчы, калі мы з тваім дзедам ламалі рукі і нос аднаму чыноўніку-антысеміту, а мы гэта ўмелі, мы ж баксёры, нас акружылі міліцыянты. Павезлі ў адзяленне. Праз некалькі дзён у мясцовай газетчыне з'явіўся матэрыял пад назвай “Маски сорваны”. Дарэчы, вельмі папулярны ў тыя гады – шлягер газетных загалоўкаў.

Твой дзядуля толькі месяц як пабраўся шлюбам з тваёй бабуляй. Я – халасты. Зразумела, усё пацягнуў на сябе. Мне – тры гады, Шмуэлю –

пятнаццаць сутак. Вось тады, пасля прысуду, твой дзядуля і казаў мне пра будучага цябе. Ты правільна робіш, што неўпрыкмет нам даліваеш. Мне падабаецца гэтае віно.

– І што ў турме?

– У лагеры. Дабыў да апошняга званка. Таму што і на зоне біў антысемітаў, скалаціўшы групу. У ёй былі добрыя рускія хлопцы, таксама кароткатэрміноўцы. Калі ж, вядома, параўноўваць з большасцю “сямігодак” і “чырвончыкаў”. Я адзіны габрэй у “бандзе”. Калі табе будзе цікава, дык па суботах – дзеля мяне, і па нядзелях – дзеля іх, мы нашай справядлівай справай не займаліся. Хаця ні я, ні яны не былі вернікамі.

– Звычайна ў тых месцах далучаюцца да рэлігіі, наколькі я чуў.

– Слабыя людзі. Перакладаюць сваё жыццё на чужыя плечы. Мы, Шыман, гэтай “тэмай” не захапіліся.

Начальству было незразумела, чаму рускія б’юць некаторых іншых рускіх. Яно, начальства, было людзьмі сістэмы, дзе аб прыстойнасці нічога не ведалі. Мае калегі былі простымі хлопцамі, як тады казалі, “з рабочых і сялянаў”. У іх была народная справядлівасць.

Дарэчы, калі выйшлі на свабоду, гэтыя пацаны адвучыліся, абышоўшы ўсялякімі шляхамі забароны, і выбіліся ў начальства. Адзін з іх з часам заняў пасаду намесніка міністра ў Маскве. І падцягнуў да сябе старую хеўру. Уяўляеш, які гэта быў надзейны калектыў!

– Пэўна, ім дапамагалі?

– Не без гэтага.

– Габрэі?

– І яны таксама. Габрэі ўмеюць быць удзячнымі. А ўвогуле, ні адзін чалавек не робіцца ні лепей, ні мацней пасля лагера. Лагер – адмоўны вопыт, разбэшчванне для ўсіх. Але мае хлопцы былі моцнымі людзьмі, справядлівымі. І шмат чаго яшчэ супала. Яны дасягнулі ў грамадстве становішча нашмат вышэй за сярэдняе. Мне трэба ў прыбіральню. У маім узросце – гэта самае наведвальнае месца. Па рэйтынгу далёка наперадзе кухні.

Ён устаў і пайшоў. І хада была ўстойлівая, упэўненая, што супярэчыла яму, стомлена ўросламу ў крэсла.

– Што яшчэ цябе цікавіць, Шыман?

– Што вы рабілі пасля таго, як...

Стары ўзяў у руку келіх з віном і зрабіў некалькі глыткоў. А я пачаў углядацца ў ягоны твар. Рот вялікі, куткі прыўзнятыя і насмешліва, і пагардліва. Твар з шырокімі крыламі носа.

– У вас, Сеня, свой нос, ці апрацаваны чужымі кулакамі?

– Свой. Ад кулакоў быў майстрам адхінацца. А тады, пасля лагера, я выйшаў за вароты, паглядзеў на неба, і мне падалося, што Бог даў мне знак: “Давай, жыві, а там паглядзім”. Чалавек жыве ў абставінах, якія яму вызначылі Бог, прырода, вышэйшыя сілы. Жыве, як умее, прыстасоўваючыся да свайго ладу жыцця. Але трэба здабываць максімум з сітуацыі. Я вярнуўся дадому. Рахель, натуральна для майго выпадку, пабралася шлюбам. Твой бацька бегаў пад сталом у хаце Шмуэля. Аклёмваўся, ад’ядаўся, выпіваў з тваім дзедам. Гэта быў час раю – поспех, маладосць, каханне. Раней ці пазней у чалавеку прачынаецца тое, да чаго ён прыдатны. Ты бачыш мае кулакі?

– Вы працягвалі займацца боксам?

– Так. Таму што нічога не адбываецца раптам. Нешта нечаму папярэднічае. У мяне ж былі баксёрскія навыкі. Як гэта было аднойчы сказана: “Усяму свой час”. Я з жонкай і сынам прыехалі да маіх яшчэ жывых бацькоў за тыдзень да твайго нараджэння. І прабылі амаль месяц. Адзначылі, вядома, тваё нараджэнне і габрэйства, нашыя вытворчыя поспехі. І Шмуэль, і я да таго часу былі ў сваіх прафесіях паважанымі людзьмі. Хоць гэта было не проста ў эпоху ўсеагульнай хлусні ў СССР, у гэтай імперыі роўнасці і беднасці.

– Вы жылі ў краіне, дзе афіцыйна было прынята хлусіць.

– Але ў нас, нягледзячы на гэта, усё яшчэ было шмат спадзяванняў на справядлівую долю... Нешта мяне пацягнула на ўспаміны. Пэўна, таму, што тады я ў апошні раз бачыў жывымі сваіх бацькоў. Заўжды здаецца, што свет, у якім жывеш цяпер, і раней існаваў. Але ж былі іншыя вуліцы – узімку белыя і ціхія, былі іншыя вокны, праз якія глядзеў на гэтыя вуліцы. Часта ўзімку вокны замярзалі. А ўлетку вокны зачынялі на аканіцы, каб шпалеры не выгаралі. І толькі ўвечары, калі сонейка хавалася, расчынялі на некалькі гадзін, да цемры, і аканіцы, і вокны, каб упусціць у пакоі свежае паветра з пахам скошанага сена, або квітнеючага бэзу, ці яблыкаў з саду... У барацьбе з часам яшчэ ніхто не перамог...

Сеня зноў падняўся з крэсла і, крыху хістаючыся, накіраваўся да прыбіральні. Ён быў мудры. Пэўна, таму, што добрае сэрца і душа яго былі акружаныя залатымі правіламі жыцця, якія яму было дадзена спазнаць. І ён іх умацаваў у сабе.

Вярнуўшыся за стол, ён упарта глядзеў на мяне.

– Што збіраешся рабіць у жыцці, якое табе засталося? Пад “засталося” я маю на ўвазе вельмі доўгія твае гады. Самае галоўнае, трэба быць тым, кім ты ёсць на самой справе. Ідзі сваім шляхам – знойдзеш сваіх. І жонка да цябе прыліпне добрая. Трэба сувымяраць свае жаданні і магчымасці. Нішто так не кароціць жыццё, як неабходнасць рабіць тое, чаго не хочаш рабіць. Усё, больш ніякіх парад. Ты і так разумны хлопчык.

– Ужо “прыліпла”, Сеня.

– Я рады, мой хлопчык. Прабач, што так звяртаюся, але ж ты мой хроснік. Жыццё – гэта сцэнар, але ў яго ёсць варыянты, і адзін з іх ты выбіраеш. Можа, я паўтараюся, але гэта важна: нягледзячы на непрыдатны варыянт, не адважваемся абраць іншы і працягваем не вырывацца з раней абранага, пакутуючы і сумуючы далей. Вырвіся! Будзь вольным! Свабода – гэта сакрэт шчасця, а адвага – сакрэт свабоды! Вядома, з сённяшняй вышыні гадоў змагацца тады супраць сістэмы было глупствам. Але ж усярэдзіне ўсё кіпела... Чалавеку патрэбна, як мінімум, яшчэ адно жыццё. Каб пажыць. Я ведаю, што па пашпарце ўжо стары. Але я пакуль яшчэ ў выйгрышы – я выйграў памяць аб сваім жыцці. І калі цела старэе, душа мая застаецца маладой. Ёй няма справы да старэючай абалонкі і начыння – сэрца, пячонкі ды ўсяго астатняга. У душы заўсёды, да скону, жыве твая маладосць. У кожным з нас жывуць дзіця, юнак, дарослы. І змяшчаюцца. Цела старэе, але розум можа заставацца маладым. У мяне галава, дзякуй Богу, яшчэ ведае, куды ідуць ногі. Не прывядзі Гасподзь да таго, каб не ведаць. Здаровыя ногі – гэта шчаслівыя ногі. Пра гэта разумееш, калі становішся, як кажуць у Амерыцы, “старэйшым грамадзянінам”: пераходзіш у катэгорыю пенсіянераў. Бог надзяліў мяне і гадамі жыцця, і ўсімі яго радасцямі, аддзякаваўшы за тры гады, выкінутыя са “спісу”. І ўсё ж... Найгоршае ўражанне ад меркаванага выгляду тваёй

старасці, калі даўно не ўглядаўся ўважліва ў люстэрка, складаецца, калі ты глядзіш на жанчын, тваіх аднагодак. Яны такія старэнькія...

– Сеня, я запрашаю вас у госці. Мае сямейнікі будуць вельмі рады.

– Дзякуй за запрашэнне, але я не пайду да вас. Не хачу, каб мяне сёння бачылі старым ламаччам. Яны, твая бабуля і бацькі, памятаюць мяне іншым, маладым і сімпатычным, пругкім. Зараз я – не той я. Не вельмі люблю сябе сённяшняга, але трываю. А куды падзецца, жыць усё роўна хочацца. Чалавека запамінаюць апошнім кадрам, кажучы мовай кіно. Адсоўваючы здзіўлена прэч яго даўнія выгляды. “Што зрабілася з ім...”, хаця зрабілася з усімі. Але сябе, калі не глядзець у люстэрка, заўсёды бачыш прыгажунчыкам. У мяне дома толькі адно невялікае люстэрка, у лазенцы: цяжка галіцца небяспечнай брытвай наўздагад.

– Вы голіцеся небяспечнай?

– Так, я старамадэн. Шмат што раблю не па-сучаснаму, а так, як мне падабаецца. Для мяне і піццё гарэлкі ў свой час не было сродкам самазадавальнення. Гэта сродак зносінаў з сябрамі. Калі хтосьці падаў пад стол, я адразу сыходзіў, таму што больш не было сэнсу працягваць. Захочаш расказаць сваім пра мяне, раскажы, але не кажы, што я ўжо выглядаю старэчай. Абыдзі мой знешні выгляд. У асноўным, ролі сыграны, заслона апускаецца, дэкарацыі падаюць...

Сеня сёрбнуў віна. У твар гэтага чалавека было ўдрукавана ўсё яго жыццё і выраз добразычлівасці цяперашняга моманту.

– Ты павінен завезці мяне дадому. Сам я не дабяруся. Калі п’еш напарсткамі або праз клізму, хутка п’янееш. Вось і сёрбаючы віно, атрымліваеш той жа вынік. Паехалі да мяне, я пачастую цябе гарбатай.

***2***

У трохпакаёвай кватэры адзін пакой быў аддадзены “музею”. Узнагароды – кубкі, медалі, граматы. Фотаздымкі на сценах, баксёрская груша падвешаная ў куце.

– Гэта мае і сына. Я ж скончыў інстытут фізкультуры і працаваў трэнерам.

– Такім чынам працягвалі займацца боксам?

– Так. І сына добра падрыхтаваў. У сапраўднага баксёра галоўнае – у галаве. Таму што бокс – гэта псіхалагічны спорт. На семдзесят адсоткаў – здольнасці галавы, а на астатнія – здольнасці цела. Вось так уладкаваны добры баксёр. У майго хлопчыка было выдатнае мысленне. Ён стаў чэмпіёнам. Ён літаральна руйнаваў суперніка хвацкімі бакавымі ўдарамі злева і няспынннымі нападамі, націскам, які маглі вытрымаць толькі нямногія. Бокс – адзін з самых жорсткіх відаў спорту, але гэты від спорту больш за ўсё падобны на жыццё. Сын быў вядомым пад іншым прозвішчам, не маім. Тое лепей успрымалася вухам савецкага заўзятара. Маё гэты слых больш асці рэзала. Але трэнера ўспамінаюць не так часта, як спартоўца. А ў пашпарце сынок быў запісаны нашым сямейным прозвішчам. Ведаеш, што я рабіў на рынгу падчас перапынкаў паміж раўндамі, калі належыць раіць? Так, раіў, але перад самым гонгам я папраўляў прычоску свайму вучню, дастаўшы з кішэні расчоску. Спытаеш, навошта? Таму што калі супернік бачыць цябе акуратнага, а не патрапанага, як ён сам, гэта пачынае на яго дзейнічаць. Адмоўна. “Значыць, супернік яшчэ свежы, моцны”, – думае ён. Бокс – гэта псіхалогія.

– Дзе ён цяпер?

– Там жа, дзе мая жонка. *Ін кейвер*, на могілках, у адной агароджы з жонкай. Аднойчы не разлічыў сілы. Як і ў мяне, у Віталіка быў бунтарскі дух. Адзін супраць чатырох бандытаў. Ён бы заваліў іх, але ў тых быў пісталет...

– Пэўна, справу замялі?

– Так, дзевяностыя гады, ліхія грошы, жыццё без правілаў. Праз два гады я і мая маленькая ўнучка прыехалі ў нашу цяжкую нармалёвую краіну. Нявестка была маладой, ёй з часам трэба было б зноў пабрацца шлюбам. Ды і бацькі ейныя там. Паплакала, але дачку са мной адпусціла. Я вельмі хваляваўся за лёс унучкі ў той краіне. Апярэджваю тваё пытанне: яна таксама займалася боксам, былі медалі. Яны таксама ў гэтым пакоі. Не, не я трэніраваў яе. А зараз галоўнае – яна маці двух хлопчыкаў. Мае праўнукі.

– Хацелі б, каб яны былі баксёрамі?

– Толькі калі б добрымі, як іх дзядуля, мой сын. Толькі так! Пайшлі на традыцыйнае, утульнае месца былых савецкіх – на кухню. У гэты хвосцік дня – пасля дзесяці вечара – я буду частаваць цябе гарбатай.

– Мужчынам трэба быць у любым узросце і любым становішчы. У сваіх жаданнях, настроі жыць я адчуваю сябе значна маладзейшым за свой ўзрост. А мне ўжо, дзякуй Богу, восемдзесят з дробяззю, – сказаў Сеня, адкрываючы кран і набіраючы ваду ў чайнік. – Зараз кожны дзень жыцця – падарунак! Жыццё цудоўнае! Проста камусьці не пашанцавала. З маёй характэрнай іўдэйскай знешнасцю лёс змясціў мяне ў такі адрэзак часу, калі я быў вымушаны... Карацей, ты ўжо ведаеш. Мудрасць жыцця ў тым, каб пабыць на свеце не спяшаючыся. Вось я жыццё і не прыспешваю. Прачынаешся раніцай, бачыш, што жывы, і рады!

Чайнік закіпеў. Сеня спаласнуў кіпенем вялікі заварнік, насыпаў у яго з бляшанага слоіка чатыры вялікія лыжкі гарбаты і заліў вадою з чайніка.

– Мы пачакаем. Гарбата любіць настойвацца. А пакуль... У часе нашае жыццё – вузкі масток, і самае галоўнае ў жыцці – не баяцца. Я вось харахорупся, але начынне майго цела ўжо не лепшай якасці, і дах едзе няспешна – дер дах форт руік. Дзякуй Богу, што “руік”. Таму да маразму яшчэ не даехаў. Ты не пакрыўдзішся, калі я налью гарбату ў шклянку з падшкляннікам? Яны ў мяне сярэбраныя. Так піў мой бацька – блаславенна яго памяць! – і я так п’ю ўсё жыццё. Успамінаючы бацьку, я ўспамінаю Час. Размовы былі простыя, і людзі нескладаныя... Ты, пэўна, ніколі не піў гарбату з падшкляннікам?

– Ніколі.

– Ну вось, будзеш ведаць і гэты смак. Раскажу анекдоцік. Сусед падымаецца да тых, хто жыве над ім. “Вы ўчора так святкавалі, так весяліліся! Што ў вас такі было?” – “Грошы!” А ў мяне, спадзяюся, яшчэ ёсць Час! Калі пажывеш, хочацца пажыць яшчэ. Як гарбатка? Я вось п’ю яе голай, без цукру і розных абаранкаў. Звычка. Але табе я падам кіхелах, пячэнькі, сам іх выпякаў, па старым сямейным рэцэпце. Трымаю звычайна для праўнукаў, як і кампот з сухафруктаў, які вару. Хочаш мой кампот?

– Не, дзякуй.

– Унукі са сваёй мамай наведваюць дзядулю. Я ж у іх з нашага боку самы блізкі сваяк. Усё, што маю, адпісаў ім. Яшчэ запісаў, каб бераглі гэты “музей”, не выкінулі.

У вазачцы ляжалі круглыя пячэнькі. Іх, пэўна, выціскалі з раскочанага

цеста верхам шклянкі. Так звычайна робіць бабуля. Пячэнькі былі смачныя, з цертымі арэхамі ў сярэдзіне. Я па-дзедаўску абмакваў іх у шклянцы, адкусваў, у роце яны раставалі. Запіваў чорнай гарбатай. Сеня, не выпускаючы падшклянніка з рук, сёрбаў з такой жа, як у мяне, шклянкі, тонкай, з залатымі абадкамі зверху, гарбату, якая была яшчэ гусцей за маю. Напэўна, заваркі там было больш, чым вару.

– Ты, Шыман, чалавек з добрым тварам, з шырокай усмешкай, але чамусьці яшчэ з сумнымі вачыма.

– У мяне традыцыйныя габрэйскія вочы, Сеня.

– Але чаму? Ты жывеш у вольнай краіне, можаш шмат чаго дабіцца. Ты што, па савецкай традыцыі чакаеш лепшых часоў? Не трэба чакаць – лепшы час можа быць толькі адзін. Ён называецца “Цяпер!” Разумны спосаб жыць – думаць толькі аб сучасным... Я не спытаў цябе пра бацькоў. Як яны?

– Прыгожыя людзі, прыгожа апранаюцца, займаюцца любімай справай. Багацеямі мы не лічымся. Але мы забяспечаныя людзі.

– Ты нагадаў пра адзенне. Жыву ў нашай краіне, у самым цёплым горадзе, але часам выплывае ў памяці даўно забыты вобраз мужчыны ў палітоне. У розныя гады ў мяне былі модныя палітоны і капелюшы. Але зараз, калі бывае халаднавата, апранаю куртку. Яны таксама бываюць прыгожымі і зручнымі.

– У таты, у кладоўцы, захоўваецца дэмісезоннае з прашытай падшыўкай чорнае фінскае паліто.

– Ха-ха, і я захоўваю такое ж. А як ты пазнаёміўся са сваёй дзяўчынай?

– З-пад міні тырчэлі аголеныя ногі, доўгія, як працоўны дзень. Яна з Бердычава, дакладней, бацькі адтуль. Сама нарадзілася ўжо тут.

– Табе, вядома, з ёй не сумна?

– Не.

– Жанчына, якая не дае табе засумаваць, не дасць табе састарэць доўгія гады.

– Сеня, у нас праз месяц вяселле. Я вас запрашаю. Тыдні праз два мы прыйдзем вас запрашаць афіцыйна.

– *Мазальтов*! Віншую!

– І вы нам не адмаўляйце. Абавязкова прыйдзіце.

– Добра.

І ён прыйшоў. З ім была ўнучка.

Удава ягонага сябра, Шмуэля Карагодскага – бабуля маладога, сядзела, падпёршы галаву рукой, і слёзы выкочваліся з яе выгарэлых вачэй. А Сеня “зараджаў” жывот ежай і пітвом, потым танчыў з унучкай, памахваючы рукой маладым. І жартам казаў унучцы: “Вось як ні круціся, а попа заўсёды застаецца ззаду”.

## Толькі для цябе

**Вадзім**

Заўсёды, калі вяду экскурсію, выбіраю ў групе самую сімпатычную жанчыну і спрабую ёй спадабацца. Навошта я гэта раблю? У мяне з’яўляецца натхненне, як у кожнага мужчыны, перад якім стаіць аналагічная задача.

І экскурсія атрымліваецца цікавай. Вось ужо колькі гадоў займаюся сваёй справай, здаецца, дайшоў да аўтаматызму, ведаю, як успрымуць тую ці іншую фразу, а вось наладжваюся на працу такім спосабам. І экскурсія падабаецца мне самому. А я – чалавек самакрытычны.

Я кідаю на гэтую жанчыну як бы выпадковы погляд, потым не звяртаю некаторы час ніякай увагі, раптам гляджу ва ўпор і зноў міма... Ідзе гульня. Пра яе ведаю толькі я.

Калі праз некалькі гадзінаў мы выходзім з аўтобуса, а часам яшчэ ў працягу экскурсіі, для чарговага перапынку на “экскурсійны аб’ект”, які завецца “Дамок невядомага архітэктара”, а калі прасцей – прыбіральня, гэтая жанчына часцей за ўсё аказваецца побач. І тады выпадковы мой дотык або працягнутая для дапамогі рука пры выхадзе з аўтобуса таксама “працуюць” на мяне.

Я не прыгажун, рост метр і дзве сямёркі, не вельмі атлетычны, але ніадкуль з бакоў і вышэй пояса мякаць не звісае. Апранаюся з густам. Так кажуць пра мяне нашы экскурсаводкі. А можа, ліслівяць? Жыву без асаблівых перамогаў і вялікіх бедаў. Што яшчэ пра сябе? Не жанаты, хоць узрост ужо прыстойны. Мне трыццаць з плюсам, але гэта не адзіны мой плюс.

Часам мне падаецца, што гэта з-за нашай працы. Чаму нашай? Таму што ў бюро працуюць ці падпрацоўваюць шмат нежанатых мужчынаў і незамужніх жанчын. Ці гэта выпадковае супадзенне, ці то нейкая заканамернасць. Хто ведае. Ва ўсялякім выпадку, збіраючыся раз на два месяцы на пасяджэнне мастацтвазнаўчай або гістарычнай секцыі, у якіх і працуе большасць экскурсаводаў, мы часам жартуем на гэтую тэму.

Калі, праседзеўшы гадзіны дзве, пачынаем адчуваць стомленасць і дрымотнасць, хтосьці нечакана, вымаўляючы павольна кожнае слова, нібы гэта надзвычай важнае рашэнне, нечакана гаворыць: “А што, калі нам паражаніцца?” Пасля гэтых словаў спачатку цішыня, а потым узрыў сумнага, але з надзеяй, смеху. І пасяджэнне хутка згортваецца.

Але хопіць пра асабістае. Лепей вернемся да экскурсіі, да той жанчыны, якой я спрабую спадабацца. І якая пра гэта ўжо ведае. Заканчваецца мая экскурсія, я задаволены сваёй працай, міла развітваюся са сваёй групай, жадаю ёй “заўсёды прыемнага баўлення часу”. Выходжу з аўтобуса, адчуваючы спінай здзіўлены погляд той жанчыны. Каб пераканацца ў гэтым, рэзка азіраюся: усё так, як заўсёды. Чарговае пацвярджэнне адной з асаблівасцей жаночага характару: многія жанчыны ўпэўненыя, што адусюль ім пагражае любоўны напад. У іх нават з’яўляюцца галюцынацыі і пачуцці дотыку. І гэтыя пачуцці ўяўляюць нешта настолькі рэальнае, што мы, мужчыны, не можам зразумець гэтых галюцынацыяў. Гэта чыста жаночае.

Вось так часцей за ўсё заканчваюцца мае экскурсіі. Не лагічна з пункту гледжання нават тых жанчын, якіх я “абыграў”.

Але часам развітанне не такое абыякавае і ўсё адбываецца інакш. Я паспяваю ціхенька ўзяць нумар тэлефона, і завязваюцца сяброўскія адносіны. Часам даволі блізкія...

Так два тыдні таму я пазнаёміўся з Людмілай Васільеўнай. Сёння ўжо проста Людай. Экскурсія была доўгай, цэлы дзень. Мае турысты “рваліся” ў Вільню. Гэтае падарожжа распланаванае на тры пяцёркі: пяць гадзін туды, пяць адтуль і пяць там. Вось дзеля “пяці там”, нягледзячы на абяцаны спякотны дзень, турысты, на дзевяноста адсоткаў жанчыны, пакінулі свае дамы. Дарэчы, усе экскурсаводы, ды, пэўна, не толькі яны, здзіўляюцца: большасць

падарожнікаў заўсёды жанчыны. Парадокс? Бо вечна скардзяцца, што іх задзяўблі: праца і дом, муж і дзеці, што ўвесь час такія стомленыя і ім бы толькі дабрацца да ложка. Але як з'яўляецца аб'ява пра будучае падарожжа, адразу адкладаюцца ўбок сямейныя клопаты, забываюцца праца і болькі, цягне ў дарогу, да ўражанняў, сустрэчаў, да крамаў. І калі гэта падарожжа на некалькі дзён, вельмі дарэчы аказваюцца прыхопленыя з дому, можа нават употай, уборы і ўпрыгожванні.

Люду я выбраў адразу. Яна, дарэчы, і села на першае сядзенне. Так што ўсю дарогу была побач.

Ад экскурсіі мае турысты, дакладней, турысткі, адмовіліся і разбегліся па сваіх справах. "Свае справы" ў перакладзе на звычайную мову – крамы. І паколькі ўсю дарогу я "ахмураў" Людмілу Васільеўну, і паколькі ў Вільні яна ўпершыню, я натуральна ўзяў над ёй шэфства. Між іншым, яна і сама мяне папрасіла пра гэта.

– Вы ўсё тут ведаеце. Пакажыце мне, калі ласка, хоць што-небудзь, калі ў вас, вядома, няма іншых планаў.

У "што-небудзь" увайшлі: стары горад, універсітэт, музей, рэстаран, некалькі крамаў – куды ж без іх: сувеніраў, абутку, і хвілінаў сорак у скверыку. Даволі насычана.

– Вельмі ногі стаміліся на абцасах. Трэба было браць красоўкі, – сказала яна ў скверыку, зняўшы туфлікі.

Карацей кажучы, пяць гадзінаў разам. У мяне ейны нумар тэлефона, у яе – мой нумар. Звярнуў увагу на тое, што ў нашых нумарах было шмат сямёрак. У яе – 950-377-87, у мяне – 950-279-77. Кажуць, сем – шчаслівая лічба. Праверым.

**Л ю д а**

Чорт бы ўзяў наш бабскі калектыў. Гэта ж трэба, два тыдні размоваў пра тое падарожжа ў Вільню і маю "сувязь" там з экскурсаводам. І ўсё намёкі: "Ён, пэўна, жанаты, бо мужык што трэба. Так што, Людка, не на той кручок клюнула". Зайздросна ім. Зайздросна, што я свабодная, вось і з экскурсаводам папросту шпацыравала па горадзе, не баялася, што мужу дакладуць. А яны, бедненькія клушы, нагрузіліся, што тыя каровы на лузе малаком, упаўзлі ў аўтобус усе ў мыле, і потым гадзіну адсапціся не маглі.

А я, як белы чалавек: павольна прагулялася, гадзіны паўтары ў рэстаране з цудоўнай, спакойнай музыкай і выдатным смачным абедам з віном "за прыемнае знаёмства!"

Знаёмства аказалася на самой справе прыемным. Яшчэ калі ехалі туды, ён амаль увесь час глядзеў на мяне. Нават здалося, што вёў рэй ён толькі для мяне. Хлопец сімпатычны, добра выглядае, справу сваю ведае. Ува мне некалькі разоў нават нешта здрыганулася, калі ён літаральна "еў" мяне сваімі глыбокімі карымі вачыма. З'явіліся блудлівыя думкі... І здалося, што ў гэты момант ён мне падміргнуў. Чорт ведае што...

Нашы бабы ад экскурсіі адмовіліся. Крамы ім падавай. Спрачацца не хацелася. І так штосьці ўва мне было не на месцы. Але не губляць жа часу задарма. Таму і запытала: "Калі ў яго, Вадзіма Яўгенавіча, ёсць вольны час, дык можа ён пазнаёміць мяне з Вільняй, хоць трошкі?" Ён паглядзеў на мяне ўважлівым позіркам, хоць, напэўна, разгледзеў яшчэ ў аўтобусе. Але тут я на ўсе сто. Калі мы ў саўне распранаемся, і Маша, і Ала, і нават Галка, па

якой усе мужыкі губляюць розум, – балдзеюць ад майго цела, маёй фігуры. А я яшчэ развярнуся як-небудзь цікавей...

Ён мне кажа: “Спачатку нам трэба пазнаёміцца”.

Ну вядома ж, і яму, і мне, “вельмі прыемна!”

Пайшлі мы па вузкіх вулачках. Ён цікава расказваў. Я думала, будзе проста казаць: направа – гэта, налева – тое. А ён усё падрабязна, усю гісторыю, тлумачыў, забаўляў. Было цікава і прыемна, што ўсё гэта ён толькі мне расказвае. І я ацаніла яго тонкі розум і пачуццё гумару. Шчыра кажучы, здавалася, што мы даўно знаёмыя, старыя сябры. Захацелася ўзяць яго пад руку.

– Вы не супраць, калі я прычаплюся да вас, вазьму пад руку?

– Калі ласка. Мне будзе вельмі прыемна побач з такой цудоўнай жанчынай.

– Дзякую за камплімент, але я таму, што крышачку стамілася, мы ж усё пешшу.

– Рабіце так, каб вам было зручна.

Вось мяне запрашаюць у рэстаран. Вядома ж, згодная.

Як тут хораша! Шыкоўна! Людзей няшмат. Спакойная музыка, піяніст не падлашчваецца да слухачоў, не спрабуе ім дагадзіць. Пэўна, гэта будзе ўвечары. А пакуль ён грае тое, што яму падабаецца. Піяністу гадоў шэсцьдзясят, ён стаміўся ад мітусні, але не ад музыкі.

Так хораша, што забываю пра ўсё: і пра нашых жанчын, і пра ўчарашнюю сутычку з Галкай, пасля якой прыйшлося выпіць таблетку нанач. Не хочацца думаць ні аб працы, ні пра ўборку ў кватэры – ні аб чым! Расслабляюся і чмурэю. Столік, вядома ж, на дваіх. Афіцыянт мужчына. Амаль не чую, пра што кажа Вадзім.

Па-сапраўднаму прыйшла ў сябе толькі ў скверы. Сядзелі на лаўцы і размаўлялі. Было прыемна побач з ім. На просьбу адразу ж называю нумар свайго тэлефона. Кажу, калі лепей тэлефанаваць. Толькі не падчас працы, шмат вушэй у пакоі, і ўсім цікава ўсё ведаць.

Зваротнай дарогай думала аб сваім адзіноцтве, пра гэты сурагат свабоды, якой зайздросцяць многія замужнія жанчыны.

Потым ён спяваў у мікрафон. У яго цудоўны голас прыемнага тэмбру. Усе апладзіравалі і прасілі яшчэ песень. Яны былі ў асноўным вячэрнія: сумныя і спакойныя. Ды і за вокнамі быў ужо позні вечар. Наш аўтобус спяшаўся дахаты, у маю аднапакаёўку, дзе мяне чакалі тэлевізар, тэлефон, разасланая на маёй шырокай канапе бялізна. Баялася раніцой спазніцца, ледзь не праспала з гэтай пігулкай нанач.

Дапамог выйсці з аўтобуса. Казаў, што патэлефануе.

**Вадзім**

З гэтай працай зусім закруціўся. Нічога не зробіш, сезон, турысты валяць. Пазаўчора ў Юрмале ўспомніў, што трэба патэлефанаваць той віленскай даме. Здаецца, была здзіўленая. Сказала, што зайздросціць мне і што ёй таксама хацелася б зараз быць у Юрмале. “Там, пэўна, зараз казка? Сонца, пляж, публіка ў прыгожых строях. І вы, напэўна не адзін?”

– Адзін і ўвесь у справах. Як вы жылі гэтыя два тыдні? Што кажуць на працы пра падарожжа ў Вільню?

– Звычайныя гісторыі, старыя размовы, якія існавалі заўсёды. Яшчэ мне перамываюць костачкі з-за вас. У нас так заўсёды, і гэта зусім нецікава.

– А што цікава?

– Ды шмат што. Але пра гэта лепш іншым разам. Вы калі вяртаецеся? Заўтра ўвечары? Патэлефануйце.

– Абавязкова.

Я ішоў да мора. Дзве сустрэчныя плыні шпацыруючых людзей ціснулі на бераг, які астываў ад дзённага сонца. То тут, то там ляжала вопратка. Людзі купаліся. Хвалі, ледзь чутна навальваючыся адна на другую, накочваліся на бераг. Удалечыні быў бачны карабель, за яго садзілася сонца.

Пешшу па пляжы дайшоў да свайго кемпінгу. Там на ўсю моц кіпела вясёлае жыццё. Мужчыны і жанчыны пераносілі з адных дамкоў у другія брынклівыя шклом сумкі, з рукамыйнікаў неслі памытую і накладзеную на талеркі садавіну, у мокрых сетках кавуны і дыні.

Нарваўся на сваю групу. Зацягнулі ў наш самы вялікі, чатырохмесны дамок на развітальную вячэру. Мае турысты, шумныя, расчырванелыя, са словамі "нарэшце адшукаліся, дзе ж вы хаваліся?", вызвалілі месца ў цэнтры кампаніі. Ледзь уціснуўся. З абодвух бакоў адчуў жар і пах двух жаночых целаў. Гулялі амаль да раніцы. Адна з дам, тая, што грэла мяне злева, сказала, што ў нас з ёй "будзе мімалётнае каханне, а мараль яна закіне пад ложак". Жанчына была прыгожая і п'яная. Я збег да мора.

Ужо было позна, дакладней, рана. Уборачная машына паўзла па пляжы. Хлопец з дзяўчынай, у шортах і майках, збіралі выкінутыя морам багавінне і смецце, закідвалі ў адкрыты зад машыны, якая сваімі шыпамі-слядамі псавала пляж, як некаторыя жанчыны душу.

Палову дарогі ў салоне аўтобуса было ціха. Усе адпачывалі пасля развітання з Юрмалай.

Прачнуўся ў Вільні, Яна мне прыснілася.

Дома заваліўся спаць і праадпачываў гадзін пятнаццаць, якраз да абеду новага дня.

**Люда**

Учора памірылася з Галкай. Прыйшла і праседзела ў мяне ўвесь вечар. Дзіўна, на яе гэта не падобна: свой цэлы вечар у мяне. І тут якраз ён патэлефанаваў. Упершыню і з Юрмалы. Доўга размаўляць не хацелася – сяброўка была побач.

Галка здзіўлена глядзела на мяне. Потым пачаліся пытанні. Не, Галюня, гэтым разам нічога канкрэтнага табе. Абыдзешся. У цябе свае справы, у мяне – мае. Ночыць у сябе яе не пакінула. Хацелася пабыць адной і падумаць.

Усё жыццё чалавек чакае толькі аднаго – сустрэчы, шчаслівай сустрэчы з іншым, каханым чалавекам. Пра гэта ўслых не кажуць, але заўсёды спадзяюцца і таемна вераць. Камусьці ў гэтым шанцуе адразу, камусьці не вельмі хутка. Я з апошніх. Мне ўжо, – ужо! – дваццаць восем. Я перайшла той крытычны для жанчыны ўзрост, калі ты ўпэўненая, што цябе абавязкова заўважаць, не звернуць увагі на недахопы, а ўбачаць усю адразу. Такое бывае на самым пачатку. Мой апошні "пачатак" быў гадоў пяць таму. Я падабалася, а мне...

Перабралася ў іншую ўзроставую катэгорыю: з дзяўчат у маладыя жанчыны. І, вядома ж, іншыя кампанія, іншыя сустрэчы. З сяброўак дзве

замужам, Маша і Ала. Галка як і я. Мы амаль аднагодкі. Часам Маша і Ала бяруць у мяне ключ. У кожнай з іх ёсць сябар, з якім яны сустракаюцца ў мяне. Чэрці, у Галкі таксама кватэра, але да яе не хочуць. Вядома ж, у мяне і мэбля што трэба, і вялікі тэлевізар на сцяне, і музыка. Усё набыта з дапамогай брацiка. Ён вельмі любіць мяне, і два месяцы адпачынку ён – настаўнік-фізік, дзесьці працаваў-укалваў, каб абставіць маю кватэру. “На гатовае лягчэй мужа знайсці”. Яго словы, калі ўсё ў кватэры заняло сваё месца. Добры мой брацік! Зараз твая сястрыца альбо патрапіла на вуду да лавеласа, альбо гэта яе шанц, можа нават апошні. Варыянт самы лепшы: халасты, таксама не быў жанаты. Праца, праўда, слізкая для сямейнага чалавека. Але ж яе можна і памяняць. Я так разважаю, быццам маю права і мы ўжо на днях ідзем у ЗАГС, таму што ўжо вырашана быць разам. Правяла з чалавекам палову дня, адзіны раз слухала яго некалькі хвілінаў па тэлефоне, а намарыла... А што яшчэ мне рабіць? Трэба ж прагнаць з душы нудоту. Засынаю не хутка. Чуваць, як капае вада ў ваннай. Раздражняе. Паправіць кран трэба. Брацік цяпер далёка, а сябрам маіх сяброўак, вядома ж, няма калі.

**Вадзім**

Падзеі разгортваюцца імкліва. У Люды рэдкае спалучэнне: прыгажосць і розум. Часцей за ўсё ў жанчыны ці адно, ці другое.

Гэтыя два тыдні сустрэчаў, вядома ж, не палова дня ў Вільні. Калі раней была мэта толькі спадабацца і добрыя былі мае звычайныя сродкі, то цяпер я спазнаю яе. Ужо некалькі разоў быў у яе дома. Кватэра ўтульная, адзін пакой, але вялікі. Нібыта ўсё на месцы, але адчуваецца, што патрэбная мужчынская рука. Намякнуў на гэта.

– Дык пакажы ў справе свае ўмелыя ручкі. А я ўжо ацаню.

Паводле ўсёй логікі ўзаемаадносінаў яна магла “забіць” двух зайцоў: выправіць няспраўнасці, што меліся ў хаце, праверыўшы заадно мой спрыт, і неяк потым аддзячыць мне, паказаўшы ўжо свае здольнасці.

Добра, што не было далёкіх паездак. Некалькі вечароў выпраўляў непаладкі. Потым была шыкоўная вячэра. Люда выглядала цудоўна. Умее сябе паказаць, і адчуваецца, што ведае, як кажуць, сабе цану.

Вось ужо некалькі тыдняў я выйшаў з той ролі, якую азначыў сабе ў пачатку нашага знаёмства. Я пачаў казаць сённяшнія думкі.

– Мне здаецца, што гэтая вячэра пачатак нечага новага ў маім жыцці. Ты, магчыма, хочаш таго ж. Я ўпэўнены ў гэтым. Я – чалавек вялікай інтуіцыі, ды і праца мая, як ты, пэўна, заўважыла, абавязвае разбірацца ў людзях. Два месяцы мы знаёмы, і я сёе-тое ў табе разгледзеў.

– Цікава, што ж такога ты разгледзеў?

– Ну, па-першае, ты звычайная жанчына. І хопіць думаць, што ты лепей за іншых. Так, трошкі сімпатычней. Але ў жыцці не гэта галоўнае. Ты пастарэеш, зморшчышся, і будзе ўжо не спадніца ў складку, а твар гладкі, а наадварот. Цяпер ты глядзішся нядрэнна, але хутка...

Я “забіваў” яе, імкнучыся даць зразумець, што, хоча яна таго ці не, павінна будзе забыць свае козыры і ісці па той дарозе, якую буду масціць я. Здаецца, яна разнервавалася. Рэзка ўстала, падышла да акна. Аб нечым думала, нечаму супраціўлялася. Але не сказала ні слова. Глядзела ў акно на струменьчыкі дажджу, якія сцякалі па шкле, на бурбалкі, што лопаліся на

асфальце. Я не хацеў лезці ў яе думкі. Маўчанне наша было натуральным. Як перад прыняццем нейкага важнага рашэння.

Я любаваўся ёю: тонкая талія, ліра заду, доўгія прыгожыя ногі. Нараджаліся ўва мне таемныя думкі і пачуцці.

Не ведаю, як пацёк бы далей наш вечар, але нечакана ўварвалася яе сяброўка. Званок у дзверы быў такім патрабавальным, што Люда ўсё ж адчыніла. Да таго часу на століку стаялі толькі кубкі з кавай.

Я пазнаёміўся з Галкай, не з Галяй, ці Галінай, а менавіта з Галкай. Так яна сябе назвала. Галка была непрыстойна прыгожая. Што маю на ўвазе? Вонкава – вакол ідэальная. Да такіх жанчын мужчыны ліпнуць адразу, асабліва вайскоўцы ад капітана і вышэй, а яшчэ бізнесмены сярэдніх гадоў.

Яна разглядала мяне. Прычым не хавала гэтага. Ацэньвала. У Люды ў вачах кідаліся злыя агеньчыкі, ад якіх вось-вось мог разгарэцца пажар.

– Ну што ж, час і гонар ведаць. Дзякуй, Людміла Васільеўна, за каву. Вельмі добрая. Як-небудзь падзяліцеся сакрэтам. Прыемна, – а ў душы падумаў: зусім наадварот, – з вамі пазнаёміцца, – я цырымонна пакланіўся Галцы. – Усяго найлепшага.

Ужо каля дзвярэй Люда прыціснулася тварам да майго пляча. Гэта сказала мне пра ўсё.

**Л ю д а**

А чаму, уласна, я павінна хаваць тое, што ён мне падабаецца? Чаму я павінна весці традыцыйную жаночую гульню і чакаць? Гуляю ва-банк! Ці я лягу пад яго, ці пад трамвай!

Ён, аказваецца, умее працаваць рукамі. За некалькі дзён перабраў усю сантэхніку. І зараз ніадкуль не капае, і пліткі на падлозе ў кухні не тапырацца. Здзівілася, шчыра кажучы, яго ўменню. Рукі на месцы. Услых аб гэтым не казала, але падумала, што і з гэтага боку ён мужчына, што трэба!

Ох, ён занадта добры, каб быць сапраўдным...

Успомнілася маміна сяброўка і яе муж. Маці кажа, што жывуць яны вельмі шчасліва, пабраліся даволі позна, але ўсё паспелі, і дзеткі ў іх добрыя. Вадзім нечым нагадвае Ігара Сямёнавіча.

Мне здаецца, што іронія ў яго, у Вадзіма, – маска, за якой, баючыся раскрыць ранімую душу, ён хавае ўсё сваё самае лепшае. А што хаваць мне? Ён першы, хто падабаецца! Не бачу ў ім нічога такога, каб казаць у чарговы раз “не, не тое!” Тое, тое, тое! Я закохваюся з кожным днём усё больш. Ён б’е мяне словамі, кажа, што няма ўва мне нічога такога незвычайнага. Я гатова кінуцца на яго з кулакамі. Як няма? Калі на мяне так глядзяць, любуюцца. Ды, акрамя знешнасці, гаспадыня я не так сабе, у чым ён выдатна пераканаўся. Ды і не дурная розумам я. А ён усё балючай... Гляджу ў акно, амаль не плачу, губу закусіла, але хочацца ўсё ж не з кулакамі кінуцца, а прыціснуцца да яго і крычаць, крычаць: “Я цябе кахаю! У маім жыцці гэта, магчыма, апошні выбух пачуццяў”.

Чумная Галка ўварвалася да мяне, калі ён павінен быў сказаць нешта важнае. Я гэта адчувала і па ледзь прыкметным руху рукі над сталом, і па тым, як ён прыкусіў губу. Але Галка... Яна літаральна ела яго вачыма, прычым так нахабна, што я ледзь не ўзарвалася. Вадзім гэта адчуў. Малайчына! Развітаўшыся тактоўна з ёй і са мной, сышоў. Толькі на імгненне прыціснулася да яго і ўся задрыжала...

І тут выплюхнулася Галка.

– Мужык што трэба! Хто такі? Як ты з ім? Мне ён таксама падабаецца.

“Яшчэ б”, – амаль не сказала я. Калі б ты ведала пра яго хаця б столькі, колькі ведаю я, прыйшлося б мне не лёгка. Але я табе нічога не скажу.

– Гэта ён тады тэлефанаваў з Прыбалтыкі?

– Так, з Юрмалы.

– У цябе добры густ, дзетка.

Галка маладзейшая за мяне на год, а “дзетка” – гэта яе паблажлівы зварот, часам нават да тых, хто значна старэйшы.

Аднойчы мы ўтрох, Маша, Ала і я, пачалі лічыць недахопы адна ў адной. Болей за ўсіх аказалася ў Галкі. Яе недахопаў хапіла б на пяць жанчын. Толькі вялікіх было шэсць. Але мужчыны, пэўна, часам дурнеюць. Тады ў жанчынах іх прываблівающь не добрыя якасці, а менавіта недахопы. Галку мужыкі любяць.

– Хто ён? Раскажы. Такі цуд хаваеш.

– Я нікога не хаваю. Магла б цябе і не ўпусціць. Ён – чалавек, што мне падабаецца. І больш нічога табе ведаць не трэба.

– Ці не думаеш ты, дзетка, што буду адбіваць яго ў цябе? Мы ж сяброўкі.

– Я нічога не думаю. Толькі ў наступны раз не еш яго сваімі вачамі. Гэта непрыстойна і непрыемна мне.

– Ну вось, мы ўжо, здаецца, і пакрыўдзіліся. Якія мы, бабы, дурныя. Ды ў мяне ты ж ведаеш, колькі іх.

Ледзь не сказала ёй: “а такога няма і ніколі не будзе”. Змаўчала. Можна зусім пасварыцца.

**Вадзім**

Здаецца, нашыя ўзаемаадносіны высветліліся: два дарослыя чалавекі неабыякавыя адно да другога і гатовыя ўзяць шлюб. Уголас пра гэта яшчэ не гаварылася, але нашыя дзеянні маюць на ўвазе гэта. Мы кожны дзень сустракаемся, я застаюся ў яе. У бюро мяне ўжо віншуюць, “нарэшце”, кажуць. Я шчаслівы, хоць пра гэта нікому не кажу, нават ёй. Бо ведаю: шчасце не толькі ў тваім каханні, але і ў каханні да цябе. Хто не кахае – не будзе каханым ніколі.

Яна таксама ўголас не кажа, што кахае мяне. Але я гэта ведаю. Так што адносіны ясныя. Мы ўжо знаёмыя шэсць месяцаў.

Што мяне турбуе, не падабаецца, дык гэта ейныя сяброўкі. Асабліва Галка. Яна, дарэчы, тэлефанавала мне. Спачатку проста балбаталі, а потым намякнула, што было б нядрэнна і дзе-небудзь “пасядзець”. Нахабная баба. Ведае, што сустракаюся з Людай, і такое прапанаваць. Мільганула думка аб тым, каб высекчы яе, як даўней, якімі-небудзь розгамі. Завабіць, загаліць зад і высекчы. Уявіў: яна, перагнутая на маіх каленях, прыціснутая левай рукой, а правая мая б’е яе розгамі, з задавальненнем.

Але пра сяброўак усё ж з Людай казалі.

– Ты думаеш, калі ў мяне такія сяброўкі, дык і я такая?

– Я яшчэ так не думаю, але благі прыклад...

– Але не заўсёды ёсць магчымасць выбраць. Я не дзяўчынка, мне не сямнаццаць гадоў, мае знаёмствы абмежаваныя.

– Лепей сядзець адной, чым быць у іх кампаніі. І каб больш ніякіх ключоў нікому.

– Табе лёгка разважаць. Сам заўсёды сярод людзей, ахмураеш сумленных жанчын, забаўляючыся пры гэтым. Табе, вядома ж, не сумна. А мне што, сядзець пад замком? Ды і як адразу адсекчы іх? Гэта не салідна. Што падумаюць?

– Табе важна, што падумаюць гэтыя прастыту...

Мы не размаўлялі тыдзень. Не тэлефанавалі адно аднаму. Кожны трымаў паўзу. За тое Галка падлавіла мяне ў бюро і пацягнула ў кавярню. Там яна прызналася мне ў каханні.

– Вы гэта сур'ёзна?

– Я ніколі не была такой сур'ёзнай, як цяпер. Вы што, не адчуваеце, як я ламаю ўсё навокал і лезу напралом да вас?

– Але гэта ж...

– Так, магчыма, амаральна, ведаючы пра вашы адносіны з Людмілай. Але толькі вы мой апошні шанц. Я жанчына дасведчаная, і з першага позірку зразумела, хто мне патрэбны.

– Але гэта ж, прабачце, нерэальна, па-за межамі. Мы ўжо і дакументы падалі.

– Што?

– Дакументы падалі ў ЗАГС.

Галка заплакала. Па яе лялечным твары сцякаў чорны струменьчык тушы. Яна рукамі размазвала яго па ўсім твары.

Толькі жанчына прыстае так да іншых людзей, плача на свой лёс і патрабуе спагады. Яна правакуе шкадаванне чужых людзей, з тым, каб самой плакаць разам з імі і такім чынам у самой сабе ўзмацніць шкадаванне да сябе. Спачуванне да самой сабе – гэта жаночая асаблівасць. А сапраўдная спагада, як і пакута, павінна быць сарамлівай, калі яна сур'ёзная. Так што Галцы я не верыў. Мне было шкада яе. Нават пачаў супакойваць яе: усё яшчэ наладзіцца...

– Вы ўсе дрэнна ведаеце мяне. Вы бачыце ляльку, так? Але ж і ў мяне ёсць сэрца. Прабачце...

І яна выбегла з кавярні. А можа, яна не грае ролю? Як цяжка зразумець, да чаго імкнецца, чаго хоча заўсёды супярэчлівая Жанчына. Мяне пачало палохаць тое, што было ў Галкі ў думках і, так бы мовіць, запазухай. Не скажу, каб яна была разумная. Я гэта вызначыў з нашых дзвюх нечаканых сустрэчаў. Але чым меней розуму ў жанчыны, тым яна хітрэй. Абражаная жанчына, а я ў ейным разуменні "абразнік", здатная на многае.

А з Людай мы працягвалі трымаць паўзу. Як бы яна не зацягнулася.

**Галка**

"Я закахалася ў яго канчаткова. Да д'ябла сорам, дзерціся і біцца. А сяброўка? Ну, не будзе ў мяне сяброўкі. Завядзём новых". З гэтымі думкамі я шукала Вадзіма па ўсім горадзе. Знайшла на працы. Ледзь зацягнула ў кавярню. Хлопец прыстойны, адмаўляўся, на нешта спасылаўся... Але не была б я Галкай: узяла пад руку і пацягнула. Супраціўляцца было няёмка і мы пад ручкі прайшліся праз увесь цэнтр у кавярню. Гэта ўжо добра, няхай усе бачаць. "Добразычліўцы" зробяць сваю справу. Але тое, што адбылося ў кавярні – жудасна! Я была занадта ўпэўненая ў сабе. Ён аказаўся мацнейшым. За гэта яго варта кахаць яшчэ больш. Выбегла з кавярні, нічога не разумею, не магу ўрубіцца. Гэта мне, якая пешшу крочыць па мужчынскіх сэрцах, адмовілі. Ад нечаканасці ўсё ўсярэдзіне пераварочвалася. У галаве

рашэнні адно страшнейшае за другое. Усё, з іншымі завязана. Ён, толькі ён зараз мэта майго жыцця. Альбо мне, альбо нікому! Будзе цяжка, вельмі глыбока яны ўлезлі адно ў аднога. Ці мне, ці ні-ко-му!

**Вадзім**

З маёй Людмілай Васільеўнай нешта адбываецца. Пачуўшы мой голас, яна адразу адключае тэлефон. Мне трывожна, і я лячу да яе. Цісну на кнопку званка. Адчуваю, што яна стаіць за дзвярыма. Цісну і цісну. Нарэшце дзверы адчыняюцца. Яна засланяе сабою праход.

– Ты чаму не пускаеш?

– Не хачу.

– А чаму, цікава, не хочаш? – спрабаваў я ператварыць голасам пытанне ў жарт. Але сэрца ў мяне закалацілася. Ці не... Не, мужчына не можа быць. Тут нешта іншае. Але што?

– Ты дарэмна прыйшоў. Я хачу, каб ты забыў сюды дарогу.

– Не, любая, мне твае загадкі надакучылі, і я, прабач, ужываю сілу.

Я падняў яе, пераставіў, як крэсла. Яна не супраціўлялася. Я ўвайшоў у кватэру і зачыніў дзверы.

– Так, што здарылася?

Мы сядзелі ў крэслах адно супраць аднаго. Вочы глядзелі ў вочы, спрабуючы ўбачыць штосьці таемнае, якое з'явілася, на думку кожнага, у тым, хто сядзіць зараз насупраць цябе.

– Ты пытаеш, што здарылася? Дык ведай: я пазнаёмілася з чалавекам, які мне падабаецца. Табе прыемна гэта чуць?

– Калі справа толькі ў гэтым, дык я спакойны.

– Як спакойны? Я ж пайду ад цябе!

Люда была ўсхваляваная. Я ж быў спакойны. Таму што яе прызнанне было блефам. Я ўжо нядрэнна ведаў яе, "чытаў" яе твар, міміку і разумеў, што нешта з ёй здарылася. Перасеў на падлакотнік крэсла. Яна паспрабавала ўстаць, але я прытрымаў яе. Люда пакутліва паглядзела ў мае вочы і пакорна села зноў у крэсла.

– А зараз усё па парадку. Я старэйшы за цябе, старэйшых трэба слухаць.

– За што ты яе пакахаў?

– Каго?

– Галку.

– Я яе не пакахаў, і ніколі гэтага не зраблю.

– Ты хлусіш. Вы пад ручкі праходжваліся па горадзе, былі ў кавярні. Непрыемна чуць? Але бачыш, усё ведаю.

– Так, гэта было, але не гаворыць аб тым, што ўсё адбывалася так, як табе думаецца. Ты спытай у яе, пра што і як адбывалася нашая размова.

– Я ні пра што пытацца не збіраюся. Я выгнала яе з дому пасля вашай тэлефоннай размовы. Яна ж размаўляла з табой ад мяне. І я ўсё чула. Так што бяжы, вашае спатканне праз гадзіну.

– Не-е, пачакай. Якой размовы? І калі яна адбывалася, цікава?

– Учора, а шостай вечара.

– Але я ў гэты час быў на экскурсіі і размаўляць з ёй не мог. Нам забаронены размовы падчас працы. Такім чынам, дзе я быў, ты можаш даведацца ў бюро.

– Не буду нідзе дапытвацца. Ты мог і замяніцца. Я твой голас чула ў слухаўцы. Галка мне яе падсоўвала.

Ужо я нічога не разумеў. Галка, размова па тэлефоне. Пасля кавярні мы з ёй не бачыліся і не размаўлялі. Глупства нейкае.

– Пачакай, гэта нейкае непаразуменне. Дзе знайсці Галку, гэтую сволач?

– Не ведаю, дзе вы прызначылі спатканне. А пакуль, любы мой, – “любы мой” Люда злосна працадзіла скрозь зубы, – тупай адсюль і забудзь дарогу.

– Ты хочаш сказаць, што я больш не тваё сапраўднае каханне? І што больш не вернуцца нашыя ўсмешкі, вячэры? Ты верыш у тое, што я магу быць з Галкай?

– Я... не ведаю. Але мужчыны...

– Я вельмі сур’ёзны для таго, каб страціць з-за яе розум. Ты не верыш зараз, але ж наперадзе яшчэ вялікае жыццё. Ну што ж, працягвай верыць “сяброўкам”, якім твой лёс абыякавы. Яны нават зацікаўлены, каб ты засталася ў сённяшнім тваім становішчы. Эх-х... Ты зараз – іншая жанчына. Ты – больш не ты. Бывай!

Я блукаў па горадзе. Галава мая трашчала ад крыўды і непаразумення. Увесь тыдзень спрабаваў датэлефанавацца да Люды, але тэлефон не адказваў. Цішыня, пэўна выключаны. Пакута была невыносная. Я ўзяў групу і паехаў на дваццаць дзён у Закарпацце.

**Л ю д а**

Я ўвесь час не верыла свайму шчасцю. Нарэшце пакахала, мяне кахаюць, мы падалі дакументы ўжо. Не, усё было занадта добра для мяне. І жыццё паказала, што гэта так. Спачатку мне сказалі, што бачылі Вадзіма разам з Галкай. Я адмаўлялася верыць: Вадзім цярпець не мог Галку. Ён і мяне прасіў прыпыніць нашае сяброўства. Але пра тое, што іх бачылі разам, мне казалі некалькі чалавек, не знаёмых адзін з адным. І я перастала сумнявацца. Бо добра ведаю Галку-дзетку, яе магчымасці, асабліва калі яе пачынае “дзяўбці” ў адным месцы. Потым яна заявілася да мяне. Спачатку мне падалося, што Галка вельмі ўзбуджаная. Але гэта, пэўна, толькі здалося. Яна села ў фатэль, звычна падняла спадніцу, агаліўшы высока каленкі. Напэўна, забылася, што мужчынаў тут няма. Нейкі час маўчала, а потым... Тое, што яна сказала, прымусіла мяне выбегчы на кухню і, стрымліваючы плач, выпіць вады з-пад крана. Слёзы душылі мяне, сэрца рвалася. Яна ўвайшла ў кухню.

– Калі ты яшчэ сумняваешся, то я зараз набяру нумар яго тэлефона і ты пачуеш, як мы будзем размаўляць.

Яна хутка выйшла ў пярэдні пакой, набрала нумар і пазвала мяне.

– Слухай.

Яна міла шчабятала, ён прызначыў ёй спатканне на шэсць вечара. Але ён, звычайна шмат размаўляючы са мной, з ёй быў маўклівым. Але ці гэта іграла для мяне нейкую ролю? Вадзім размаўляў з Галкай! Завошта, завошта мне такое? Каго і чым я ўгнявіла? О, позняе каханне!

Не памятаю, як усё пачалося, але схапіла Галку за валасы і пацягнула да дзвярэй. Яна не зразумела, што адбываецца, і пачала ўпірацца. Ад гэтага ёй зрабілася яшчэ больш балюча. І яна ачуняла, пачала брыкацца нагамі. Мне таксама было балюча фізічна. Але адчыніла дзверы і выштурхнула прэч. Ну вось і ўсё. Далоў сяброўку, далоў Вадзіма. Я зноў вольная, вольная

птушка! Але чаму так льюцца слёзы і цісне ў грудзях? Чаму я ўспамінаю да драбнюткіх падрабязнасцяў усё тое, што было з намі? Чаму Вадзім стаіць у мяне перад вачамі і нікуды не хоча сыходзіць? Чаму? Чаму?

Як цягнуцца дні. Я адключыла тэлефон. Яшчэ не адзін раз пашкадуе пра тое, што прамяняў мяне на яе. Так, мужчыны часам дурнеюць. І тады ў жанчынах іх прыцягваюць недахопы, а не добрыя якасці. Але ж Вадзім...

Аднойчы я не вытрымала і патэлефанавала яму дадому. Слухаўку падняла маці і сказала, што ён паехаў. А напярэдадні нехта мне сказаў, што Галка памяняла кватэру і таксама кудысьці з'ехала.

Я была шчаслівая сем месяцаў і восем дзён.

**Вадзім**

Прайшла палова года. Выпадкова даведаўся, што Галка выйшла замуж за марскога афіцэра і з'ехала кудысьці на поўнач. Люду не сустракаў, але ейны тэлефон заўсёды заняты. Кажуць, што яна нікуды не выходзіць. Праца-дом-праца. Я ж, як звычайна, з экскурсантамі. Зараз мне здаецца, што экскурсіі мае не такія цікавыя, як раней. Я не спрабую каму-небудзь спадабацца, і ўсе жанчыны ў салоне аўтобуса для мяне на адзін твар. Калі вяртаюся дадому, стаўлю дыск і слухаю адну і тую мелодыю. Саксафон раздзірае душу...

Жыццё прывядзе туды, куды было вызначана. Праз год яны ажаніліся. Яна патэлефанавала, і ён прыбег. Але перад "бегам" пасядзеў у фатэлі і пагайдаўся ва ўспамінах, каб пераканацца ў тым, што ўсё яшчэ гарыць так, як было раней. "А яшчэ пара перастаць жыць напалову", – сказаў ён сабе. Яго, жыццё, трэба смакаваць, а не трываць. Мы так прывязаны да стандартаў штодзённай свядомасці. Мы так угразлі ў гэтым стылі жыцця...

Калі адчыніліся дзверы кватэры, Вадзім прыціснуў Люду да грудзей і ціха спытаў: "На тваіх вуснах яшчэ ёсць месца для мяне?"

– Толькі для цябе.

Яна заплакала...

---

"Дзеясловцы" найшчыра віншуюць
шаноўнага **Давіда Яфімавіча ШУЛЬМАНА**
з сямідзесяціпяцігоддзем і зычаць яму моцнага здароўя,
душэўнае трываласці, Божае ласкі і, вядома ж, –
натхнення на новыя выдатныя творы!

Усевалад Сцебурака



...Я – ўсё, рабяты,
я – усё!..

# Інстытут туманаў

* * *

*Незнаёмаму земляку*

Ты новыя мовы вучыцьмеш старанна
і пойдзеш ў далёкі сусвет,
а я паступлю ў інстытут туманаў
на восеньскі факультэт.

Сустрэнуць цябе невядомыя зоры
і шлях на чатыры бакі,
А я буду ніткі тутэйшых сцяжынак
змотваць у клубкі.

Па ветры пускаць павуцінне і лісце,
начныя запальваць агні
і цёплай смугою захутваць дрэваў
азяблыя карані...

Ў чароды збіраць журавоў на імшарах,
буслоў кіраваць на адлёт,
і хвалям азёрным спяваць калыханкі,
і рэчкам прыкладваць лёд...

Хай нашая восень табе будзе сніцца –
ты памятай гэту зямлю.
Я сум успамінаў, як пляшку па чарках,
па лужынах разлію...

* * *

Беларуса не спалохаць смерцю –
смерць яму як родная маці,
што чакае з далёкай дарогі.

Хто яшчэ называе труну – дамавінай?
Хто яшчэ так шануе памерлых?

А як соладка п'ецца памінальная чарка!
Як светла ўзгадваецца спачылы!
Як даношваецца ягоная ватоўка!
Як зайздросціцца яму, што не бачыць усяго гэтага!

Яму галашэнні і паднашэнні –
і яечка свянцонае, і цыгарка з цукеркаю...

Мы названыя ў гонар памерлых.
Мы гаворым памерлай моваю.
Мы сыходзім адсюль, як вяртаемся,
адбыўшы пажыццёвы тэрмін.

Мы ідзем з цішынёй і знічкамі
на клады па дажджах лістапада –
гэта нашае свята сапраўднае,
дзе гасцямі ў нас –
нашыя мёртвыя.

* * *

Да апошняга
кожны ліст трымаецца.
Восеньскі вецер.

* * *

Я – ўсё, рабяты, я – усё!
Ад вашых дзяцей паўголых,
ад марачкаў вашых вясёлых,
я – ўсё, рабяты, я – усё!
Я ўпораты ліс, я “Kiss”! –
на чорнай спіне загарэлай,
я крэйдай абведзены белай
у місісаў вашых і міс.
– Давайце не будзем, пліз!
Згушчаць, патаму што ўсім цяжка...
Па цыццы б’ецца падцяжка
і гіпертанічны крыз...
Нібы на панчосе зацяжка –
заплюшчыся, вось ён сюрпрыз –
твой рэвалюцыйны дзвіж,
як ножык у Юкі Місімы,
цяпер не прарэжацца міма –
і напалам Нясвіж...
І ўсіх беларусяў і сэрца,
і, мама, куды нам падзецца,
калі не чакае Парыж?
Тут рыфмаю быў бы крыж.
Ды молячыся на пашпарт,
кіруеш каўчэг на Рашмар,
ці на што прасцей
– паміж.

*

...А тут ў верасовых ранках
ідуць журавы на ўзлёт,
ў кастрычніцкіх сініх світанках
без вас крамянее лёд.

* * *

Толькі б да восені зноў дацягнуць,
як хлопчыку-лётчыку да аэрадрома.
Шкода, што птушкі цяпер лятуць
каб не вяртацца болей дадому.

Тут бы хапіла месца ўсім...
Стыне буслянка над кінутай хатай.
Вось сімвал твой новы – сказаў бы Максім,
але ён у Ялце, і там свае страты.

Хоць час прамінуў, а гарчэе ўсё дым.
Хлопчык кудлаціць сівое валоссе...

Штоночы той жа сон –
пад трымерам Тваім
ізноўку без пары ўкладаецца калоссе.

* * *

Жыцця падупалі стандарты,
і дзе той шукаць долі?
Ўсё болей маняць дарожныя карты,
ўсё больш фальшывыя ролі.

Бярэ цяпер толькі з кварты,
і пуста, бы ў снежным полі.
Здаецца, хто чаговарты –
не разабрацца ніколі.

Тут кожны рух на кантролі,
там кожны крок – ад радзімы.
Шкадуе той, хто ў бяспецы,
што гэты прылёт – міма.

Якая радня, мама?
Спрэс пасынкі і айчымы.
І нам адказваць таксама.
Хоць чым мы?

І горка ад дыму айчыны,
і як не мяняй паролі –
паменела веры,
паболела болю,
ды гэтак жа
хочацца
волі...

* * *

Я куплю чаравікі да фрака[1],
Ўночы буду спяваць псалом,

[1] Пераклад верша Міхаіла Булгакава.

І на пару з вялікім сабакам
Мы хоць неяк, а рады дамо.
А калі разаб'ю абутак
І сабака пакіне свет,
Прыйдзе цемра ў мой закутак
І мароз паглыне сусвет.
Будзе ноч, як ільдзінка, плакаць,
Будзе гукі імгла нараджаць,
На крысе палінялага фрака
Будзе мілы шчанюк ляжаць.
Новы строй вісне ў шафе важка
І лакіркі стаяць ля дзвярэй.
Жыць па-новаму вельмі цяжка.
Жыць мінулым яшчэ цяжэй.

проза

Ігар Сідарук



…толькі той, хто гатовы аддаць селязёнку
за чорны рамонак, –
трапляе ў рай…

# Прозаабсурдоўкі

## Каляндар

Зміцер Бздура складаў Каляндар Адвечнага Жыцця. Аднак кожнага разу апошнім клаўся ў Змітра месяц пад назовам "Амба!" Як ён ні круціў, усё адно было так. Нават тады, калі ставіў "Амбу!" наперад, а назад – аркуш "Усяму пачатак" ды бег хуценька ў друкарню, дык там наборшчыкі, адкрыўшы макет, бачылі тую самую "Амбу!" – усё роўна ў канцы.

І тады Зміцер вырашыў прымяніць хітрасць ці падмануць лёс – каму ўжо як падабаецца.

"А-а! Друкуйце як ёсць!" – мовіў ён друкарам.

А калі дачакаўся гатовае прадукцыі, дык павесіў на сцяну Каляндар Адвечнага свайго Жыцця задам наперад. І пачаў штомесяц адрываць аркушыкі гэтаксама задам наперад. То бок спачатку паляцела ў сметніцу тая самая славутая "Амба!", потым "Шындзец не хутка!..", за ім – "Ды яшчэ о-го-го!", яшчэ за ім – "Аднак, мацак!", далей – "То

ж вернідуб!", а потым і "Квет Росквіту", а затым і "Не дурны-малады!", яшчэ затым – "Памэр-18!", і нарэшце "Першая мастурбацыя", за ёю – "Падшыванскі падгалосак", і вось – на самы верх сметніцы павольным планерам апусціўся "Усяму пачатак".

І ў тое ж імгненне перад Зміцерам Бздурам расчынілася найглыбейшая, велізарная, цёмна-вільготная, пахнотная, бясконцая, страшэнна-містычная, вядзьмарскі-вабнотная... самі ведаеце што, і засмактала назаўжды ў сэнсасцвярджальнае нутро сваё. Крыху цнатліва прыкрыўшыся апошнім верхнім аркушам са сметніцы. На якім упарта праступала ўсё тая адвечная – "Амба!"

## Амерыка

Клім Калінка сабраўся ляцець у Амерыку. Не сказаць, каб тая Амерыка дужа маніла Кліма. Але дай ахвоце волі – завядзе да нядолі. У нядолю Клім не хоча, а вось стромкія хмарачосы, усмешлівыя, вялізнагрудыя амерыканкі ды гарачыя, каўбойскія бургеры – нешта сніліся надта часта.

Таму й прыходзіць дзень, калі Калінка ўшрублівае ў разетку ноўт. Ды, пераржагнаўшыся, лезе на адпаведны сайт замаўляць квіток. Ага, вось вакенца, вось кошт, вось сайтаўская пімпачка, якую націснуў – ды ўнось усе свае пашпартна-карткавыя рэквізіты.

Ну, з Госпадам Богам, у Язві Яго Душу Маць!

І толькі, значыць, Клімка падсоўвае бліжэй ноўт, як той закукарэкаў. Дурным, ахрыплым, бы нажраўся лёду, пеўнем. Наш без гадзіны амерыканскі герой хоча кінуць у адказ "Ды што ж такое?!", як ягоны мозг, а значыць, і рот, імгненна забываюць усе чалавечыя словы. Таму ноўтупеўню адказвае брэхам. Толькі не сабачым, а маржыным. Што ён брэша маржыным брэхам – Калінка здагадваецца толькі дзякуючы таму, што калісьці бачыў пра іх перадачу ў праграме "У свеце жывёлаў". На Клімкаў брэх рэзанансам адказвае старадаўні гадзіннік, які ўсё яшчэ ідзе і раз-пораз спявае векапомную песню Алы Пугачовай "Старинные часы ещё идут!.." Вось і цяпер, праспяваўшы цэлы куплет натхнёна ды складна, гадзіннік раптам выстрэльвае спружынай, якая балюча б'е Калінку ў лоб.

Хай бы біла, дык яна, падлюка такая, яшчэ прашывае цвёрды ягоны чэрап і навечна ўкліньваецца ў прыфрантальную кару мозга, якая адказвае за планаванне складаных кагнітыўных паводзінаў, праявы асобы, прыняцце рашэнняў ды рэгуляванне сацыяльных паводзінаў. А вось дзе гэта вычуў ці вычытаў Клім – ён ужо не памятае, бо... Што й самі вы там памяталі, калі б вам у мозг захрэнячылася сталёвая гадзіннікавая спружына?!

Таму лагічна, што замест вакенца з амерыканскімі квіткамі палец Калінкі націскае квадрацік з пазнакай "Туды, адкуль!.."; і нават пашпартна-карткавыя рэквізіты закідваць яму не даводзіцца.

Бо ў тое ж імгненне трансцэндэнтнае левітаванне пераносіць яго па прызначэнні. Да гэтай пары й ляціць Калінка Клім, так і не ўцяміўшы: ці то туды, адкуль не вяртаюцца, ці то туды, адкуль пачынаецца вечнае жыццё ягонае. У якім ўсё ёсць, нібыта ў той Амерыцы, і нават маржыны брэх на ўсмешлівых, вялізнагрудых фларыжанак.

Якіх Клім Калінка так і не ўбачыць.

## Блыха

У маіх нагавіцах завялася блыха. Што ёй там трэба? Прасторы няма, моцна не паскачаш. Завялася, аднак. Поўзае. І гундосіць, каб яе выпусціў. “Давай! – кажу. – Вылазь, ляці!..” Сядзіць. Раззлавана кусае. І гундосіць, гундосіць.

Наліў ёй чарку. Урэзала, сцішылася. Даўжэзныя заднія лапы – выцягнула. Як ёй – вылазіць. Таксама не хоча. Дый куды вылазіць, калі хмялюга. Тут хоць бы прачнуцца. Ну давай ужо, блыхадрэнь, ачомвайся. Сустракай дзень і светлыя зарапады! У дзень зоры не прадаюць? У цябе зараз будуць! Спіць. Не варушыцца. Чавіць храпніцкага.

Тады ўрэзаў я. Дый да блыхі – у нагавіцы. Скруціўся ў гарох побач. Добра, шыкоўна!.. Абы не было газавае атакі. Пасля нясвежага самагонія.

Чакай! Якая газавая атака, калі я – асобны і самастойны, не раўнуючы як блыха, а нагавіцы – здрадзілі прызначэнню: быць на маім азадку?! Не, не так: бараніць ад гэных ды іншых атак?!.

## Вершыкі

Грыбок Валера піша вершы на туалетнай паперы. Іншая яму не падыходзіць. Не радуе і не натхняе. А так – засядзе Валерка ў прыбіральні дый выдасць свету чарговы зрыфмаваны прадукт. Бывае, санет, а бывае, і невялічкую паэмку.

Праўда, ёсць адна акалічнасць. Напісаўшы такі вершык, Валерка аніяк не хоча перапісваць яго ў нармалёвы аркуш фармату А4. Так і складае тыя караценькія рулончыкі ў адмысловую тэчку. З размашыстым надпісам ад рукі “Паэтычныя вопыты В. Грыбка”. І з такімі ж рулоннымі вопытамі ён выступае перад публікай, калі час ад часу запрашаюць на розныя чытацкія сустрэчы. Але чамусьці чытачы ад падобных дэкламацыяў не прыходзяць у захапленне, а часцей нават наадварот. Ад свістаў ды галёкання Грыбок заглыбляецца ў панурасць, упадае ў песімізм ды татальны творчы крызіс. Які ў сваю чаргу спыняе ягоны страўнік – што болей не прадукуе адпаведных вынікаў жыццядзейнасці, а значыць, – і чарговых паэтычных здабыткаў.

І вось, у час чарговага такога бязлітаснага крызісу, Валерку працінае моцны, проста страшэнны пазыў. Ледзь паспявае дабегчы да прыбіральні, на хаду рвучы з сябе порткі. І толькі ён устаўбурваецца лядашчым сваім задком на ўнітаз, як Грыбковы арганізм пачынае вывяргаць з сябе верш за вершам, трыялет за трыялетам, мадрыгал за мадрыгалам, баладу за баладай. І няма таму вывяржэнню ні супынку, ні перадыху. І сядзіць пераможна-радасны наш паэтычны геній на беласнежнай ракавіне ды хваліць усіх паэтычных багоў. Бо цяпер яму не патрэбна ні папера, ні публіка, ні крытычнае літаратуразнаўства. Паколькі сама прырода, сама арганіка – на ягоным баку. Ствараючы ўнісон, гармонію ды нірвану з наваколлем.

Адно крыху засмучае Валерку. А раптам благаслаўлёная гэная крыза скончыцца – і скончыцца на тым ягонае няспыннае, бурлівае, клякочучае, вулканічнае віршамятанне?!.

## Грак

Гойша Картопля быў граком і глыкаў дождж. Вось любіў ён так з раніцы разявіць пашчу, і каб кроплі білі-даставалі да самусенькай сярэдзіны ягонага птушынага цела. Кожнае пёрка тады адлівала шчасцем, а пацеркі-вочкі лучылі мілоту і разуменне жыцця.

Але сёння дажджу нямашака, і натапыраны Гойша лянотна гайдаецца на галіне. Дрэва завецца таполя, і Гойша ведае, што пад ім загінула нямала грачанятаў, зрынуўшыся/выпаўшы ў свой час з гнёздаў. “А каб глыкалі яны дождж, нібы я – дык не зрынуліся б!..” – унурана думае Гойша. “Значыць, трэба зладзіць усё ў сістэму і падвесці да кожнага гнязда патрубак!”

Картопля – вялікі вынаходнік. Таму птушыныя мазгі ягоныя хутка цямяць, як усё гэта скруціць канкрэтна. І вось, не праходзіць і тыдня, як кожнае грачынае гняздо забяспечана адмысловым патрубкам, па якім на малюсенькіх птушанятак ліецца дождж. Дождж іх мые, аблівае, забіваецца ў вочкі, раточкі.

Хтосьці з дарослых гракоў бунтуе, але на ўсеагульным вялізным сходзе абраных гракоў Гойша Картопля абгрунтавана даводзіць карысны несумнеў наноў укаранёнае сістэмы.

Не праходзіць яшчэ аднаго тыдня, як трава пад таполямі пакрываецца безліччу чорных кропак – апалымі цельцамі грачанятаў, якія канчальна захлынуліся сістэмна-падводным дажджом.

Спазнаўшы ўвесь жах ад зробленага, Гойша ляціць у эміграцыю. І толькі там разумее фатальную памылку сістэмы. Пракляты дождж павінен быць толькі ранішнім, на крайні выпадак – ранішня-дзённым. А яны заганялі ў трубы – выключна вечаровы!..

Усвядоміўшы тое, Гойша Картопля скрушна ўздыхае на ўсе свае грачыныя грудзі ды звыкла разяўляе пашчу – глыкаць свой ранішні жыццядайны дождж.

## Рыба

Штораніцы Гойшык Андрушка ловіць у ванне рыбу. А паколькі рыба ў ваннах не водзіцца, то адвечным уловам Гойшыка выступае ягоная жонка Варушка. Адбываецца так: у паўнюткай ванне плавае-барохаецца Варушка, а тым часам Андрушка яе мармышыць зімоваю вудай.

Трэ сказаць, ад такога рыбалення з цягам часу ў Варушкі ўшчэнт разарваліся губы. Таму, каб не цярпець гэткія пакуты, яна запірсінгавала туды надзейнае меднае колца. І цяпер Гойшык падсякае свой улоў не за жывую губу, а за Варушчына колца. Яму – весела, а жонцы – спакой!

Але так ідзе да нейкага часу.

Той раніцай Андрушка, як звычайна, наладвае свае вуды і ўжо збіраецца распачаць хвацкае ўдалае рыбацтва, як у дзверы звоняць. Гойшык, не задаволены ўрываннем у мілы сэрцу працэс, адкладвае вуду, ідзе адчыняць.

– Хто?

– Карась.

– Які карась?

– Звычайны. Жывая рыба.

– Якая яшчэ жывая рыба?!

– Адчыні – убачыш. Я прыйшоў па цябе.

– Ага! Напужаў прусачыну тапкам!..

Раззлаваны ды адначасна зацікаўлены, Гойшык адчыняе дзверы.

Перад ім насамрэч стаіць сапраўдны, залацісты, у балотнай ціне карась. Толькі як след здзівіцца Андрушка не паспявае. Бо карась, не марудзячы ані хвілі, Гойшыка-рыбачочка – хоп! – і глытае. Сваім не такім ужо і вялізным ротам.

Варушка, выбегшы на шум, спачатку траціць прытомнасць, а калі ачуньвае, дык бачыць, што ляжыць у белапенных прасцінах, а карась элегантна падае ёй у ложак каву.

Праз месяц Варушка выходзіць за карася замуж.

Толькі прозвішча не мяняе – бо ж у карасіка яго проста няма. Дый Варушка Карасік – неяк не гучыць.

А яшчэ пакідае ў губе меднае колца – так, на ўсялякі выпадак.

## Буда

Я жыў у сабачай будзе. На ланцугу. Ужо сорак пяць дзён.

Ежу прыносіў мне хлопчык. Маленькі. Нейкую каламутную кашыцу. Іншым разам вельмі хацелася піць, але – вады мне ніхто не ставіў. На шчасце, было лета, ішлі дажджы. Каля буды збіралася лужына, з якой і хлябтаў.

Чаго я туды палез? О, гэта пытанне-экзіста!.. Чалавек – пакаральнік і творца, але колькі працягне, як той сабака?! Без адзення, на дошках, у спёку ды ў навальніцы?

Ага. Нехта – ані хвіліны. Я – ужо месяц і палову. Ну, няхай. Выбар – мой, я вам не навязваю. Во, паліўку нясуць!

........................................................................................

Гэтым разам да буды прысунуўся не малы. Нейкая кабеціна. Зірнуў: яшчэ не старая. Пляснула ў абкураную брудную каструлю варыва.

– Ну што, ёлупень, жары!

Я... падпоўз да каструлі, прагна пачаў запіхваць едзіва ў рот.

– А каб ты падавіўся! – кабеціна раптам бэцнула мне нагой пад худыя рэбры.

“Ах ты ж ...!” – але толькі гыркнуў, бо трэба было даесці.

Вылізаў да кроплі, пашкроб пальцам дно, ададраў нешта падобнае на мяско. Кабеціна не адыходзіць, назірае.

– Ну ты й доўбень! Вар’ят аброслы! Калі ўжо загнешся тут, смердзюхай? – яна азірнулася на доўбню, што валялася каля буды. І ўжо хацела нібы за яе ўхапіцца, ды не паспела.

Я мог даравaць што заўгодна, толькі не “смердзюхая”. Бо насамрэч смярдзеў. Невыносна, смертазабойча. І з таго – быў агідны самому сабе.

Я кінуўся на яе. З гыркам, рыкам, ірваў ды шкамутаў, угрызаўся ўсімі зубамі, нібы бензапілою, у сцягно. І нават сталёвы ланцуг мяне не ўтрымаў.

А потым... Адгрызеная нага ляжала перада мною; а побач – ляжала кабета. Не варушылася. А мо і не дыхала – не скажу. Балявы шок.

Галоўнае, у мяне была нага, сапраўдная нага! Таму далей усё было лёгка. (Ну, не зусім лёгка, але не складаней, чым піць з дробнай лужыны

пасля дажджу). Я сарваў з буды флюгер, прыкручаны да яе невядома кім і калі. З замаху ўсадзіў у нагу, прабіваючы пальцы. Абставіны спрыялі: узнімаўся даволі моцны вецер. Таму ў наступную хвілю я сабраўся, напружыўся; флюгер малаціў, як шалёны!.. Заставалася толькі асядлаць нагу ды...

Я ляцеў, узнімаўся ўсё вышэй у неба! Блакіт сляпіў вочы, чароды сустрэчных птушак разляталіся, бы эскадрыллі, сэрца спявала гімны ўсіх краінаў. Я набліжаўся да сонца!

І бясконцай лесвіцай у неба раскручваўся сталёвы ланцуг. Надзейна прыкуты да лыткі, трывала з'яднаны з маленечкай кропкай драўлянай буды.

## Камізэлька

Пётр Гарошка знайшоў камізэльку. Як нармальна апране – тады ён добры. Як навыварат – злы. Нармальна – добры, навыварат – злы. Нармальна – добры! Навыварат – злы!

Задумаўся Гарошка.

– А якім я хачу быць?

– Добрым!

– А можа, злым?

– Як ты да людзей – так і яны да цябе!

– Ага, часцей сабакам!

– Сабака – добры звер!

– Калі зубоў не мае...

– Што ў сэрца ўпусціш...

– Гадзюку ўпусціш!

– І гадзюцы ласка трэба...

– Ласка-каляска...

– Ну што ты, ну што ты. Ашчадней трэба!

– Ну так, ашчаднымі чэргамі. З кулямётаў!..

– От! Табе тую кулю ў рот!

– А гэта ты ад якога сказаў? Ад добрага ці злога?

– Ад бульдога! Ці с...анага твайго Бога!

– Ціха ты! А як пачуе?!

Тут Пётр Гарошка і праўда стуліў губы. Бо, відаць, заехаў пэўна не туды. Здзёр з сябе камізэльку, склаў на чатыры разы. "Мо спаліць?" – падумаў. "Ці прадаць к ладанам!" "Толькі хто ж купіць?"

Гарошка то складаў, то раскладаў камізэльку. Нарэшце яму тое надакучыла, ён схапіў вялізны войстры нож ды проста спаласаваў камізэльку крыж-накрыж. І адразу пякельны боль апёк яму твар, асабліва вочы. Яны вокамігам пачалі наліваецца барвіннем, павялічвацца, надзімацца, вылузвацца з вачадолаў, пакуль канчальна не вылезлі з арбітаў. На правым гарошкавым воку лілавеў надпіс "Я вока добрае!", а на левым чырванеў "Я вока злое!"

Боль паціху знік. І Гарошка са шкадобным жахам пабачыў... Дакладней, мала чаго пабачыў. Бо з-за надпісаў нічога не можна было разглядзець навокал як след. Але нічога, з часам прызвычаіўся.

Так і жыве.

## Мазгі

Сёння мне выразалі палову мозга. Малпай з-за таго я не стаў, але затое цяпер і не чалавек. Можа, лунцік-шпунцік, а можа, тэрмінатар. Які мае панцыр. З той самай другой паловы. Якая цяпер звонку. І мае абвостранае пачуццё. Да несправядлівасці й недасканаласці сусветнага існавання.

Дзе ёсць месца прапагандзе, але няма – скошаным травам. Што пахнуць дзяцінствам і малаком ад рук роднай матулі. Чакай, якая матуля, калі – тэрмінатар?! Ён мусіць мець толькі сталёвы кулак ды прагу да вынішчэння. Усіх ворагаў любай радзімы. У перапэцканых ботах. Гноем хлявоў, што плывуць так павольна на захад. Вось, зноў мроі турботных мазгоў. Выразаць і другую.

І што тады будзе? Кашыца, соплі, кісель. А я – не смаркач вам з пугай з асіны! Я той, хто ляціць, як арлан! І дзяўбе чорнай ноччу вам вока. У кропку, у зрэнку, у цэнтр, што прымае рашэнні. У той самы цэнтр, без якога ты ўжо не малпа. Хоць яшчэ й не чалавек.

Што й вымагала доказаў: толькі бязлітасныя тэрмінатры памятаюць аб тым, як казыча кавыль босыя пяты малятку.

## Манетка

Сёння Ясь Грыцько навучыўся лётаць.

“А як гэта прадаць?” – прыходзіць адразу думка. “Можа, атракцыён? Дзяцей вазіць? Ці замежныя камерцыйныя рэйсы? А што – эксклюзіўнае абслугоўване, індывідуальны пакет-падыход. Але не – паперамі вымучаць! Дый шандарахне хто...”

Ясік робіць чарговы круг над горадам.

“Апрацоўка палёў? Кніга Гінеса? Міма. Не плацяць, здаецца, там!.. Убіцца ў кіно? Палёт закаханых? Мо на службу да мэра? Ўжык – тут! Ўжык – там! А як самому кніжку напісаць? Ад першае асобы. “Яськавы ўзлёты”. Не, гэта не назоў. То, можа, спецпажарнікам? Але колькі я панясу? Адно вядро, ад сілы два”.

Грыцьку надакучвае кружлянне, і ён прызямляецца на паляну. Поўную сонечных, чырванаспелых суніцаў. Ірве адну, закідае ў рот. І адразу... ледзь не ломіць зуб аб сапраўдную, залатую манету. Зусім не суніцамі ўсыпаная паляна, а праўдзівымі, чаканнымі, як твой профіль Цэзара, манетамі.

Яська іх ірве, грабе, ладуе ў кішэні ды запазуху. А суніцы... то бок манеты не сканчаюцца ды не сканчаюцца.

І раптам на самым краёчку паляны – асабліва буйная ды бліскучая манетка пачынае шаптаць: “Праглыні мяне! Праглыні мяне!.. І будзе табе падказка!”

Грыцько, завіснуўшы над манеткаю, марудзіць, а потым так і робіць.

Глытаючы, ён ледзь не задыхнуўся. Аднак, з апошніх высілкаў, такі канчальна пракаўтнуў манету. І адразу адчувае, як у ягоным страўніку нібы грозна заракатаў прапелер, яго ўзносіць над палянаю ды з усяе сілы шандарахае аб растучы на ўскрайку паляны дуб.

Твар заліваецца крывёю. Грыцькаў розум расчувае з глыбіняў страўніка зларадлнае “Хех!.. Грошы, бывае, падманваюць!”, ды... ляціць, ляціць! У бяс-

концую, вечную сінечу, дзе збываюцца ўсе мары ды знаходзяцца падказкі, што з марамі тымі – рабіць канкрэтна.

Без усялякага падману.

## Начальнік

Я быў начальнік, і я быў катом (не катам!). Што, думаеце, каб хадзіў у падначаленых – то быў бы сабакам? А вось і не ўгадалі. Бо сабакі – добрыя, а большасць падначаленых – злыя. І кусаюцца злей за сабакаў. Так што... Я – кот, як бачыце. І сакратаркай у мяне – даміноцінка. Ага, тая, якой лупяць з усяе дурноты аб стол пры гульні. Даміноцінка варыць дрэнную каву, затое вуркоча не горш за котку. Толькі самой коткі – няма. Здохла, выпіўшы той самай кавы. Далікатны страўнік. А я далікатных не люблю. Не ўмееш ладзіць з катом ды піць службовыя напоі – у трупярню!

Таму ў нас тут і крэматорый. Нешта многія апошнім часам не адпавядаюць правілам карпаратыўнае этыкі. Не шануюць катовы вус, а ўсё мкнуцца паручкацца. Ды яшчэ памытымі лапамі. Ты спачатку ў бруд умакніся!

А потым прыйдзі ды скажы: “Я такі ж, як і твая даміношка!” А лепей яшчэ, як дошка. З топкі крэматорыя. Як не згару – дык буду служыць трунным вечкам. Усё па-чалавечы, як бачыце. Сёння выпісаў загад: перад тым, як паказаць, які(-ая) ты дошка, удзел у конкурсе па варцы какавы – абавязковы! Бо ад кавы ўжо – горка ў роце і чорна ўваччу.

## Пчолы

У Толіка Хмыгі ёсць АКМ – сапраўдны аўтамат Калашнікава мадэрнізаваны. З якога ён няўтомна, зацята, стала – расстрэльвае пчол.

– Пчолы – гэта скаты! Апошняя мярзота на зямлі! Нікчэмнае племя на зваду! – наліваюцца барвіннем ягоныя вочы, калі Толік Хмыга запівае ў піўным барочку чарговае пчольнае расстрэльства. – І дарога ім – у дупло! А дакладней, у дупу! – рагоча ён.

Хмыга можа днямі й начамі не есці, не спаць, нічым не займацца, а толькі адсочваць-вышукваць, дзе яшчэ затаіліся пчолы. Каб вокамігам узняць свой АКМ-чык ды штабнаваць, паліваць, прашываць ні ў чым не вінаваты рой. Бывала, што Хмыга нават і цаляе ў залацістую пчолку. Тая падае ў густатраўе, пчаліны знішчальнік яе адшкувае і, шчаслівы, двума пальчыкамі ўзнімае высака ўгору.

– Ага! І не бзыкнула! – гарлае слінавата тады Хмыга. – Хана твайму скатаванню! Біць не перабіць шкодніцкі род ваш!

І вось у момант падобнага шыкоўнага трыумфу – на абцас крэпкіх чаравікаў Толіка – узлазіць маленькі лясны клешч. Не марудзячы, клешч перабягае на край чорнай шкарпэткі, а потым на паску голай скуры. І гэтак жа не марудзячы ўшчыквае Хмыгу.

Той нават нічога не разумее і не адчувае.

А праз месяц – аўтаматчык Толік – памірае ад гемарагічнай ліхаманкі.

Зямля яму мёдам!

## Скрыпка

“А што, калі адрэзаць нос і вырабіць з яго скрыпку?” – цярэбіць той самы свой нос Толік Качанідзе. – “Гэта ж колькі нюансавых пахаў ён зловіць! Будзе годны інструмант! Вуха не тое – яно для слыха. А скрыпка – гэта гукі! Тут трэба нешта такое... і падобнае, і на мяжы, але адрознае ад гукаўзнаўляльнага раду”.

Толікава церабленне пераходзіць у нервовае матузлянне. Пальцы аж рвуць ягоную выразную насяру. Нарэшце Толік не вытрымлівае, бяжыць на кухню ды хапае вялізны апрацоўчы нож. “Херак-чыкрыж!..” – і нос бэцкаецца проста ў недаедзены боршч сярод непрыбраных місаў. “Нічога, гэта прапітка!..” – выхоплівае з баршчу нос Качанідзе, ані не зважаючы на струмені крыві, якія фантанамі б’юць з таго месца, дзе за міг да гэтага быў ягоны прыўкрасны вялізны нос.

Яшчэ адзін міг; і тым самым апрацоўчым нажом Толік надае носу скрыпічны выгляд. Прыладжвае загадзя нарыхтаваныя струны. Крышыць курыную костачку на смычок. Увесь ягоны працэс шчодра паліваецца барвовымі юхамі з насавога правалу сярод натхёнага, скіраванага да сімфанічных вышынь твару.

І вось, крэшчэнда задавальнення – гатова скрыпачка!

Толькі яна не грае.

Не выдае гукаў.

Смычок жаласна пішчыць ды рвецца.

Крывавая, амаль чорная юха залівае Качанідзеў твар.

“Няўжо мой злы геній пакідае мяне?!” – рве скруха сэрца зажуранага музыканта. “Няўжо мне й далей гібець у гаротным Гатымлянску ды не выйсці ніколі на сцэны неабвержнай, здабытай крывёю і потам славы?!”

І толькі наш Толік узгадвае аб крыві, як тая пырскае не толькі з носа, але з вушэй, вачэй, з перакрыўленага скрухаю рота і нават сочыцца з адзення ды скуры. І тут літаральна ўсё гэта – пачынае граць! Вытанчанай, узнёслай, бязмежна-нябеснай сімфоніяй. Гукі ахінаюць, лашчаць, пераліваюцца ды перакочваюцца скрозь прастору й бязмежжа. Шчаслівая ўсмешка не зыходзіць са знявечанага нечалавечым натхненнем твару Качанідзе. “Якое ж не дарэмнае, асэнсаванае жыццё пражыў я на гэтай зямлі!” – думае ён і правальваецца ў несканчальную вечнасць.

Падаюць мёртва і ўсе ягоныя суседзі, не вытрымліваючы страшэннай какафоніі ды гукавога сэрцаразрыву, што даносіцца з кватэркі Толічка. Яны татальна страляюцца – хто з чаго, і толькі гільзы ляцяць на падлогу.

Паволі ўсталёўваецца непарушная цішыня.

Наступным днём кожная гільза, кожны нерастрачаны патрон ператвараецца ў жывое, цёплае немаўлятка. Немаўляты растуць, што твае грыбочкі, і кожнае мае такую ж насюрку-скрыпку, якую выразаў калісьці апрацоўчым нажом Толік Качанідзе. І кожны той носік выводзіць цудоўную, незабыўную, поўную шчасця мелодыю.

## Тэлефон

За сняданкам я глынаю тэлефон. Ну, здараецца такое. І цяпер сувязь мая з Сусветам – ад пуза. І цяпер маё пуза – і ёсць Сусвет. Паколькі тэлефон – жытло і модлы нашыя. Усё адзінае і непадзельнае ў Сусвеце гэтым.

Толькі няма ўжо Сусвету. А телефон – пішчыць бесперастанку.

## Цуд

Сержык Макулька прачынаецца ад таго, што плача. Плача Сержык ад шчасця. Бо ў яго замест пальцаў – кветкі. Буйныя. Пахнотныя. Надзвычайна-галавакружныя. Яшчэ ноч, але Сержык падымаецца. Ідзе на кухню, бярэ шырокую сінюю місу ды апускае туды рукі. Бо ж кветкам трэба піць.

Кветкі напіваюцца і ператвараюцца ў гнуткія калючыя драты. Тонкімі піяўчынамі гэтыя дроты цягнуцца-ўпіваюцца Сержыку ў шыю. Той спрабуе крычаць, але дарэмна. Калючыя дроты сцягваюцца ўсё мацней ды глыбей.

– Ну што, яшчэ шчаслівы? – раптам сыкае яму ў вуха самая галоўная драцяная піяўчына.

– О так! Я бачыў цуд! – з апошняй задыхі мармыча Макулька.

– Мы й ёсць гэты цуд, дурында!

Самая галоўная драцяная піяўчына тыцкае ў вуха вострым кончыкам ды прабівае галаву да мазгоў. Сержык крычыць, падае і... зноў бачыць замест пальцаў – кветкі. Нешта там парушаецца, у ягоным мазгу, зрокавы цэнтр дае капітальны збой.

...А калі ўсё сцішваецца і драты-піяўчыны некуды знікаюць, Сержык разумее, што яму жыць яшчэ доўга-доўга. І бачыць навокал – выключна шчаслівы свет. Бо Макульку ягонага шчасця – ужо хапіла.

## Элекатраток

Мяне злізвае карова. Дарэшты, дашчэнту. Як нейкага мураша, што трапіў ёй на язык.

Ну, злізвае, а далей? А далей я грымнуўся ў сеткі каналізацыі. Якія вядуць да раю. Толькі не да таго раю, што з яблыкамі. Мой рай з калючкай, што мае электраток. Электраток б'ецца. Ды так, што ўпадаеш у экзальтацыю. І радуешся, што аблачына разразае цябе, нібы масла. Масла пячэ на губах і мае смак сапрэлай гумы. Калі доўга насіць на галаве й дыхаць у бот. Такая тут забаўлянка. Яшчэ – укручваць у вочы лямпачкі. І не даваць ім патухнуць. Таму што вечная светлата павінна быць, як карова. Свяшчэннае мяса. У адрозненне ад мураша, які адно здатны на выбар хімічнай прадукцыі. Карысць, але не ідэя.

Толькі той, хто гатовы аддаць селязёнку за чорны рамонак, – трапляе ў рай.

## Эрапланскае

Толічку Канапацкаму давяраюць соты эрапланскі палёт. Гэта ганарова і спакушальна: паколькі першыя 99 палётаў паспяхова згарэлі й выпарыліся назаўжды ў неабсяжных касмічных прасторах. Канапацкі аж зажмурваецца: так яму кладзецца на сэрца давер той. А зажмурыўшыся, пачынае рыхтавацца.

Бо Толічак ніколі не быў эрапланістам. Ён быў рыбаром, філатэлістам, курыльшчыкам, заліўшчыкам чыгунія ў роднай сваёй ліцейцы, аматарам па дзеўках, шніцэлялюбам, носьбітам клёшаў, анекдотчыкам, умераным песімістам, травазнаўцам ды адданым прыхільнікам усіх пачынанняў дзяржаўнае ўлады.

Таму ў будучы эрапланскі палёт ён найперш рыхтуе духаўздымны, непераможніцкі верш:

Эрапланскія палёты!
Дзе ты? Як ты? Цыцкі! Хто ты?
Чорны соты эраплан!
Канапацкі – капітан!

Прыпадаем да крыніцы:
Гой, Айчына! Цаца! Цыца!
І касмічны катаклізм.
Мы будуем камунізм!

Напісаўшы апошні радок, Толічак шалее. І нарэшце разуме місію. Усё іншае – скафандры, ежа, паліва, пускі, апошнія адлікі – не мае вялікага значэння. Значэнне мае толькі адно: сотка не схібіць! Сотка ляжа апошнім довадам на стол святаяннае мроі. Ці будзе апошнім цвіком у труну загнівання.

І Канапацкі – робіць эрапланскі старт. А калі секундамеры шчоўкаюць на познамцы “0” – Толічку імгненна, зларадна, чмякна-смачна ды незваротна – засмоктвае сусветная цыца. Бо няма чаго пісаць вершыкі, дзе зашыты існы касмічны код.

## Бі!

Ты дыванок ці выбівачка? Ты не пытайся – бі! Там разбярэшся. Там будзе бачна. Бо калі дыванок – трымай дзюру на грудзь ды радуйся. А як выбівачка – лётай ды праклінай!..

Таму як герой – гэта не шчасце. Гэта праклён за зло. Магчыма, зробленае не табою. Часцей – не табою. Аднак з’ядаючае – цябе.

Праўда, ёсць сродак. Супрацьстаяць. Не паддавацца. Не заўважаць, як кроў ператвараецца ў бітум. Бітум – расплавіцца, кроў – не. Той сродак ведаеш толькі ты. Можна пачуць агульныя словы аб “старане святла”, толькі ў кожнага – свая цемра. Як і неба, калі верыць нацыянальнаму драматургу 90-х мінулага стагоддзя Міколу Арахоўскаму. Як і мяжа, што злучае, яднае святло і цемру – калі не верыць нікому.

Чалавек, што не верыць, дыванок ці выбівачка? Ты не пытай – бі! Не можа быць веры без пылу, пылу – без дыванка, а цвёрдасці вынішчэння веры і пылу – без выбівачкі.

Часта з вадою ісціны выліваецца й немаўлятка. Не памятаю дакладна, як гучыць гэты выраз. Толькі ніводная ісціна – не вартая вылітага ў бруд немаўляткі.

## Прусак

Яшчэ не забылі гісторыю Змітра Бздуры? Таго, што Каляндар складаў. І якога засмактала ў... самускую шчыліну-кропку нараджэння ўсяго існага (самі ведаеце што). Дык вось, нейкім цудам ён тады зачапіўся за край... самі ведаеце чаго і не зрынуўся-ткі ў адвечны нябыт. А калі зноў апынуўся ў блаславёных промнях Боскага прасвятлення, дык першае, што зрабіў, наняў прусака-гітарыста. Каб той граў яму Узнёсла-сцвярджальны гімн Найшчаслівейшага жыцця. І прусак зайграў! І Бздура заслухаўся.

Заслухаўся так, што нат не заўважыў, як хітрэнны прусак запоўз яму ў вуха. і працягваў там граць. На ўдарніцкай сваёй рок-гітары. Да азвярэння, кончы, разрыву.

І Зміцер Бздура звярэў і канчаў. Крычаў, вішчаў, дзічэў і задыхаўся. І маліў прусака спыніць шалёнае тое гранне. Бо не цешылі яго ўжо аніякія гімны. Хацелася спакою і цішы.

Ага, шчас! Прусачынае гітараванне ўзносілася ў нейкае крэшчэнднае піке, у разрыўную навылёт ноту. У такую жорстка-вар'яцкую ноту, што спачатку ў Змітра ўзарвалася перапонка, потым покнула бобінай галава, і зваліўся ён на зямлю, нерухомы.

І памёр Бздура, нібы й не нараджаўся на свет белы. Нездарма кажуць: ад лёсу не ўцячэш.

А прусак вылез з вуха знакамітага складальніка календароў самотны. Бо каму ж цяпер граць?..

Яўген Кунцэвіч



...павер у беспакаранасць
і ў вечнасць сваю павер...

# Небалючае сонца

## [перавызначэнне паэзіі]

*В. Г.*

пошаптам крыкамі лямантамі
з мернаю вечнасцю вежаў
ядам крывёю атрамантам і
вераю пішуцца вершы:

волкія вочы сусветлівыя
вымаўчаць рэчы павінны
каб неславеснымі петлямі
выплесці мовы тканіну:

свет незаўважна прашые ў нас
голкай пакут свае рысы
пройдзе кравец па душы не раз
швы не шукай – бескарысна:

словы з глыбіняў барочных
мкнуцца гатычнымі кірхамі
мова вядзе да праночыны
й кідае ў радасць за шкірку:

лёс адпускае на волю раба
і ты стаіш як прывезены
шнары збялелі і боль прапаў
а засталася – паэзія

## [варажбітка]

варажбітка збірае ў кошык лясныя пошапты
варажбітка не памятае навошта яна пад шатамі

варажбітку ведаюць вожыкі вельмі важныя
варажбітцы працяжна пяюць паўзункі пацешныя

варажбітка драпежнікам загадала не зявіць пашчы
і старое ліха з лесу выгнала ў пушчы

варажбітка збірае на сцежках птушыныя косткі
на іх у вагні праступаюць добрыя весткі

хутка прыйдуць маўляў у лес маленькія непаседы
і паселяцца непаседы ў лесе ўжо назаўсёды

варажбітка цешыцца з добрай весткі
ходзіць на ўзлеску сцежкамі прыбірае пасткі

лёзы лёсу пасеклі цябе мой лесе ты стаўся дзікі
ацалілі цябе мой лесе жывыя слёзы старыя рукі

зберагла я цябе мой лесе мілы сівы суседзе
сустракай непасед маленькіх як морак сыдзе
а сяброўку сваю сівую пакінь у старэнькім садзе
мне шчаслівай службітцы лесу старэнькага саду годзе

варажбітка сядзіць на беразе шумнай рэчкі
адчувае як зораць усмешліва знекуль блакітныя вочкі
і нарэшце можа знябытыя звесці павекі

хай пільнуюць сцежкі твае мой лесе вясёлыя крокі

* * *

каб хто распавёў мне што я ў гэты свет нясу
я б дадаў гэты сэнс да астатніх у кніжыцу запісную
а пакуль: мяне пазнаюць знаёмыя – *ergo sum*
а незнаёмцы на вуліцах ловяць позірк – і я існую

але сэрца б'ецца ўнутры як фіранка ў дождж
так бязважка так ненадзейна й сонна
што любая ноч – гэта проста любая ноч
і любое сёння перацякае ў любое сёння

калі свет дакранаецца да рукі як прастылая прасціна
і шапоча ўвушшу наскальнымі скразнякамі
далягляд аблупляецца ззаду як з фарбы сцяна
так малюнак з далоні і зрэнкі з вачэй знікалі

але зноў б'е залева ў вочы дзьме вецер у твар
невядомы сабака ўткнецца ў нагу мне пысай
пранясецца грымотны цягнік і аслепіць уколамі фар
рыба плюхнецца ў вострай вадзе каля самага мыса

і я ўспомню што свет магутны смяшлівы й злы
гэта поўха яго для мяне, бо забыў сяброўства
ён пабачыць заўсёды калі ты заблытаў вузлы
і падняўшы за шкірку паўторыць сваё "ўсё проста"

* * *

спачатку я жыў
у сляпучым і травяным
шчасліва-зялёным леце
быў нябачным дакладней
яшчэ празрыстым
а людзі здаваліся ўсмешкамі

пасля надышла –
адно не пытайце як –
па-халоднаму ціхая
позняя ветраная
восень самапаглыблення
я зрабіўся маленькі й цвёрды
а людзі-ўсмешкі прыдбалі
выразы твараў

вятрыска
мінаўшы вушы
упарта казаў рыхтуй прытулак
і я ведаў –
бо стала каму ведаць –
што трэба шукаць зімоўе
што дарога дамоў
яшчэ нават не пачалася

зімоўя нідзе не знайшлося
але зіма надышла нястрашнай
з гультаяватым свабодным сонцам
устаўленым у блакіт
балючай мэтай усіх паглядаў
(мажліва таму нас так вабіць
поўня ўстаўленая ў цемрыва
што яна небалючае сонца?)
я зрабіўся
свядома празрыстым
і навучыўся сканчацца там
дзе сканчаецца думка пра свет
а людзі...
напэўна таксама былі
і адна з іх нават цалавала
мае горкія ад тытуню вусны

за тым як нахабна
паўдзённае сонца зімы
змяняе ранішнюю восень
а потым хаваецца ў яе хмаравітых вятрах
відаць надыход новага лета

гэтак будзе шматкроць

ды найболей усё ж непакоіць
тая неспяшлівая
няхуткая
другая ў маім свеце вясна
калі я ўстану суцэльным “ёсць”
і мяне зноўку папросяць
нарадзіцца
куды-небудзь
яшчэ

* * *

рукі ў кішэні
крокі ў туман
горад яшчэ не
скрала зіма

колерам волкім
Хтосьці нанёс
цьмянае вока
пыльных нябёс

з вокнаў паснулых
нас не віда...
ўсё што існуе
гэта вада

робіцца скура
вострай імжой
носяць абскуры
восені жоўць

высі ўскішэлі
блізка зіма
рукі ў кішэні
крокі ў тума...

* * *

ты хочаш дрыжаць калі трэба жыць
вось твая мяжа ад яе бяжы
там ківач блішчыць нічыёй душы
там няма цябе там цябе саб'е
іншыня бязмежжа

не заплюшчвай воч назірай ківач
боль пакінь наўзбоч і сабе прабач
тут цябе няма там шукаць дарма
дзе сябе згубіў там не падымай
толькі боль пакінь там

ты магутны зман мігатлівых змен
столькі наўспрымаў што амаль знямеў
столькі жыццяў звёў столькі выкаваў звён
ланцугоў няісных

што тваіх кайдан не парваць гадам
з месца нікуды хто іх ні гайдаў
ты між там і тут да сябе прыкут
назаўжды – памежны

* * *

*Что сказать мне о жизни? Что оказалась длинной.*
**Іосіф Бродскі**

што сказаць пра маё юнацтва? што ўсё чакаў
калі скончыцца гэты час што нібы шакал
спрабаваў падступіцца да нашых знямоглых жыццяў
і штораз калі ён набліжаўся я не хацеў
слухаць як мае каты лаюцца ў духаце
галавы: чаму на пласе яшчэ не ляжыце!
не ляжу бо хачу і далей проста вершы свае пісаць
не запалошча мой плашч ні зефір ні дзікун-пасат
і не стану праз межы па будучыню катацца
галава мая робіцца цяжкая як бязмен
хто мне крыкнуў: а каб ты жыў у эпоху вялікіх змен? –
як праклінаді да нашай эры адно аднаго кітайцы
ліхалецце адсутнасць часу дзе ха і хны
аднолькава бессэнсоўныя і маёй віны
тут няма як нічыёй урэшце
загадайце заткнуць сабой ліхалетны люфт
і пакіньце без маладосці але зямлю
пад мысленнем прашу не трэсці
і пакуль над ёю лунае Чыясьці постаць жывая
якая спявае то амэн то ом намага шывая
будзе спяваць любая душа-бяссрэбніца
што заспею а што не адкрыецца ўжо няваж-
на шчасце, пустыя часы, я не ваш як ніхто не ваш
а жыццё пасля вас будзе доўгім
наколькі спатрэбіцца

* * *

ці наўрад я змянюся калісьці
і наўрад ці знайду сабе дом
буду ціхім як волкае лісце
і расплюшчаным як небаём
бо няздатны на выкрык я – пошапт
то маўчацьму то нешта пісаць
каб мінуць па шляхах мованошаў
век свой нібы брахлівага пса

* * *

маладзік – усмешка без ката
аладзін адзін жыве ў палацы
той крумкач што ў дзверы грукатаў
заўтра толькі дзюбаю паклацае

кожны тут збірае камяні
ў дні эклезіяста раскіданыя
часе, калі можна абміні
гэтай маннай – гэтымі кайданамі

часе, я знямоглы твой мінак
берагу нічыйнае каменне
вокал распаўзаецца мана
й ад мяне захоўвае ўсё меней

як пражыць што век мой прынясе
не распавядалі ў даўняй стоі
паўпразрысты розум пакрысе
паглынае цьмянае й густое

ды пакуль глыбока пад ільдом
прачынаецца ўваскрослы ктулху
будавацьме будучыні дом
той хто застанецца без прытулку

* * *

*А. Р.*

мне ніколі, відаць, не зрабіцца простым, як ні выпроствай
і ніколі не стацца мне цэлым, як ні ацаляй
гэта не прышлы заклён не старое прароцтва
гэта закон безназоўнага, крохкага, як парцаляна

як старанна прытомнасць і чуласць сваю ні скасоўвай
варта помніць, як вечнасць праглядвала ў лінзах з ільду
што намёрз на вачах тонкай і бессэнсоўнай асобай
і не растане, аж пакі ў наступны працяг не пайду

мы абраннікі тройчы праклятых трывог і глыбіняў
нас палюбілі няісныя страхі і невараці палюбілі
мы замоўлены светам свайму не скарыцца канцу

пасля безлічы найапантанейшых тэм і вар’яцый
ты знайшла сабе дом у сталіцы зямнога вар’яцтва
абдымай маладзік і на знічках вар’яткай танцуй

* * *

павер у беспакаранасць
і ў вечнасць сваю павер
прынамсі на гэты ранак
які на вякі – цяпер
аддайся бялюткай столі
з ціхмянай здагадкай зляж:
чаго не было ніколі
не здарыцца і пасля

* * *

*Анатолю Сысу*

мы дзеці
выраслыя на цытатах
вырваных з кантэксту
жывём нібыта
так можна
нібыта
так можна

мы дзеці
выраслыя на цытатах
вырваных з сэрцаў
найлепшых сэрцаў
знякроўленых сэрцаў

мы дзеці
выраслыя на цытатах тых
ад каго маці
адвяла б нас за ручку
лямантуючы:
“не чапляйцеся да майго дзіцяці!”
на цытатах тых тых самых самых
“не размаўляй з незнаёмым дзядзькам!”
і
“будзеш дрэнна вучыцца, зробішся як ён”

мы дзеці
выраслыя на цытатах
аддадзеных нам
цукеркамі ад незнаёмцаў на вуліцы
злюцела добрых незнаёмцаў на вуліцы
на вуліцы
бо ў актавых залах крычаў

не апошні з народных
“падлюга прыбярыце адсюль гэтага падлюгу ах маё сэрца!!!”
дый на вуліцы галасілі:
“адыдзі ад нашага сына, брудны тупіца!”
брудны тупіца

мы дзеці
выраслыя на цытатах
вырваных з розумаў
найлепшых розумаў
знядумленых розумаў
і яны не звядуць нас
“у невядомым кірунку”
ім нічога нічога
не трэба не трэба
акрамя нашай
памяці памяці
акрамя нашай
самастойнасці
нашай
самастойнасці

мы дзеці
выраслыя на цытатах
вырваных з кантэксту!
адпусціце мяне цытаты
нават з думкаю ў галаве!
нават з думкаю ў галаве
мы дзеці
мы дзеці
мы дзеці

## [купалінка]

ад цябе пахне вогнішчам *пасьбішчам*
надвячоркам купальскай рачулкаю
старажытным вядзьмарствам марнасцю
зораў разорай на досвітку
штораз новай турботай гарбатай
запаранай з цэдрай
*et cetera*

ты адтуль дзе спынілі часовасці жорны
не варожаць на будучыню над жарам
дзе груганы вылупляюцца ў гнёздах чорныя

што твае валасы
і лясы празрыстыя да расы

ад мяне пахне горадам ворагам
парменідам і магабгаратай
мулкім і волкім моракам
пылам з паліцы засохлым на пальцах
спарахнелым у пяльцах шытвом:
так пахне пакінутае жытло

я адтуль дзе не ціха зранку
не прабіць паўпразрыстыя зрэнкі
не спяваць на пажарышчах папараці
і прывыклі не памятаць невараці

але

сёначы мы ў карагодзе
вокал вечнага вогнішча
звонку пачвары ходзяць
чуваць іх воклічы

хай пачвары пакажуць нам свой ашчэр
павядзі мяне за руку ў гушчар
час прапасці ў чароўнае чэрава
на табе вянок а на мне віна
ў ёй няма ні дна ні маны няма
ні мінулага ні імя няма
час пайсці з ашалелага шэрагу

абступіла нас безназоўнае
пракаветнае вечнаўладнае
а над намі нябёсы знязораныя
пад нагамі зямля бяследная
лахманамі зману туман мінае
пакрысе марнееца ўсё зямное
паміж дрэў нязменлівае цямнее

але

купалінка трымай мяне за руку

купалінка нядоўга ўжо да ракі

адступае стомленае сутонне

купалінка сонца маё – світае

Дар’я Палынская



...дзеці выраслі, маладосць прайшла –
і дзеля чаго?..

# “З днём нараджэння!”

***Апавяданне***

Белыя – італьянскія, між іншым! – міжпакаёвыя дзверы ад злоснага ўдару толькі лёгка адспружынілі ад сцяны і проста ціха зачыніліся.

“Нават тут не змог эфектна”, – хіхікнула пра сябе Воля і падміргнула ўласнаму адбітку. Яна сядзела за сталом перад невялічкім круглым люстэркам і дарабляла макіяж. Ёй падабалася, як яна выглядае. Ну і што, што сёння ёй пяцьдзясят. Ну і што, што муж зноўку зладзіў скандал – гэта ўжо не баліць. Сёння яе свята. Да таго ж – Каляды.

Жанчына акуратна склала ўсе слоічкі ды пэндзлікі ў касметычку і схавала ў шуфляду. Пакруцілася трошкі, папраўляючы сукенку, потым нетаропка падышла да ложка. Тут, на яе палове, ляжаў кінуты ім падарунак: чырвоная аксамітная скрыначка расчынілася, адна завушніца вывалілася на посцілку. Воля ўздыхнула: падарунак быў, як і звычайна, зусім не ў яе стылі. Але сяброўкі ацэняць. Асцярожна ўзяла ў рукі, пакратала пальцам каменьчыкі і пачала зашпіляць на сабе. Прыгожая. Дарагая.

– Волечка, як жа я рада!..

– Альбіна, даражэнькая!

Жаночыя воклічы, абдымкі, пацалункі, шоргат вопраткі. Невялікі пакой вітальні адразу стаў цесным, зменшыўся і перапоўніўся разнастайнымі водарамі: кветак, парфумы, прынесенай зімы з вуліцы.

Мужчыны віталіся спакайней – моцныя поціскі рук у суправаджэнні простага кіўка галавой:

– Хрыстос нарадзіўся, Юрык!

– І цябе са святам, Мікола! Эт, пастарэў жа ты!..

Коля ўручыў гаспадыні вялікі букет, які выцягнуў з-за спіны:

– Волечка, дарагая ты наша! Прымай віншаванні! З днём нараджэння! Расці вялікая, здаровая і шчаслівая!

– Каб дзеткі радавалі, унукаў большала і ўсё цешыла! – палымяна дадала Альбіна. Яна лёгенька абняла Юрыя і працягнула сяброўцы прыгожы пакет, у якім угадваліся контуры вялікай скрынкі.

Вольга пасміхалася, дзякавала, паўтарала звыклае: "Ну што вы, ну навошта..." – пакуль госці распраналіся і разуваліся. Потым падхапіла сяброўку пад руку і павяла за сабой – у вялікім пакоі іх чакалі Аляксандр і Ала. Мужчыны пайшлі следам.

Іх кампанія сябравала, фактычна, усё жыццё: яны нават выраслі ў адной вёсцы. Але з цягам часу бачыцца выпадала ўсё радзей, і апошні раз яны збіраліся гадоў з пятнаццаць таму. Сёлета Воля адзначала юбілей (а яна нарадзілася роўненька на Каляды), і высветлілася, што на святы ні ў каго няма планаў.

Воля скарысталася паўзай, пакуль госці былі занятыя ўзаемнымі прывітаннямі, паклала падарунак, дастала хрустальную вазачку на кветкі. Яна паставіла падораны букет на камоду, у кампанію да ружаў ад Алы і Сашы. Задаволена агледзелася вакол, быццам спрабуючы зразумець як бачаць яе дом госці: свежы рамонт, высокая ялінка пад столь, якую яшчэ да святаў дзеці з унукамі ўпрыгожылі буйнымі цацкамі, падрыхтаваны, застаўлены бутэлькамі і талеркамі стол... Выглядала ідэальна.

Госці таксама паспелі агледзецца, хаця больш – адзін на аднаго. Звонку яны ўсе пастарэлі, але і жарты, і жэсты, і выразы ў іх былі такія ж, як і ў вясёлыя гады маладосці. Гэтая звязка новага і старога ап'яняла, хвалявала, размовы пераскоквалі з аднаго на другое, перарастала ў хвалі агульнай эйфарыі ад сустрэчы. Першым з гэтага вэрхалу эмоцыяў вырваўся Юры і гучна заклікаў:

– Ну што, мужыкі, мо па чарачцы? Чаго яе грэць!..

Бяседа закіпела. Гаспадыня ўрачыста прынесла з кухні вялікую пасудзіну з запечаным гусаком. Усе вохалі, ахалі, хвалілі густоўны выбар стравы і фантастычны пах. Жанчыны не абмінулі папрасіць рэцэпт, хаця кожная з іх выдатна ведала, што гатаваць гэта не будзе – паспелі прыкінуць кошт такой авантуры. Звінелі прыборы аб посуд, крыштальна дзынькалі чаркі і келіхі з венгерскага сервізу. Жанчыны пілі віно, мужчыны гарэлку.

Святкавалі, найперш, сустрэчу. Усё ішло выдатна. Сустрэча была радаснай: яны ўсе змяніліся, безумоўна, але ў галоўным заставаліся такімі ж. Воля ўжо адзначыла звыклы зайздросны позірк Алы на яе новы камплект упрыгожанняў, за які яна пры ўсіх падзякавала мужу. Яна заўважыла сціпласць Альбіны, якая няўпэўнена трымала ў руках відэлец і нож. Але

віно было смачным, гусак атрымаўся лепш, чым яна спадзявалася, і жанчына адчувала сябе нават задаволенай. Вольга зноўку грала сваю любімую ролю – шчаслівай жонкі і шчодрай гаспадыні, шмат смяялася і жартаўліва дакарала мужа. Так, гэтую вечарыну яна дакладна заслужыла!

Аляксандр пакутаваў. Ён мала пасміхаўся, шмат еў і збольшага маўчаў. З першай чаркай выдыхнуў з палёгкай: ён піў увесь апошні тыдзень, і арганізм патрабаваў сваёй дозы. Мужчына спрабаваў ігнараваць роспач унутры сябе. Ён бачыў як касавурыцца на яго Ала, але чаго яна заўсёды чапляецца? Свята, сябры, а ён што, і выпіць не можа?! Яны часта сварыліся, але зараз гэта як ніколі нервавала і выводзіла з сябе. Асабліва горка зайшла трэцяя чарка “за любоў”. Яго ледзь не званітавала ад тугі ўнутры: гэта Воля была яго любоўю. Гэта ён, а не Юры, мусіў сядзець у цэнтры стала і дэманстраваць шчаслівы сямейны пацалунак!..

Юры адарваўся ад жонкі і ніяк не выдаў здзіўлення – яна так балюча ўшчыкнула яго за руку, але і выгляду не падала! От ужо гэтыя бабы. Ён столькі грошай убухаў у падарунак, а тут такое. А ён і паверыў, што памірыліся... Юры разліваў алкаголь і бесперапынна баяў байкі. Ён вырашыў напіцца да бяспамяцтва, каб не чуць пілаванне мозга, калі госці пойдуць. На язык ужо прасіліся непрыстойныя жарты і гісторыі, якія так ненавідзела яго жонка. Міжволі Юры думаў пра сваю палюбоўніцу – яна б не стала шчыпаць яго падчас пацалунка перад усімі, яна б смяялася з яго гісторый да колікаў...

Ала смяялася. Так, што ў адзін момант з яе рота выскачыў кавалачак селядца і зваліўся на талерку. Але гэты вечар вярнуў яе ў маладосць, калі было шмат надзеі, натхнення, прагі да жыцця. Ала зайздросціла сяброўцы: Воля жыла ў прыгожым доме з багатым мужам, добра апраналася, мела пярсцёнкі на руках і выглядала шчаслівай. Ала ж шчаслівай ніколі не была. Аляксандр быў яе другім мужам, і мужам ён быў абы-якім. Можа таму Ала ўжо каторы год мела перыядычнага палюбоўніка з працы. Таму яна піла віно, злавалася, зайздросціла і – смяялася.

Альбіна няспешна шчыпала нагу гусака, прыкідвала, колькі патрацілі сябры на такі багаты стол, і перабівала жарты Юрыя, бо бачыла, як гэта злуе Волю. Альбіна піла няшмат і ўсё ўглядалася ў сяброўскія твары – як жа яны ўсе змяніліся! Яны з Мікалаем былі разам больш за дваццаць год, але сэрца ўсё адно помніла, што з часоў першай дыскатэкі ёй больш падабаўся Юры – нахабны, вясёлы, адчайны. Альбіна ведала, што ён бабнік, і неяк Воля з ёй нават падзялілася сваёй крыўдай, але... хіба не ўсе мужыкі ходзяць “налева”?.. Дзяцей паднялі, жывуць добра. Што яшчэ ў жыцці трэба?..

Мікалай не мог нарадавацца. Ён піў патроху, бо меў аперацыю на страўнік і пачаў беражліва ставіцца да здароўя. Зноўку хацелася быць гарэзлівым юнаком, перад якім адкрыты ўвесь свет. Хто ж тады мог ведаць, што яны так мала разумеюць пра гэты “ўвесь свет”... З іх самым абачлівым апынуўся Юрка, які пайшоў у чыноўнікі і жыў цяпер тут, амаль у цэнтры Мінска. Мікалай жа быў безнадзейным аптымістам па жыцці, бедным і шчырым, але менавіта на ім і ўзнікла калісьці іх кампанія – ён іх аб’ядноўваў, прыдумваў авантуры, збіраў разам.

– Ну, колькі ж будзем есці і сядзець! – нечакана для ўсіх падняўся Мікалай і пляснуў у далоні. – Давайце танцы!

– Угаманіся, ты, танцор, – Юры рагатнуў і пацягнуўся па новую бутэльку. – Стары корч, а нейкія танцы яшчэ надумаў... У нас жа суседзі, калі прыйдуць, давядзецца гарэлкай частаваць! Яно табе трэба?..

– Куды ты пустую на стол ставіш, піток?.. Танцы з маладымі трэба танцаваць, – буркнуў Аляксандр і атрымаў лёгкага кухталя ў плячо ад жонкі, але нават не паглядзеў на яе, толькі паморшчыўся.

– Уключай, Колечка! – у адзін голас загаласілі Ала і Воля. Яны сядзелі блізенька на канапе, з келіхамі, расчырванелыя, вясёлыя? і перашэптваліся, смяяліся. – Давай, уключай караоке! Спяваць будзем!

Падагрэтая кампанія чакала новай забавы. Мікалай смяяўся ў вусы і пстрыкаў пультам, але ні караоке, ні танцаў па тэлевізары не паказвалі.

– Ну вось табе і тысяча каналаў! – цокнуў ён языком і расчаравана развёў рукамі: – Таварышчы, выбару няма – будзем самі спяваць!

– Што, аж тысяча? – з падколкай зазначыў Аляксандр.

– Саша, я табе што скажу, – Юры нахіліўся да яго праз стол і гучным шэптам абвясціў: – А якіх там баб паказваюць!..

Аляксандр засмяяўся і адкінуўся на спінку канапы.

– Ну, паскудства, за сталом! У Каляды! – абурылася Вольга, яе падтрымалі сяброўкі, і гаспадар, скрозь смех, капітуляваў:

– Усё-ўсё, дзевачкі, у гэты вечар толькі пра вас!

Мікалай кінуў пульт на стол, вярнуўся на сваё месца і, узяўшы ў рукі чарку, зацягнуў: “О-ой, мароз, маро-о-оз”. Ніхто, само сабой, не падхапіў, але засмяяліся, запляскалі ў далоні і аб’явілі новы тост – зноў за імянінніцу.

Размова пайшла сваім ходам. Стол падзяліўся напалову. Мужыкі завялі гаворку пра палітыку: канфлікты, крызіс, рэвалюцыя, хто вінаваты і як трэба было; жанчыны размаўлялі пра сваё – як дзеці, што новага, калі чакаць унукаў, абмяркоўвалі нявестак і зяцёў.

– Не, хлопцы, харэ. У Каляды, святы дзень, не будзем тут дэбаты разводзіць, – Мікалай сурова махнуў рукой у бок сяброў, перапыняючы іх размову, якая імкліва нарастала ў гучнасці.

Аляксандр, ужо добра паднабраўшыся, нервова матляў нагой і быў увесь чырвоны. Ён быў гатовы нават пабіцца з Юрыкам, якога справядліва лічыў сам сабе “лаяльным” і “праўладным”, але сабраўся, устаў і моўчкі пайшоў на балкон паліць.

– Эх, твая праўда, Міколка... – Юры лёгка пахіснуўся, пацягнуўся па бутэльку, стаў разліваць па новай і ўклініўся ў размову жанчын: – Манька там не нарадзіла ваша?

– Не! І чаго яны цягнуць? – Мікалай развёў рукамі, Альбіна сумна заківала.

– Дык мо не ведаюць, як, – загагатаў Юры і радасна дзынкнуўся з салідарна паднятай шклянкай з сокам Мікалая. – Ты зяцю там лікбез зладзь, ну!

– Ідзі ты, – махнуў рукой Мікалай. – Гэтай маладзёжы што ні скажы, яны ўсё лепш ведаюць! Толькі гыр, фыр, і ўсё тут...

– Да-а.. – нецвяроза працягнуў Аляксандр, заходзячы ў пакой і прабіраючыся на сваё месца на канапе. – Маладзёжы зараз трэба толькі камп’ютары і грошы, і ўсё.

Усе ўздыхнулі, прыціхлі, задумаліся. Узнікла тая самая паўза, якая бывае ці не на кожнай вечарыне – кароткая перадышка перад новымі выбухамі

смеху, перад новай гарачай тэмай, кароткі момант цішыні і спакою. Кожны задумаўся пра штосьці сваё, а Ала ўзяла пульт і пачала хутка пстрыкаць каналы. На чарговым пачыналася знаёмае ім ТВ-шоу – Малахаў у модным гарнітуры заклікаў усіх хутчэй раздзяліць з ім суперунікальную тэму яго выпуску.

– Ай, Алачка, пакінь, ну што іх глядзець... Што ты, дома целевізар не паглядзіш?.. Можа, патанчым? – Юры быў ужо добра нецвярозы і махаў гусаковай косткай у руцэ. Раптам ён пераключыўся на тэлевізар: – Во... гэты клоўн... як там яго, ну такое ўжо выдае!.. Слухай, я быў пасля работы ўключыў...

– Не, ну ты толькі паслухай... – агаломшана перабіла яго Ала і зрабіла гучней.

Наступнае так уразіла кампанію, што яны не адразу зразумелі, пра што размова.

– Паліаморы?.. Гэта хто? – няўпэўнена перапытала Альбіна.

Аляксандр пражаваў кілбасу, запіў вялікім глытком з чаркі і рэзюмаваў:

– Ну ты і дзярэўня! Ты чым слухаеш? Гуляюць і здраджваюць у адкрытую.

Юры загагатаў, яго смех падхапілі Мікалай і Аляксандр. Ала і Альбіна хмурыліся і рабілі выгляд, што ніхто з іх не заўважыў цяжкі позірк Волі на мужа.

А ў студыі тэлешоу тым часам сядзела маладая жанчына і распавядала пра тое, што яна жыве з мужам і дачкой, але ў яе таксама ёсць любімая жанчына. Што яна блогерка, расказвае пра секс-прылады і сваё жыццё ў сацыяльных сетках. Уся яе гісторыя, здавалася, трапляла ў гэтую кватэру чымсьці іншаземным і незнаёмым, і кампанія, на момант аслупянеўшы, уважліва слухала. Яны такія звычайныя, за гэтым сталом, каля ялінкі, пад абразом у кутку – сядзяць і слухаюць пра адкрытыя стасункі між трыма людзьмі: як яны ўсе вандруюць разам, складаюць графікі пражывання і выхоўваюць дзяцей.

– Цьфу, блін! – першы не вытрымаў Юры і рашуча схапіў бутэльку. – Дажыліся.

– Па тэлевізары... Такое распуства... – падтрымала Ала, дэманстратыўна закрываючы твар рукамі.

– Коля, ты чаго? Ой, увесь чырвоны аж, – спужана войкала Альбіна, падліваючы мужу соку ў кілішак і лёгка абмахваючы яго сурвэткай. – Ідзі твар умый, на балкон паветрам падыхай!..

– Не, ну такое... у Каляды... Гэта што ж цяпер, нармальна?! Шча яшчэ і гэтых, як іх... можа пакажуць?! – злосна выціснуў чырвоны, як бурак, Мікалай.

– Ты чым слухаў? У яе баба ёсць! – рассмяяўся Аляксандр. – Яны, выходзіць, гэтыя – лесбіянкі!

За сталом паднялася хваля абурэння. Тэлевізар пераключылі (на наступным канале якраз пачынаўся канцэрт Кіркорава), выпілі па новай, памаўчалі, а потым неяк разам пачалі выказвацца: пра мінулае і сучаснае, пра моладзь, пра распусту і амаральнасць. Абуралася Ала, Коля цяжка дыхаў і нават выпіў залпам чарку, Альбіна задумалася пра тое, колькі ўсяго такога яшчэ ёсць у інтэрнэце, Аляксандр і Юры ўзгадвалі нейкія – нармальныя! – гісторыі здрадаў і адносін, калі без “вось гэтага ўсяго” людзі абыходзіліся.

Волю агарнула незразумелая туга і самота. Юры якраз расказваў нейкую "нармальную" пікантную гісторыю, якая верагодна была яго асабістай. Альбіна паднялася з келіхам, падышла да вакна і ўгледзелася ў чорнае люстра перад сабой. Размова за сталом прыходзіла да салідарнага кампрамісу, але яна не слухала.

Злосць не праходзіла. Выпітае віно шумела ў галаве, падагравала эмоцыі. Было шкада сябе, было шкада пражытага ў хлусні жыцця. Дзеці выраслі, маладосць прайшла – і дзеля чаго? Яе муж, які ўжо не аднойчы спаліўся на палюбоўніцах, сядзіць і пырскае слінай на нейкіх людзей з экрана, якія ўвогуле з іншай краіны. Каляды прыплятае. Каляды... З іх кампаніі мо толькі Мікалай і праўда верыў, у царкву дык толькі ён з іх і хадзіў. А вунь якія, абураюцца, халера.

Яна не магла стрымацца:

– Блін, Юра. Ты паглядзі на сябе, га? – жанчына павярнулася да кампаніі, загаварыла злосна і гучна. – Што ты іх абмяркоўваеш? Яны хаця б не хлусяць направа і налева. А вы што, лепшыя, ці раз за ўсё жыццё любілі? Ці налева ні разу не хадзілі? Чым вы не тыя ж паліморы, паліяморы, чорт бы гэта ўсё пабраў?!

– Воля! – грукнуў па стале Юры і паспрабаваў падняцца.

Яна адчула, як сціскае шыю новая падвеска, учапілася, задыхаючыся, рукой, намацваючы замочак, і крыкнула яму ў твар:

– Што?! Хіба мы з табой не такія ж паліяморы? Паглядзі, увесь горад ведае пра тваіх сакратарш! Я пра іх ведаю! Кожны мне лічыць абавязкам данесці, дзе ты і калі з кім цягаўся! Дык што мы, іншыя ад іх?! Тваю маць, за што мне гэта?! Ганьба! Гэтыя, – яна махнула рукой на тэлевізар, – яны хоць маладыя, а ты? Ну куды табе гэта ўсё? А мне?!

Замочак не паддаваўся, і яна ўсе тузала рукой за ланцужок, які здаваўся зараз ашыйнікам...

– Воля! Во-о-ля! – працяжна клікаў хор галасоў, за спінай выбухнуў смех. – Ты тут?

Жанчына каля вакна задуменна здрыганулася і азірнулася.

Кампанія сядзела за сталом, размова ішла ўжо пра ўладу і кошты. Юры, махаючы над сабой рукамі, весела іржаў:

– Ты што там завісла, салюты выглядаеш ці молішся?

– Ой, ідзі ты, – паморшчылася яна і пасміхнулася да ўсіх, ліхаманкава прыдумляючы, што б сказаць. – А вы чаго нічога не едзіцё? Ой, пайду яшчэ нарэзкі падрэжу! Юры, што ты за гаспадар, у людзей чаркі пустыя!

На кухні было ціха, мільгала гірлянда на вакне, дзесьці і праўда пачалі выбухаць салюты. Вольга дастала з лядоўні каўбасу, сыр, але ўсё не магла зразумець: тое, што ёй толькі прымроілася гэта, а не сапраўды адбылося – усё ж добра, ці дрэнна? Сэрца калацілася, але думкі міналі адна адну павольна і лянотна, блыталіся.

Нечакана для сябе жанчына засмяялася, падняла свой келіх, які так і трымала ў руках, адсалютавала абразу Хрыста ў куце і прашаптала: "З днём нараджэння!"

Андрэй Козел



...крок свой раблю у надзеі, што сцежка
наступная стане не горшай, а лепшай...

# На раздарожжы

* * *

Ну вось і ўсё. Парог расстання...
Хвіліны цікаюць, яны
адпрэчаць час наканавання,
мой час загойвання віны.

Ну вось і ўсё. Прыступкі болю
цяпер адзіны напамін,
які прыдуманы не мною,
які магчымы тут адзін...

...Адзін вядомы і магчымы,
як можа быць адзіным сцяг,
які забыць няма прычыны, –
надзеі, веры, болю шлях.

* * *

Мне трэба сёння цішыні.
Я не хачу пачуць і гуку.
Хачу сядзець і з вышыні
радкі запісваць без прынукі.

Мне вельмі важна, каб паўсюль
так цішыня запанавала,
каб агарнуўшы ўсю зямлю,
яе мне раптам стала мала.

Хачу – каб ціша і спакой.
Няхай самота, адзінота,
і шчэ глухі і востры боль
мне словы скажуць для блакнота.

І будзе – вечар, холад, чай –
і акрамя – нічога побач.
Хай унутры – пусты адчай,
няхай да горла прыйдзе горыч.

Так будзе лепш занатаваць,
што мной забудзецца наўрад ці –
пра тое, як баліць душа,
аб тых, хто ёсць, каго я страціў.

* * *

І нічога больш не засталося.
Толькі хмары, слота, толькі восень.
Лепшых дзён халодныя разлікі
патанаюць, як марскія блікі.

Толькі блікі ёсць, і больш нічога:
цемра, ноч, далёкая дарога.
У канцы дарогі – нешта злое:
замярзаюць мары, стынуць мроі.

Толькі мроі. Так, напэўна, мроі...
Я забыўся ўжо і на такое.
Бо нічога больш не засталося.
У сябе пытаю – ці не лось я?

Недарэчна ставіцца пытанне,
знікла ўсё, тым больш жаданне.

Вельмі шмат чаго яшчэ прапала,
распавёў бы я, ды часу мала.

Так, і час таксама прападае.
Дапішу я гэта – ён растае,
пустка застанецца. Так, пустэча,
шлях апошні, а за ім сустрэча –

дзе нічога больш не засталося, –
сонца, неба, ветру і калосся.
Там, дзе мы даўно захраслі ў глеі,
у абдымках сціснуўшы надзею.

* * *

Так доўга жыць са сваёй адзінотай,
што свет змяніў напрамкі напрамкаў,
і на сцяне пазмяняліся фота,
іх фарбы, твары, колеры, рамкі.

Ніколі твой не пачуецца голас!..
Мне не ўзгадаць яго перагукі.
Я церушу, нібы гэта колас, –
спрабую грэць скалелыя рукі.

Настолькі доўга не бачыць усмешкі,
якую больш ніхто не заменіць!..
Мой дом існавання мае прамежкі.
Здаецца, іх ужо не запеніць.

Настолькі доўга – ні побач, ні разам...
Што гэты стан не мае шчэ слова.
Быць ці не быць?.. Не скажаш адразу:
гэта не можа мець дзеяслова.

* * *

Джон – чалавек без мэты,
без лёсу і без імпэту.
І кожны, кожны пра гэта
ведае, толькі маўчыць.
Джон – чалавек немагчымы,
без дай на тое прычыны
ён піша першай жанчыне,
сэрца яго так баліць!..

Джон бавіць час на падлозе,
ён піша нешта у прозе,
са шклянкі п'е у знямозе
тое, што добра гарыць.
Джон крэсліў нешта і правіў,
ён кропкі ды коскі паставіў,
але Джон не ведае правіл,
і іх яму не забыць.

Джон піша ліст у спякоту,
сёмым абліўшыся потам,
напіша, паплача, а потым
па доме ходзіць, снуе.
Джон як закладнік былога,
і на канверце так строга
ён піша адрас, якога
ў свеце не існуе.

* * *

Стаяў, скрыжаваннем зачараваны,
старыя лічыў і новыя раны.
Я думаў – куды мне падацца цяпер,
нібы ўпаляваны, паранены звер.

Вядома, што больш не адпусціць горад –
ні ў сонечны дзень, і тым больш у холад.
Ён нас атуліў квадратамі сцен,
палоніў учора, палоніць цяпер.

Ды што я забыўся на раздарожжы?
Магчыма, на ім апынаецца кожны?
Стаю і гляджу ўсё на пройдзены шлях –
чытаю на ім пра пакуты і жах.

І крок свой раблю у надзеі, што сцежка
наступная стане не горшай, а лепшай.
Ды гэта дарога не будзе без куль,
як іншыя тры, што выходзяць адсюль.

* * *

Нібы з калоды карт апошні туз,
на вуліцу ён выйшаў, ў сэрцы – груз,
у галаве – набор радкоў на розны густ
з любімых кніг – Разанаў, Бродскі, Пруст.

Каму сказаць цяпер, што ты паэт,
што ноч не спаў і напісаў санет?
Ішоў, а надакучны звон манет
размову вёў з кішэнню тэт-а-тэт.

Калісьці задуменнасці матыў,
ад рэчак што сыходзіў ды ад ніў,
дарыў яму натхненне і прыліў,
радкоў зарыфмаваных дзіўны звіў.

Ды толькі ў мілагучнасці радкоў,
якія створаны сугуччам слоў,
цяпер не мае той патрэбы болей зноў,
хто іх лічыў асноваю асноў.

І ён стаяў, рассеяны, як дым,
у горадзе, знаёмым і чужым,
самому здаўшыся сабе пустым,
ні новым члавекам, ні былым.

дэбют

Аляксандра Жалязнова



...Ёсць моманты, эмоцыі і людзі,
Што застаюцца ў сэрцы
Назаўсёды...

# Абдымі мяне

### *АДНОЙ ДАРОГАЙ*

Адной дарогай ідзі
І не спяшайся ніколі.
Ты, чалавек, не адзін,
І ты не можаш без волі.

Нічога ты не чакай,
Не спадзявайся на Бога.
Ты пераможаш! Давай!
І зробіш ты вельмі многа.

Няхай цябе папракнуць,
Што ні на што ты не здольны.
Не бойся ты рызыкнуць,
Ідзі ў свет навакольны.

Рабі там толькі дабро
І пакідай толькі свята.
Так, тут бясконцасць дарог,
І я лічу, што занадта.

Я выбіраю адну,
Па ёй я крочу бясконца.
Гэта дарога ў вясну,
Гэта дарога да сонца.

Свой шлях таксама знайдзі,
Шлях да раздолля, да волі.
Адной дарогай ідзі
І не здавайся ніколі.

### ***ВЯТРЫ***

Сонца промнямі іграе
У адным старым бары.
Птушка весела спявае,
Падымаюцца вятры.

Час на вуліцы з’явіцца.
Цёпла. Лета на двары.
Пыл дарожны ўсё кружыцца,
І шумяць, шумяць вятры.

Лета зменіць ўсё да часу,
Ну, а можа, да пары.
Не пазнаць мне лес адразу,
Не пазнаць мне і вятры...

Мне б з прыродаю з’яднацца,
Атрымаць яе дары,
Разам з сонцам прачынацца
І шукаць свае вятры.

І табе таго ж жадаю.
Свой сусвет ты сам ствары.
І няхай табой кіруюць
Твае ўласныя вятры.

## ДЗЯКУЙ

Крочу насустрач бясконцаму ветру,
Шмат усяго за маёю спіной,
Душыць мяне ледзяное паветра...
Што адбываецца сёння са мной?

Дзе я і хто я? Пра што мае думкі?
Што ў далейшым чакае мяне?
Мабыць, чакаюць жыцця падарункі,
Мабыць, чакаюць, а можа і не.

Сама з сабой ў цішыні размаўляю,
Мару пра сонца, наперад іду,
Лепшае толькі сабе ўяўляю,
Дрэннага мала – кату па пяту.

Побач са мной мае добрыя людзі,
Побач са мною падтрымка, сям'я.
З імі я веру, што добра ўсё будзе,
З імі заўсёды знаходжуся я.

Нават калі ёсць адлегласць між намі,
Нават калі паміж намі ёсць час.
Усё яны ў думках маіх, як цунамі,
Усе яны нешта ўскалыхваюць ў нас.

Ўсё яшчэ крочу насустрач я ветру,
Шмат чалавек за маёю спіной.
Кожнаму я кажу простае “дзякуй”,
Дзякую тым,
Хто заўсёды са мной.

## КАЛЫХАНКА

Спаць кладзіся. Засынай.
Я спяваю: “Баю-бай”...
Гэта быў цудоўны дзень,
Ён пакінуў светлы цень.

Ты ужо заплюшчыў вочы
І чакаеш добрай ночы.
Сон чароўны уяўляй,
Слухай толькі: “Баю-бай”...

Нават казка спаць кладзецца.
Вельмі часта мне здаецца,
Што трапляю я ў рай,
Дзе і чую: “Баю-бай”...

Спяць і мышкі, і стрыжы,
І машыны ў гаражы,
Але ўвагі не звяртай...
Паўтараю: “Баю-бай”...

Заўтра будзе новы дзень,
Ён пакіне шмат падзей.
Ну а зараз: “Баю-бай”,
Спаць кладзіся, засынай.

## НАЗАЎСЁДЫ

Ёсць моманты, эмоцыі і людзі,
Што застаюцца ў сэрцы назаўсёды.
Было нам добра, далей лепей будзе,
І не заўважыш нават перашкоды.

Ёсць выпадкі, імгненні і ўчынкі,
Што кажуць больш чым словы, кажуць многа.
Мы ўсе прыгажуны і малайчынкі,
Але ў кожнага свой шлях, свая дарога.

Ёсць дні, гадзіны, нават ёсць хвіліны,
Калі мы нешта добрае чакаем,
Прыгадваем пэўныя карціны,
Сяброў старых і новых успамінаем,

П’ем доўга каву, гледзячы на здымкі,
Дзе родныя і блізкія нам твары...
І нечакана коцяцца слязінкі,
І плачаш ты, як плачуць ў небе хмары.

Такі быў час, нам не стрымаць пачуццяў,
Мінулага ўжо, на жаль, не вернеш.
Але ў думках толькі тыя людзі,
І ў сустрэчу з імі ты ўсё верыш...

І з’явяцца нарэшце тыя людзі,
І тыя светлыя такія твары.
І весела нам, як звычайна, будзе,
І здзейсняцца любыя нашы мары.

Так, тых, хто з намі быў, мы не забудзем,
Адлегласць, час для нас не перашкода...
Ёсць моманты, эмоцыі і людзі,
Што застаюцца ў сэрцы
Назаўсёды.

### *АБДЫМІ МЯНЕ*

Абдымі мяне –
Я да цябе туліцца буду.
Прытулі мяне –
Тады ніколі не забуду.

Прыцісні мяне,
Адчуй мяне,
Паслухай маё сэрца.
Можаш уявіць,
Як яно ціха,
Але моцна б'ецца?

Прылашчы мяне –
Я дам таксама табе ласку.
Затрымай мяне –
І я патраплю тут жа ў казку.

Адчувай мяне,
Бо ты маё святло,
Мая патрэба...
Абдымі мяне.
І ведай:
Толькі мне таго і трэба.

# пераклады



## Роберт Льюіс Стывенсан



...Сумленнем хто нячысты, той
І ў Бога не знойдзе спакой...

# Песня заўтрашняга дня

***Прыпавесці***

*Пераклад з ангельскай Валерыя ПШЫГОДСКАГА.*

### Прадмова перакладчыка

Згадваючы імя Роберта Льюіса Стывенсана, чытач хутчэй за ўсё ўспомніць такія яго кнігі, як "Востраў скарбаў" (перакладзены на беларускую мову менавіта пад такой назвай у 1993 г.), "Чорную стралу" і яшчэ колькі іншых. Аднак малавядомым застаўся позні этап яго творчасці, калі Стывенсан жыў на выспах Самоа (з 1890 г.). Менавіта там, напрыканцы жыцця, у пісьменніка з'явілася ідэя напісаць цыкл гісторый пад агульнай назвай "Прыпавесці" (англ. "The Fables").

Цікавыя гэтыя маленькія апавяданні тым, што адлюстроўваюць тагачасны стан Стывенсана: прасякнуты песімізмам праз дрэнны стан здароўя, бясконцыя спрэчкі са сваім бацькам, які даўно памёр і з якім яны так і не знайшлі агульнай мовы па шэрагу прычынаў, аддаленасць ад радзімы, да якой таксама меліся пытанні наконт яе занадта агрэсіўнай імперскай палітыкі. Роберт не пакідаў мастацкай дзейнасці,

але ў ёй ужо тады можна было адсачыць незадавальненне пісьменніка пэўнымі падзеямі свайго жыцця.

Нягледзячы на гэта, у прыпавесцях можна знайсці і схаваную іронію, нават гумар, пісьменнік высмейвае некаторыя людскія грахі, а таксама задумваецца над філасофскімі пытаннямі.

Таксама прыцягвае ўвагу тое, што гэты цыкл змяшчае сярод іншых гісторыі, цалкам звязаныя з бытам тамтэйшых жыхароў. Для нашага чытача яны могуць падацца даволі экзатычнымі, але менавіта за гэта мы і любім Стывенсана: ён належаў да тых пісьменнікаў, якія адкрывалі нам свет, самыя далёкія і цёмныя яго куткі праз неверагодныя прыгоды сваіх герояў.

## I. Персанажы рамана

Калі была дапісаная 32-я частка “Вострава скарбаў”, а напісанне наступнай яшчэ не пачалося, два чалавечкі выйшлі пагуляць, каб высмаліць па люльцы, і сустрэліся на адкрытым месцы недалёка ад сюжэта.

– Добрай раніцы, капітан, – прамовіў першы, чый твар ззяў. Словы прывітання ён падмацаваў рухам рук, звычайным у маракоў.

– Гэй, Сільвер! – буркнуў другі. – Дрэнныя ж твае справы, Сільвер.

– Ну вось што, капітан Смолет, – адзначыў Сільвер, – справы ёсць справы, я так лічу і ведаю гэта лепш за ўсіх. Але цяпер мы свабодныя, і я не вельмі хачу прытрымлівацца нейкіх маральных абавязкаў.

– Вы толькі паглядзіце на гэтага жуліка! – прамовіў капітан.

– Ну добра ўжо, капітан, будзь справядлівы. Які табе сэнс злавацца на мяне? Я толькі персанаж марской гісторыі. На самой жа справе я не існую.

– Як і я, – адказаў капітан, – што, здаецца, даволі лагічна.

– Я не стану абмяжоўваць ісціну думак дабрадзейнага персанажа, але ў гэтай гісторыі я злыдзень. Вось адкажы мне, як марскі воўк марскому воўку: ці ёсць у мяне шанцы?

– А табе не расказвалі пра твой лёс? – спытаў капітан. – Хіба ты не ведаеш, што ёсць такое паняцце, як Аўтар?

– Такое паняцце, як Аўтар? – здзекліва азваўся Джон. – Дык гэта ён зрабіў мяне лепшым за астатніх? I вось што: калі Аўтар зрабіў цябе, ён жа зрабіў і Цыбатага Джона, і Хэндса, і П’ю, і Джорджа Мэры – не тое, каб Джордж многа значыў – ён увогуле нязначная фігура; той жа самы Аўтар зрабіў Флінта, той яго вобраз, што вядомы нам. Ён жа зладзіў тут бунт, што выклікаў столькі працы для ўсіх вас. Ён жа застрэліў Тома Рэдрута. Што ж, Аўтар ён ці не, няхай верне мне майго П’ю!

– Ты не верыш у будучыню? – спытаў Смолет. – Думаеш, ці існуе нешта, акрамя цяперашняга часу?

– Складана ўсё гэта. Ва ўсялякім выпадку, я не разумею, што тут увогуле рабіць. Тое, што мне вядома, гэта вось што: калі Аўтар існуе насамрэч, тады я яго ўлюбёны персанаж. Ён разумее мяне лепей за цябе, сапраўды. I ён любіць займацца мной. Ён трымае мяне на палубе практычна ўвесь час з маёй мыліцай і з усім астатнім. А цябе, хворага на адзёр, ён пакідае ў труме, дзе цябе ніхто не бачыць, ды і не захоча бачыць, можаш мне паверыць! Калі ёсць Аўтар, клянуся громам, ён на маім баку, і не спрачайся!

– Бачу, ён вось-вось дасць табе доўгую вяроўку, – заўважыў капітан. – Але гэта не можа змяніць майго пераканання. Я ўпэўнены, што Аўтар паважае мяне. Нутром сваім адчуваю гэта. Калі мы з табой размаўлялі каля дзвярэй блок-хаўса, на чыім баку ён быў па-твойму, дружа?

– А мяне ён не паважае, ці што? – зазлаваў Сільвер. – О, трэба табе было чуць, як дзесьці ў апошніх раздзелах я ўчыніў бунт разам з Джорджам Мэры і Морганам, і шмат яшчэ з кім. Вось тады б ты пачуў! Тады б ты зразумеў, што Аўтар думае пра мяне! Але цяпер ты лічыш сябе выключна дабрадзейным персанажам?

– Божа барані! – запярэчыў капітан Смолет. – Я чалавек, які спрабуе выконваць свае абавязкі, а часам адна бязладзіца выходзіць. Баюся, я не вельмі вядомы нават у родным краі, Сільвер! – тут капітан уздыхнуў.

– А калі так, – прапанаваў Сільвер, – тады як наконт працягу? Ці хочаш ты застацца тым жа капітанам Смолетам, не вельмі вядомым у родным краі, як ты кажаш? Калі так, дык клянуся громам, чаму б нам не застацца ў "Востраве скарбаў"? Я застануся Цыбатым Джонам, П'ю застанецца П'ю, мы ўчынім яшчэ адзін бунт, чаму б не? Ці ты павінен быць кімсьці іншым? Калі так, то чым ты лепшы? І чым я горшы?

– Ну, глядзі, прыяцель: я не магу зразумець, як наогул узнікла ўся гэтая гісторыя. Я не разумею, як мы з табой, калі мы ўвогуле не існуем, размаўляем тут і палім люлькі, нібы ў сапраўднасці? Але хто я такі, каб разбірацца са сваімі меркаваннямі? Я ведаю, што Аўтар на баку дабра, мне так кажа ход падзеяў, што выходзяць з-пад ягонага пяра. А што мне яшчэ трэба ведаць? Я рызыкну і даверу свой лёс яму.

– Здаецца, відавочна, што ён не быў на баку Джорджа Мэры, – сказаў Сільвер. – Але Джордж істотнай ролі не мае ў гэтай гісторыі, – дадаў ён, ажывіўшыся. – І каб увайсці ў курс справы: я зладзіў бунт, быў джэнтльменам удачы – што ж у гэтым добрага? Ну добра, але, як гісторыю ні круці, і ты не святы. Я чалавек, які вельмі лёгка складае кампанію. Ты да такіх людзей не належыш, і, наколькі я ведаю, ты д'ябал, якога трэба прыструньваць. Хто з нас хто? Што добра, а што дрэнна? Ну вось скажы мне! Скажы мне, пакуль мы стаім тут!

– Ідэальных сярод нас няма, – адказаў капітан, – пра гэта сказана і ў нашай рэлігіі, прыяцель. Усё, што я магу сказаць, – я стараюся выконваць мой абавязак, а калі ты паспрабуеш выканаць свой, то за твае поспехі я цябе хваліць не стану.

– А ты б стаў нядрэнным суддзёй, як бачу, – насмешліва заўважыў Сільвер.

– Для цябе б я стаў і суддзёй, і вісельнікам, дружа, і ніколі б не задумаўся, – парыраваў капітан. – Але я працягну сваю думку: тое, што добра, тое і карысна – ці як там... Не, мудрагелістыя думкі не для мяне. Але куды б падзелася гісторыя, калі б не было ў ёй дабрадзейных персанажаў?

– Калі ўжо так, – адказаў Сільвер, – з чаго б пачалася гісторыя, калі б не было нягоднікаў?

– Ну, я амаль гэтак і думаў. Аўтар павінен атрымаць гісторыю – гэта яго асноўная мэта. І каб атрымаць гісторыю, і каб такі чалавек, як, напрыклад, доктар, заняў свой шанец, ён павінен стварыць такіх людзей, як ты і Хэндс. Але ён на баку праўды, так што будзь уважлівы! Твая гісторыя яшчэ не скончаная, і лёгка табе не будзе.

– Ты ўпэўнены? – спытаў Джон.

– А мне ўсё роўна. Я рады быць Аляксандрам Смолетам, якім бы дрэнным ён ні быў. І я на каленях дзякую маёй шчаслівай зорцы, што я не Сільвер. Але там адкрываецца бутэлечка з чарнілам. Па месцах!

І сапраўды, Аўтар якраз пачынаў пісаць словы: *Частка XXXIII.*

## II. Карабель, які тоне

– Сэр, – абвясціў першы лейтэнант, урываючыся ў капітанскую каюту, – карабель тоне.

– Вельмі добра, містэр Спокер, – адказаў капітан, – але гэта не прычына для таго, каб хадзіць напалову паголеным. Падумайце трошкі, містэр Спокер, і вы ўбачыце, што з філасофскага пункту гледжання ў нашым становішчы няма нічога новага: можна сказаць, што карабель – калі ён наогул пойдзе на дно – ішоў да дна з тых часоў, як яго спусцілі на ваду.

– Ён хутка тоне, – адзначыў першы лейтэнант, вярнуўшыся пасля галення.

– Хутка, містэр Спокер? – спытаў капітан. – Выраз дзіўны, таму што час (калі вы падумаеце пра гэта) – рэч адносная.

– Сэр, – запратэставаў лейтэнант, – я думаю, што наўрад ці варта ўступаць у падобную дыскусію, калі мы ўсе трапім у куфар Дэйві Джонса[1] праз дзесяць хвілінаў.

– Ну, а калі добра паразважаць, – мякка запярэчыў капітан, – ніколі не варта пачынаць якое-небудзь важнае расследаванне, бо заўсёды існуе верагоднасць таго, што мы памрэм, перш чым давядзем яго да канца. Вы не ўлічылі, містэр Спокер, становішча чалавека, – заключыў капітан, усміхаючыся і ківаючы галавой.

– Я больш заняты разглядам карабля.

– Вось словы сапраўднага афіцэра, – пахваліў капітан, кладучы руку на плячо лейтэнанту.

Апынуўшыся на палубе, яны выявілі, што матросы ўварваліся ў вінную камору і панапіваліся.

– Хлопцы, – звярнуўся да іх капітан, – гэта ўсё бессэнсоўна. Вы скажаце мне: карабель апынецца на дне праз дзесяць хвілінаў. Ну, а што тады? З філасофскага пункту гледжання ў нашым становішчы няма нічога новага. На працягу ўсяго нашага доўгага жыцця ў нас, магчыма, былі гатовыя разарвацца крываносныя сасуды або ў нас магла трапіць маланка не толькі праз дзесяць хвілінаў, але і праз дзесяць секунд. І гэта не перашкаджала нам ні вячэраць, ні класці грошы ў ашчадныя банкі. Запэўніваю, паклаўшы руку на сэрца, што я не разумею вас.

Але матросы ўжо зайшлі занадта далёка, каб звяртаць на гэтыя словы ўвагу.

– Мне балюча на гэта глядзець, містэр Спокер, – заўважыў капітан.

– А ўсё ж з філасофскага пункту гледжання, як бы гэта ні было, – адказаў першы лейтэнант, – можна сказаць, што яны ўжо напіліся з тых часоў, калі падняліся на борт.

– Я не ведаю, ці заўсёды вы сочыце за маімі думкамі, містэр Спокер, – мякка адзначыў капітан, – але давайце працягнем.

У парахавым склепе яны сустрэлі вопытнага матроса, які курыў люльку.

– Божа літасцівы! – усклікнуў капітан, – што ж ты робіш?

– Ну, сэр, – сказаў матрос выбачальным тонам, – да мяне дайшлі чуткі, што карабель ідзе на дно.

– Дапусцім, што ж з таго? З філасофскага пункту гледжання ў нашым становішчы няма нічога новага. Жыццё, мой стары таварыш, у

[1] Інакш кажучы, на дно мора ці акіяна.

любы момант і ў любым ракурсе гэткае ж небяспечнае, як карабель, які тоне. І ўсё ж гэта выдатная мода: насіць парасоны, насіць гумовыя боты, пачынаць новую працу і паводзіць сябе так, быццам наперадзе вечнае жыццё. І што тычыцца мяне, дык я павінен пагарджаць чалавекам, які нават на борце карабля, які тоне, забыўся прыняць таблетку або завесці гадзіннік. Гэта, дружа, было б не па-чалавечы.

– Прашу прабачэння, сэр, – умяшаўся містэр Спокер, – але ў чым менавіта розніца паміж галеннем на караблі, які тоне, і курэннем у парахавым склепе?

– Ці ўвогуле паміж чымсьці пры любых абставінах? – ускрыкнуў Капітан. – А ну дайце мне цыгару!

Праз дзве хвіліны магутны выбух разнёс карабель.

## III. Дзве запалкі

Аднойчы ў Каліфорніі стаяў засушлівы сезон і дзьмуў моцны вецер. Па лесе ішоў падарожнік. Ён прайшоў доўгі шлях, стаміўся і прагаладаўся. Ён спыніўся, каб выкурыць люльку. Але, пашукаўшы ў кішэні, ён знайшоў толькі дзве запалкі. Ён чыркнуў першую запалку – тая не загарэлася.

– Ну і справы! – сказаў падарожнік. – Паміраю ад жадання запаліць, а засталася толькі адна запалка. Напэўна, і яна не дасць агню! Каму магло б так шанцаваць?

“І ўсё ж, – падумаў падарожнік, – выкажам здагадку: я запалю гэтую запалку, выкуру люльку і выб’ю попел тут, у траву, – трава можа загарэцца, бо яна сухая, як трут. Пакуль я буду тушыць полымя спераду, агонь можа пабегчы за мной і схапіць вунь той куст сумаха. Перш чым я змог бы дабрацца да яго, ён бы ўспыхнуў. Над кустом стаіць сасна, парослая мохам. Сасна таксама імгненна ўспыхнула б да самай верхняй галінкі. А полымя гэтай паходні... Як бы пасатны вецер падхапіў і разнёс яго па лесе! Ужо чутна, як гэтая лагчына раве сумесным голасам ветру і агню; і вось я імчуся галопам, а ззаду ляціць пажар і пачынае абыходзіць мяне з флангу праз пагоркі; і вось гэты лес гарыць на працягу некалькіх дзён – жывёлы падсмажваюцца, крыніцы высыхаюць, фермер разарыўся, а яго дзеці кінутыя без дагляду. Што ж гэта будзе ў свеце!”

Думаючы так, ён шоргнуў запалкай, і яна не загарэлася.

– Дзякуй богу! – зрабіў выснову падарожнік і сунуў люльку ў кішэню.

## IV. Хворы і пажарны

У палаючай хаце ляжаў хворы чалавек; да яго ўвайшоў пажарны.

– Не ратуйце мяне, – пачуў пажарны. – Ратуйце мацнейшых.

– Ці не будзеце вы так ласкавы сказаць мне, чаму? – спытаў пажарны, выказваючы сваю прыроджаную ветлівасць.

– Тут справа ясная, – адказаў хворы. – Ва ўсіх выпадках варта аддаваць перавагу моцным, таму што яны прыносяць больш карысці.

Пажарны некаторы час разважаў над гэтымі словамі, бо быў схільны да пэўнай філасофіі.

– Згодны, – вырашыў ён нарэшце, калі частка даху абрынулася, – але мне цікава паразмаўляць з вамі: што б вы назвалі належным служэннем для тых, хто мацнейшы?

– Адказаць лёгка: належнае служэнне для тых, хто мацнейшы, – гэта дапамога слабейшым.

Ізноў пажарны задумаўся, бо не было куды спяшацца гэтаму цудоўнаму чалавеку.

– Я мог бы даравань табе тое, што ты хворы, – сказаў ён нарэшце, калі частка сцяны адвалілася, – але я не магу вытрымаць таго, што ты такі дурань.

І з гэтымі словамі ён падняў пажарную сякеру і, ахоплены пачуццём справядлівасці, прыбіў хворага да ложка.

## V. Д’ябал і карчмар

Даўным-даўно д’ябал спыніўся ў гасцініцы, дзе яго ніхто не ведаў, таму што тамтэйшы люд грэбаваў адукацыяй. Ён жа быў апантаны свавольствам і нейкі час тузаў усіх за вушы. Але ў рэшце рэшт карчмар заўважыў д’ябла і ўважліва пачаў назіраць за ім.

Карчмар узяў вяроўку.

– Цяпер я цябе адлуплю, – пачаў карчмар.

– Ты не маеш права злавацца на мяне, – адказаў д’ябал. – Я ўсяго толькі д’ябал, і дрэнныя ўчынкі – у маёй прыродзе.

– Не падманваеш? – спытаў карчмар.

– Запэўніваю цябе.

– Ты сапраўды не можаш рабіць нічога добрага?

– Увогуле ніякім чынам. Было б жорсткасцю біць такую істоту, як я.

– Маеш рацыю, – пагадзіўся карчмар.

І ён зрабіў пятлю і павесіў д’ябла.

– Вось і добра! – вывеў карчмар.

## VI. Той, што каецца

Чалавек сустрэў хлопчыка, які плакаў.

– Аб чым ты плачаш? – спытаў чалавек.

– Я плачу аб сваіх грахах, – адказаў хлопчык.

– Табе заняцца больш няма чым, – заўважыў чалавек.

На наступны дзень яны сустрэліся зноў. Хлопчык зноў заплакаў.

– А цяпер ты чаму плачаш?

– Я плачу таму, што мне няма чаго есці.

– Я так і думаў, што гэтым скончыцца.

## VII. Жоўтая фарба

У адным горадзе жыў лекар, які прадаваў жоўтую фарбу. Гэта было настолькі выключнай дабрадзейнасцю, што той, хто быў абмазаны ёю з галавы да пятак, назаўжды вызваляўся ад цяжкасцяў жыцця, кайданоў граху і страху смерці. Так сцвярджаў лекар у сваіх кнігах, гэтак жа казалі ўсе гараджане ў горадзе. У сэрцах людзей жыла запаветная надзея быць па ўсіх правілах пафарбаванымі ёй. Іх вельмі радавала, калі яны бачылі, як фарбуюць іншых. У тым жа горадзе жыў малады чалавек з вельмі добрай сям’і, але які не вылучаўся розумам. Дасягнуўшы сталага ўзросту, ён не спяшаўся пэцкацца фарбай: “Заўтра зраблю”, – казаў ён. Калі ж

надыходзіла заўтра, ён усё роўна адкладваў гэтую справу. І так бы ён працягваў да самай смерці. Але меў ён сябра прыкладна свайго ўзросту, з якім у яго было шмат агульнага. Сябар прагульваўся па вуліцы, не маючы на целе ні плямкі фарбы, і раптам у самым росквіце жыцця яго збіў вадавоз і пераехаў папалам. Гэта ўзрушыла нашага юнака да глыбіні душы. Я ніколі не бачыў чалавека, які гэтак жа моцна хацеў быць пафарбаваным. У той жа вечар, у прысутнасці ўсёй сям'і, пад адпаведную музыку, гучна плачучы, ён атрымаў на цела тры пласты фарбы і трохі лаку зверху. Лекар сам быў усхваляваны да слёз і настойліва сцвярджаў, што ніколі яшчэ не выконваў працу так старанна.

Прыкладна праз два месяцы маладога чалавека на насілках прынеслі ў дом лекара.

– Што гэта значыць? – лямантаваў прынесены. – Я павінен быў вызваліцца ад усіх небяспек жыцця; і вось мяне збіў той самы вадавоз і зламаў мне нагу.

– Божа мой! – усклікнуў лекар. – Вельмі сумна. Але думаю, што павінен растлумачыць вам дзеянне маёй фарбы. Зламаная костка – гэта ў горшым выпадку вельмі маленькае здарэнне. Гэта адносіцца да няшчасных выпадкаў, для якіх мая фарба зусім непрыдатная. Грэх, мой дарагі юны сябар, грэх – гэта адзінае бедства, якое павінен спасцігнуць мудры чалавек. Менавіта супраць граху я і рыхтаваў вас. Калі вы паддаліся спакусе, распавядзіце мне пра маю фарбу.

– О! – здзівіўся малады чалавек. – Я гэтага не зразумеў, што мяне моцна расчароўвае. Але я не сумняваюся, што ўсё да лепшага, і я буду вам вельмі ўдзячны, калі вы вылечыце мне нагу.

– Гэта не мая справа, але калі вас аднясуць да хірурга, я ўпэўнены, што ён вам дапаможа.

Прыкладна праз тры гады малады чалавек прыбег у дом лекара.

– Што ўсё гэта значыць? – крычаў ён роспачна. – Я павінен быў вызваліцца ад кайданоў граху, а я толькі што ўчыніў падробку і падпал, ды яшчэ забойства.

– Божачкі! Справы сур'ёзныя. Неадкладна здымайце вопратку!

Як толькі малады чалавек распрануўся, лекар агледзеў яго з галавы да ног.

– Не! – усклікнуў ён з палёгкай. – Фарба на месцы. Не бядуйце, юнача, фарба як новенькая!

– Божа літасцівы! Якая ж тады ад яе карысць?!

– Ну чаму ж. Думаю, мне час растлумачыць вам прыроду дзеяння маёй фарбы. Яна не зусім прыдатная, каб прадухіліць грэх, а хутчэй каб змякчыць цяжар наступстваў. І яна нават больш карысная не для гэтага жыцця, а для наступнага. Карацей кажучы, я падрыхтаваў вас менавіта да наступнага жыцця. Калі вы будзеце пры смерці, паведаміце мне штосьці новае пра маю фарбу.

– О! – усклікнуў малады чалавек. – Я гэтага не зразумеў, што мяне добра-ткі расчароўвае. Але без сумневу – усё да лепшага. А пакуль я буду ўдзячны, калі вы дапаможаце мне выправіць тое зло, што я прычыніў нявінным людзям.

– Гэта не мая справа, але калі вы звернецеся да паліцэйскага ўпраўлення, упэўнены, вам будзе лягчэй здацца.

Праз шэсць тыдняў лекара выклікалі ў гарадскую турму.

– Што гэта значыць? – крычаў малады чалавек. – Вось жа я літаральна цалкам пакрыты вашай фарбай. Але я ламаю нагу, учыняю ўсемагчымыя злачынствы, а заўтра апынуся на шыбеніцы. І пры гэтым мне так страшна, што і апісаць немагчыма.

– Божачкі, – адазваўся лекар. – Дзіва ды і толькі. Так, так, ну што ж. Магчыма, калі б я вас не размаляваў, вы былі б яшчэ больш напалоханы.

## VIII. Дом мінулага

Як толькі дзіця пачынала гаварыць, на яго надзявалі кайданы. Калі хлопчыкі і дзяўчынкі гулялі, яны кульгалі і здаваліся падобнымі да катаржнікаў. Безумоўна, нельга было глядзець на іх без суму і спачування, бо асабліва цяжка гэта давалася ў дзяцінстве. І нават дарослыя стаялі на нагах няўпэўнена, пакутуючы акрамя таго на болькі, што заставаліся ад кайданоў.

Джэку было прыкладна дзесяць гадоў, калі яго край пачалі наведваць іншаземцы. Ён бачыў, як лёгка яны хадзілі па дарогах, і гэта вельмі здзіўляла яго.

– Цікава, як так атрымліваецца, – пытаў ён, – што ўсе гэтыя чужаземцы так хутка перасоўваюцца, а мы павінны цягнуць кайданы?

– Мой даражэнькі, – адказваў яго дзядзька, які выкладаў законы, – не скардзіся на свае кайданы, бо гэта адзінае, дзеля чаго варта жыць. Кайданы забяспечваюць людзей шчасцем, дабром і павагай. Акрамя таго, я павінен сказаць табе, што абмяркоўваць гэтае пытанне – вельмі небяспечна. Калі будзеш бурчэць на сваё жалеза, ад цябе адвернецца ўдача. Калі ж ты яго здымеш, цябе імгненна ўдарыць маланка.

– А для іншаземцаў няма маланак?

– Юпітэр доўгацярплівы да цёмных, – адказаў законнік.

– Вось праўда, шкадую, што мне пашанцавала менш, – заўважыў Джэк, – бо калі б я нарадзіўся невукам, мог бы шпацыраваць вольна. Трэба прызнаць, што жалеза на назе нязручна, а болькі не прыносяць асалоды.

– Што ты! – усклікнуў дзядзька. – Не зайздросці язычнікам, сумная іх доля! Ах, гаротныя! Калі б толькі яны ведалі радасць быцця скаваных! Бедакі, маё сэрца разрываецца за іх. Але праўда ў тым, што яны гідкія, нахабныя, нявыхаваныя, смярдзючыя жывёлы, не зусім людзі – бо што такое чалавек без кайданоў? – і даю табе параду пазбягаць іх і не размаўляць з імі.

Пасля гэтай размовы хлопец ніколі не праходзіў міма каго-небудзь з незакаваных, каб не плюнуць у іх ці не абазваць жывёламі, што было звычайнай справай у тым краі.

Аднойчы, калі Джэку было пятнаццаць, ён ішоў у лес і развярэдзіў па дарозе больку. Стаяў ясны дзень, на блакіце неба не было ні воблачка, хорам спявалі птушкі. Джэку ж было не да гэтага, ён займаўся нагой. Неўзабаве загучала нейкая песня. Здавалася, што спявае чалавек, ды пры гэтым даволі весела. У той жа час пачуўся нейкі тупат. Джэк адсунуў лісце і ўбачыў на зялёнай паляне хлопца са сваёй роднай вёскі, што скакаў і весела спяваў сам сабе. Кайданы ляжалі побач.

– Як! – усклікнуў Джэк. – Ты скінуў кайданы?!

– Дзеля бога, толькі не кажы свайму дзядзьку! – пачаў прасіцца хлопчык.

– Калі ты баішся майго дзядзькі, – спытаў Джэк, – чаму ж ты не баішся маланкі?

– Ды гэта ўсё казкі старых бабуль, іх распавядаюць толькі дзецям. Шмат хто з нашай вёскі прыходзіць сюды і танцуе па начах, і ніхто яшчэ не пакутаваў.

Гэтая размова навяла Джэка на шэраг новых думак. Ён быў сур'ёзным хлопцам, танцаваць не збіраўся. Джэк мужна насіў кайданы і без скаргаў лячыў болькі. Але падману не любіў і не хацеў бачыць, як падманваюць іншых. Ён пачаў падпільноўваць падарожнікаў-паганцаў на зацішных участках дарогі пад канец дня, каб можна было паразмаўляць з імі, застаўшыся нябачным. Тыя ж захапіліся прыдарожным дапытлівым суразмоўцам і распавялі яму важныя рэчы. Па іх словах, за нашэнне кайданоў Юпітэр не быў адказны. Гэта было вынаходніцтва бледнатварай істоты, ведзьмака, што жыў у гэтай краіне ў Лесе Мінулага. Ён, падобна Глаўку[1], мог мяняць аблічча, але яго заўсёды можна было пазнаць: калі яму пярэчылі, ён крычаў індыком. Меў ён тры жыцці, і трэці смяротны ўдар павінен пакласці яму канец. А затым яго дом вядзьмарства знікне, кайданы ўпадуць, а жыхары вёскі возьмуцца за рукі і будуць танцаваць, як дзеці.

– А як у вашай краіне? – пытаў Джэк.

Аднак пры гэтым вандроўнікі заканчвалі размову. Так Джэк пачаў меркаваць, што няма цалкам шчаслівых краёў. А калі такі і існаваў, то жыхары б не пакідалі яго.

Але відовішча кайданоў прыгнятала яго. Кульгавыя дзеці стаялі ў яго вачах. Яго праследавалі стогны тых, хто перавязваў ногі. Нарэшце ён вырашыў, што нарадзіўся для таго, каб вызваліць усіх.

У той вёсцы захоўваўся меч нябеснай коўкі, выкаваны на кавадле Вулкана. Ім ніколі не карысталіся, хіба толькі ў храме, ды і то толькі пляскатым бокам. Вісеў меч на цвіку ля каміна законніка. Аднойчы ноччу Джэк устаў, узяў меч і, схаваны цемрай, пакінуў вёску.

Усю ноч ён ішоў наўздагад, а калі надышоў дзень, ён сустрэў незнаёмцаў, што ішлі на працу ў поле. Ён спытаў пра Лес Мінулага і дом чараўніка. Адзін накіраваў яго на поўнач, другі – на поўдзень. Джэк зразумеў, што абодва падманваюць яго. Наступным разам, калі ён пытаўся пра дарогу ў каго-небудзь, ён паказваў агалены бліскучы меч. Пры гэтым адна з частак ланцуга звінела на шчыкалатцы чалавека і адказвала замест яго: "ПРОСТА". Але чалавек, калі загаварыла частка яго кайданоў, плюнуў у Джэка і ўдарыў яго, а калі той ужо адыходзіў, кінуў у яго камень, сур'ёзна параніўшы галаву.

Дайшоў Джэк да гэтага Леса і ўвайшоў у яго. Там ён убачыў дом, што стаяў у нізіне, дзе раслі грыбы, а дрэвы стаялі так шчыльна адно да аднаго, што іх галіны спляталіся. Клубы пару, нібы дым, падымаліся ад балотаў. Дом гэты выглядаў выдатна, але надта бязладна: некаторыя яго часткі былі старажытнымі, нібы горы, а некаторыя – нібы пабудаваныя толькі ўчора, і ні адна не была дабудаваная цалкам. З-за гэтага ў дом можна было ўвайсці з усіх бакоў. І ўсё ж ён быў у добрым стане, а з усіх комінаў ішоў дым.

---

[1] Глаўк – герой старажытнагрэцкіх міфаў; рыбак з Анфедону, што пераўтварыўся ў марскога бога.

Джэк увайшоў праз бакавыя дзверы. У доме ён убачыў, як адзін за адным ішлі пакоі – усе пустыя, але часткова мэбляваныя. У кожным пакоі гарэў камін і стаяў накрыты стол. Але Джэк нідзе не бачыў ні адной жывой істоты, толькі манекены нейкіх пудзілаў.

– Гасцінны дом, – заўважыў Джэк, – але, пэўна, зямля пад ім тванiстая: пры кожным кроку ён скаланаецца.

Прабыўшы некаторы час у доме, ён прагаладаўся. Кінуў вокам на ежу і спачатку спалохаўся. Ён выняў меч, пры бляску зброі ежа здавалася добрай. Так ён набраўся смеласці і пад'еў. Джэк адчуваў, як ежа падмацоўвае яго розум і цела.

"Вось дык дзіва, – падумаў ён, – што ў доме чараўніка ёсць такая спажыўная ежа".

Пакуль ён еў, у пакой увайшоў яго дзядзька. Джэк спалохаўся, таму што той узяў меч. Але дзядзька ніколі не быў такім добрым. Ён сеў з ім за стол і пахваліў за тое, што Джэк узяў меч. Ніколі яшчэ гэтым дваім не было так прыемна разам. Джэка перапаўняла любоў да дзядзькі.

– Ты вельмі добра зрабіў, – адзначыў законнік, – што ўзяў меч і прыйшоў у дом Былога, – добрая думка і адважны ўчынак! Але цяпер ты задаволены, і мы можам пайсці дадому, як добрыя сябры.

– Божа мой, не! – адказаў Джэк. – Я яшчэ не задаволены.

– Як! – усклікнуў яго дзядзька. – Хіба ты не сагрэўся каля агню? Хіба гэтая ежа не падмацавала цябе?

– О, не, ежа добрая, але ўсё ж гэта не доказ таго, што чалавек павінен насіць кайданы на правай назе.

Пры гэтых словах дзядзька закулдыкаў індыком.

– Юпітэр! – усклікнуў Джэк. – Гэта і ёсць вядзьмак!

Яго рука аслабла, а сэрца разрывалася з-за любові, якую яно адчувала да дзядзькі. Але хлопец узняў меч і ўдарыў прывіда па галаве. Той закрычаў голасам ягонага дзядзькі і ўпаў. З пакоя выбегла маленькая бледная істота.

Крык зазвінеў у вушах Джэка, калені падагнуліся. І ўсё ж ён адужаў, усё яго нутро абудзілася прагай крыві чарадзея.

"Калі ланцугі павінны зваліцца, – сказаў ён, – я павінен прайсці праз гэта, і калі вярнуся дадому, убачу, як мой дзядзька танцуе".

Ён працягнуў пошукі бяскроўнай пачвары. Па дарозе сустрэў прывід свайго бацькі. Той абурaўся і лаяў Джэка. Заклікаючы да сыноўскага абавязку, бацька загадаў яму ісці дамоў, пакуль яшчэ не позна.

– Ты яшчэ можаш, – казаў ён, – быць дома да заходу, і тады табе ўсё будзе даравана.

– Бог сведка, – адказваў Джэк, – я баюся твайго гневу, але ўсё ж ён не даказвае, што чалавек павінен насіць ланцуг на правай назе.

Пры гэтых словах бацька закулдыкаў, нібы індык.

– Святыя нябёсы! – усклікнуў Джэк. – Зноў вядзьмар!

Кроў адбегла ад галавы, а канечнасці супраціўляліся з-за любові, што Джэк адчуваў да бацькі, але ён падняў меч і ўсадзіў яго ў сэрца прывіда. Той гучна закрычаў голасам бацькі і ўпаў. Зноў маленькая бледная істота выбегла з пакоя.

Крык звінеў у вушах Джэка, душа яго азмрочылася. Цяпер ён адчуваў лютасць. "Я зрабіў тое, – думаў хлопец, – аб чым не адважваюся думаць. Я паканчу з гэтым ці загіну. Калі ж вярнуся дадому, буду маліць Бога, каб гэта аказалася сном, і я мог бы ўбачыць, як мой бацька танцуе".

Ён пайшоў далей за збеглай бяскроўнай істотай. Раптам на шляху ён сустрэў прывід сваёй маці – тая плакала.

– Што ты нарабіў? – лямантавала яна. – О, вяртайся дадому, ты можаш трапіць туды да сну, пакуль ты не прычыніў яшчэ больш зла мне і сваякам. Дастаткова ўжо і таго, што ты забіў майго брата і свайго бацьку.

– Матуля, я забіваў не іх, гэта быў усяго толькі вядзьмак у іх абліччы. Ды нават іх смерць не служыць доказам, што чалавек павінен насіць кайданы на правайназе.

Пры гэтых словах маці закулдыкала індыком.

Ён так і не зразумеў, як яму гэта ўдалося, але ён узмахнуў мячом і праціў істоту наскрозь. Тая гучна закрычала голасам маці і ўпала на зямлю. З яе падзеннем дом знік, і Джэк аказаўся адзін у лесе, кайданы спалі з яго нагі.

– Ну, – сказаў ён, – вядзьмар цяпер мёртвы, кайданы зніклі.

Але крыкі звінелі ў яго душы, і дзень быў для яго як ноч.

– Гэта было цяжкай справай, цяпер трэба выйсці з лесу і ўбачыць тое дабро, што я зрабіў іншым людзям.

Ён думаў пакінуць кайданы там, дзе яны ляжалі, але перадумаў. Ён нахіліўся і схаваў ланцугі запазуху. Калі ён ішоў, грубае жалеза да крыві намульвала грудзі.

Цяпер, калі ён выйшаў з лесу на дарогу, ён сустрэў людзей, што вярталіся з поля. І сапраўды ў іх не было кайданоў на правай назе, але – што ж гэта! – ланцуг цяпер вісеў на левай назе. Джэк спытаўся, што гэта значыць, на што яны адказалі так: “Цяпер іх носяць так, бо старое нашэнне на правай назе прызнана забабонамі”. Джэк паглядзеў на іх ногі: на левай шчыкалатцы з’явілася новая болька, а старая на правай так і не зажыла.

– Даруй мне, Госпадзе! – усклікнуў Джэк. – Хоць бы дома ў мяне было ўсё добра.

Калі ён прыйшоў дамоў, убачыў, як ляжалі мёртвымі – яго дзядзька з прабітай галавой, бацька з наскрозь прабітым сэрцам і маці, рассечаная напалову. Джэк плакаў, седзячы ў адзінокім доме каля мёртвых целаў.

МАРАЛЬ:

*Дрэва старое, салодкі плод,*
*І гушчар расце штогод.*
*Дрывасек! Ты дастаткова смелы?*
*Глядзі! Бо корань вырас спелы –*
*Жыццё атруціць маці й бацьку:*
*Енк мандрагоры б’е знянацку.*

## IX. Чатыры рэфарматары

Сустрэліся пад кустом ажыны чатыры рэфарматары. Усе яны былі згодныя ў тым, што свет трэба мяняць.

– Мы павінны скасаваць маёмасць, – заявіў першы.

– Мы павінны скасаваць шлюб, – адзначыў другі.

– Мы павінны скасаваць Бога, – сказаў трэці.

– А вось каб маглі мы скасаваць працу, – дадаў чацвёрты.

– Давайце не адхіляцца за межы практычнасці, – заявіў першы. – Папершае, трэба прывесці да роўнасці ўсіх людзей.

– Па-першае, – адзначыў другі, – трэба даць свабоду палам.
– Па-першае, – сказаў трэці, – трэба даведацца, як гэта зрабіць.
– Першы крок, – заявіў першы, – гэта скасаванне Бібліі.
– Па-першае, – адзначыў другі, – гэта скасаванне законаў.
– Па-першае, – сказаў трэці, – гэта скасаванне чалавецтва.

## X. Чалавек і яго сябар

Чалавек пасварыўся са сваім сябрам.
– Я вельмі расчараваны табой, – заявіў ён.
Сябар састроіў міну і сышоў.
Крыху пазней яны абодва памерлі і разам паўсталі перад вялікім справядлівым сусветным суддзёй. Сябар прадчуваў нядобрае, чалавек жа, наадварот, быў у добрым настроі.
– У сваім сшытку я бачу запісы аб сварцы, – пачаў суддзя. – Хто з вас не меў рацыі?
– Ён, – адказаў чалавек. – Ён дрэнна казаў пра мяне за маёй спінай.
– Сапраўды? – удакладніў суддзя. – А што ён казаў пра тваіх сваякоў?
– О, у яго заўсёды быў злы язык, – сказаў мужчына.
– І ты абраў яго сваім сябрам? – усклікнуў суддзя. – Даражэнькі, дурні нам тут не патрэбныя.
І чалавека кінулі ў яму пад гучны смех ягонага сябра. Апошні ж застаўся, каб паўстаць перад судом па іншых абвінавачваннях.

## XI. Чытач

– Ніколі яшчэ мне не даводзілася чытаць такой бязбожнай кнігі! – усклікнуў чытач, кідаючы кніжку на падлогу.
– Не злуйцеся на мяне, – адказала кніга. – Я не сама сябе пісала.
– І праўда, – адумаўся чытач. – Не на цябе я павінен злавацца, а на твайго аўтара.
– Што ж, не трэба было верыць яго развагам, – заўважыла кніга.
– Так, але мне ён падаўся такім добрым пісьменнікам.
– Такім я яго і бачу.
– Нам відавочна падабаюцца розныя рэчы.
– Дазвольце мне распавесці вам гісторыю, – вырашыла змяніць тэму кніга. – Двое пацярпелі крушэнне і апынуліся на бязлюднай выспе. Адзін з іх уявіў, што ён дома, другі ж не стаў...
– О, мне вядомыя байкі такога кшталту. Потым абодва памерлі.
– Менавіта так, – пацвердзіла кніга. – Ніякіх спрэчак тут не можа быць. Усе іншыя таксама памерлі.
– Так-так, вядома. Але працягні гісторыю далей. Што з імі сталася, калі яны памерлі?
– Як і раней, яны засталіся з Богам.
– Мяркуючы па аповедзе, хваліцца асабліва няма чым, – усклікнуў чытач. – Ну і хто цяпер бязбожны?
І чытач кінуў кнігу ў агонь.

*Сумленнем хто нячысты, той*
*І ў Бога не знойдзе спакой.*

## XII. Гараджанін і падарожнік

– Азірніцеся вакол, – сказаў гарадскі жыхар. – Гэта самы вялікі рынак у свеце.

– Ну, вядома ж, не, – заўважыў падарожнік.

– Што ж, можа, і не самы вялікі, – саступіў гараджанін, – але значна лепшы.

– І тут вы, безумоўна, памыляецеся, – не згадзіўся падарожнік. – Я магу сказаць вам...

У прыцемках гараджане пахавалі незнаёмца.

## XIII. Выбітны іншаземец

Аднойчы на гэтую зямлю прыбыў госць з суседняй планеты. Яго сустрэў вялікі філосаф, што павінен быў паказаць яму ўсё на зямлі.

Спачатку яны ўвайшлі ў лес. Іншаземец падышоў да дрэва і спытаў:

– А гэта што такое?

– Гэта толькі расліна, – растлумачыў філосаф. – Яны жывыя, але зусім нецікавыя.

– Ну, не ведаю. Падобна на тое, што яны добра выхаваныя. Яны заўсёды маўчаць?

– У іх няма чым размаўляць.

– І ўсё ж мне здаецца, што я чую, як яны спяваюць, – заўважыў іншаземец.

– Гэта вецер варушыць лісце, – адказаў філосаф. – Зараз растлумачу тэорыю вятроў, гэта вельмі цікава.

– На жаль, я не ведаю, аб чым яны думаюць.

– Яны не могуць думаць, – адрэзаў філосаф.

– Не ведаю аб гэтым, – сказаў госць, паклаўшы руку на свой куфэрак, дадаў: – Мне падабаюцца гэтыя людзі.

– Гэта ўвогуле не людзі, – адказаў філосаф, – пойдзем са мной.

Затым яны прайшлі праз луг, дзе пасвіліся каровы.

– Гэта вельмі брудныя людзі, – заўважыў іншапланетнік.

– Ды зусім гэта не людзі, – сказаў філосаф.

І ён пачаў растлумачваць госцю, што такое карова навуковымі словамі, якія я не запомніў.

– Мне гэта ўсё роўна, але чаму яны ніколі не глядзяць уверх?

– З прычыны таго, што яны траваядныя. Каб харчавацца травой, якая не вельмі спажыўная, яны ўвесь час вымушаны займацца гэтай справай, таму ім няма калі ні думаць, ні размаўляць, ні разглядваць краявіды, ні падтрымліваць сябе ў чысціні.

– Што ж, няхай тады так і жывуць, – падсумаваў іншапланетнік, – але мне больш падабаюцца людзі з зялёнымі галовамі.

Затым яны прыйшлі ў горад, вуліцы якога поўніліся мужчынамі і жанчынамі.

– Гэта вельмі дзіўныя людзі, – заўважыў іншапланетны госць.

– Гэтыя людзі належаць найлепшай нацыі ў свеце, – адказаў філосаф.

– Няўжо? – здзівіўся госць. – А па іх і не скажаш.

## XIV. Цяглавыя коні і мясцовы конь

Двух коней, каня ды кабылу, прывезлі на Самоа і адпусцілі на тое ж поле, дзе пасвіўся мясцовы конь, каб яны свабодна бегалі па востраве. Цяглавыя трохі баяліся падысці да мясцовага, бо бачылі, што той мясцовы, і выказалі здагадку, што ён не стане з імі размаўляць. Дагэтуль мясцовы конь ніколі не бачыў такіх вялікіх істот. “Бадай, яны вялікія і важныя”, – падумаў ён і падышоў да іх.

– Лэдзі і джэнтльмен, – пачаў ён, – як разумею, вы прыбылі з калоній. Дазвольце выказаць вам словы пашаны са свайго боку і сардэчна павітаць вас тут, на гэтых астравах.

Тыя глядзелі на яго скоса і раіліся між сабой.

– Кім жа ён можа быць? – спытаў конь.

– Нейкі ён падазрона ветлівы, – заўважыла кабыла.

– Думаю, нам не варта звяртаць на яго ўвагу, – вырашыў конь.

– Ды ён усяго толькі належаў канакі[1], – сказала кабыла.

Затым яны павярнуліся да яго.

– Ідзі да д’ябла! – гаркнуў конь.

– Здзіўляюся я твайму нахабству, калі ты размаўляеш з намі! – усклікнула кабыла.

Мясцовы конь адышоў. “Я меў рацыю, яны вялікія і важныя”, – вырашыў ён.

## XV. Апалонік і жаба

– Як не сорамна! – сказала жаба. – Калі я была апалонікам, у мяне не было хваста.

– Так я і думаў! – адказаў апалонік. – Ты ніколі не была апалонікам.

## XVI. Штосьці ў гэтым ёсць

Мясцовыя плямёны распавялі місіянеру шмат гісторый. У прыватнасці, яны папярэдзілі яго пра дом з жоўтага трыснягу, аплеценага чорнымі нітамі граху, і што любы, хто да яго дакранаўся, імгненна рабіўся здабычай Акаангі, ахвяру якому перадавала румяная Міру. Ахвяру частавалі кавай[2] мёртвых, і пяклі ў печах, і елі пажыральнікі мерцвячыны.

– Нічога незвычайнага, – адказваў прапаведнік.

На тым востраве знаходзілася вельмі прыгожая бухта. Але, па словах мясцовых плямёнаў, купацца там было вельмі небяспечна.

– Пустое, – адказваў місіянер.

Пайшоў ён да бухты купацца. Неўзабаве вір падхапіў яго і панёс да рыфа. “Ого! – падумаў місіянер, – здаецца, ў гэтым усё-ткі штосьці ёсць”. І ён мацней запрацаваў рукамі, але плынь панесла яго далей. “Што мне гэтая плынь”, – прамовіў прапаведнік.

---

[1] Канакі – карэннае насельніцтва Новай Каледоніі. Не з’яўляюцца адзіным народам, сярод іх распаўсюджана каля 25 моў. Слова “канак” з гавайскаай мовы літаральна азначае “просты чалавек”. У XIX ст. яно ўжывалася еўрапейцамі ў дачыненні да ўсіх жыхароў Акіяніі і мела пагардлівы сэнс.

[2] Кава – ап’яняльны напой, прыгатаваны з каранёў аднайменнай расліны і распаўсюджаны ў Акіяніі, у прыватнасці, Палінэзіі. Хрысціянскія місіянеры забаранялі ўжываць каву, але далёка не ўсюды іх слухаліся.

Прамаўляючы гэтыя словы, ён убачыў дом, падняты на палях над морам. Ён быў пабудаваны з жоўтага трыснягу, а сам быў цалкам абвіты чорнымі нітамі граху. Лесвіца вяла да дзвярэй, паўсюль у доме віселі гарбузы. Ён ніколі не бачыў ні такіх дамоў, ні такіх гарбузоў. Плынь накіравала місіянера да лесвіцы. "Гэта дзіўна, – сказаў місіянер, – але нічога звышнатуральнага". Ён узяўся за лесвіцу і падняўся. Гэта быў цудоўны дом. Але там не было ніводнага чалавека. Калі місіянер азірнуўся, ён не ўбачыў вострава – паўсюль хвалявалася толькі бязмежнае мора. "Дзіўны востраў, – сказаў прапаведнік, – але баяцца няма чаго, бо ісціна толькі ў маіх словах".

Ён узяў гарбуз, таму што яму падабаліся дзівосы. Цяпер, ледзь ён паклаў руку на гарбуз, як тое, што ён трымаў у руках, і тое, што ён бачыў і на чым стаяў, – усё гэта лопнула, як бурбалка, і знікла. Над ім згусцілася ноч, ён трапіў у сеткі і боўтаўся ў іх, нібы рыба.

– Камусьці б падалося, што ў гэтым нешта ёсць, – заўважыў місіянер. – Але калі іх расказы праўдзівыя, цікава, што ж тады з маімі расказамі!

Ён адчуў подых паходні Акаангі, яно набліжалася да яго ў цемры. Выродлівыя рукі намацалі сетку, узялі місіянера вялікім і ўказальным пальцамі і панеслі вымаклага прапаведніка сярод цемры і цішыні да месца печаў Міру. Там сапраўды стаяла Міру, румяная ў святле печаў, а таксама сядзелі яе чатыры дачкі і рабілі каву мёртвых. Там сядзелі прышэльцы з жывога свету, што таксама моцна вымаклі, і плакалі.

Гэта было жудаснае месца для любога з сыноў чалавечых. Але з усіх, хто калі-небудзь трапляў туды, місіянер быў больш за ўсіх занепакоены. Да таго ж чалавек побач з ім быў яго рэлігійным вучнем.

– А-а, – пачаў яго вучань, – значыць, і ты тут, поруч з намі? А як наконт усіх тваіх расказаў?

– Здаецца, – адказаў місіянер, заліваючыся слязьмі, – што ў іх няма ні слова праўды.

Да гэтага часу кава мёртвых была прыгатавана, і дочкі Міру пачалі паводле даўніх традыцыяў спяваць: "Зніклі зялёныя астравы, і яркае мора, сонца і месяц, і сорак мільёнаў зорак, і жыццё, і любоў, і надзея. З гэтага часу цябе больш няма, ты толькі сядзіш у ночы і цішыні і глядзіш, як пажыраюць тваіх сяброў; бо жыццё – падман, і павязка здымаецца з тваіх вачэй".

Калі спевы скончыліся, адна з дачок падышла да яго з чарай. Місіянер вельмі хацеў паспытаць кавы: ён прагнуў яе, як плывец прагне даплыць да зямлі або жаніх прагне нявесту. Ён ужо працягнуў руку, узяў чару і хацеў выпіць. А потым ён нешта ўспомніў і адставіў яе.

– Пі! – піскнула дачка Міру. – Няма кавы лепш за каву мёртвых, паспытаць яе адзін раз – узнагарода за ўсё жыццё.

– Дзякуй табе. Пахне цудоўна, – пахваліў прапаведнік. – Але я сам належу да таварыства непітушчых. Хоць я ведаю, што нават у нашым уласным вызнанні існуе розніца ў меркаваннях, я заўсёды лічыў, што каву піць не варта.

– Як? – усклікнуў яго вучань. – Ты збіраешся захоўваць табу ў такі час? Ты ж заўсёды быў супраць табу пры жыцці!

– Маючы на ўвазе іншых людзей, – адказаў місіянер, – і ніколі сябе самога.

– Але тады ўсе твае расказы – хлусня, – сказаў вучань.

– Падобна на тое, – згадзіўся місіянер, – што ж зробіш. Няма прычын, па якіх я павінен парушаць сваё слова.

– Ніколі не чула нічога падобнага! – усклікнула дачка Міру. – Скажы калі ласка, што ты хочаш атрымаць?

– Справа не ў гэтым, – адказаў місіянер. – Я даў гэтае абяцанне дзеля іншых і не збіраюся парушаць яго дзеля сябе.

Дачка Міру разгубілася. Яна прыйшла да маці і распавяла ўсё ёй. Міру раззлавалася, і яны разам пайшлі і расказалі ўсё Акаангу.

– Я не ведаю, што з гэтым рабіць, – сказаў Акаанга і пайшоў размаўляць з місіянерам.

– Проста існуюць праўда і хлусня, – адказаў яму прапаведнік, – і вашым пячам гэтага не змяніць.

– Разліце каву астатнім, – загадаў Акаанга дочкам Міру. – Я павінен пазбавіцца ад гэтага прыдзіры, а то нам толькі горш будзе.

Праз імгненне місіянер вынырнуў пасярод мора і ўбачыў перад сабой астравы, на якіх раслі пальмы. Ён з радасцю паплыў да берага. У яго галаве раілася шмат думак.

– Падобна на тое, што мне няправільна распавялі пра некаторыя рэчы. Магчыма, у гэтым не так шмат, як я меркаваў, але ўсё ж ткі штосьці ў гэтым ёсць. Што ж, парадуемся гэтаму.

Ён дакрануўся да званочка, каб абвясціць пачатак службы.

МАРАЛЬ:

*Зламаюць палкі, скрышаць камяні,*
*Згінуць алтары – не вечныя яны.*
*Знікне, бы восеньскі ліст,*
*Сказ пра тое, кім быў евангеліст.*
*Ніколі не будзе ён адным,*
*Бо ісціна заўсёды з ім.*

## XVII. Вера, паўвера і бязвер'е

У старажытныя часы адправіліся ў паломніцтва трое мужчын: святар, дабрадзейны чалавек і стары валацуга з сякерай.

Пакуль яны ішлі, святар расказваў пра асновы веры.

– Доказы нашай рэлігіі мы можам знайсці ў стварэннях прыроды, – казаў ён.

– Гэта праўда, – згадзіўся дабрадзейны чалавек.

– У паўліна рыпучы голас, – працягваў святар. – Так запісана было ў нашых кнігах. І гэта добра! І гэта суцяшае.

– Мне такія доказы непатрэбныя, – сказаў дабрадзейны чалавек.

– Тады няма ў тваёй веры розуму, – вывеў святар.

– Ісціна вялікая, яна заўсёды пераможа! – усклікнуў дабрадзейны чалавек. – Маёй душой кіруе вера. І будзь упэўнены, вера ёсць і ў Одзіна.

– Глупства, нейкая гульня словамі. Цэлая куча падобных гульняў – нішто перад прыкладам з паўлінам.

Якраз у гэты час яны праходзілі паўз сельскую ферму, дзе на парэнчах сядзеў паўлін. Птушка адкрыла дзюбу і заспявала голасам салаўя.

– Ну, што скажаш? – спытаў здзекліва дабрадзейны чалавек. – А мяне гэта не карабаціць. Ісціна вялікая, яна заўсёды пераможа.

– Чорт бы пабраў гэтага паўліна! – пакрыўдзіўся святар. Пасля гэтага некаторы час ён ішоў моўчкі.

І неўзабаве яны падышлі да святыні, побач з якой факір паказваў цуды.

– Вось! – узрадаваўся святар. – Вось сапраўдныя асновы веры. Выпадак з паўлінам не такі ўжо важны. А гэта – асновы нашай веры.

І ён ударыў сябе ў грудзі і застагнаў, як чалавек, што пакутуе на калаццё.

– А для мяне, – дадаў дабрадзейны чалавек, – усё гэта так жа мала значыць, як і выпадак з паўлінам. Я веру, бо бачу, што ісціна – вялікая, і яна павінна перамагчы. А гэты факір мог бы працягваць свае фокусы да сканчэння вякоў – нават гэта не пераканала б такога чалавека, як я.

Факір разгневаўся пасля гэтых слоў, і рука яго задрыжала. І вось у разгар прадстаўлення карты выпалі ў яго з рукава.

– Ну, што скажаш? – спытаў дабрадзейны чалавек. – А мяне нічога з гэтага не карабаціць!

– Да д’ябла гэтага факіра! – усклікнуў святар. – Я сапраўды не бачу сэнсу працягваць гэтае паломніцтва.

– Трымайся! – усклікнуў дабрадзейны чалавек. – Ісціна вялікая, і яна пераможа!

– Ну, калі ты так упэўнены, што пераможа...

– Даю слова.

І святар працягнуў падарожжа. Настрой ягоны палепшыўся.

Нарэшце да іх нехта падбег і сказаў, што цяпер ўсё страчана: сілы цемры аблажылі нябесныя палацы, Одзін павінен памерці, а зло пераможа.

– Мяне падманулі! – усклікнуў дабрадзейны чалавек.

– Цяпер усё страчана, – сказаў святар.

– А вось цікава, ці не занадта позна памірыцца з д’яблам? – выказаў думку дабрадзейны чалавек.

– Ой, спадзяюся, што не. Як бы там ні было, мы можам хаця б паспрабаваць, – вырашыў святар. – Але куды ты пайшоў са сваёй сякерай? – звярнуўся ён да валацугі.

– Я адпраўляюся паміраць разам з Одзінам, – адказаў той.

## XVIII. Пробны камень

Кароль быў чалавекам, які падабаўся ўсяму свету. Яго ўсмешка была салодкай, як верас, але ўнутры яго хавалася маленькая, з гарошыну, душа. Было ў яго два сыны: малодшы сын быў бацьку па сэрцы, а старэйшага ён баяўся. Аднойчы раніцай, яшчэ да світання, у замку пачуўся барабанны бой. Кароль выехаў верхам з двума сынамі, а суправаджаў іх цэлы атрад. Яны ехалі дзве гадзіны і пад’ехалі да падножжа цёмнай і вельмі крутой гары.

– А куды мы едзем? – спытаў старэйшы сын.

– За гэтую бурую гару, – адказаў кароль і ўсміхнуўся сам сабе.

– Бацька ведае, што робіць, – заўважыў малодшы сын.

Праехаўшы яшчэ дзве гадзіны, яны пад’ехалі да берагоў цёмнай дужа глыбокай ракі.

– Куды мы едзем? – спытаў старэйшы сын.

– За гэтую цёмную раку, – адказаў кароль і ўсміхнуўся сам сабе.

– Бацька ведае, што робіць,– заўважыў малодшы сын.

Яны праехалі ўвесь дзень і прыкладна ў час заходу сонца пад’ехалі да берага возера, дзе стаяў вялікі замак.

– Вось туды мы і едзем, – абвясціў кароль, – у дом караля, і святара, і ў дом, дзе вас многаму навучаць.

Кароль-святар сустрэў іх каля брамы замка. Гэта быў пануры чалавек. Побач з ім стаяла яго дачка, прыгожая, як золак, на твары яе зіхацела ўсмешка, а вочы глядзелі долу.

– Вось гэта два мае сыны, – пачаў кароль, што быў госцем.

– А гэта мая дачка, – адказаў другі валадар.

– Выдатная, прыгожая дзяўчына, – заўважыў бацька двух сыноў. – У яе вельмі прывабная ўсмешка.

– Выдатныя, статныя хлопцы, – заўважыў бацька дачкі. – Мне падабаецца іх сур'ёзнасць.

Пасля гэтых слоў абодва каралі паглядзелі адзін на аднаго і падумалі: "Тут можа штосьці атрымацца".

– Вось тая дзяўчына, з якой я ажанюся, – сказаў старэйшы сын. – Думаю, яна ўсміхаецца мне.

Тут малодшы сын тузануў бацьку за рукаў. "Бацька, я хачу пашаптацца з табой. Калі ты лічыш, што твой малодшы сын нечага варты, дай згоду на тое, каб я пабраўся з гэтай дзяўчынай, таму што я думаю, што яна ўсміхаецца мне".

– Не спяшайся і помні: на паляванні важна ўмець чакаць, а язык дакладна не нашкодзіць, калі будзе за зубамі.

Яны ўвайшлі ў замак і пачалі баляваць. Браты былі ўражаныя пакоямі замка. Кароль-святар сядзеў у канцы стала і маўчаў, што напаўняла хлопцаў павагай. Дачка караля прыслужвала ім, усміхаючыся, апусціўшы вочы, што хвалявала іх сэрцы.

Яшчэ да світання падняўся старэйшы сын і заспеў дзяўчыну за ткацтвам, бо каралеўская дачка была руплівай дзяўчынай.

– Дзяўчына, – пачаў ён, – я б ахвотна ажаніўся з табой.

– Ты павінен пагаварыць з маім бацькам, – адказала яна і апусціла вочы, усміхаючыся і чырванеючы, нібы ружа.

– Я спадабаўся ёй, – вырашыў старэйшы сын і пайшоў да возера, напяваючы.

Крыху пазней да дзяўчыны падышоў малодшы сын.

– Дзяўчына, – пачаў ён размову, – калі б нашыя бацькі пагадзіліся, я б вельмі хацеў ажаніцца з табой.

– Ты можаш пагаварыць з маім бацькам, – адказала яна і апусціла вочы, усміхнуўшыся і пачырванеўшы.

"Яна паслухмяная дачка, – вырашыў малодшы сын, – такая ж атрымаецца з яе і жонка". Ён задумаўся: "Што ж мне рабіць?" І тут ён успомніў, што кароль, яе бацька, – святар. Ён увайшоў у храм і прынёс да ахвярнага алтара ласку і зайца.

Неўзабаве разнеслася навіна. Двух юнакоў і іх бацьку паклікалі на прыём да караля-святара. Той сядзеў на высокім троне.

– Нашто мне ўсе тыя рэчы, што атачаюць мяне, – пачаў ён. – Навошта мне гэтая ўлада. Мы жывем сярод ценяў рэчаў, а сэрцу не хочацца на гэта глядзець. Тут мы, як вопратка, што сохне на ветры; а сэрца баліць ад ветру. Але адно я насамрэч люблю і за адно гэта аддам сваю дачку. Я маю на ўвазе пробны камень. У святле гэтага каменя прывіды знікаюць, праяўляецца ісціна, усё ж астатняе, неістотнае гасне. Таму, хлопцы, калі вы хочаце ажаніцца з маёй дачкой, прынясіце мне гэты камень, бо гэты камень – яе кошт.

– Пару слоў табе на вуха, – звярнуўся малодшы сын да бацькі. – Я думаю, што мы выдатна абыдземся і без гэтага каменя.

– Я думаю тое ж, але памятай: язык дакладна не нашкодзіць, калі будзе за зубамі, – сказаўшы так, кароль усміхнуўся святару.

Старэйшы ж сын назваў караля-святара бацькам.

– Незалежна ад таго, ажанюся я з гэтай дзяўчынай ці не, я буду называць цябе гэтак з павагі да тваёй мудрасці. Проста зараз я адпраўлюся ў шлях і буду шукаць па ўсім свеце пробны камень.

Развітаўшыся, ён адправіўся на пошукі.

– Бадай, я таксама пайду, – сказаў малодшы сын, – калі ты мне дазволіш. Бо маё сэрца цалкам належыць гэтай дзяўчыне.

– Ты паедзеш са мной дадому, – адказаў яму бацька.

І яны паехалі дадому. Дабраўшыся да свайго замка, кароль павёў сына ў скарбніцу.

– Вось, – пачаў ён, – вось пробны камень, што паказвае ісціну, бо няма праўды, акрамя простай ісціны. Калі паглядзіш, убачыш сябе такім, якім ты сапраўды з'яўляешся.

Малодшы сын зазірнуў і ўбачыў свой твар, твар безбародага юнака. Ён быў задаволены. Гэта быў асколак люстэрка.

– Тут няма такой вялікай рэчы, пра якую варта было б клапаціцца, – заключыў ён, – але калі гэта дапаможа мне займець дзяўчыну, я не буду скардзіцца. Але які ж дурань мой брат, што паехаў у свет, а гэтая рэч увесь час ляжала ў нас дома!

І адправіліся яны зноў да караля-святара паказаць яму люстэрка. Кароль-святар паглядзеў у яго і ўбачыў сябе каралём, свой дом – каралеўскім, і ўсе рэчы – такімі, якімі яны і былі. Ён усклікнуў:

– Цяпер я ведаю, што няма праўды, акрамя простай праўды: я сапраўды кароль, хоць сэрца падманавала мяне.

Пасля гэтага ён разбурыў свой храм і пабудаваў новы, а затым малодшы сын ажаніўся з ягонай дачкой.

Тым часам старэйшы сын шукаў пробны камень. Кожны раз, калі ён прыязджаў у якое-небудзь месца, дзе жылі людзі, ён пытаўся, ці чуў хто пра камень. Паўсюль людзі адказвалі: “Мы не толькі чулі пра гэта, але мы адны з усіх людзей валодаем гэтай рэччу: яна вісіць збоку ад нашага коміна па гэты дзень”. Такія адказы вельмі цешылі вандроўніка, і ён прасіў паглядзець на тое, аб чым пытаўся. Часам яму паказвалі кавалачак звычайнага люстэрка. На гэта ён адказваў: “Гэтага не можа быць, таму што існуе і нябачная сутнасць усяго”. Часам яго падводзілі да кавалка вугалю, які нічога не паказваў. Тады ж ён казаў: “Гэтага таксама не можа быць, таму што, па меншай меры, ёсць тое, што мы бачым”. Часам гэта быў сапраўды пробны камень прыгожага адцення, адпаліраваны і пранізаны святлом. Калі ён знаходзіў такі камень, маліў аддаць яго яму, і людзі ніколі не адмаўлялі яму, бо былі шчодрымі на такія камяні. Такім чынам дарожная торба яго напоўнілася. Камяні звінелі ў ёй, калі ён ехаў. Калі ж вандроўнік спыняўся на ўзбочыне дарогі, ён даставаў іх і разглядаў, пакуль галава не пачынала кружыцца, як лопасці на ветраку.

– Час канчаць гэтую справу! – вырашыў старэйшы сын, – бо інакш не будзе ёй канца. Тут у мяне ёсць чырвоны, а тут сіні і зялёны. Усе яны здаюцца цудоўнымі, і ўсё ж кожны з іх асаблівы і не падобны да іншых. Час канчаць! Калі б не яе бацька, які і для мяне бацька, і калі

б не яна, гэтая дзяўчына, якая прымушае мае вусны спяваць, а сэрца біцца мацней, я б кінуў іх усе ў салёнае мора і пайшоў дадому, і стаў каралём, як іншыя.

Але ён быў падобны да паляўнічага, што ўбачыў аленя на гары: нават калі б наступіла ноч, а яго дома чакаў сямейны агмень, нават гэта не перамагло б адзінае яго жаданне – злавіць гэтага аленя.

Старэйшы сын выйшаў на начны дзікі бераг салёнага мора. Там ён убачыў дом, у якім пры святле свечкі сядзеў чалавек, бо ў яго не было агню. Старэйшы сын увайшоў да яго, чалавек даў яму вады, каб наталіць смагу, бо ў яго не было хлеба. Падчас размовы з ім чалавек толькі ківаў галавой, захоўваючы маўчанне.

– У цябе ёсць пробны камень ісціны? – спытаў у яго старэйшы сын. Чалавек зноў толькі кіўнуў галавой. – Я так і думаў! – усклікнуў старэйшы сын. – У мяне іх тут цэлая торба. – Сказаўшы гэта, ён засмяяўся, хаця сэрца сціскалася ад смутку. Чалавек таксама засмяяўся, і яго смех згасіў свечку.

– Паспі, – сказаў гаспадар, – ты зайшоў досыць далёка, і твае пошукі скончаны, а мая свечка згасла.

Наступнай раніцай чалавек даў яму празрысты каменьчык, у якім не было ні прыгажосці, ні колеру. Вандроўнік пагардліва паглядзеў на яго і паківаў галавой. Ён зноў адправіўся ў дарогу, камень здаваўся яму дробяззю.

Увесь той дзень ён скакаў верхам, розум яго быў спакойны, і жаданне некуды ехаць уляглося. “А што, калі гэты бедны каменьчык ўсё ж такі акажацца выпрабавальным каменем?” – ён злез з каня і вытрас змесціва торбы на зямлю. Цяпер усе пробныя камяні страцілі свае адценні і агонь і пабляклі, як зоркі раніцай. Апошні камень аказаўся самым яркім. Старэйшы сын ударыў сябе па лбе. “А што, калі гэта праўда? Ну хоць трошкі?” Ён узяў каменьчык і накіраваў яго святло на нябёсы. Неба быццам ўпала ў яго, як у яму. Пасля накіраваў яго на халодныя і суровыя пагоркі, але і там было жыццё, ды такое, што яго ўласнае жыццё здавалася дробяззю. Тады падарожнік накіраваў яго на ўласныя вочы і ўбачыў уласны погляд з радасцю і жахам. Ён апусціўся на калені і памаліўся.

– Цяпер, дзякуй Богу, я знайшоў пробны камень. А зараз можна адправіцца да караля і яго дачкі, якая прымушае мае вусны спяваць, а сэрца біцца мацней.

Пад’ехаўшы да замка, старэйшы сын убачыў дзяцей, што гулялі каля брамы, дзе кароль сустракаў яго ў ранейшыя часы. Дзеці навялі яго на салодкія думкі: “Менавіта тут павінны гуляць і мае дзеці”. Калі ён увайшоў у залу, там сядзеў яго малодшы брат, а побач з ім тая самая дзяўчына. Старэйшы брат падумаў: “Гэта я павінен сядзець там, а дзяўчына – быць побач са мной”.

– Хто ты і нашто прыйшоў у замак? – спытаў малодшы брат.

– Я твой старэйшы брат, – адказаў вандроўнік. – І я прыйшоў, каб ажаніцца з гэтай дзяўчынай, бо я прынёс пробны камень ісціны.

Малодшы брат гучна засмяяўся.

– Не, браце, гэта я знайшоў пробны камень шмат гадоў таму і ажаніўся з дзяўчынай, а каля брамы гуляюць нашыя дзеці.

Пры гэтых словах старэйшы брат пасівеў, нібы світанак.

– Вельмі спадзяюся, што ты зрабіў гэта сумленна, бо цяпер я адчуваю, што маё жыццё страчана.

– Сумленна? – паўтарыў малодшы брат. – Табе, неспакойнаму ўцекачу, не выпадае сумнявацца ў маёй сумленнасці ці сумленнасці караля, якога добра ведаюць у краіне.

– Ну не, пачакай, у цябе ёсць усё, май жа таксама і цярпенне. Дазволь сказаць, што свет поўны пробных камянёў, і нялёгка зразумець, які з іх з'яўляецца сапраўдным.

– Мне няма чаго хаваць ад цябе, – заявіў малодшы з братоў, – на, зазірні ў гэтую рэч.

Старэйшы брат зазірнуў у люстэрка і здзівіўся. Ён убачыў старога з белымі валасамі на галаве. Ён сеў у зале і заплакаў.

– Паглядзі, – працягваў малодшы, – і падумай: на якое дурнаццё ты страціў жыццё? Ты аббег увесь свет, каб знайсці рэч, якая ляжала ў скарбніцы нашага бацькі, а вярнуўся старым дурнем, якога і сабакі не прапусцяць без брэху. Няма і не будзе ў цябе ні жонкі, ні дзяцей. Я ж, хто раней заўсёды быў паслухмяны і мудры, сяджу тут, шчаслівы пры святле майго агменя.

– Твае словы даволі жорсткія, – заўважыў старэйшы сын. Пасля ён выцягнуў празрысты каменьчык і паглядзеў у яго, накіраваўшы яго святло на брата: у святле ён убачыў таго, хто хлусіць, а душа лгуна сціснулася да памераў гарошыны, у сэрцы сабралася мноства маленькіх страхаў, падобных да скарпіёнаў, а каханне памерла ў грудзях. Старэйшы брат накіраваў святло каменьчыка на дзяўчыну, і вось! – яна была ўсяго толькі ценем жанчыны, унутры не засталося нічога жывога, а ўсмешка яе была бессэнсоўнай, як цікання гадзінніка, і чаго яна ўсміхалася – яна сама не ведала.

– Што ж, бачу, тут ёсць і добрае, і дрэннае. Так што бывайце здаровыя, я ж адпраўлюся ў свет са сваім каменьчыкам у кішэні.

## XIX. Нябога

Жыў на астравах чалавек. Ён лавіў рыбу без хітрых адмысловых прыладаў і, рызыкуючы жыццём, плаваў у моры на сяк-так зробленым плыце, складзеным з чатырох дошак. І хоць у яго было шмат клопатаў, сэрца яго заўсёды заставалася вясёлым. Не ведаючы шмат, ён вылучаўся цвёрдасцю духу. Калі ж на кручок яму траплялася рыба, ён шчыра славіў Бога. Маёмасці ў яго практычна не было, да таго ж ён меў непрыгожую знешнасць і жыў бабылём.

Аднойчы, калі прыйшоў час адпраўляцца на рыбалку, мужчына прачнуўся ў сваёй хаціне дзесьці ў сярэдзіне дня. Пасярод хаціны гарэла вогнішча, дым якога ішоў уверх, сонца ўжо заходзіла. Гаспадар убачыў нейкага прывіда, што грэў рукі ў цяпле вогнішча.

– Вітаю цябе імем Бога, – пачаў чалавек.

– Вітаю цябе, – адказаў той, што грэў рукі, – але не імем Бога, бо я яму не належу, але і не імем пекла, бо я таксама не адтуль. Я ўсяго толькі бяскроўная істота, што лягчэй за вецер і гук: вецер праходзіць скрозь мяне, як праз сетку, ад гуку ж я дрыжу, нібы ад холаду.

– Будзь шчырым са мной і скажы, як цябе завуць і адкуль ты, – зацікавіўся чалавек.

– Мяне ніяк не завуць, і прырода мая нікому невядома. Я толькі частка чалавека, я з'ўляюся часткай тваіх продкаў, хадзіў з імі рыбачыць, паляваць, суправаджаў іх калісьці ў іх бітвах. Зараз жа мая чарга яшчэ не

прыйшла, і я чакаю, калі ты знойдзеш жонку. Тады я стану тваім сынам, смялейшай яго часткай, што будзе смела весці караблі па хвалях, умела кіраваць штурвалам, а разам з тым і магутнейшай яго часткай – там, дзе ўтойваюцца небяспекі і дзьмуць вятры.

– Вельмі прыемна чуць такія словы, але калі ты мой сын, баюся я за цябе. Усё ж я вельмі бедны, а мая знешнасць агідная, і калі мне пашчаслівілася дажыць да маіх гадоў, мне наўрад ці пашчасціць ажаніцца.

– Каб гэта выправіць, я і аказаўся тут, Тата. – Сёння ноччу мы павінны дабрацца да авечага вострава, дзе ў грабніцах ляжаць нашыя продкі, а заўтра – да двара дачкі графа, дзе ты і знойдзеш сабе жонку з маёй дапамогай.

Так і зрабілі: чалавек пайшоў і спусціў лодку на заходзе сонца. Прывід сеў на носе, пырскі вады пранізвалі яго косткі, а вецер свістаў у яго зубах; для лодкі ён не меў ніякай вагі: яна не апускалася пад ім.

– Я баюся за цябе, сыну, – заўважыў мужчына, – бо мне здаецца, што ты не ад Бога.

– Гэта ўсяго толькі вецер свішча ў мяне ў зубах, – супакоіў яго прывід, – ды ўва мне няма жыццёвай моцы, каб стрымаць яго.

Тым часам дабраліся яны да вострава. Аб яго берагі разбіваўся прыбой мора, а сам востраў увесь зелянеў ад папараці, паўсюль было вільготна ад расы. Зверху на востраў свяціў месяц. Яны завялі лодку ў бухту і ступілі на сушу. Чалавеку цяжка давалася дарога сярод скал у глыбіні папараці, прывід жа ішоў наперадзе і ў святле месяца здаваўся дымам. Ён прывёў чалавека да піраміды мёртвых, і чалавек прыклаў вушы да камянёў. Унутры чуліся скаргі мёртвых, падобныя да гулу пчалінага рою: “Былі часы, калі мы жылі ў сваёй плоці, а ў сухажыллях захоўвалася моц; мы маглі ажыццяўляць нашыя думкі і словы. Але цяпер мы разбітыя на часткі, косці распаліся, а думкі змярцвелі”.

Тады прывід параіў: “Запатрабуй ад іх, каб яны далі табе дабрачыннасць, якую яны хавалі”.

Чалавек пачаў так:

– Вітаю вас, косці маіх продкаў! Бо ад вас і я нарадзіўся. І вось цяпер я разбіваю нагрувашчаныя камяні вашай грабніцы і ўпускаю святло паміж вашымі парэшткамі. Гэта робіцца да лепшага, бо гэтаму суджана адбыцца. Заклікаю кроўю і Богам: дайце мне тое, па што я прыйшоў.

Духі мёртвых заварушыліся ў грабніцы, нібы мурашы, і адказалі:

– Ты зламаў дах нашай піраміды і ўпусціў святло на нашыя косці. Ты яшчэ маеш сілу жывых. А што мы? Што мы ўяўляем сабой? Хіба ёсць тут паміж нас нейкая каштоўнасць, якую б прагнуў атрымаць жывы чалавек? Мы яшчэ менш за нішто. Але мы, гудучы ўсімі галасамі, як пчолы, скажам табе адно: жыццёвы шлях ясны ўсім, ён пракладзены і яго не змяніць; дык ідзі ж смела наперад, жыві і не бойся, бо так паступалі ўсе мы ў старажытныя часы.

На гэтым галасы заціхлі, як сціхае вада ў рацэ.

– А цяпер, калі яны далі табе добрую параду, – умяшаўся прывід, – папрасі іх зрабіць сабе падарунак: акуратна апусці руку ў грабніцу – і там ты знойдзеш скарб.

Чалавек апусціў руку, і мерцвякі схапіліся за яе: адчувалася, як яе ахапіла шмат рук, але вельмі слабых, нібы цягнулі мурашы. Чалавек лёгка скінуў іх, падняў руку і ўбачыў, што яна трымала – іржавую падкову каня.

– Непатрэбная рэч, – расчараваўся чалавек. – Да таго ж іржавая.

– Пажывем, тады і пабачым, – адказаў прывід. – Усё ж такі я лічу, што трэба рабіць так, як рабілі нашыя продкі, выконваць тое ж, што і яны. І ў гэтым свеце любая рэч можа спатрэбіцца гэтак жа, як і любыя іншыя; спатрэбіцца і конская падкова.

З ёю яны вярнуліся ў лодку, і калі неба асвяціў золак, яны ўбачылі дым графскага горада і пачулі званы царквы. Яны сышлі на бераг, адкуль чалавек адразу накіраваўся на рынак, дзе збіраліся рыбакі. А што ён мог прадаць ці купіць? Ён быў надзвычай бедным і меў агідную знешнасць, ён і рыбу нават ніколі не прадаваў, цяпер жа ў яго кошыку ляжала іржавая падкова.

– Цяпер, – раіў прывід, – рабі так і так, і ты знойдзеш сабе жонку, а мне – маці.

Здарылася так, што па рынку ішла дачка графа, накіроўваючыся ў царкву, каб памаліцца. І вось на вочы ёй трапіўся бедны чалавек, што стаяў з адной толькі іржавай падковай. Яна падумала, што падкова павінна быць каштоўнай.

– А што гэта? – спытала яна.

– Гэта конская падкова, – адказаў чалавек.

– І якая ад яе карысць?

– Яна бескарысная.

– Не магу паверыць. Чаму ж ты яе трымаеш?

– Я раблю так, бо так рабілі ўсе мае продкі ў старажытныя часы. І іншай прычыны тут не адшукаць.

Дачка графа ніяк не магла паверыць яму.

– Прадай яе мне. Я ўпэўненая, што гэта каштоўная рэч.

– Не, гэтая рэч не прадаецца.

– Як?! – усклікнула графская дачка. – Дык навошта ты стаіш тут, на гарадскім рынку, з гэтай штукай у кошыку, калі нікога няма побач.

– Я стаю тут, каб знайсці сабе жонку.

“Бязглуздзіца нейкая, – падумала дачка графа, – але незразумелы смутак поўніць маё сэрца”.

Тут падыйшоў граф. Дачка распавяла яму ўсё. Пачуўшы ўсё гэта, ён пагадзіўся з меркаваннем дачкі, што падкова павінна быць вялікай каштоўнасцю. Ён звярнуўся да чалавека і папрасіў прызначыць цану за гэтую рэч, інакш яго павесяць на шыбеніцы. Тая якраз стаяла непадалёк, яе можна было бачыць.

– Жыццёвы шлях ясны ўсім, ён пракладзены і яго не змяніць, – адказаў на ўсё гэта мужчына. – Калі ж мне наканавана быць павешаным, дык няхай мяне павесяць.

– Вось дык вось! – здзівіўся граф. – Няўжо ты падставіш шыю з-за конскай падковы, якая да таго ж іржавая?

– У гэтым свеце любая рэч можа спатрэбіцца гэтак жа, як і любыя іншыя; спатрэбіцца і конская падкова.

“Што ж гэта такое?!” – думаў граф, гледзячы на чалавека і гладзячы бараду.

Чалавек падняў вочы на графа і ўсміхнуўся. “Так паступалі ўсе мае продкі ў старажытныя часы. І іншай прычыны тут не адшукаць”, – паўтарыў ён.

“Бязглуздзіца нейкая, – думаў граф, – мусіць, я пастарэў ужо, каб нешта зразумець”.

Побач з ім стаяла яго дачка, і ён звярнуўся да яе:

– Многім прыхільнікам ты адмовіла, дзіця маё. Гэты ж чалавек... Ці не дзіва, што ён так чапляцца за іржавую конскую падкову? Ці не дзіва, што ён яе прадае, і ўсё ж не хоча прадаць яе? А тое, што ён стаіць на рынку ў пошуках жонкі? Калі я не дакапаюся да сутнасці гэтай справы, я больш не буду атрымліваць задавальненне ад хлеба. Я не бачу іншага выйсця: ці мне яго павесіць, ці ты павінна стаць яго жонкай.

– Далібог, ён жа надзвычай вырадлівы, – сказала дачка графа. – А шыбеніца так блізка...

– Зусім не так, – заўважыў граф, – рабілі мае бацькі ў старажытныя часы. Я ўвогуле нічым не адрозніваюся ад гэтага чалавека. А ты, калі ласка, пагавары з ім яшчэ раз.

Дачка графа звярнулася да чалавека:

– Калі б ты не быў надзвычай агідным, мой бацька, граф, ажаніў бы нас.

– Я вельмі агідны, – згадзіўся чалавек, – а ты прыгожая, як вясна. Ды што ж з гэтага? Вось мае продкі...

– Дзеля Бога, – перабіла яго дачка графа, – пакінь у спакоі сваіх продкаў.

– Калі б я зрабіў так, не сустрэліся б мы на гэтым рынку з табой, а твой бацька-граф не назіраў бы за намі краем вока.

– І ці не дзіва, – працягвала жанчына, – што мяне хочуць зрабіць жонкай з-за іржавай падковы?

– Па-мойму, любая рэч можа спатрэбіцца...

– Прашу, пазбаў мяне ад гэтага. Лепей адкажы, чаму мы павінны ўзяць шлюб?

– Слухай і глядзі.

Вецер пранёсся скрозь прывіда, і пачуўся плач немаўля; сэрца жанчыны было кранута, яе вочы шырока расплюшчыліся, яна ўсвядоміла гэта некранутае немаўля як сваё дзіцё, узяла яго на рукі, на якіх прывід растаў.

– Падыдзі, – сказаў чалавек, – і глядзі: вось бачанне нашых дзяцей, наш хатні агмень, вось і мы ўсе. Не станем прасіць пра нешта большае, бо гэта ўсё, што прапануе Бог.

– Не вельмі мне гэта падабаецца, – сказала, уздыхнуўшы, дачка графа.

– Жыццёвы шлях ясны ўсім, ён пракладзены і яго не змяніць, – і чалавек узяў яе за руку.

– А з падковай што зробім?

– Я аддам яе твайму бацьку, ён можа пабудаваць з гэтага царкву і млын для мяне.

Прайшоў час. Прывід-сын нарадзіўся, але памяць аб тым, што ён зрабіў, заснула. Ён гэтага ўжо не ведаў. Стаўшы часткай старэйшага сына, ён умела кіраваў караблём, быў магутнейшым чалавекам там, дзе ўтойваюцца небяспекі і дзьмуць вятры.

## XX. Песня заўтрашняга дня

Была ў караля Дантрайна пад старасць толькі адна дачка. Яна была прыгажэйшай дзяўчынай паміж двума морамі. Валасы яе віселі залатымі пасмамі, а позірк вачэй быў глыбокім, нібы два возеры. Падарыў кароль дачцэ замак, што стаяў на марскім беразе. У замку былі тэраса і двор, зроблены з абчасанага каменя, у кожным з чатырох кутоў узвышаліся

вежы. Тут яна жыла і расла і не клапацілася пра заўтрашні дзень, не маючы ўлады над часам, як і ўсе простыя людзі.

Неяк раз увосень ішла яна па беразе мора, надвор'е было кепскае: моцныя дажджы змяняліся такімі ж вятрамі. З аднаго боку непакоілася мора, з другога – моцны вецер падхопліваў апалае лісце і кружыў яго. Гэта быў самы адасоблены бераг паміж двума морамі, у старажытныя часы на гэтым месцы рабіліся дзіўныя рэчы. Раптам каралеўская дачка заўважыла старую, што сядзела на беразе. Да яе ног бегла марская пена, апалае лісце кружылася за яе спінай, а сама яна сядзела ў лахманах, якія трапаў вецер і якія засланялі яе твар.

– Гэта самая няшчасная старая, якую я бачыла паміж двума морамі, – сказала каралеўская дачка, згадаўшы святое імя.

– Каралеўская дачка, паслухай, – адказала старая, – ты жывеш у каменным замку, твае валасы маюць колер золата, а нашто табе ўсё гэта? Жыццё кароткае і крохкае, і ты жывеш, як усе простыя людзі, не дбаючы пра заўтрашні дзень і не маючы ўлады над часам.

– Над заўтрашнім днём я думала, – не згадзілася дачка, – а вось над часам я сапраўды ўлады не маю.

Сказаўшы гэта, яна задумалася.

Тады старая пляснула худымі рукамі і засмяялася, нібы марская чайка. "Дадому! – усклікнула яна. – О, каралеўская дачка, вяртайся ў свой каменны дом, бо туга авалодала табой зараз, не зможаш ты жыць больш па звычаі простых людзей. Ідзі дадому, працуй і пакутуй, пакуль не прыйдзе дар, які ачысціць цябе, а разам з ім і чалавек, які паклапоціцца пра цябе".

Каралеўна хутка павярнулася і моўчкі пайшла дадому. А калі дабралася да замка, паклікала карміцельку.

– Слухай, – пачала яна, – думаю я аб заўтрашнім дні і разумею, што не магу больш жыць як простыя людзі. Падкажы, што мне трэба зрабіць, каб падпарадкаваць сабе ходу часу?

Тады карміцелька гучна застагнала, як снежная бура. "Калісьці гэтая неадчэпная думка павінна была прыйсці табе ў галаву! – усклікнула яна. – Будзь жа па-твойму! Хаця сіла бывае часам меншай за слабасць, ты ўсё ж павінна быць моцнай; і хоць думкі аб гэтым халадней за суровую зіму, усё ж ты мусіш дадумаць яе да канца".

Так дачка караля сядзела ў сваім пакоі са зводамі, што быў у тым каменным замку, і ўсё думала. Так яна прасядзела дзевяць гадоў. Праз тэрасу хвасталі марскія хвалі, над вежамі крычалі чайкі, у комінах замка гудзеў вецер. Дзевяць год не пакідала яна пакойчык, не ўдыхала чыстага паветра, не бачыла Божага неба. Дзевяць год прасядзела яна, не гледзячы ні ўправа, ні ўлева, не чуючы нічыіх размоў – усё думала пра заўтрашні дзень. Карміцелька карміла яе моўчкі – тая брала ежу левай рукой і ніколі не малілася ні да абеду, ні пасля.

Прайшло дзевяць гадоў, надышлі восеньскія прыцемкі, вецер данёс гукі, падобныя да гукаў трубы. Карміцелька, падняўшы палец, звярнула ўвагу каралеўны на гэта:

– Я чую гук у ветры, нібы нехта грае на жалейцы, – заўважыла яна.

– Ледзь чутны гук, але дастатковы для мяне, – адказала каралеўская дачка.

Яны спусціліся ў прыцемках да дзвярэй дома і пайшлі ўздоўж берага мора. З аднаго боку непакоілася мора, з другога – моцны вецер пад-

хопліваў апалае лісце і кружыў яго; па небе імчаліся аблокі, вакол якіх лёталі чайкі. І калі яны падышлі да тых мясцін, дзе ў старажытныя часы рабіліся дзіўныя рэчы, там ізноў была старая, на гэты раз яна танцавала, рухаючыся супраць гадзіннікавай стрэлкі.

– Чаму ты танцуеш, старая, ды гэтак дзіўна? – спытала каралеўна. – Тут, сярод марскіх хваляў і апалага лісця?

– Я чую ў ветры гук, падобны да гуку трубы, – сказала тая. – Менавіта таму я танцую, рухаючыся супраць гадзіннікавай стрэлкі. Бо прыходзіць дар, які ачысціць цябе, а разам з ім і чалавек, які паклапоціцца пра цябе. Для мяне ж наступіў заўтрашні дзень, аб якім я думала, і зараз з ім прыйшоў час маёй моцы.

– Але ж ты дрыжыш на маіх вачах, як ануча, і колерам твару становішся падобнай да апалага лісця, – запярэчыла каралеўна.

– Гэта ўсё таму, што наступіў дзень, пра які я думала, і зараз з ім прыйшоў час маёй сілы, – паўтарыла старая.

Тут яна ўпала на зямлю, і праз імгненне на гэтым месцы засталіся толькі сцёблы марской травы і пыл марскога пяску, на якім скакалі пясчаныя блохі.

– Такія дзівосы яшчэ не здараліся паміж двума марамі, – заўважыла дачка караля Дантрына.

Неўзабаве ў карміцелькі вырваўся цяжкі стогн: “Я стамілася ад ветру”, – прамовіла яна і горка заплакала, успамінаючы дні сваёй маладосці.

Тут каралеўна заўважыла чалавека. Ён ішоў з пакрытай капюшонам галавой, твар яго нельга было разгледзець, у руцэ ён трымаў жалейку. Яе гук быў падобны да гулу пчол, да ветру, што гудзе ў бураломе. Гэты гук авалодваў чалавечымі вушамі, нібы крык чаек.

– Гэта ты павінен быў прыйсці? – спытала дачка караля Дантрына.

– Так, у мяне ёсць труба, што выдае гукі, здольная зачараваць чалавечы слых, у мяне ёсць улада над часам, і зараз прагучыць песня заўтрашняга дня.

І ён зайграў яе, і песня была доўгай-доўгай, як гады. Служанка плакала, слухаючы гэтую песню.

– Згодная з тым, што гэта песня заўтрашняга дня, але як ты дакажаш, што маеш уладу над часам? – спытала каралеўна. – Пакажы мне цуд тут, на беразе, паміж марскімі хвалямі і апалым лісцем.

– На кім паказаць? – спытаў чалавек.

– А вось мая служанка, яна стамілася ад ветру. Пакажы мне цуд на ёй.

І сапраўды адбыўся цуд! Карміцелька ўпала на зямлю, нібы ўпалі дзве прыгаршчы сухога лісця, вецер закруціў лісце ў віхуры, а паміж імі заскакалі пясчаныя блохі.

– І праўда, менавіта ты павінен быў прыйсці. Пойдзем са мной у мой каменны замак.

І яны пайшлі па беразе мора. Па дарозе чалавек зацягнуў песню заўтрашняга дня, услед ім ляцела сухое лісце.

У замку яны селі разам. Мора білася аб тэрасу, над вежамі крычалі чайкі, у комінах дома завываў вецер. Так яны сядзелі дзевяць год, і кожны год, калі наступала восень, чалавек казаў: “Цяпер мой час улады над часам”. На гэта дачка караля адказвала: “Лепей праспявай мне песню заўтрашняга дня”. І ён зноў граў яе, і была яна доўгай-доўгай, як гады.

Прайшлі чарговыя дзевяць год, дачка караля Дантрайна ўстала,

нібы нешта ўспомніла. Яна агледзелася ў каменным доме: усе слугі сышлі, застаўся толькі чалавек, які граў на жалейцы, седзячы на тэрасе і закрыўшы твар рукой. Ён іграў, лісце лётала па тэрасе, мора білася аб сцяну. Тады яна паклікала яго гучным голасам: “Зараз мой час, дай жа мне адчуць сілу ў ім”. Але тут вецер сарваў капюшон з твару мужчыны, і – вось жа цуд! – за ім нікога не аказалася: толькі адзенне, капюшон і жалейка валяліся адно на адным у куце тэрасы, а над імі кружляла апалае лісце.

Тады дачка караля Дантрайна пайшла да тых мясцін, дзе ў старажытныя часы рабіліся дзіўныя рэчы, і села там. Марская пена бегла да яе ног, сухое лісце раіліся за яе спінай, а твар яе пакрываў вэлюм, які развяваўся ветрам. Калі ж яна падняла вочы, то ўбачыла дачку караля, што ідзе па беразе. Валасы яе віселі залатымі пасмамі, а позірк вачэй быў глыбокім, нібы два возеры, яна не клапацілася пра заўтрашні дзень, не маючы ўлады над часам, як і ўсе простыя людзі.

## Вольга Бражнік



...чуюцца стогны нам –

бліскае: блізка...

# Ab initio

* * *

Душа-матылёк. Карункі крылцаў малых
Хімерна паўстаюць у гушчы кававай.
Камусьці наканавана абараняць тылы,
А іншым – лёсы мераць лякаламі.

Так павялося – да асфальтавай шашы
Нядаўна блукалі хіба што сцежкаю...
Хто лёс у сэканд-хэнд нясе без душы?
Куюць шчасце сваё кавалі. Ну і я кую.

Бетон і шкло, пластмаса й акрылы –
Кожны дзень абрастаем фартэцыямі...
Душа ж – матылёк, а карункі крылаў
Нязменныя – з Атлантыды аж да Венецыі...

*Пераклад з украінскай Сержука СЫСА.*

Паспешліва прамаўляем спіч, анягож,
Пакуем чамаданы і несэсеры...
А Папялушка да печы бяжыць басаནож.
І стане, стане – верыце? Прынцэсаю!

### *AB INITIO*[1]

Скрозь рэгаліі і чыны,
Праз тысячы тысяч міль
Я пастукаюся – адчыні.
Не здзівішся? Гжэчны стыль.

Цісне неба. Жыць не карціць.
Не чакалі? А вось і я!
Дзе арол трохгаловы ляціць –
Там такая ж паўзе змяя.

Паміж хат загубіўся кат,
Бачыш танга, а чуеш вальс.
І яшчэ ўсё амаль без страт,
Толькі страчаны дзесь аўсвайс.

Пралячу звыш за сотню неб,
Не адзін адамкну замок
Вінаваўцу маіх халеп,
Асалодзе маіх... Маўчок!

* * *

Аддай маё лета – я кіну будучыя вёсны табе пад ногі.
Аддай маё цела – яно й не належыць табе, дарэчы.
Багемнае жыццё слепа лепіцца да жыццяў святых і ўбогіх,
То, можа, хто з іх не пагрэбаваў зляпіць бы глечык.
Вакол – арматура, за спінай – вопыт: урбаністычны вярблюд...
Надзея – падзейнічае? – галубка лісты электронныя носіць...
Дык прысягнуць мне на чым, за тое, што не люблю?
Правую руку адсекчы? Чакай, запляту хоць апошні раз косы.
На зрэзе тваім колцаў векавых не злічыць – хоць трэсні.
Павесіў на шыю ярмо і называеш яго каралямі горда...
Калі мой горад супраць занадта сувязяў цесных –
Дык я супраць таго, каб жыць у такім горадзе.

---

[1] Ад пачатку (*лац.*).

## *ЧЫРВОНАЕ*

Я ўжо за княжымі ваярамі не плачу –
іх расцягнулі ваўкі, груганы падзяўблі
Костку дзе ўбачу – праз плячо на ўдачу
плюну ды й паскачу зайчанём праз палі.

За караля-Сонца – чырвонага, голага,
абы не віцца змяёўнай коламі вакол чашы –
сабе адгрызла хваста аж па самы голаў.
Паміж чырвоным і белым, між немцы ды нашы

Дзяліць больш няма чаго – усё ўжо падзелена,
больш цябе не будзе – не будзе ўжо ад каго.
Ты з мяне чырвонага, я з цябе – белага
напаўсалодкага. Ці кагор?

Так упіваліся, што ні канца, ні краю,
нягледзячы на ўсе забароны і стыгмы.
Я ўжо табе аплочваю і вяртаю.
Толькі тады возьмеш, калі астыне.

* * *

Еду дахаты – ледзьве зямлі кранаюся,
Фара згасла зусім, кола адвалілася...
Што на вячэру, што там, гэй, на камбузе?
Змілуйся, змілуйся...
Змілуйся,
Толькі не плётку, гэтымі рыбамі
Доўга ў святле сафітаў будзе яшчэ смярдзець,
А вунь раней ляпілі людзей хлебнымі глыбамі –
Так і Калядамі, якіх, дзецям нам, не сустрэць.
Еду я,
іду ўжо,
пожнямі, просамі сытымі гну спіну,
Стоўнхэндж
Чуюцца стогны нам – бліскае: блізка,
Хутка ўжо, хутка кашулю тваю апрану.
Мазгі
барвянеюць раз'ятрана – дай мне, дай,
што там на камбузе – тэрцыі, унцыі, ком цу мір...
помсты? рэваншу? Ай –
стронцыю.

Валадзімір Ешкілеў



...менавіта Галіччына...
была калыскаю чалавецтва...

# Галіцкія краязнаўчыя апокрыфы

## Чэрап Доўбуша і зялёныя дзеці

Найактыўнейшы перыяд навуковай дзейнасці галіцкага краязнаўцы, філатэліста і метафізіка Міраслава-Любарта Лявіцкага (у некаторых біёграфаў, што пісалі ў позні савецкія ды раннія алігархічныя часы, – Любарта Вінцэнтавіча Лявінскага, +1924 г.) прыпаў, як вядома, на першую дэкаду XX стагоддзя. Сучаснік Франко, старэйшы таварыш Васіля Стэфаніка, Амвросія Гапусяка і рэбе Зэмекіса, ён прысвяціў сваё жыццё пошукам доказаў гранічна-даўняга паходжання ўкраінскіх плямёнаў, якія насяляюць край між Карпатамі і Збручам.

Ідэя "найдаўнейшага паходжання галічанаў" (далей – НПГ) узнікла ў Любарта Вінцэнтавіча, як пішуць гісторыкі Галіччыны, зімовым вечарам 1897 года падчас наведання папулярнай у тыя часы карчмы паблізу Забалотава, дзе будучы класік галіцкага краязнаўства, маючы добры настрой, ужываў розныя напоі. Пасля чарговага ўжывання

*Пераклад з украінскай Андрэя НАЛІВЫ.*

ён раптам усвядоміў несамавітую – нібыта наўмысна, прароча і лёсава падкрэсленую вышэйшымі няспячымі сіламі – пачварнасць навакольнага вясёлага народа. Менавіта ў гэты момант Любарт Вінцэнтавіч зразумеў, што гэтыя непрыгожыя п'яныя людзі, гэтыя ўласнікі адтапыраных вушэй, прыліплых да пераносся маленькіх вочак, квадратных шчэлепаў, магутных надброўных дуг і пірамідальных патыліцаў і ёсць прамымі нашчадкамі найдаўнейшых жыхароў Еўразіі. Адзін з біёграфаў Лявіцкага настойвае на тым, што незадоўга да таго НПГ-празорства краязнавец разам з вольнадумным рэбе Земскісам чытаў нямецкі навуковы часопіс, нават не столькі чытаў, бо ведаў нямецкую вельмі кепска, колькі разглядваў малюнкі, на якіх былі выявы краманьёнцаў, неандартальцаў ды іншых выкапнёвых прыматаў, і слухаў каментары рэбе да тых выяваў, вытрыманыя ў радыкальным дарвініскаму духу, уласцівым таму мадэрноваму часу.

Відавочная падобнасць галоваў заўсёднікаў карчмы з малюнкамі, яшчэ й падкрэсленая посталкагольнаю гіперчуллівасцю сапраўднага галіцкага інтэлігента, па словах біёграфа, настолькі ўразіла Любарта Вінцэнтавіча, што да канца таго памятнага вечара ён страціў апошнія сумневы што да месца, адкуль пачалася сусветная гісторыя. Менавіта Галіччына, сцвярджаў ён ад таго і да канца сваіх дзён, была калыскаю чалавецтва.

Каб пацвердзіць тэорыю НПГ, Любарт Вінцэнтавіч пачаў даследаваць пячоры ды розныя адметныя мясціны галіцкага краю. У прыватнасці, разам з прыблудным армянскім эрудытам Амаякам Вазняком яны перакапалі ці не тры соткі зямлі вакол капішча ў Бубніцы і знайшлі там кавалак чэрапа невядомага навуцы чалавекападобнага прымата, якога яны па тагачаснай навуковай традыцыі назвалі "русінантрапам".

Знаходка фатальным чынам была пазначаная на жыццёвай мапе краязнаўцы. Сталася так, што ў прасветленыя галовы мясцовых жыхароў хтосьці ўклаў перакананне, быццам бы выкапаная костка з'яўляецца часткаю чэрапа знакамітага тут Алексы Доўбуша. Простыя людзі вырашылі прыўласніць рэліквію. Тым больш, што ўжо дзве вёскі Болехіўскага куста мелі чарапы Доўбуша і страшэнна тым ганарыліся. У адной вёсцы з найвялікшаю пашанаю зберагалі чэрап Доўбуша ў дванаццацігадовым узросце, а ў царкве другой парог хаваў паўчэрапа дарослага Доўбуша з агнястрэльнаю адтулінаю ў скроні.

Вось жа, жыхары тае ананімнае вёскі каля капішча (якая – між іншым – называлася і называецца цяперака Скалою Доўбуша) вырашылі, што нарэшце знойдзены трэці, найпрэстыжнейшы чэрап народнага героя. Не смаркатага ўзросту і не сапсаванага дурною куляю. А вырашыўшы, набраліся рашучасці ўцерці насы іншым вёскам.

Усе спробы Любарта Вінцэнтавіча і Амаяка Вазняка патлумачыць пейзанам, што чэрап з'яўляецца сведкаю даўніх эпох, не прывялі да жаданай мэты. Раззлаваныя тубыльцы, чые камунікатыўныя здольнасці былі значна звужаныя ёдадэфіцытам мясцовых харчоў, не толькі адабралі ў краязнаўцы парэшткі русінантрапа, але і падчас рэквізіцыі выбілі Лявіцкаму вока, а няшчаснаму Амаяку пакалечылі нагу й начыста адгрызлі вуха. Такім чынам важкі рэчавы доказ, неабходны для рашучага вывядзення тэорыі НПГ на сусветную навуковую арбіту, быў страчаны. І гэтаму спрыяла тое, што імя мясцовага жандарма супадала з імем народнага героя. З гэтае прычыны ён спачуваў злачынцам, а не навукоўцам.

Пакалечаны і абрабаваны краязнавец, між тым не прыпыніў свае пошукі, што сведчыць пра сапраўдную навуковую ўпартасць гэтага слаўнага сына

Галіччыны. Урэшце лёс усміхнуўся Любарту Віцэнтавічу. У 1913-м годзе каля вёскі Падгор'е, у глыбокай мелавой пячоры, ён знайшоў дзіўных зялёных дзяцей. Хлопчыка і дзяўчынку з пяшчотнаю зялёнаю скурай і дужа вялікімі адтапыранымі вушамі. Такімі вялікімі, што, убачыўшы гэтыя вушы, Амаяк Вазняк заплакаў. Зялёнаскурыя дзеці размаўлялі незразумелаю моваю, толькі аддалена падобнаю да русінскай і польскай, ды катэгарычна адмаўляліся есці мяса.

Дзяцей адвялі да мясцовага ксяндза, пахрысцілі і пакінулі на царкоўным пансіёне. Спробы зацікавіць дзецьмі мясцовую ўладу былі няўдалымі.

Рэбе Зэмекіс, які ведаў безліч старадаўніх паказак, прыгадаў, што летапісец Ральф з Кагешэла, які жыў у манастыры ў ангельскім графстве Эсэкс у часы караля Стэфана (XII ст.), запісаў гісторыю пра зялёнаскурых дзяцей з пячоры, якія былі знойдзеныя ў пасяленні Вулпіт у суседнім графстве Суфолк. Рэбе выпісаў па пошце кнігу з летапісам Ральфа (гэта каштавала яму ажно 120 крон) і пераклаў Лявіцкаму змест сярэднявечнага аповеда.

Зялёныя дзеці з Вулпіта, гэтаксама як і зялёныя дзеці з Падгор'я, не елі мяса і харчаваліся выключна зялёнаю квасоляю. Паводле паведамлення Ральфа, калі дзеці выраслі і вывучылі ангельскую мову, дзяўчынка распавяла, што ейны народ жыве ў краіне, дзе ніколі не свеціць сонца і ўсе людзі зялёныя. У дзень, калі дзеці знайшліся, яны пасвілі авечак і зайшлі ў пячору, адкуль пачулі царкоўны звон. Яны пайшлі ў напрамку гуку і выйшлі пад яркае сонечнае святло. Багаслоў Уільям з Нюбурга, каментуючы расповяд летапісца Ральфа, сцвярджаў, што зялёныя дзеці прыйшлі з набожнай краіны святога Мартына.

Насуперак даўнеангельскім сведчанням і кабалістычным намёкам рэбе на шматлікасць светаў, Любарт Вінцэнтавіч казаў усім сваім сябрам, што зялёныя дзеці з'яўляюцца рэліктавымі неандартальцамі, нашчадкамі даўніх жыхароў карпацкага перадгор'я "русінатрапаў гіганцкавухіх". Ён вырашыў везці дзяцей у Парыж і зрабіць там навуковую сенсацыю, аднак пакуль збіраў грошы, пачалася сусветная вайна. Зялёныя дзеці не вытрымалі пагаршэнняў мілітарнага перыяду і памерлі ці то ад тыфусу, ці то ад птушынага грыпу, вядомага як "гішпанка". Спробы Лявіцкага выкапаць іхнія косці з магілы сутыкнуліся з супрацівам ксяндза і каталіцкае грамады.

Лявіцкі запіў і пачаў надоўга заставацца ў карпацкіх пячорах. Пасля вайны жандармы злавілі яго, хворага ды занядбанага, і адправілі ў санаторый. Амвросій Гапусяк і рэбе Зэмекіс адведвалі яго, прывозілі кніжкі і слухалі новыя версіі НПГ. Смерць краязнаўцы была лёгкаю. Ён памёр у сне.

## Праблема вампірызму ў міжрэччы Быстрыцы

Некаторыя аповеды варта пачынаць з абагульнення. Напэўна ўсе гарады, якія пабудаваны (хоць бы часткова) на балотах, маюць загадкавую здольнасць акумуляваць негатыўную энергію. Накопліваць негатыўныя падзеі. Наконт Буэнас-Айрэса гэта заўважыў пісьменнік Борхес, наконт Пецярбурга – пісьменнік Дастаеўскі, а што да замучанага прывідамі мястэчка Дэры – пісьменнік Стывен Кінг. І я не хацеў бы, каб побач з назваю "Івана-Франкоўск" ці "Станіслаў" у гэткім кантэксце некалі згадвалі маё прозвішча. Але ж факты...

Калісьці гэтае месца мела назву "Забалоцце". І спальны мікрараён з трапнай назвай "БАМ" стаіць на ранейшым балоце. А яшчэ тут: рэальная

кроў палітыкаў на падлозе франкоўскіх рэстаранаў "Слован" і "Баварыя", рэзанансное забойства намесніка губернатара за нейкіх сто метраў ад майго дома. А яшчэ тут: гарадскія легенды, густа зафарбаваныя ў крывавы колер.

Адна з іх – пра ваўкалака.

На старым станіслаўскім цвінтары ёсць магіла вампіра. Яна зруйнаваная і непрыкметная. Апошняга разу ваўкалак пакідаў свой схоў у снежні 1974-га. Мне тады было дзевяць. Я прыгадваю нечапаны і спакуслівы снег на пляцах суседняй цагельні, кухонныя перашэптванні бацькоў пра загадкавыя высмактаныя трупы. І забарону выходзіць на вуліцу. Нават гуляць у двары. Забарону, якую не здатныя былі перамагчы мае вытанчаныя істэрыкі з прыпадкамі, канвульсіямі, насавым крывацёкам ды іншымі сімуляцыямі. А яшчэ – канваяванне дарослымі шкаляроў, што вярталіся з другой змены. Калі ўжо цёмна.

Гаркам партыі тады цвёрда вызначыў, што вампіраў не можа быць. Бо ваўкалакі і марксізм-ленінізм несумяшчальныя. Пасля пятага ці шостага трупа несумяшчальнасць была часткова пераможаная (метафізічны бок тагачасных уладных рашэнняў бянтэжыць маё ўяўленне), і падазроную магілу выпалілі вайсковым агнямётам. Напалмам. Суровыя былі часы. Мілітарысцкія. Ці, мажліва, пра напалм прыдумаў я ў медытатыўных (гм-гм) мроях? Малаверагодна. Як бы там ні было, паводле легенды гэты радыкальны і папулярны ў той час спосаб (яшчэ, нагадаю, ішла вайна ва В'етнаме і палалі, знішчаныя амерыканскім напалмам, хрэстаматыйныя вёскі ў хрэстаматыйнай сельве) параіў ваяўнічым матэрыялістам старэнькі тубылец. Такі сабе стывенкінгаўскі алкагалічны абарыген з вуліцы Кіеўскай, які памятаў папярэднія гастролі вампіра – у саракавым годзе, "за першымі саветамі". Магіла зыходзіла дымам трое сутак, пасля чаго трупы больш не з'яўляліся.

Прамінула эпоха Брэжнева, і лёс *спрытнымі падсрачнікамі* (прыгожа напісаў, ці не праўда) загнаў мяне, сямнаццацігадовага, на рэмзавод. Там я працаваў электрыкам. Часам заходзіў на тэрыторыю вайсковай механізаванай калоны, прыпісанай да завода (на выпадак нападу імперыялістаў). Там была акумулятарная.

Яна жыла сваім адасобленым жыццём. У ёй пахла самагонам і байцамі пазаведамаснай аховы. Сярод свінца і кіслотна-шчолачных утварэнняў там працавалі пітушчыя персанажы. Яны былі немаладыя, напоўненыя філасофіяй і прадчуваннямі цырозных ёжыкаў (ад ёгі, не блытаць з вожыкамі і тым болей – з вавёрачкамі; гэта іншае). Адзін з іх – адстаўны эмгэбэшны дзед Л. – меў цягу да пахмельных гутарак. Яго містычныя расповеды былі пабудаваныя пераважна на мясцовым матэрыяле. Калі б нейкі краязнавец запісаў іх, дык у нашыя патрыятычныя часы імі б выхоўвалі любоў да малой бацькаўшчыны.

Магіла вампіра належала да залатога фонду ягоных расповедаў. Дзед Л. баяў пра ваўкалака з упэўненасцю сучаснага дыстрыб'ютара "Гербалайфу". Побач з ягонымі апісаннямі высмактаных трупаў, перадсмяротных ашчэраў і чорных плямаў класікі савецкіх дэтэктываў адпачывалі. Нават не адпачывалі, а проста ляжалі высмактанымі трупамі на поўных зборах сваіх твораў. Маё ўяўленне дадавала падрабязнасцяў і патрабавала палявых даследаванняў.

Двойчы мы з дзедам пілі "Пшанічную" на выпаленай магіле. Пілі без закускі, смершаўскімі стограмовымі глыткамі. Нешта шапацела. Чуліся гукі. Лятала падазроная сава. Ейныя маршруты былі трохкутнымі і складаліся

ў пентаграмы. Дзед Л. запэўніваў і бажыўся (хутчэй – блюзнерыў), што выпаленаму ваўкалаку падабалася нашая рознаўзроставая кампанія. Змяркалася. “Лезеш, падла?” – мармытаў я і ўзіраўся ў чорную дзірку пад надмагіллем. Адтуль штосьці сапраўды лезла. Напэўна, пацукі. На суседняй магіле можна было разгледзець партрэт старой жанчыны. Яна ўсміхалася пякельнаю ўсмешкаю. Жаночыя аблічча наогул больш здатныя да страшных грымасаў, чым мужчынскія. Мажліва, жаночы цэлюліт больш пластычны. Спытаю пазней у касметолага.

А яшчэ аднойчы, ужо ў нашыя часы, мы паехалі да магілы ноччу. З сябрам і дзвюма вясёлымі дзяўчынамі.

Тут я зраблю адступленне дзеля размышлізмаў.

Што змушае людзей супрацьстаяць монстрам? Іосіф Бродскі адказваў на гэтае пытанне проста: “Долг смертных ополчаться на чудовищ”. Такім чынам, калі палітыка і секс не высмакталі з вас усе жыццёвыя сілы, неабходныя для здзяйснення гераічнага ўчынку, вы заўсёды зможаце выканаць свой свяшчэнны абавязак смяротнага (які, на маё глыбокае і шырокае перакананне, ёсць чымсьці блізкім да свяшчэннага абавязку абаронцы Айчыны). Зусім лёгка вам будзе гэта зрабіць, калі не дзесьці ў далёкай Трансільваніі, а побач з вашаю адключанаю ад цеплацэнтралі шматпавярхоўкаю жыве пачвара (галоўнае – не зблытаць вырадка мораку з чальцом несімпатычнай вам партыі). Дэтальнейшыя інструкцыі – у серыяле “Баффі, знішчальніца вампіраў”. Асабліва ўважліва праглядзіце серыі з чацвёртай па трыццаць шостую ўключна. Апроч сямнаццатай. Сямнаццатая – поўная лажа.

Наяўнасць у Івана-Франкоўску магілы ваўкалака, такім чынам, адчыняе нябачаныя мажлівасці для выхавання цэлай генерацыі сапраўдных герояў. Выкладзеная ніжэй другая частка гісторыі пра вампіра з вуліцы Кіеўскай магла б стаць дадаткам да падручніка ваўкалаказнаўства. Назва дадатку: “Палявыя даследаванні пачатку XXI стагоддзя”. Гэтую ж гісторыю можна было б назваць таксама “20 гадоў таму”, бо ад часу нашых п’янак з дзедам Л. на старым гарадскім цвінтары (пра што, нагадаю, казалася ў першай частцы “Праблемы вампірызму...”) да апісаных ніжэй падзеяў – прайшло два дзесяцігоддзі.

Дык вось.

У той вечар мы гулялі ў більярд. Учатырох. Аўтар гэтых радкоў (або, як пісалі выхаваныя гувернанткамі літаратары XIX стагоддзя: *ваш пакорны слуга*), плюс уласнік адной з мясцовых газетаў (не “Анонс-кантракту”, не, не...), плюс прыемная дзяўчына А., плюс ейная сяброўка – найпрыемнейшая дзяўчына Н.

У небе стаяў поўны месяц. І колер ягоны быў пякельна-чырвоным. Як колер сукенкі, у якой Сальма Гайек рэкламуе губную памаду “Авон”. (А, можа, гэта мне так здаецца? Я ж проста “ташчуся” ад Сальмы Гайек, асабліва пасля “Фрыды”). Більярдны стол быў перакошаны, і шары вандравалі ганебнымі траекторыямі. Дасканаласць не вымольвалася. З адчаю я спрабаваў утыркнуць “масэ ад чатырох бартоў”. Пшы-ы-к. Ледзьве не парваў сукно. Пасля чарговага фуксу, разэлаваны і натхнёны, я чамусьці прапанаваў: “Едземце да вурдалака”. Дарогаю купілі ліхтарык.

Цяпер я намагаюся згадаць: што ж стала тым штуршком, тым фатальным імпульсам, які змусіў мяне сказаць тыя тры словы? Магчыма, хтосьці з дзяўчат нагадаў мне чароўную Баффі? Аднак пасля віскі, кактэйляў, усіх тых

“маргарыт”, “крывавых мэры” ды “падвойных лонгаў”, мы ўсе былі хутчэй “буххі”, чым “баффі”. Мажліва, сухі косткавы стукат більярдных шароў спарадзіў падсвядомую прагу цвінтарнай містыкі? Танцуючыя косткі там усялякія, чэрапы...

Цвінтар, у сваю чаргу, сустрэў нас кепскім асвятленнем. Не хапала чырвонай лямпы справа і зялёнай злева. То бок, Галівуду. Я вырашыў дадаваць пякельнага настрою і час ад часу выключаў ліхтарык. Нашыя баффі ад таго трохі папісквалі.

“Што ты робіш?” – нарэшце спытала прыемная дзяўчына А.

“Пільнуй свой левы борт, малая, – параіў я. – Бо тая погань падкрадаецца звычайна злева”.

“Там штосьці ёсць”, – сказала найпрыемнейшая дзяўчына Н.

“Дзе?” – спытаў уласнік газеты.

У гэты момант ліхтары сталі міргаць.

“Га?” – спытала Н.

І мы ўбачылі магілу вампіра. І штосьці каля яе.

Потым кожны вылучаў сваю версію, але ўсе пагаджаліся з тым, што погань лезла праз кусты і была пераважна чорнага колеру. Кожны адчуваў штосьці сваё. У мяне ўзніклі ўсе мажлівыя асацыяцыі ад Барлоў з Салема да “Чужога-3” і Дракулы ад Фрэнка Копалы. Такая ўжо прырода начытанага чалавека – што б ні адбылося, рабіць спасылкі на адпаведную старонку адпаведнага тома. Гэта больш фатальна, чым пастаяннае нешанцаванне ў двайным карамболі. Яшчэ я ўбачыў шчупальцы ў той істоты. І нібыта чорныя косткі, загорнутыя ў сатлелыя анучы. Выявілася, што ніхто, апроч мяне, тыя шчупальцы не бачыў.

Прыемная дзяўчына А. потым сцвярджала, клялася і бажылася, што чорная сіла вылучала гукі на мяжы людскога ўспрыняцця. І што страта абутку пры ўцёках нейкім чынам звязанае з гэтым феноменам. Мы спрачаліся. Супярэчнасці ўзніклі яшчэ і з-за таго, хто ж, урэшце-рэшт, пачаў уцякаць першым. Я ўзяў ганьбу на сябе. Мы вярнуліся пад агні ды ліхтары вялікага горада, пайшлі да начнога клуба і давялі яго персанал да ціхай істэрыкі. Гарэлка была цёплаю, у шампанскае накідалі лёду. Салаты былі нематывавана дарагімі, капуснымі і замешанымі на танным маянэзе львоўскага камбіната “Шчодры дар”. Размова млява круцілася вакол кажаноў. Я прыгадаў штосьці з рэпертуару дзеда Л., аднак поспеху не меў. Усе думалі пра сваё.

Потым прыемная дзяўчына А. сказала:

“Я распавяду пра ўсё гэта сястры”.

“Навошта?” – насцярожыўся я.

“Яна любіць пра такое слухаць”.

Я мог бы задумацца пра размаітасць людскіх упадабанняў, але найпрыемнейшая дзяўчына Н. прапанавала лепшы варыянт рэлаксацыі.

Перадранішнія сны былі сінімі. І чырванаватымі з правага боку.

тэатр

Стася Наркевіч



...каб прыгожа гаварыць,
трэба мець здольнасць, божы дар...

# Зёлкі для любага Міколкі

***П'еса ў трох актах***

Дзейныя асобы:

**Міколка** ці **Мікалай Адамавіч**, слесар-сантэхнік. 45 гадоў.

**Нона**, яго жонка, повар. 40 гадоў.

**Шаптуха Вольга**, суседка. 60 гадоў.

**Мікіта Бязводкін**, аднакласнік Міколы Адамавіча, кладаўшчык.

Члены брыгады: **Сяргей**, **Міхась**, **Рыгор**, **Вадзік**, **Косця**.

## АКТ ПЕРШЫ

*Субота. Раніца. На кухні завіхаецца Нона. З дынаміка даносіцца песня "Касіў Ясь канюшыну". Жанчына пачынае падпяваць "Песнярам" і збіраць посуд са стала: талерку,*

*кубак, лыжку. Нясе да ўмывальніка. Наступае на штосьці слізкае. Амаль што не падае. З рук вывальваецца кубачак. Звон – і чарапкі разлятаюцца па падлозе. Нона нахіляецца, збірае аскепкі. Яе занятак спыняе званок. Жанчына падымаецца, ідзе адчыняць дзверы. На парозе стаіць суседка Вольга, знакамітая на ўсю Лучосу шаптуха-варажбітка.*

**Вольга.** Добрага табе дзянёчка, суседачка. Можна зайсці?

**Нона.** Калі ласка. Праходзь. Ідзі адразу на кухню. Зараз гарбаткі вып'ем. Кіпень гатовы, думаю.

*Прапускае госцю ў кватэру. Зачыняе дзверы. Жанчыны ідуць на кухню. Вольга сядае за стол.*

**Вольга**. Кажаш, гарбаткі пап'ём? Можна і гарбаты. Я не супраць. З ранку ў мяне нават кроплі ў роце не было. Няма ні настрою, ні апетыту. Ну зусім. Мо ў тваім доме яны з'явяцца. Тады з задавальненнем вып'ю чаго-небудзь. Бо гарбата і кава ў цябе заўжды адмысловыя і розных гатункаў. Умееш выбіраць.

**Нона.** Стараюся. Не ведаю, якая сённяшняя заварка, як ты кажаш, адмысловая ці звычайная, але ў мяне такой яшчэ не было. Узяла, бо прадавачкі вельмі ж ухвалялі. Зірні, які карабок прыгожы.

*Працягвае карабок Вользе. Тая ўважліва разглядае.*

**Вольга.** Сапраўды, прыгожая ўпакоўка. І штосьці напісана не па-нашаму.

**Нона**. А мы заварым па-нашаму. Адзін пакецік на два кубачкі. Каб не чыфірыць.

*Усміхаецца. Ставіць на стол кубачкі, цукар. Забірае з рук Вольгі ўпакоўку. Дастае пакецік і кідае яго ў кубачак. Налівае ваду. Перакладвае пакецік у другі кубак. Праз колькі часу дастае яго і кладзе на сподак. Насыпае цукар. Дастае печыва. Сядае за стол сама. Глядзіць уважліва на суседку, якая ўжо калбоціць пітво, з усмешкай пытаецца.*

**Нона.** Бяда здарылася, што ў такую рань завітала ды яшчэ і ў выхадны? Ты ж любіш паспаць.

**Вольга.** Але ж. Люблю. Чаго там вочы прадзіраць на золку. Гэта ты і Міколка на працу бяжыцё ні свет ні зара, каб трапіць на першы трамвай. Бо калі яго прапусціце, таксоўку мусіце заказваць. А на легкавушцы з нашага прыгарада доўга не наездзішся. Колькі ж трэба грошай зарабляць!

**Нона**. Што так, то так. Трамвая таго не дачакацца. Ходзіць гады ў рады.

**Вольга.** А я не чакаю транспарту. Сваім ходам дабіраюся да Ратушы. Падыходжу акурат да дзвюх гадзін. А там ужо і мае кліенты соўгаюцца, быццам тыя пчаліныя трутні. Выгульваюць сябе. Прыбраныя, але яшчэ сонныя. Самы час галаву пудрыць. Не грэбую лавіць і гасцей-турыстаў.

**Нона.** І як уловы?

**Вольга.** Усяляк бывае. Калі густа, а калі і пуста.

**Нона.** Я дзіўлюся, як табе ўдаецца спыніць жанчын, разгаварыць іх? Ненавязліва прымусіць слухаць прыдуманыя табою казкі пра іх лёс. І гэта ўсё за іх грошы. Некаторыя ж вераць у тое, пра што кажаш, і жывуць з ім ладны адрэзак часу. Думаю, чакаюць перамен. Казалі, што ты так перакана́ўча "пляцеш агарод".

**Вольга.** А як жа інакш! Я ж не проста варажу, я абнадзейваю жанчын на шчаслівейшае і лепшае жыццё. Бо ведаю, да каго падыходзіць.

**Нона**. А як жа ты такіх вылічваеш?

**Вольга.** Проста. Здаля бачу, на чыіх тварах трывога, расчараванне. Пякучы боль. І не памыляюся. Пачынаю гутарку здаля. Сама ж ведаеш, што словам можна забіць, як ім жа і вылечыць.

**Нона.** Ты хоць добрыя прадсказанні ў галовы ўкладваеш?

**Вольга.** Добрыя. Асабліва наконт іх замужжа і сустрэчы багатага волата. Радуюся, калі ў дзяўчат вочы загараюцца.

**Нона.** Дзякаваць богу. А то я хвалююся за тваіх кліентаў.

**Вольга**. Хаця бывае трошкі і палыном разбаўляю сваю красамоўнасць. Асабліва цёткам у гадах. Як жа без гаркаты! Якая ж я варажбітка, калі не скажу, што ў кабеты былі непрыемнасці. Пражыўшы столькі, ведаю, што ля кожнага з нас круцяцца здраднікі, нахабнікі, зайздроснікі, зладзеі, якія калі-нікалі паскудзілі ці паскудзяць. Каб гаварыла ўсё гладка, хіба мая б варажба была праўдападобнай?

**Нона.** Логіка ў гэтым нейкая ёсць. Рэпутацыя ў цябе неблагая. Ведаюць, дзе жывеш, і рэкамендуюць варажбітку Вольгу многім жанкам. Я ў гэта б не паверыла, каб сама не бачыла, як падрульваюць да цябе машыны. Колькі ж часу ты варожыш ужо?

**Вольга.** Даўно. З таго дня, як на заводзе скарачэнне прайшло і я на вуліцы апынулася. (*Пачынае шаптаць, відаць, падлічваць*). Ага, калі прыкінуць, то мо гадкоў з пятнаццаць назбіраецца.

**Нона.** Каб прыгожа гаварыць, трэба мець здольнасць, божы дар... і, прабач, веды.

**Вольга.** Напэўна, так. Я, калі вучылася ў радыётэхнічным, удзельнічала ў самадзейнасці. Займалася ў тэатральным гуртку. У нас вельмі быў таленавіты рэжысёр. Сёмкін Ціхан. Ён многаму навучыў мяне. Аднойчы сказаў, што, калі я пазбаўлюся аснаўной працы, не прападу. Выжыць дапаможа варажба.

**Нона.** Цікава, адкуль твой Сёмкін ведаў пра твае схаваныя здольнасці?

**Вольга.** Думаю, што чуў, як я варажыла на картах сваім аднагрупнікам. Бо ў гэты час асвойвала цыганскія карты, карты Таро. Шмат пра гэту варажбу чытала. Як сказаў Ціхан Ігнатавіч, так і сталася. Ён жа не ведаў, што ў мяне яшчэ і цыганскія карані.

**Нона.** І праўда. Ты вылітая цыганка! Яркая. Сучасная, а не забітая жыццём цётка. З густам апранутая. Думаю, па гэтай прычыне жанчыны і не шарахаюцца ад цябе. Скажы, няўжо ж табе не надакучыла такім глупствам займацца штодзень?

**Вольга.** Ніколькі! Я ж нікога не прышпільваю да сябе. Хто не верыць у варажбу, той не спыняецца, якая б самота ні была на яго твары намалявана і як бы я прыгожа не заманьвала. Мне нават цікава, на якой хвіліне майго апісання жыццёвай сітуацыі, прабач, мастацкай балбатні, жанчыны амаль што не млеюць і пачынаюць лезці ў свае радыкюльчыкі-пузацікі па грошы. А калі якой-небудзь журботнай кабеціне варажба спадабаецца, то тая сама будзе мяне шукаць праз нейкія месяцы тры на нашай Сенненскай. І, ведаеш, знаходзіць. Нават без рэкламы. А калі сур'ёзна, не ад дабра варажбіткі займаюцца гэтым рамяством. У кожнай з іх ёсць свая прычына. Я таксама не думала, не гадала, што варажбіткай стану.

**Нона.** А чаму травамі не гандлюеш? Ты ж яшчэ вядомая ў акрузе траўніца. Ведаеш, якія зёлкі і ад якой трасцы трэба ўжываць.

**Вольга.** Але ж. Пра тайны траў і іх магічную сілу мне бабуля расказвала

пры жыцці, як і перадала некаторыя сакрэты прыгатавання лекаў. Добрая яна была знахарка. Людзям дапамагала, скаціну вылечвала.

**Нона.** Вось бачыш, якая высакародная справа! Не трэба тлуміць галовы кабетам. Я, калі пабачу цябе ў людным месцы ля якой-небудзь дзяўчыны ў горадзе, хачу праваліцца пад зямлю. Так сорамна становіцца.

**Вольга.** А чаго саромецца? Я ж не краду нічога. За добрыя словы мае кліенты заўжды аддзячваюць. Хто колькі можа. Праўда, з кожным днём усё цяжэй зарабляць стала. Людзі ідуць па дапамогу да псіхолагаў, якіх, як зярнятак у макаўцы. У мясцовым універсітэце нават факультэт такі існуе.

**Нона.** Значыць трэба штосьці новае прыдумаць. Знайсці такі занятак, каб і задавальненне самой атрымаць, а з яго прыбытак. І, нарэшце, каб карысць людзям прынесці.

**Вольга.** Ты сказала, быццам у ваду глянула. *(Вымаўляе ўзнёсла, з запалам.)* Прыдумала я, Ноначка, прыдумала новы занятак. (*Паўза*). Мо тыдзень таму, а ўчора, на жаль... *(Сказала ціха і апусціла галаву.*) згубіла. Не ведаю, чым гэта ўсё скончыцца.

**Нона**. Бацюхна, няўжо ж крамола якаясь? Выкладвай, ды хутчэй! У мяне аж цёмна ў вачах стала!

**Вольга**. Зараз, дай толькі гарбаты глынуць.

*Сёрбае гарбату. Адстаўляе ад сябе кубачак. Расказвае.*

Яшчэ ўчора наважылася забегчы да цябе, каб усё дазвання апавесці. Ды толькі калі пабачыла, як твайго Міколку, а майго любага суседа Мікалая Адамавіча, ледзь жывога мужыкі пульнулі цераз плоцік, што той куль саломы, ды так позна, вырашыла – не пайду. Раніцы дачакаюся. Як ён, хоць жывы?

**Нона.** Мяркуючы па храпу, які даносіцца з залы, жывы. Але ў якім стане, не ведаю. Не заходзіла да яго. Хоць і карцела. Мо таму ўсю ночку і не спала. Усё прыкідвала, як жа дапамагчы яму? Думала да цябе сёння забегчы, папрасіць парады. А, дзякаваць богу, ты сама – тут як тут, і хадзіць не трэба.

**Вольга.** Хацела зёлкі ўзяць для Міколкі? Сама б варыла?

**Нона.** Я пра зёлкі якраз і забылася**.** Тут штосьці мацнейшае неабходна ўжыць. Мо трэба ўжо які-небудзь рытуал правесці. Папалохаць трошкі. Ці пашаптаць над ім. Ну, ты сама ведаеш... Ратунку няма ад гэтых п’янак і яго сябрукоў. Калі будзе далей так піць, прападзе. Дапаможаш, у даўгу не застануся.

**Вольга.** З радасцю, але, відаць, не паспею.

**Нона.** Што значыць, не паспееш? Сабралася паміраць? Дык табе рана яшчэ. Пачакай, пачакай... Тваё жыццё цалкам залежыць ад твайго новага занятку? Так? Што ж ты такое адмачыла, калі па сабе плачаш без слёз?

**Вольга.** Не тое, што адмачыла, а чалавека замачыла...

**Нона.** У якім сэнсе? Забіла? А труп дзе?

**Вольга.** Ціпун табе на язык. Хлапчына жывы. А я, відаць, старасць буду сустракаць за кратамі.

*Нямая сцэна. Нона глядзіць на Вольгу і не можа вымавіць ні слова.*

**Вольга**. Ды не палохайся ты так! Апрытомней і слухай.

Учора, калі вы ўсе на працу з’ехалі, брыгада міліцыянераў з дружыннікамі на нашу вуліцу набегла. Гарэлку шукалі і апараты самагонаварэння. А я ж якраз надумала гэтым бізнесам заняцца – самагонку гнаць. На продаж.

**Нона.** Во куды цябе панесла! Ля Ратушы душы калечыш, а каля дома

труціць збіраешся... З крайнасці ў крайнасць кідаешся. Цябе ж праклянуць жонкі тых мужоў, якім будзеш збываць хмяльныя напоі.

**Вольга.** Не ўстаўляй ты свой пятак, а лепш даслухай да канца.

**Нона.** Прабач. Працягвай.

**Вольга**. Дык вось. Брагу замуціла. І каб мой каханенькі-родненькі не ўнюхаў яе і не вынес кубачкамі, схавала ў куратнік, папярэдне выкапаўшы глыбокую яму там. Паставіла цабэрак літраў на дваццаць. Шырочанькі такі. Прыкрыла фанеркай, каб куркі не ўваліліся, асабліва кураняткі, дый не ап'янелі ў смерць. Пацерушыла трошкі сенцам.

**Нона.** Ну фантазёрка!

**Вольга.** Не перабівай, дай выказацца. Ага, стаяла тая брага з тыдзень. Пухкала, быццам гейзер, вырывалася на волю. Учора пайшла правяраць гатоўнасць яе, як чую: Анюта лямантуе. Маўляў, калі ёсць якая-небудзь пляшка самагонкі ці брага – хавай. З вобыскам службовыя прыехалі.

Я толькі з куратніка выбегла, як тут жа ўбачыла маладзенькага хлопчыка. На двары. Не з мясцовых. Прыгожа апрануты. Касцюмчык з іголачкі. Хто ён такі, на ілбе не напісана.

**Нона.** І...

**Вольга.** Што і?.. Пачаў той хлапчына сваю работу сумленна выконваць. У хату зайшоў. Усе пакоі абгледзеў. Няма самагонкі нідзе. Выйшаў на двор і давай па завуголлях шнырыць, шукаць. Дайшоў да куратніка. Дзверы адчыніў і прамой наводкай усярэдзіну патэпаў. Думаю, свежых яек захацеў. А ён, відаць, штосьці ўнюхаў. Мо крокаў з пяць зрабіў...

*Вольга змаўкае і глядзіць на Нону так, быццам свярдзёлкам дзірку выкручвае.*

Ноначка, такі крык стаяў, калі ён у цэбар праваліўся! Так зароў, што не перадаць! Стаіць у ім – ні жывы ні мёртвы. Куры кудахчуць. Пеўнік вось-вось у атаку пойдзе: адно вока прыкрыў, крыламі махае. У мяне калені задрыжэлі, ікаўка напала раптоўна. Не ведаю, што рабіць.

**Нона.** А чаму ж не спыніла чалавека, калі ён парог куратніка пераступіў?

**Вольга.** Спыняла. Крычала, калі за ім бегла, што там нічога няма. Што пеўнік можа дзеўбануць. "Не ідзі, чалавек!"– кажу. Дарэмна. Ці ён не пачуў, а мо не паслухаўся.

**Нона**. Дагулялася, ну і дагулялася, суседка. Дакладна не дапамогуць мудрагелістыя забабоны твае... *(Паўза)*....Уяўляю, які выгляд меў той правяраты.

**Вольга.** Ну які? Уявіла? Калі не, то апішу! *(Пачынае смяяцца)*. Крышаны бульбы на плячах, сена за вушамі. Твар увесь у жытняй кашыцы, быццам касметолаг яе намазаў.

*Жанчыны заходзяцца ад смеху. Першай спыняе рогат Нона.*

**Нона.** А як ён выбраўся з твайго цабэрка, прыняўшы брагатэрапію?

**Вольга.** Ну як жа?! Я хуценька ў куратнік, ікаю, але руку падаю. Вылез. Стаіць... і ні гу-гу. Глядзіць на мяне, потым на сябе. А слёзкі адна за адной коцяцца па шчоках, быццам бабіны спелыя. У мяне сэрца амаль не разарвалася. Ікаць перастала, а смех напаў. Ледзь стрымліваю яго. І заклапочана гавару: "Сынок, у такім выглядзе табе нельга на людзі паказвацца. Ідзі да студні. Здымай вопратку і чаравікі".

**Нона.** І што, пайшоў?

**Вольга.** А куды яму падзецца? Моўчкі распрануўся. Узяла я ўсё гэта і пачала ў начоўках паласкаць, ну, акрамя абутку. Чаравікі ён сам выціраў

анучкай, якую з коліка зняў. Пабоўтала, пабоўтала трошкі і, не выкручваючы, а толькі пацiскаўшы ў руках, каб не сапсаваць адзенне, падала. Працягваю і кажу: “Прабач, што мокрае. Але ты хутчэй на сябе ўсё ўздзябурвай. Бо ў мяне дужа раўнівы муж. Крый бог убачыць маладога і амаль што голага тут мужчыну, высушыць і мяне, і цябе”. Ведаеш, ён апранаўся хутчэй, чым бегаў у пошуках самагонкі.

*Зноў рагочуць.Скрозь смех Нона пачынае шкадаваць небараку.*

**Нона.** Бедненькі. Што ж адбывалася ў яго душы? Мабыць, першае заданне, і такое правальнае. Добра, што не скалечыўся.

*Паўза. Нона кладзе руку на руку Вольгі, прадаўжае.*

Суседачка, ты дужа не перажывай. Турма па табе яшчэ не плача, а вось штраф можаш атрымаць як піць даць.

**Вольга.** Я пра гэта таксама падумала. Скажы, мо ў цябе ў міліцыі ёсць знаёмы які-небудзь, пагутары. Ты ж многіх ведаеш. Нядаўна сталы на вяселле накрывала следчаму. Дый не раз свайго Міколку выручала, выцягвала з выцвярэзніка, што нават паперы на камбінат не прысылалі. Я ўжо нават распіску напісала, што больш ніколі не буду займацца самагонаварэннем. Што гэта не занятак, а нейкае брыдоцце.

**Нона.** На жаль, няма. Хаця, трэба падумаць, да каго звярнуцца. А той следчы, непадкупны, дакладна ведаю, як і іншыя міліцыянеры. Наконт хабару строга ў іх.

**Вольга.** Шкада. Як цяпер жыць? Чаго чакаць?

**Нона.** Мо загадзя не трэба так хваляваццa. Сама знайдзі пацярпелага і прабачэння папрасі. Мабыць, ён з перапуду і не зразумеў, што там брага “хадзіла”. Калі будзе допыт праводзіць, скажы, што для цыляткі ежу паставіла астываць. А сёння ж яму закапай, каб яе і следу не было. Ці ён ужо ўчора пратакол на цябе склаў?

**Вольга.** Не, суседачка, я ніякіх папер не падпісвала.

**Нона.** Значыць, жыві спакойна, а вось мне дапамажы злавіць зялёнага змея, які ўбіўся ў нутро Міколкі, раз ты такая запатрабавальная варажбітка і адмысловая знахарка.

**Вольга.** Дапамагу, куды я падзенуся. Не пакіну любага Міколку ў бядзе. Мо сёння пачнем? Але перш чым таму бязрогаму чарту пастку ставіць, зазірні ў залу. Як ён там, які стан у майго памочніка і сябрука? Відаць, цяжанька яму. А я пайду дадому. Да рытуала трэба ж падрыхтавацца, пачытаць. Я даўно п’яніц лячыла. Цяпер больш давяраюць медыкам. На сённяшні дзень гэта іх хлеб.

**Нона.** Так, так. Але я штосьці не хачу ў дыспансер звяртацца.

**Вольга.** Думаю, правільна робіш. Калі ў мяне не атрымаецца, можа, тады да іх бяжы. Ну, я пайшла. Калі кліент будзе гатовы, кліч. А мо сама прыбягу, калі хутка ўпраўлюся.

*Устае з-за стала.*

А за гарбату і за тое, што выслухала, хоць і перабівала, дзякуй. Да вечара.

**Нона.** Да вечара.

*Нона таксама падымаецца. Вольга выходзіць на двор. Нона ідзе да Мікалая Адамавіча ў залу.*

## АКТ ДРУГІ

### Карціна першая

*Зала сучасна абсталяваная. Шмат кветак, тэлевізар-плазма. На сценах карціны. Мяккая мэбля. Канапа, крэслы, столік для часопісаў. Нона адкрывае дзверы і накіроўваецца да канапы. На ёй ляжыць гаспадар – Мікалай Адамавіч. Ён напалову распрануты: кашуля валяецца на падлозе. Чаравікі там жа. Штаны сцягнуты да кален. На назе шкарпэтка. Другая ляжыць на падушцы, амаль пад самым носам. Мужчына варочае галаву з боку на бок, пачынае прачынацца. Чыхае раз за разам. Трасучымі пальцамі наважваецца падняць павекі. Безвынікова. Рукі апускаюцца на грудзі. Праз колькі часу ён прыпадымаецца. Адным вокам глядзіць то на падушку, то на жонку. Заўважае шкарпэтку, агідна морщчыцца, скідвае яе на падлогу. Зноў чыхае. Нона не вытрымлівае і нахіляецца над ім.*

**Нона.** *(Смеючыся)*. Жывы! Ну, будзь здаровы, алкашык! Як цябе толькі зямелька носіць, прапойца! *(Больш строга)*. Дапіўся, што не здолеў, як належыць інтэлігентнаму чалавеку, слесару самай высокай кваліфікацыі з дыпломам ветэрынара, распрануцца. Свінчом улёгся ў спяцоўцы на святочнае пакрывала. Не памятаеш, што робіш? І якія па п'янцы словы пуляеш, што суседскі хлопчык каменьчыкі ў вокны нашага катэджа? Я ж табе даўно казала, што гарэлка – самае шкоднае гаручае рэчыва, якое да дабра не даводзіць. Гаварыла! А ты чым слухаў? Табе ўсё хіхачкі ды хахачкі! Ці табе вушы заклала?

**Мікалай Адамавіч.** Но-о-о-о...

**Нона.** Што, но! *(Грозна)*. Не запрог, што паганяеш! Скажы, ты хоць памятаеш, пра што плявузгаў, калі цябе, быццам бервяно, твае хаўруснікі спярша бразнулі праз мой дэкаратыўны плот, а потым прасунулі ў прыадчыненыя дзверы веранды?

**Мікалай Адамавіч**. Што, што-о-о?..

**Нона.** Дрэнна чуеш? Так, прасунулі. Як жа я шкадую, што забылася дзверы на замок зашчоўкнуць, калі Тузіка выганяла на вуліцу. Каб яны былі шчыльна зачынены, твае алкашы, пэўна ж, паклалі б такую каштоўнасць, як ты, пад будкай. Сабака прытуліў бы свае косці да тваіх рэбраў – і трэсліся б разам усю ночку. Адпужвалі рэбрахрустам тхароў ад куратніка, які знаходзіцца за паўвярсты ад нашай Лучосы.

**Мікалай Адамавіч.** Пачакай, Ноначка! *(Пачынае апраўдвацца, а ўсмешка так і бегае па твары)*. Ты штосьці не тое гаворыш. Я ж учора быў падобны на агурочак, які толькі сарвалі з градкі. У маім страўніку нават кроплі піва не было, ужо не кажучы пра больш моцныя напоі.

**Нона.** Во, во! Агурок, ды толькі салёны і зморшчаны, які ў вадзе праляжаў колькі часу і не мог выпрастацца. Хто цябе напаіў, злыдзень? І што ты такое ўжываў, што памяць адняло? У цябе ж грошай не было!

**Мікалай Адамавіч**. Але ж. Шмат не было. Толькі на трамвайны талончык, каб да працы даехаць і назад, ну і дваццаць рублёў доўг вярнуць.

**Нона.** Так-так. Доўг аддаць такому ж алкашу, як і ты. Ну, пачакайце ж. Дабяруся я да тваіх паплечнікаў! Я вашу шайку-лейку разганю. Даведаюся толькі, з якіх яна калек складаецца. Ды праблема: не магу трапіць на камбінат, на твой участак непрыкметна! Аднойчы спрабавала, дулю з макам! Прахадная – што пункт пагранзаставы, ну ніяк не прайсьці яе, не мінуць. Хіба толькі штурмам браць, быццам тыя мігранты польскую мяжу.

**Мікалай Адамавіч.** Адной? Хоць ты жанчына і ў целе, але з такой задачай табе не справіцца. *(Змаўкае, праз хвіліну выкрыквае)*. Ай, які я ёлупень!

Прабач, забыўся пра салдат з гарнізона, якія за дабрыню тваю, за лішні апалонік боршчыка за табой хоць у агонь пойдуць, не кажучы ўжо пра нейкі панчошны камбінат. Але хачу цябе расчараваць: у цябе і ў іх нічога не атрымаецца. Як толькі салдацікі пераступяць парог камбіната, яны тут жа трапяць у палон нашых вязальшчыц-прагажунь.

**Нона.** Пры чым тут салдаты? Які боршч? Ты хоць думай, што гаворыш!

**Мікалай Адамавіч.** А ты? Чаго цябе панясе да мяне на працу? Выхоўваць сталых мужыкоў? Выхавацелька знайшлася! Трэба было выхоўваць школьнікаў пасля педінстытута, калі такая таленавітая, як Макаранка, а не пёрціся ў павары... Ці ты кіравалася адным: дзе харчы, там і тарчы. *(Паўза)*. ...І зараз не тарчы нада мною. Сам з сабою разбяруся. Не лезь да мяне і маіх калег. Мы святыя! У рабочы час у нас ніхто... і ні-ні. На балючы зуб ватку са спіртам не дадуць прыкласці. Забарона. *(Усміхаецца)*. Не дай бог брыгадзір Іван Іванавіч Пацалуйчык унюхае. Так ужо адцалуе, такіх крандзялей выпіша, дзясятаму закажаш. Няма ад яго нікому ратунку. Хаця нахаляву сам не супраць не тое, што прыгубіць, а напоўніцу адцягнуцца. Але ж ён начальнік! Сапраўдны цэрбер!

**Нона.** А-а-а-а-а... Значыць, не на працы градус павышаеш! Тады дзе напіваешся амаль штодзень? Ці цябе, быццам бяззубае цялятка праз соску, прыпойвае якась жанчына? Вязальшчыца? Дарэчы, ты пра нейкую маладзіцу балбатаў, калі гопнуўся на канапу. Хто яна?

*Паўза.*

**Мікалай Адамавіч.** ...Не можа быць! Прыдумваеш, жонка! Хіба толькі тваё імя паўтараў бясконца і ўспамінаў учарашнюю раніцу. Як жа мне добра было! Асабліва, калі ты ў пасцельку каву прынесла, а не я табе, як заўжды. Нават заганарыўся сабой і падумаў: во волат які! Дагадзіў дык дагадзіў!

**Нона.** Быў бы волатам, так бы не співаўся. Ведаеш жа сам, табе і напарстка хапае, каб розум згубіць. З-за гэтай гарэлкі такую пасаду страціў на птушкафабрыцы. Ай-яй-яй! А быў жа галоўным ветурачом на прадпрыемстве. Добра, што ў цябе яшчэ адна такая дэфіцытная, такая патрэбная, такая інтэлектуальная спецыяльнасць ёсць у рэзерве – сантэхнік. *(Гаворыць здзекваючыся)*.Прыйшлося нават хабар начальніку аддзела кадраў даць, каб уладкаваць на працу. Ты і гэтага не памятаеш?

**Мікалай Адамавіч.** Памятаеш, памятаеш? *(Дражніць)*. Падумаеш, каньяк ахвяравала. Я, можа, сам бы лепшую працу знайшоў.

**Нона.** Дзе, скажы, будзь ласкавы?

**Мікалай Адамавіч**. Дзе, дзе – у буслiным гняздзе. Дастала. Хіба мала дзе патрэбен сантэхнік? Напрыклад, у домакіраўніцтве. Абслугоўваць шматпавярховікі.

**Нона.** Маўчы. Напрамілы бог прашу, маўчы. Усе месцы былі занятыя. Але, каб ведала, што на камбінаце п'янчугі працуюць, лепш бы дома сядзеў.

**Мікалай Адамавіч.** Надакучыў бы табе і тваёй маці. Разам бавячы час з ёй, мы б забіліся!

**Нона.** З-за чаго? Чаго вам не хапае?

**Мікалай Адамавіч**. З-за вады. Усе яе берагуць, а яна цыстэрнамі вылівае. Думаю, хутка ў бабулі пенсіі не хопіць, каб за аш два о разлічыцца. Гэта яна цябе на мяне нацкавала?

**Нона.** Дзе ёй узяцца! Яшчэ ў сваёй сястры гасцюе пасля бальніцы, куды трапіла па тваёй міласці.

**Мікалай Адамавіч.** Ну, пачалося. Злітуйся, жонка. Не дужа нагаворвай на мяне. Не прыніжай. Мае мазгі хоць трошкі і выпраміліся ад манатоннай працы, але ж яны, я табе паўтараю, яшчэ варушацца, яшчэ боўтаюцца ў чарапку! Ці ты думаеш, я зусім "клёпкі" пагубляў?! Дарэмна. Я яшчэ такое магу адчыбучыць, такое выдаць, а мо ўжо і выдаў, дай бог памяць...

**Нона.** Няўжо? І што ж тваё шэрае рэчыва знайшло? У якім такім накірунку? У якой галіне мой любы дасягнуў неверагодных вынікаў? Адкрыў нешта такое, што адразу тое вынаходства можна занесці ў кнігу Гінеса ці нават прысудзіць Нобелеўскую прэмію?

*Мікалай Адамавіч вылупіў вочы, хоча штосьці сказаць, але яго спыняе Нона.*

**Нона.** Маўчы, не хачу нават слухаць. Я табе зараз скажу сама. Баюся, бо калі ты пачнеш успамінаць, твая апошняя выпрастаная звіліна можа больш нацягнуцца і лопнуць. Тады капец! Не будзе ні ў мяне мужа, ні ў маёй маці зяця. А мо гэта і да лепшага. Ты ёй пячонкі за гэты час усе з'еў, ой, як з'еў!

**Мікалай Адамавіч.** Не можа такога быць! Я самы найлепшы зяць з ўсіх яе былых зяцёў.

**Нона.** Бач, як загаварыў! А якая высокая самаадзнака! Выбачаюся, але ты не раскажаш, па якіх учынках лепшы? Хіба толькі ў прыколах і неабдуманых дзеяннях падчас тваіх запояў.

**Мікалай Адамавіч.** Ну і якіх жа!? Я з цешчай жыву душа ў душу.

**Нона.** Ага, і калоціш, быццам грушу. Ты яе ледзь не задушыў трэцяга дня.

**Мікалай Адамавіч.** Не можа быць!

**Нона.** Не памятаеш? Хвіліначку пачакай, паляжы...

*Нона пакідае мужа і выбягае з пакоя. Штосьці на хаду бубніць. Мікалай Адамавіч пачынае мурлыкаць. Не праходзіць і некалькі хвілін, як яна вяртаецца. У руках трымае агульны сшытак. Падыходзіць бліжэй да Мікалая Адамавіча і пачынае гартаць старонкі, штосьці шукаць.*

**Мікалай Адамавіч.** І што гэта ў цябе за талмуд? Што ты там шукаеш?

**Нона.** Не паверыш. Дзённік тваіх прыгод пад назвай "Прыгоды Міколкі ад ночы да золку". Слухай і матай на вус. Мо сорамна стане і ў іншага чалавека пачнеш перарабляцца!

*Чытае.*

*Панядзелак.* Мікола з працы вярнуўся пад градусам. Злы, відаць, недапіў. Што ў яго галаве рабілася, невядома, але злавіў белую курку- чубатку і пачаў перафарбоўваць яе ў рыжы колер, прыгаворваючы, што цяпер яна будзе несці чырвоныя яйкі і не трэба будзе фарбаваць на Вялікдзень.

*Паўза. Глядзіць на мужа. Чытае далей. Ён усміхаецца.*

*Серада.* Сёння Міколка прыйшоў а палове адзінаццатай вечара, хаця пасля ўчарашняга галаватрусу, які адбыўся з нагоды паўзаўчарашняга дня нараджэння кладаўшчыцы, абяцаў і бажыўся, што прыйдзе цвярозым і бадзёрым рана. Як даклыпаў да катэджа, ніхто не бачыў і не чуў. Бо ён поўз. Усляпую. На слупе перагарэла лямпачка. Было б усё выдатна, каб на шляху не ўзнікла перашкода. Мая матуля. Яна выцягвала з куста бэзу кацяня. Міколка сп'яну падумаў, што сустрэў нячысціка. Падняў яе і пульнуў у куст шыпшыны. Яе палёт суправаджаўся рэплікай Міколкі: "Нячыстая сіла, нячыстая сіла! Дзе цябе насіла! Вось і няма цябе, нечысць крываногая!" Матуля прызямлілася на шкло...

**Мікалай Адамавіч.** І яна яшчэ там сядзіць, у тым кусце? *(Рагоча)*.

**Нона.** Насміхаешся? Ты што, дурны ці прыкідваешся? Маме наклалі швы і адправілі дадому. Я ледзь адгаварыла, каб яна заяву ў міліцыю не пісала. Так што завязвай, мужанёк, з гарэлкай! Такі відны мужчына, а такі гнілы. Добра, што сёння субота. На камбінат не трэба. Ад сораму б скруціўся, быццам кусок скуры ад агню. Ты так ужо праспіртаваўся, што, прайшоўшы ля цябе, можна адразу лішніх праміль хапануць.

**Мікалай Адамавіч.** Пра што ты сакочаш, быццам яйка знесці хочаш? Мо сціхнеш? Галава і так баліць без гэтага сакатання. Адчуваю, што ад тваіх недарэчных слоў мой твар перакосіць зараз.

**Нона.** Ён і так перакошаны, страшны. На яго без слёз нельга глядзець. Не верыш? Мо прынесці люстэрка, каб зірнуў? Хаця...*(паўза)* ты ж не калека, каб прыслужваць табе, а здаровы мужык. Хадзіць можаш, дык і падыміся, падыдзі да трумо. Падсунь сваю фізію да яго і паглядзі, які прыгажун адтуль будзе табе зубы шчэрыць!

**Мікалай Адамавіч.** Канешне, прыгажун! Яшчэ і які! *(Смяецца)*. Адбою няма ад жанчын, асабліва ад тваіх сяброўак. Хіба не памятаеш, як яны мяне ў стрыптыз-клуб зацягнулі.

**Нона.** Чаму ж не памятаю? Яшчэ і як памятаю! Толькі яны не ў клуб зацягнулі, а выцягнулі з яго. Што вы адзначалі ўсёй брыгадай там, невядома! І так расхадзіліся, што нельга было ўтаймаваць некаторых. А ты ўвогуле з "катушак" зляцеў. Перастаў сябраваць з галавой. Так рваўся да шаста, каб сваім тоўстым азадкам пакруціць ля яго, што яшчэ ля стала, за якім піравалі, стаў распранацца. Дайшоў да споднягa. Добра, што ў той дзень на кухні працавала мая сяброўка, заўважыла. Пад дзікі рогат мужыкоў яна цябе пад руку. На хаду ўхапіла штаны і... у таксоўку. Выратавала ад сораму і штрафу.

**Мікалай Адамавіч.** Ну-у-у, прыпомніла леташні снег.

**Нона.** Не, мужанёк, не леташні, а свежанькі. Двухтыднёвай даўнасці. Няўжо ж не памятаеш? Завязвай нікчэмныя гэтыя п'янкі. Не возьмешся за галаву сам, я табе дапамагу.

**Мікалай Адамавіч.** Памочніца знайшлася. Ну, выпіў. І што з гэтага? Я ж табе нават учора кветкі прынёс. Жоўценькія, як сонейкі. Але вось дзе сарваў, не памятаю. А мо хлопцы рвалі ля дома, хацелі табе дагадзіць. Каб ты не крычала. А ты нават не выйшла да нас. Зацiхарылася. А зараз такі лямант учыніла. Людзі ж могуць падумаць, што я цябе забіваю. А я ж ніколі нават пальцам не крануў маю каралеву.

**Нона.** Ага. Разжыліся на дзьмухаўцы. І дзе вы толькі іх знайшлі? А наконт твайго крывога пальца... Паспрабаваў бы толькі мне яго паказаць, а не дай бог бы тыцнуць ім!.. Адразу б твой скамечаны твар пачала б патэльня гладзіць. Старацца, увіхацца! Думаю, не кожны знаёмы пасля яе працэдур пазнаў бы майго Мікалая Адамавіча. Атрымалася б лепш, чым у самага дарагога пластычнага хірурга. Заўваж, дарма. Падумай над гэтым, калі захочаш мяне пакрыўдзіць.

**Мікалай Адамавіч.** Думай, падумай... *(Перадражнівае. Рэзка падымаецца і тут жа рэзка апускае галаву на падушку)*.Нона, лекцыя ўжо закончылася? Ці будзеш далей мне мазгі калаціць градам не вельмі пекных слоў?! Лепш схадзі ў краму. Пэўна ж, піва свежае прывезлі на выхадныя. Ты ж учора не купіла мне. Хаця магла б здагадацца, у якім стане магу дадому прыехаць. Хутчэй толькі. А я пакумекую, а можа, і ўспоўмню, як правёў апошні дзень рабочага тыдня.

*Сказаў і накрыў галаву коўдрай.*

**Нона.** Так ўжо і пабегла! Так ужо і ратаваць стала! Піва яму... Я лепш папрашу суседку Вольгу, каб яна цябе палячыла. Без бальніцы. Не хочацца, каб ты трапіў у базу алкаголікаў.

*Паўза. Глядзіць на мужа. Потым пачынае здзіраць з галавы коўдру. Мікалай Адамавіч моцна трымае яе і крычыць.*

**Мікалай Адамавіч**. Жонка, а жонка, ты звар'яцела! Ратуйце!...

**Нона.** А чаго ты з галавой накрыўся? Сорам ахапіў? Мо яшчэ трошкі прачытаць пра твае прыгоды?..

**Мікалай Адамавіч.** До-о-о-о-о-о. Досыць!

**Нона.** Досыць дык досыць. Спі. Вечарам працягнем размову.

## Карціна другая.

## Успаміны Міколкі

*Пятніца. Ранак. Трыкатажны камбінат. Да пачатку змены добрых паўгадзіны. Слясарны ўчастак. Памяшканне не вельмі вялікае. Пасярэдзіне пакоя два сталы, ля сцен тумбачкі. За адным сталом – мужчыны гуляюць у даміно. Шум, гвалт. Другі стол абступіла даволі шмат людзей. Напружаная цішыня. На стале стаіць трохлітровы слоік з клеем БФ. У слоіку тырчыць драўляны пруток. Адзін з слесарай-сантэхнікаў пачынае прутком круціць у слоіку. Мужчыны ўтаропілі вочы на пасудзіну. Хтосьці адпускае рэплікі, кшталту :"Ну, давай, шпарчэй круці", "Чаго спіш над слоікам" , "Хутчэй, а то трубы перагараць". Словы выклікаюць смех. Мужчыны пачынаюць рагатаць.*

*Заходзіць Мікалай Адамавіч, гучна стукнуўшы дзвярыма. У яго вясёлы настрой. Мужчыны заўважаюць свайго калегу, сцішыліся, але не спыняюць занятак, усе засяроджаны.*

**Мікалай Адамавіч.** Прывітанне, арлы! Чаго замерлі? Няўжо я вас так напужаў, што ўраз змоўклі? Што вы робіце?

*Падыходзіць да мужыкоў, якія стаяць сцяной. Выцягвае шыю, круціць галавой, каб зірнуць, што робяць яго сябры.*

**Мікалай Адамавіч.** Няўжо нячысціка злавілі, які нам перашкаджае працаваць плённа, і ў слоік запіхнулі? Здзекваецеся ўжо?

**Сяргей.** Чарцей мы потым лавіць будзем, як і вавёрачак, калі ўсё гладка атрымаецца. А цяпер не перашкаджай нам. Дужа ты вясёлы сёння і, калі паглядзець на твой твар, нават задаволены. Відаць, Ноначка табе выдзеліла дваццатку, каб мне доўг аддаў? Пакуль патрымай грошы ў кішэні. Потым вернеш, калі мы з гэтага клею не выкруцім грамаў сто спірту, а мо і больш. У нас галовы бо-бо...

**Мікалай Адамавіч.** Ад перапою?

**Рыгор.** Кінь ты! Мабыць, ад недапою. Пяць літраў чарніла хатняга на пяць чалавек, гэта ж дробязь. Адным словам, не было чаго піць. Дый і градус маленькі ў ім быў.

**Мікалай Адамавіч.** Калі б мяне не адправілі ў вязальны цэх у канцы змены, а тым вінцом падзяліліся, і вашы галовы былі б свежымі, як ў мяне. Так вам і трэба. А ўсё ж з якой нагоды прычашчаліся?

**Сяргей.** Брыгадзіравы новыя чаравікі замочвалі, каб не расклеіліся. А ты не крыўдуй дужа на нас. Сапраўды, малавата было віна. Але чаму ж так галовы баляць?..

*Паўза.*

**Косця.** А цябе не паклікалі, бо брыгадзір сказаў, як адрэзаў: табе ніколі не наліваць! Ён памятае дзень, калі ты яго за грудкі браў, грамульку глынуўшы спірту на маіх імянінах, і прымусіў яго козлікам бляяць. Ведаеш, як мы ўсе перапалохаліся, а больш за ўсіх ён сам. Пацалуйчык так асцярагаецца твайго дзівацтва! Бо ты, калі прымеш на грудзі грамаў сто вадзяры, становішся смелым. Праўду пачынаш шукаць, якой на камбінаце няма. І ўвогуле нідзе.

**Мікалай Адамавіч.** А ў яго хараша атрымалася роля бязрогага, хоць і не доўга бляяў. Вы нават за жываты браліся ад смеху. Аказваецца, страх вас смяшыў. Баяліся, што і вам давядзецца пеўнікамі кукарэкаць ці каровай мычаць, калі будзеце стаяць і маўчаць. (*Змоўк, абвёў усіх поглядам*). Я, сябры, не дзіўны, я вясёлы, з пачуццём гумару. Што мне тая грамулька гарэлкі, дробязь. Дурасці і без яе ў мяне хапае. А вы ці з градусам ці без яго – ніякія. Жартаў не разумееце. Нават усміхацца не ўмееце, а толькі крывіце твары і вусны, быццам лімон кусанулі. Сумна з вамі. Вось думаю, мо пара звольніцца ды больш інтэлігентную суполку пашукаць.

**Рыгор.** Не кіпяціся, Мікалай Адамавіч. Цяпер цяжка знайсці штосьці добрае. А пакуль ты з намі, дапамажы.

**Мікола Адамавіч.** Выкручваць з клея спірт?

**Вадзік.** Бач, які разумны! Толькі зірнуў на слоік і адразу здагадаўся.

**Мікола Адамавіч.** А што тут здагадвацца! Такім чынам дабываць спірт раўназначна, што з рога барана малако выцiскаць! Няўжо на камбінаце спірт закончыўся ці вы пасварыліся з кладаўшчыцай?

**Міхась.** Спірту... хоць заліся! Вось толькі нашай выратавальніцы, любай Марусі, на рабоце няма. Адгул узяла. Не падумала, што нам пасля ўчарашняга цяжанька будзе. Так яно і стала. Пахмяліцца трэба, што аж зубы барабаняць. Дрыжыкаў не стрымаць, што да пальцаў прычапіліся. Дапамажы расчапіць клей БФ. Аддзялі адзін хімічны элемент ад другога! Ты ж сярод нас вучоны. Курашчупам быў галоўным! *(Рагочуць*). Недарэмна мы цябе завём – Мікалай Адамавіч.

**Косця.** Сапраўды, паслухай, прафесар. Мо мы не тое з гэтым клеем робім? Твой аднакласнік, які забягаў да брыгадзіра, а мо да цябе, прапанаваў сто грамаў гарэлкі ўліць ці кіёчак упіхнуць. Гарэлкі няма, а пруток знайшлі. Утыркнулі. А палка тая так схапілася з клеем, не зварухнуць. Мы і так, і сяк. Другі кіёчак уставілі, больш тоўсты. Пачалі па чарзе круціць. Мазалі накруцілі, зірні. *(Паказваюць чырвоныя рукі)*.

**Мікалай Адамавіч.** Ну і малайцы. І як, працэс пайшоў? Дапамаг пруток? Мо мала круціце?

**Сяргей.** Маўчы, ніякага зруху. Круцім даволі працяглы час. Стаміліся, а гэтая рудая халера ну ніяк не паддаецца. Мо ты паспрабуеш? Сілы ў цябе хапае, па вачах бачым. Праўда, хлопцы? Не інакш допінг зранку ўжыў?

**Мікалай Адамавіч.** Допінг не допінг, а на сілу не скарджуся. Ну, адхіліцеся. Дайце дарогу. Падсуньце да мяне бліжэй слоік. А то з-за вас не падступіцца да яго.

*Мужчыны расступаюцца і даюць месца Мікалаю Адамавічу. Той падцягвае да сябе бліжэй клей БФ і пачынае круціць у ім кіёчкам. Круціць шпарка. Твар пачырванеў. Нарэшце на кіёчку пачаў збірацца тоўсты слой цягучага рэчыва. Імгненне, і клей ужо на стале. На дне пасудзіны плюхаецца вадкасць сінявата-шэрага колеру. Па тварах слесараў-сантэхнікаў бегае лёгкая ўсмешка.*

**Вадзік.** Малайчына, Адамавіч. Выратаваў. Дзякуй! А вы, хлопцы, чаго

ўтаропілі вочы, тару падстаўляйце хуценька. Каму вельмі дрэнна. Цыркну кроплю-другую.

*Хлопцы кінуліся да сваіх тумбачак, і праз момант усе кубачкі стаялі на стале. Пайшоў па шклянку і Мікалай Адамавіч. Вадзік пачынае капаць жывую слязу ў кубачкі. Убачыў шклянку Мікалая Адамавіча.*

**Вадзік.** Прабач, але табе не дамо нават і панюхаць. Ты ж ведаеш, брыгадзіраў загад.

**Мікалай Адамавіч.** Ведаю, не ведаю... Дарэчы, а дзе мой крыўдзіцель? Гэта па яго ласцы мяне прэміяльных пазбавілі за мінулы месяц. А было б з-за чаго!

**Усе хорам.** Як з-за чаго? Ты ж не змог своечасова перакрыць ваду, якая фантанам біла з трубы і затапіла ніткі, што ляжалі ў падземным пераходзе. Дваццаць тон, лічы.

**Мікола Адамавіч.** Хлусня гэта! Усё я перакрыў. Вада нават да паддонаў не даставала, на якіх яны ляжалі, і сышла хвілін за пяць. І Ніна, майстра вязальнага цэха, калі прыйшла паглядзець на бабіны, пацалавала ў шчаку за якасную дапамогу. Гэтую сцэну і пабачыў наш Іван Іванавіч, калі набліжаўся да будучых шкарпэтак і калготак. Ён аж зубамі заскрыгітаў. Я б сігануў ад жанчыны, каб ведаў, што яна яго каханка. Дык дзе ён, мая варажына і крывапійца майго кашалька?

**Вадзік.** Пераапрануўся і пабег да механіка, а мо да сваёй Ніначкі. Можа, вось-вось з'явіцца. Так што, сябры, хутчэй, пакуль гром не грымнуў. А табе, паўтараю, хоць і заслужыў, ні кроплі. Ты сёння дзяжурны. Будзеш заяўкі прымаць і, калі што, пойдзеш ліквідоўваць паломкі сам. Нас жа адпраўляюць у падшэфны калгас. Цеплатрасу праравала. Відаць, ужо аўтобус падагналі. А ты, Адамавіч, працуй і нас чакай. Ну, хлопцы, каб не апошняя гэта кропля сёння была!

*Мужчыны выпіваюць вадкасць, падобную на спірт, моршчацца. Збіраюць інструменты і выходзяць з участка.*

## Карціна трэцяя

*Мікалай Адамавіч застаецца на ўчастку адзін. Ходзіць вакол стала, штосьці кумекае. Бярэ трохлітровік, глядзіць у яго. На дне колькі кропель спірту. Нахіліў слоік над шклянкай, якую выцягнуў з кішэні спяцоўкі. Выліў у яе рэшткі спірту. Выпіў. Страсянуўся. Праз колькі часу пітво трошкі дало ў галаву. На сэрцы адлягло. Вочы павесялелі. Сеў за стол у чаканні званкоў. Ніхто не званіў. Аварый нідзе не было. Краны работніцы не зрывалі. Прасядзеў гадзіну безвылазна. Нават сон змарыў. Прыхіліў галаву да сцяны, каб пакімарыць. Не ўдалося. Дзверы адчыніліся, і ў пакой зайшоў аднакласнік – Мікіта Бязводкін, кладаўшчык.*

**Мікіта.** Прывітанне, гаротнік. Хлопцы твае папрасілі зайсці ці то штосьці патрымаць, ці то падтрымаць цябе, не зусім зразумеў. Што здарылася?

**Мікалай Адамавіч.** Асабліва нічога, але калі коратка, то тыя, якія паслалі цябе сюды, не ўважылі мяне. Не далі паспрабаваць смярдзючага мярзоцця, якое я выкруціў з клея. І я пакрыўдзіўся.

**Мікіта.** Было б з-за чаго. Лічы, што дабро для цябе зрабілі. Бачыў бы ты, якія яны крывыя выйшлі з камбіната.

**Мікалай Адамавіч.** Няўжо? Спірту таго было па грамульцы, не больш. Мне яшчэ хапіла трыццаць тры кроплі. Няўжо ж дабавілі? Толькі дзе ўзялі?

**Мікіта**. Не ведаю, але вельмі вясёлыя беглі за прахадную. А тое, што

яны пілі, нельга ўжываць. Для страўніка шкодна, а для галавы... *(Змаўкае. Падбірае, відаць, патрэбныя словы)*. Ад пітва таго чалавек з глузду з'язджае.

**Мікалай Адамавіч**. Цікавая песня. Не веру. Я ж табе казаў, толькі што глынуў тых лекаў. Бач, сяджу, праўда, сон пачынае разморваць.

**Мікіта.** Мо не тая доза? Ці яшчэ да мазгоў не даляцела. А хочаш выпіць?

**Мікалай Адамавіч.** А ёсць што?

**Мікіта.** Крыўдзіш! Дома не можам пасядзець, як людзі, бо жонкі, быццам тыя гадзюкі, шыпяць, а тут хоць пагамонім. Успомнім, якім жыццё было раней, як мы на птушкафабрыцы працавалі і ездзілі ад прафсаюза за мяжу.

*Дастае пляшку "Зуброўкі".*

**Мікалай Адамавіч.** Як нечакана! Парадаваў, браток! *(Пацірае рукі)*. А закусь прынёс?

**Мікіта**. А як жа без яе?

*Дастае кракаўскую каўбаску, пер'е цыбулі, гуркі. Кладзе на стол.*

**Мікалай Адамавіч.** Значыць, пір гарой? Толькі б не прыйшоў брыгадзір, а то каюк нам будзе.

**Мікіта**. Не прыпрэцца. Ён з хлопцамі паехаў. Думаю, да вечара. Бо калі заходзіў на мой склад па паклю, казаў, што вялікая аварыя адбылася ў пасёлку.

**Мікалай Адамавіч.** Тады ладачкі. (*Устае. Ідзе да тумбачкі Васіля. Дастае шклянку, прыносіць, працягвае Мікіту)*.Ну што, сябрук, пачынаем застолле.

*Мікіта зрывае капялюшык у бутэльцы і булькае "Зуброўку" ў посуд. Мужчыны чокаюцца, выпіваюць.*

**Мікіта.** Як жа я даўно не піў "Зуброўкі"! Сёння за цёплыя калготкі, якіх я трошкі больш адгрузіў, чым патрэбна было, перапала.

**Мікалай Адамавіч.** Выдатная рэч. Цяпло па целе расцяклося, як гарачая вада па батарэях.

**Мікіта.** А ты закусвай. Каўбаску бяры. Я, калі купляю яе ў краме, успамінаю, як мы яе смакавалі падчас вандроўкі па Чэхіі. Як кольцы лавілі вудамі... з балкона.

**Мікалай Адамавіч.** Ага. Такое наўрад ці забудзеш! Навошта Пятровіч мясны далікатэс вёз за мяжу і ў такой колькасці, не ўцямлю. Відаць, баяўся, што з голаду ногі працягне там. Яна ж у яго ад гарачыні пачала псавацца, лежачы ў маленькім чамаданчыку і вандруючы з намі па ўсёй краіне.

**Мікіта.** І яе патрэбна было ратаваць. Хутка з'есці. *(Рагоча)*.

**Мікалай Адамавіч**. Як жа яна пахла, калі Пятровіч клаў яе на прасушку на балкон у кожным гатэлі, дзе мы начавалі. На ўсю ноч. А сам задаволенны клаўся адпачываць. Так было і ў Празе... *(Паўза)*. ...А ты яе вудай, вудай. Некалькі разоў не мог пацэліць, каб мясны скрутачак падчапіць на кручок. А мы цябе падганяем. Гарэлка налітая, а закусі выкусі...

**Мікіта.** Ад вашага рогату рукі трэсліся. Але ж урэшце мне ўдалося тры скрутачкі падняць.

**Мікалай Адамавіч.** Добрая была каўбаска. Не паспела пратухнуць. І замежная гарэлка моцная трапілася. Усе засталіся задаволенымі, акрамя Пятровіча.

**Мікіта.** Цікава, які б у цябе быў настрой, каб тваё ядзэнне, праўда, не ўсё, а знішчылі? Ён жа не думаў, што мы закусвалі яго правіянтам. Ён жа абвінаваціў супрацоўнікаў гатэля, што яны злодзеі... Толькі якім чынам

тыя маглі залезці на балкон, не падумаў. На ўвесь "Ікарус" крычаў, аж пена вывальвалася з рота. Мы на яго пазіралі і толькі ўсміхаліся. Добра, што змаўчалі, а не прызналіся, а то накастыляў бы ўсім.

**Мікіта.** І добра б зрабіў. (*Рагочуць*).

**Мікалай Адамавіч.** Каго толькі ў той паездцы не дурылі і не кпілі з каго!

**Мікіта.** Так-так. Асабліва, калі гадзіннік камандзірскі цыганам упіхвалі. За пяцьдзясят крон.

**Мікалай Адамавіч**. Калі гэта? Я штосьці не прыпомню. Ну, нагадай.

**Мікіта.** Зараз, дай толькі гурка ўкусіць. Нешта ў страўніку запякло... Міколка, як не памятаць?! Здзівіў**!** Гэты ж, бадай, самы яркі эпізод нашага падарожжа.

**Мікалай Адамавіч.** Я сам дзіўлюся! Мабыць мяне не было ля вас...

**Мікіта.** Няўжо? Тады слухай. Толькі давай яшчэ па адной храпнем. Палечым маё нутро ды і гурок прагонім. Не "Зуброўка", а смаката адна!

*Налівае "Зуброўку", гладзіць бутэльку і ставіць пад стол.*

**Мікалай Адамавіч.** Ага, свежая зубровачка. Пад яе можна слухаць і слухаць. Так што траві сваю байку.

**Мікіта**. Зараз. *(Дажоўвае)*. Толькі б не збіцца. Дык вось.

Пайшлі мы на базар. Мне піва захацелася выпіць. Валодзьку вуды прадаць. Ганне цыгарэты. А Сяргею проста пабадзяцца. Не ведаю, чаму, але калі разыходзіліся, я Сержуку паказаў гадзіннік. І не абы-які! Камандзірскі. Ён і ўзяў панасіць...

**Мікалай Адамавіч.** Во, і дзе ты яго ўзяў?

**Мікіта**. Узяў... У добрым месцы... *(Паўза.)* ...Цягаліся яны па базары, цягаліся, а я піва пасмоктваю, але ж бачу здаля, як ля Сяргея люду сабралася. Цыгане. Думаю, варажыць будуць яму ці што? Я хутчэй дапіў чароўны напітак, і да яго. Бягу ратаваць, бо думаю, зараз аблапошаць Сяржука, вымантачаць усе грошы... *(Паўза.)* ...Ды бачу, не варажба там ідзе. Гадзіннік разглядаюць, ужо прыцэньваюцца. Адзін раман у рукі ўзяў яго і пагладзіў, бы кабылу. І раз да вуха. Левага. Паслухаць, ці цікае. Сяржук, як потым прызнаўся, анямеў. Толькі сябра яго, Косця, змікіціў... і да левага вуха цыгана перайшоў. Давай адбіваць тыя секунды зубкамі: цок, цок, цок. Цыган да правай сваёй слухаўкі падставіў вайсковы рарытэт. Косця таксама да правага вуха пераскочыў. І зноў зубкамі: цок, цок, цок...

**Мікалай Адамавіч**. А што, гадзіннік спыняў свой ход? Не разумею. Чаго той бегаў і цокаў?

**Мікіта.** А што тут не зразумелага? У гадзінніку не хапала некалькі клёпак. Няспраўны ён быў. Але гэта не перашкодзіла яго прадаць. Я глядзеў і шкадаваў музейны экспанат, але ж я не перашкаджаў упіхваць цыгану прыгожую, але ўжо нікчэмную рэч.

**Мікалай Адамавіч**. Ну, нахабнік. Такую падляну зрабіць табе? Без дазволу прадаць!

**Мікіта:** Нічога страшнага. Я б такую афёру не пракруціў сам, не змог. Мы доўга на тыя грошы піва пілі. Ах, піва, піва... *(Паўза.)* ...Шкада, што ў нас не такое яно! Вось бы яго сюды. На ўчастак! Шліфанулі б "Зуброўку". Ну што, яшчэ па адной?

**Мікалай Адамавіч.** А давай! Дзе наша не прападала, няхай тут лясне. Налівай!

*Мікіта зноў наліў. Выпілі, закусілі. Даволі ап'янелі. Мікіта падсунуў стул бліжэй да Мікалая Адамавіч і зірнуў яму ў вочы.*

**Мікіта.** Вось скажы, я штосьці не памятаю, ты дзівачыў у маладосці, на птушкафабрыцы? Ці гарэла на табе скура, як на мне?

**Мікалай Адамавіч.** Гарэла, а цяпер толькі курыць. Але, нягледзячы на мой эмацыйны застой, я так хачу штосьці адчыбучыць сваім крыўдзіцелям. Не, не ўсім, а толькі аднаму. Брыгадзіру. Сёння ж! А ты мне дапаможаш?.. А цяпер плясні ў шклянку яшчэ!

*Мікіта зноў налівае. Выпіваюць. Дзеляць рэшткі каўбаскі, гурок. Закусваюць.*

**Мікіта**. Міколка, і што ты надумаў? *(Ледзь варочае языком)*.

**Мікалай Адамавіч.** Як бы нічога. Думаю стварыць асабліва модны абутак майму начальніку. Пачакай трошкі, пабачыш.

*Мікалай Адамавіч ўстае з-за стала і, хістаючыся, накіроўваецца да тумбачкі, у якой ляжаць матэрыялы для працы. Перабірае ўсё і дастае пласт гумы, таўшчынёй сантыметраў з дзесяць. Прыносіць і кладзе на стол. Потым ідзе да шафы брыгадзіра, дастае яго новыя чаравікі. Яны таксама займаюць сваё месца на стале. Мікіта пазірае на свайго аднакласніка і толькі міргае вачыма. Ён нічога не разумее.*

**Мікалай Адамавіч**. Ну, ты гатоў падтрымаць сябра і аднакласніка? Тады ўперад!

**Мікіта**. А ўсё ж, што рабіць?

**Мікалай Адамавіч.** Трымаць! Калі клеем намажу, прыціснеш. Рукі ў цябе дужыя.

*Ставіць чаравікі на гуму, абводзіць крэйдай. Спярша адзін, затым другі. Бярэ нож і пачынае выразаць падашвы з гумы. Выразаў. Любуецца работай, высунуўшы язык. Ідзе па клей БФ. Адкрывае слоік, зачэрпвае клей і змазвае ім толькі што выразаныя гумавыя падэшвы. Хуценька прыкладвае іх да падэшваў брыгадзіравых чаравікаў.*

**Мікалай Адамавіч.** Ну вось, парадак**.** Засталося толькі прыціснуць мацней... Цісні, сябрук, не шкадуй сваіх ты рук. Моцна прыціскай, каб схапіўся клей, станеш гладзіць, толку не будзе.

*Мікіта з усяе моцы навальваецца на абутак. Трымае хвілін з пяць. Тое ж робіць і Мікалай Адамавіч. Мужчыны зачырванеліся. Потым адпускаюць рукі. Мікалай Адамавіч бярэ "новыя" чаравікі на платформе і нясе да жалезных балванак. Падымае жаляззё і кладзе яго на абутак. Падыходзіць Мікіта.*

**Мікалай Адамавіч.** Ай, як добра, як цудоўненька! Управіліся за такі кароткі тэрмін. Праз гадзіны тры, акурат да прыезду брыгады, гуму нельга будзе адарваць ад чаравікаў нават зубамі.

**Мікіта.** Ці доўга ім пад цяжарам стаяць?

**Мікалай Адамавіч.** Недзе праз хвілін сорак-пяцьдзясят ў тумбачку пастаўлю. Думаю, брыгадзіру спадабаецца абутак**.** Зноў жа вяртаецца мода на платформу. Будзе самы піск. Пацалуйчык пачне ў іх хадзіць, як на хадулях, і пішчаць ад радасці. А якая выгода! Ён жа ніколі не прамочыць ногі, ніколі!

**Мікіта.** А табе патрэбна будзе рабіць ногі з прадпрыемства, вось пабачыш. Злапомны ваш Пацалуйчык. Не даруе сапсаваны абутак, ніколі не даруе.

**Мікалай Адамавіч.** А гэта да лепшага. *(Злосна)*. Не магу я больш трываць, калі дурні сябе вучонымі лічаць ды яшчэ людзьмі кіруюць. Не магу. А мы давай ўжо разыходзіцца.

**Мікіта.** Але ж. Пара. Пайду на свой склад. Паганяю моль, якая ўсе кал-

готкі шарсцяныя пачыкала. Чаму яны іх летам вяжуць? Ніякага планавання, ніякага вывучэння попыту пакупнікоў. *(Пазірае на гадзіннік.)* Божухна, ужо амаль чатыры гадзіны дня. Ну і засядзеўся я ў цябе! Пэўна ж, і мяне ўжо шукаюць па камбінаце. Я пабег.

**Мікалай Адамавіч**. Бяры ногі ў рукі і ляці. А я, калі яшчэ штосьці ёсць у бутэльцы, дап'ю і мушу дачакацца хлопцаў. Я ж дзяжурны сёння. Але вельмі хачу паглядзець на брыгадзіра, калі той пачне зменку мяняць. А табе дзякуй, старына, за пачастунак. Ты сапраўдны сябар!

*Мікіта збірае рэшткі закусі, кідае ў пакет. Глядзіць на пляшку, на дне якой грамаў дваццаць "Зуброўкі", і моўчкі выходзіць са слясарнай майстэрні.*

*Мікалай Адамавіч дапівае "Зуброўку". Настойка падкошвае чалавеку ногі і ён садзіцца ля батарэі. Прыхіляе да яе галаву і засынае. Колькі спіць, невядома. Прачынаецца ад рогату сантэхнікаў, якія ўвіхаюцца над трохлітровым слоікам клею... і зноў правальваецца ў бездань. Толькі паспявае крыкнуць: "Нона, Ноначка! Ты дзе? Ратуй!.."*

## АКТ ТРЭЦІ

*Вечар. Нона збірае на стол, каб павячэраць. На стале талерка з дранікамі. Смятана. Хлеб. Слоік з таматным сокам. Бутэлька з мінералкай. Прыборы для ежы. З дынаміка даносяцца апошнія мясцовыя навіны. Жанчына прыслухоўваецца, але ёй перашкаджае немы крык Мікалая Адамавіча.*

**Мікалай Адамавіч**. Нона, Нона! Хопіць здзекавацца! Дапамажы! Цалюткі дзянёк адляжаў, а ты так і не падыйшла больш. У мяне так галава баліць, што не магу ёй варухнуць. І страўнік скруціла. *(Войкае)*.

**Нона.** *(Таксама крычыць)*. А я тут пры чым? Я не доктар! Чым магу дапамагчы? Нічым! А ты паціху падымайся і рулі на кухню. Здолееш парог пераступіць, здароўечка паправіш...

**Мікалай Адамавіч**. Не магу.

**Нона.** Што значыць "не магу"?

**Мікалай Адамавіч.** Ногі адняло.

**Нона.** А ты на карачкі, на карачкі стань. Паспрабуй паўзці. Не так даўно ў цябе гэта атрымлівалася. І зарадку зробіш, а да мяне дапаўзеш, галаву палечыш.

**Мікалай Адамавіч**. Няўжо піва купіла? Маладзец. Я заўсёды ўсім кажу, што жонка ў мяне – золата. Калі паспела? Не чуў, каб ты выходзіла з дому.

**Нона**. Заснуў, відаць.

**Мікалай Адамавіч.** Не. Не спаў. Прыгадваў пятніцу. А якімі ўспаміны былі яркімі, як жыццё! А вось як дома апынуўся, хоць забі мяне – не ведаю. Толькі чамусьці ў памяць урывалася шаптуха Вольга, уплягалася ў маю галаву. Няўжо ты яе папрасіла палячыць мяне і яна з свайго катэджа мне імпульсы пасылала?

**Нона.** Як табе сказаць. Была размова пра гэта. Прасіла дапамагчы. Згадзілася шаптуха. Казала прыйдзе, зёлкі прынясе.

**Мікалай Адамавіч.** Не, не трэба! *(Гвалтам крычыць. Чутна, як падае з канапы і пачынае паўзці на кухню. Праз колькі часу дапаўзае, апіраючыся аб вушак кухонных дзвярэй, устае і робіць некалькі крокаў да стала. Сядае)*. Не хачу яе забабонаў і яе зелля. Ты ведаеш, з чаго яна варыць лекі і на чым? Мужыкі расказвалі.

**Нона.** З траў сушаных і на вадзе, вядома ж.

**Мікалай Адамавіч.** Соль табе ў вочы, не ўгадала! На бразе, у якую кідае

курыны памёт. Вось як! Мо потым і травіцу дабаўляе: аптэчныя рамонкі, мяту, валяр'янку, ягады ядлоўца, хто яго ведае. Усё б нічога, але ж у гэты збор яна кідае дажджавых чарвячкоў, садовых панцырных клопікаў, тлю... Барані божа мне гэта не толькі піць, але і панюхаць. Нутро ж выверне!

**Нона.** Затое на ўсё астатняе жыццё адаб'е цягу да гарэлкі. (*Паўза*). А ты не хвалюйся. Давай, я папрашу асабістыя зёлкі для цябе зварыць, ды такія моцныя, каб ты больш ніколі ў жыцці шклянку з хмяльным зеллем да вуснаў не паднёс. А мо ты згодзен на рытуал, на забабоны... Думаю, яна шмат іх ведае.

**Мікалай Адамавіч.** Ну, гэта іншая справа, іншая гутарка. Размова інтэлігентных людзей. Нона, мо не трэба чацаць ночы? Валяй яе сюды, нават зараз.

*Працягвае руку, адкрывае мінералку і прагна пачынае піць. Вада так і булькае ў горле.*

**Нона.** Во, як не церпіцца! Пачакай трошкі. Давару крупнік на заўтра.

*Заглядвае ў каструлю, перамешвае. Хоча пакласці лыжку на стол, але прамахваецца. Лыжка са звонам ляціць на падлогу, гук зліваецца з дзвярным званком.*

**Мікалай Адамавіч**. Во, хтосьці ў госці завітаў. А мо маці твая вярнулася? Ці ёсць у цябе пляшка для прымірэння? *(Нона глядзіць на Міколу Адамавіча ваўчыцай)*. Маўчу, маўчу. Няма дык няма... Ты тут вары, вары, памешвай, каб не прыгарэла. Ведаеш жа сама, што гарэлага я не п'ю і не ем. Пайду дзверы адчыню.

*Шпарка бяжыць да дзвярэй, адчыняе. Нона толькі дзівіцца яго спрыту. На парозе стаіць Вольга.*

**Мікалай Адамавіч**. Во, лёгкая на ўспамін! Ці як кажуць: успомні... ой, а як далей, забыўся. Ну, добры вечар, мая любая шаптушка. А я ўжо адпраўляў Нону па цябе.

**Вольга.** А я адчувала, што пра мяне штосьці вярзеце. Адно скажу, не слухайце, што людзі кажуць, да таго часу, пакуль самі не ўбачыце, які чалавек перад вамі. А забегла я ўдакладніць, сёння будзем цябе лячыць ці заўтра? Які рытуал станем праводзіць?

*Гаворыць, ідучы на кухню. Зайшла. Загадкава зірнула на Нону. Без запрашэння села на табурэт.*

**Нона.** А што, у цябе іх мноства? *(З усмешкай)*.

**Вольга.** Ёсць, канешне. Не хачу завочна іх праводзіць, каб не нашкодзіць чалавеку, а ў гэтым выпадку майму любаму Міколку. Хачу, каб выбраў, што яму даспадобы. Я нават ужо тое-сёе прынесла.

*Раскрывае цэлафанавы пакет, дастае абгарэлую бярозавую палку, абкручаную белай бязью з аднаго канца. Падсоўвае да Міколкі.*

**Мікалай Адамавіч.** Што гэта? Навошта?

**Вольга.** А гэта пачатак рытуала. Я буду трымаць, а ты ліжы, а потым кусай.

**Мікалай Адамавіч**. Ну, ты дакладна звар'яцела!

**Вольга.** Ні ў якім разе. (*Паўза*). Не бойся, не атруцішся. Бачыш, якое вуголле свежае. Грызні. Разоў з дзевяць. І вадзічкі... наверх. Праз хвілін трыццаць, вось пабачыш, палягчэе. Табе ж піва ніхто так і не прынёс за дзень? *(Падсоўвае галавешку бліжэй да Міколкі. Гледзячы на іх, Нона пырскае ад смеху. Мікалай Адамавіч маўчыць, быццам язык праглынуў, не ведае, што рабіць)*. Смялей, смялей. Потым будзе весялей. (*Міколка пачынае лізаць*

*галавешку. Штосьці пакусваць. Вольга лічыць).* Раз кусь. Два кусь. Трэці кусь. Чацвёрты кусь... пяты, шосты, сёмы, восьмы. Вось дзевяць. Глытай!

*Мікалай Адамавіч глытае згрызенае вуголле, амаль што не душыцца. Вольга налівае мінералку, падае Міколку. Нона рагоча, аж прысядае.*

**Мікалай Адамавіч**. Усё. З мяне хопіць. Каб мая бесталкоўка так не балела, я б гэтую галавешку праз акно выкінуў ці ў цябе б шпульнуў. Табе пашанцавала. Што яшчэ ты прыдумала?

**Вольга**. Пачакай. Зірну ў вакно. *(Глядзіць у вакно, моршчыцца)*. Праз хвілін дваццаць пачнем. А цяпер... (*Паўза)*. Слухай і выбірай. Будзем загаворваць мыла ці рытуал праводзіць з дапамогай веніка ці поўні?

**Мікалай Адамавіч**. А чым яны адрозніваюцца?

**Вольга.** Калі на мыла, то хуткіх вынікаў не дасягнеш. Яго патрэбна змыліць.

**Нона.** Не, нам гэта не падыходзіць. Не дай бог возьмеш гаспадарчае, то дакладна будзеш мыцца з добрых паўгода. Можна памерці і не дачакацца выздараўлення.

**Мікалай Адамавіч**. А загавор на поўню – як гэта*? (Усміхаецца)*.

**Вольга.** Такі рытуал трэба рабіць за дзень да маладзіка. Чаму я глядзела ў вакно? Хацела ўбачыць, якая сёння поўня на небе.

**Нона.** І якая ж?

**Вольга.** Поўная. Па небе ёрзаецца, быццам патэльня па пліце. Зірнеш на яе, аж вачам балюча. Не падыходзіць да забабонаў.

**Мікалай Адамавіч**. Ну і добра, што спазніліся. А то нагаварыла б чагосьці нялюдскага, і я пачаў бы выць ваўком у поўнач, абняўшы бутэльку гарэлкі.

**Нона**. Вось, вось... Што ў цябе ў рэзерве яшчэ ёсць, суседачка?

**Вольга.** Шмат чаго, але, думаю, не ўсё падыходзіць. Баюся я ісці на могілкі і цябе туды цягнуць, дарагі сасуд.

**Мікалай Адамавіч**. *(Смеючыся*). Жывым хочаш закапаць? Ноччу, каб ніхто не бачыў?

**Вольга.** А каб ты быў сто гадоў здаровы! І каб сто гадоў хадзіў і столькі ж кручком поўзаў...

**Нона.** Вольга, а ты штосьці казала пра венік...

**Вольга.** І праўда. Венік... Як жа ён выскачыў з маёй памяці? А ўсё з-за таго, што вы затлумілі мне галаву сваімі пытаннямі. Ну, ці ёсць ён у хаце? Толькі новы патрэбен.

**Нона.** А як жа. Свежанькі. Праўда, бярозавы, для лазні.

**Вольга**. Цудоўненька. Нясі яго сюды. *(Нона ідзе па венік у кладоўку. Прыносіць. Аддае шаптусе)*. Добры венік. *(Разглядае, круціць у руках. Звяртаецца да Міколкі)*. А ты, Мікалай Адамавіч, перанясі табурэтку на сярэдзіну кухні, сядай. І каб ні гуку.

**Мікалай Адамавіч**. Пачнеш сцябаць, пісягі на целе пакідаць, а потым іх заклейваць лісточкамі? Балюча ж будзе. Лепш бы заварылі гарбаты і далі папіць, калі больш нічога мацнейшага няма, лучоскія каты. Няўжо ж не бачыце, што мінералка не дапамагае. Так усё трасецца ўсярэдзіне. Мятлікі перад вачыма пачынаюць лётаць.

**Вольга.** Патрывай трошкі, патрывай, хай цябе камар убрыкне.

*Мікалай Адамавіч пераносіць на сярэдзіну кухні табурэтку, сядае. Загадкава пазірае на варажбітку. Нона адыходзіць ад стала і займае месца ля акна, каб адтуль назіраць за гэтым цыркам.*

*Вольга пачынае рытуал. Яна кружляе вакол Міколкі, пачынаючы ад табурэткі, на якой ён сядзіць. Ідзе да дзвярэй, заціснуўшы пад пахай венік, штосьці шэпча. Дайшла. Стала на калені. Падняла рукі ўгару. Венік шлэпнуўся на падлогу. Устала, падняла яго і пачала месці кухню. Па крузе. Да Міколкі. Мяце не спяшаючыся, прыгаворваючы.*

**Вольга.** Смецце з хаты вымятаю, ад п’янкі Міколку пазбаўляю. Ніколі больш табе не піць, ніколі сэрца не губіць. *(Міколка сядзіць, як на іголках. Нона рот закрыла рукой. Баіцца рассмяяцца)*. Як гэтае смецце з хаты прападзе, жаданне піць у Міколкі адпадзе. Сёння і назаўсёды. (*Робіць апошні круг. Ён закончыўся ля ног гаспадара. Вольга змятае смецце, якога амаль няма, да ног Мікалая Адамавіч, падымае галаву, глядзіць яму ў вочы, а звяртаецца да Ноны)*. Ну што, Ноначка. А цяпер твая чарга прыняць удзел ў выздараўленні мужа. Вазьмі чысты ліст паперы, збяры на яго смецце і вынясі разам з венікам на скрыжаванне дарог. Можна і на скрыжаванне сцежак ля свайго катэджа. Спалі. А я яшчэ пашапчу над Мікалаем Адамавічам. Без цябе.

*Нона адыхоздіць ад акна. Са стала бярэ аркуш чыстай паперы. Робіць усё так, як параіла шаптуха, і выходзіць, не зачыняючы дзвярэй. На кухні застаюцца Мікалай Адамавіч і Вольга.*

**Мікалай Адамавіч**. Вольга, можа, хопіць прыдурвацца, лячыць мяне такім чынам. Мне здаецца, ты іншым можаш мяне ратаваць. Яшчэ хвіліна, і я богу душу аддам. Вось пабачыш!

**Вольга.** Мо калі і так, але сёння – ніяк. *(Нахіляецца над пакетам і з яго дастае гарэлку. У цёмнай бутэльцы)*. На, вазьмі, пахмяліся. Можа, твар свой знойдзеш. Хутчэй, пакуль Нона будзе вогнішча распальваць. Вып’еш, да яе бяжы.

*Міколка амаль што не вырывае бутэльку з рукі варажбіткі. І не гарэлку прыцiскае да грудзей, а абдымае суседку. З усяе сілы, што ў той трашчаць старыя косці.*

**Мікалай Адамавіч**. Вольгачка, мая шаптушка! (*Гаворыць, а зубы ад хвалявання аж пастукваюць)*. Мая выратавальніца! Якая ж ты разумніца! Дай табе Бог здароўя! Каб жа ты ведала, як мне цяжка было! А цяпер, думаю, адляжа цяжар ад грудзей! Дай жа я цябе пацалую.

*Нахіляецца якраз у той момант, калі ў кухню, з разарваным венікам заходзіць Нона. Па сярнічкі. Жанчына слупянее. Глядзіць то на Вольгу, то на Міколку, якія, убачыўшы яе, таксама заміраюць на месцы...*

**Нона.** А што гэта такое? А што гэта за цырк на кухні! Ну, я ж вам зараз... *(Выцягвае некалькі дубцоў і пачынае сцябаць імі Міколку, радзей Вольгу. Ды з такім імпэтам!)*

**Вольга.** Супакойся, Нона. Ты не так зразумела! Міколка такім чынам мне дзякаваў за лекі, за мае зёлкі, якія для яго прыгатавала і толькі што аддала. Зірні, ён іх трымае ў руках!

*Нона слухае, але дубцы робяць сваю справу: сякуць і сякуць па людзях. Больш дастаецца Міколку. Нона б’е і глядзіць на рукі мужа. Заўважае ў яго руках кручочак і хоча выбіць яго з рук. Не ўдаецца. Міколка ўжо на двары, сігануў праз акно, моцна трымаючы пітво. Чапляецца за штосьці і... з усяго маху падае на плітку. Да жанчын даносіцца працяглы стогн уперамешку са смачнай лаянкай.*

**Мікалай Адамавіч.** Каб табе пуста было, жоначка! Каб ты хацела піць, а вады не было! Каб цябе злавілі з рэшткамі салдацкай кашы, якую курачкам прыносіш штодзень.

*Сціхае. Відаць, пачынае пахмяляцца. Праз хвіліну немачкі крычыць.*

**Мікалай Адамавіч.** Вольга, якую ты мне гадасць падсунула, якое паскудства! Што там? Якіх ты зёлак намяшала? Бэ-э-э. Каб цябе саму вырвала, паганая ведзьма!..

*Паўза.*

**Вольга.** Вось і ўсё, Ноначка. Пасля маіх лекаў, маёй гарэлкі, дзе змешана дзевяць кампанентаў і якую ён толькі што глынуў, Мікалай Адамавіч ніколі ў рот не возьме спіртное, вось пабачыш.

*Гаворыць і глядзіць то на Нону, якая стаіць побач з ёй ля вакна, то ў цемень.*

**Нона.** Дзякуй, Вольга, і прабач за розгі. Але ж так усё натуральна атрымалася. Я толькі баялася, што зарагачу, калі вас сцябала. Здаецца, цябе не вельмі біла? А ты як добра мне падыграла! Не дарэмна ж у драмгуртку займалася.

**Вольга.** Але ж. Тое, што ўмееш, не прап'еш, гэта дакладна. А цяпер давай разыходзіцца. Толькі б не наляцець на твайго Міколку незнарок. Прыдуша п'янтос. Мо разам выйдзем з хаты?

*Жанчыны адыходзяць ад вакна. Вольга ідзе да стала, каб забраць бярозавую галавешку. Кладзе ў пакет. Кабеты выходзяць з хаты.*

Канец

---

"Дзеяслоўцы" сардэчна віншуюць
нашую даўнюю аўтарку, шаноўную
спадарыню **Стасю Наркевіч –**
**Анастасію Пятроўну ЛАЗЕБНУЮ –**
з юбілеем і зычаць ёй моцнага здароўя,
бадзёрасці ды аптымізму, а таксама –
новых выдатных твораў, на радасць нам і нашым чытачам!

мастацтва

Адам Глобус



...у сталым веку
быць самотнікам цяжка...

# Кальмаева

***Словы пра плакатыстку Людмілу Кальмаеву***

**Антыволат**

Хто не ведае чаравікаў Ван Гога, не маляваў ніколі сваіх і наогул не маляваў чаравік, той і не мастак. Каб стаць мастаком, я шмат разоў намаляваў свае стаптаныя чаравікі. Каб зарабіць мастацтвам, я маляваў новы абутак на вітрынах мінскіх камісійных крамаў. Можаш паверыць, я разбіраюся ў якасці панамаляваных і панафатаграфаваных чаравікаў, і мяне цяжка здзівіць абутковым нацюрмортам, але плакатны чаравік Людмілы Кальмаевай ўражвае, бо ён антывангогаўскі. Апантаны Вінсэнт Ван Гог прывучыў нас любіць і паважаць чаравікі. Нават парваныя і падраныя, крывыя і брудныя ты навучыўся любіць; а тут чаравік кепскі, вялізны, бяздушны, які топча кветачкі. Людміла Кальмаева намалявала чаравік антыволата, перайшла з боку рукатворных чаравікаў на бок нерукатворных кветак і траў, голасам хіповай і пацыфістычнай блакітнавокай кветкі загадала брутальнаму чаравіку: “Не тапчы!” Смеласць уразіла, запомнілася і цэніцца. З гэтага антыволатаўскага плаката і пачалося маё знаёмства з творчасцю Кальмаевай.

## Эстонскасць



*Людміла КАЛЬМАЕВА.*

Культура патрабуе дагляду і дадавання. Людміла Кальмаева працавала выкладчыцай на кафедры графікі і даглядала наступнае пакаленне мастакоў. Студэнты любілі Людмілу. Гэта я напісаў пра дагляд, а цяпер паразважаю пра дадаванне. Каб культура не загніла, не задохлася ў паўторах, не захлынулася ў ізаляцыі, у яе трэба дадаваць нешта прынесенае з чужых краёў. Дадаванне чужога ўзбагачае сваё. Вядома, калі ідзе негвалтоўна і не перавышае разумнай прапорцыі. Разумееш, можна, дадаючы зашмат чужога, панішчыць усё сваё. Назаву прыклады ўдалага дадавання... Так Кішчанка і Сахненка ў беларускае манументальнае мастацтва дадавалі ўкраінскай сакавітасці, Малішэўскі з Басавым у беларускі жывапіс – французскай экспрэсіі, Савіч і Селяшчук у беларускую графіку – літоўскалатышскай казачнасці. Дзякуючы гэткім дадаванням беларускае мастацтва рабілася не толькі больш разнастайным, але і, як гэта ні парадаксальна, яшчэ больш беларускім. Людміла Кальмаева прынесла ў нашае мастацтва суворую эстонскасць. Тую эстонскасць, якую так старанна стваралі Толлі і Пылдрас, Рауд і Суббі, Улас і Кеэрэнд. Кальмаева папрацавала ў мастацтве даволі доўга, яна змянялася, спрабавала сябе ў розных жанрах, выбірала для ўзораў не толькі творчасць эстонскіх мастакоў, але для мяне яна найперш “эстонка”, як Малішэўскі для мяне “француз і парыжанін”.

## Багдановіч

Часам, каб лепей зразумець творы мастака, варта даведацца пра ягонага любімага паэта. У Арлена Кашкурэвіча такім паэтам быў Гётэ. У Васіля Шаранговіча – Міцкевіч. У Анатоля Александровіча – Чарот. У Міхаіла Урубеля – Лермантаў. У Сандра Бацічэлі – Дантэ... Паэзія натхняе мастакоў, мастакі дапамагаюць паэзіі набыць запамінальныя і адпаведныя новаму часу візуальныя вобразы. Кожнае пакаленне мастакоў наноў перачытвае класіку, наноў стварае вобразы Гётэ і Дантэ. Думаючы пра Людмілу Кальмаеву, я згадаў яе любімага паэта – Максіма Багдановіча. Яму пашанцавала на любоў. Ён любімы паэт беларускай нацыі. Ім захаплялася і захапляецца ўжо далёка не першае пакаленне мастакоў, але Калмаева ўбачыла і намалявала вельмі адметнага, манументальнага, гераічнага Багдановіча. Большасць мастакоў бачаць у Багдановічы летуценніка, бесклапотніка, сузіральніка вечна зменлівай прыроды з мушкамі-зелянушкамі ды камарыкамі – насатымі тварыкамі. У Кальмаевай Багдановіч – мужны стваральнік новай беларускай літаратуры і абноўленай беларускай нацыі. Такім ён бачыцца і мне, за што я ўдзячны Людміле Кальмаевай.

## Вішнеўскі

У Людмілы Кальмаевай ёсць партрэт графіка Валодзі Вішнеўскага. У Кальмаевай багата самых розных партрэтаў, можна казаць, што ў маляванні партрэтаў яна вялікі майстар. Яна можа зрабіць партрэт з фатаграфічным падабенствам, можа зрабіць яго ў стылістыцы акадэмічнага малюнка і ў суворым стылі шасцідзясятых гадоў. Людміла з тых прафесіяналаў, хто без асаблівых намаганняў можа задаволіць густы самых розных замоўцаў. На мой густ адзін з найлепшых яе партрэтаў – Вішнеўскі. Чаму? Не стану разбіраць кампазіцыю, штрых і фактуру. Раскажу пра іншае... Некалькі разоў я пачынаў пісаць літаратурны партрэт Валодзі, ды нічога ў мяне вартага не атрымлівалася, а калі што і ўдавалася, сыходзіла ў партрэты іншых графікаў. Таму, разглядаючы малюнак Кальмаевай з партрэтам Валодзі Вішнеўскага, я адчуваю зайздрасць. Яна ўзяла паперу і аловак, паўсміхалася (Кальмаева шмат усміхалася) і намалявала характар Вішнеўскага, а я не змог. Праўда, усё яшчэ збіраюся змагчы.




*Людміла Кальмаева. «Не тапчы!»*

## “Маладосць”

Доўгі час значная частка беларускай культуры стваралася ў рэдакцыях папяровых часопісаў. “Полымя”, “Маладосць”, “Беларусь”, “Бярозка”, “Вясёлка” і “Нёман” былі пляцоўкамі для першых публікацый прозы і паэзіі, першых ілюстрацый да літаратурных шэдэўраў, нарысаў і эсэ, усяго таго, што пазней дааформіцца ў кнігі і кінасцэнарыі, у альбомы і падручнікі. Кожны з часопісаў імкнуўся мець адметнае кола аўтараў. Часопісы змагаліся за чытача. Таму найлепшае з напісанага Караткевічам, Быкавым, Брылём і Адамовічам надрукавана ў “Маладосці”, а не ў “Полымі” ці “Нёмане”. Людміла Кальмаева вельмі плённа пасупрацоўнічала з “Маладосцю”, яе ілюстрацыі выдатна дапаўнялі словы Уладзіміра Караткевіча і Яўгена Міклашэўскага, Алены Філімонавай і Васіля Гігевіча, Андрэя Федарэнкі і Вацлава Ластоўскага... У той час часопіс, акрамя Кальмаевай, ілюстравалі цудоўныя малявальшчыкі: Сяргей Халамаў і Леанід Дубар, Кастусь Шаранговіч і Уладзімір Лукашык... Дзякучы такім ілюстратарам, як Людміла Кальмаева, “Маладосць” вылучалася сярод беларускіх часопісаў і на конкурсах у Прыбалтыцы адзначалася прэміямі за густоўнае аздабленне.

## Эратычнасць

У малюнках, зробленых таленавітай жаночай рукой, эратычнасці значна больш, чым у малюнках мужчынскіх. Вядома, што ёсць жанчыны, чыя творчасць вельмі мужчынская, а ёсць і адваротныя прыклады, але зараз я не стану казаць пра выключэнні і адхіленні, а скажу пра асноўную плынь. Ва ўсім, што рабілі Алеся Паслядовіч і Яня Зельская, Люда Русава і Людміла Кальмаева было шмат, а часам і зашмат вабнага, эратычнага і райскага. Кальмаева вымалёўвала цэлыя серыі лістоў з сексуальнасцю пацалункаў, з цяплом жаночай аголенасці, з акварэльнай квяцістасцю хіповай любові. Далёка не ўсё са зробленага Людмілай Кальмаевай

паказвалася на афіцыйных выставах, але дзякуючы інтэрнэту цяпер можна пабачыць і ацаніць яе вялікі ўнёсак у культуру эротыкі, у эстэтыку кахання, у прыгажосць цялеснай любові.



*Людміла Кальмаева. «Шар».*

## Сорам

У Друі, на мастакоўскім пленэры я не пазнаў Людмілу Кальмаеву, і не пазнаў, што называецца, – зусім. Вярнуўшыся ў Мінск, разглядаючы фотаздымкі, зробленыя ў друйскім касцёле, дзе мне пашанцавала выступіць, я прачытаў у каментарах прозвішча Кальмаева. Адшукаў на здымку сівенькую бабульку... Няўжо гэта Людміла Кальмаева? Бог мой, як жа яна змянілася. Я згадаў гэтую бабульку, яна сядзела на прыкасцёльнай асветленай вечаровым сонцам лавачцы і ўсміхалася мне, я ветліва павітаўся і пайшоў далей. Не спыніўся, не загаварыў, не згадаў нашы інстытуцкія часы... Я яе не пазнаў! Які сорам! Бывае, што я не пазнаю людзей, гэта ж здараецца з кожным, нічога страшнага ў такім непазнаванні няма, і саромецца няма вялікай нагоды, і я не саромлюся, але з Калмаевай атрымалася інакш. Сорам за непазнаванне быў раптоўны, моцны і запамінальны. Таму вырашыў: наступным разам я абавязкова, сустрэўшы Кальмаеву, раскажу ёй пра гарачы сорам і папрашу прабачэння за няўважлівасць, і яна даруе, і мы разам паўсміхаемся... Планы, спадзевы, надзеі... Людмілы Кальмаевай больш няма, а мне ўсё яшчэ сорамна, што не пазнаў выкладчыцу са свайго тэатральна-мастацкага інстытута.

## Самота

Людміла Кальмаева выкладала ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Студэнты яе любілі. Добра, калі студэнты любяць, слухаюць і паважаюць выкладчыка; гэта першы крок да стварэння гуртка з прыхільнікаў і паслядоўнікаў. Каб Людміла Кальмаева стварыла падобны гурток, я парадаваўся б і за яе, і за яе паслядоўнікаў, і за наш інстытут. На мой розум, знаходкі і дасягненні Кальмаевай вартыя імправізацый і працягаў у работах вучняў. Гэта ў ідэале, а ў рэальнасці ніхто не стаў распрацоўваць знаходкі Людмілы, працаваць у яе стылістычных фігурах, ніхто не стаў яе сапраўдным вучнем. Калі Шаранговіч і Ва-



*Людміла Кальмаева. «Рай».*

шчанка, Кішчанка і Бараноўскі, Хадыка і Міронава мелі свае школы, дык Людміла Кальмаева і сярод студэнтаў у інстытуце, і пазней заставалася і засталася самотнай. У маладосці шлях самотніцы быў плённым, бо гарантаваў шмат працоўнага часу, які сыходзіў на творчасць, у сталым веку быць самотнікам цяжка, пагатоў калі твая самотнасць апынулася ў вежы старога млына, які стаіць у халоднай і далёкай ад роднага Мінска ветрадзьмуйнай Галандыі.



*Людміла Кальмаева. «Максім Багдановіч».*

## Скрыжаванне

У Наваельні, дзе працавалі мае дзяды ды прадзеды, хадзілі ў школу мае дзядзькі і мой бацька, асноўным святам лічылі (і цяпер лічаць) Дзень чыгуначніка. Яно і зразумела, бо ўлады і дзяржавы змяняліся, а чыгуначная станцыя заставалася на месцы і давала працу, і карміла, і паіла. Чыгунку любілі, але быў у яе і чорны бок з гісторыямі, як жанчына кінулася пад цягнік, як п’янога на ровары збіў паравоз, як мужчыны залезлі ў цыстэрну, каб пачысціць, і задохліся ў парах бензіну... Дзяцей з Наваельні палохалі страшнымі гісторыямі пра чыгунку, каб былі асцярожнымі на шпалах і рэйках... Чыгуначную станцыю “Наваельня” я згадаў, калі пачуў пра раптоўную смерць Людмілы Кальмаевай на чыгуначным пераездзе ў прыгарадзе Мідэльбурга. Сведкам, якія пабачылі апошнія імгненні жыцця Людмілы, спатрэбілася дапамога псіхолагаў. Шлагбаум у момант гібелі Кальмаевай быў апушчаны, так што яна не магла патрапіць на рэйкі выпадкова. Атрымліваецца, што мастачка знарок... Зрэшты, я не крыміналіст, каб пісаць пратаколы і падшываць у справу заключэнне пра смерць. Магу распавесці толькі пісьменніцкую версію гвалтоўнай смерці... Для мяне Людміла Кальмаева падобная да Яўгеніі Янішчыц і ў творчых пошуках, і знешне, і ў паводзінах. Яўгенія Янішчыц так стамілася ад навакольнага свету, ад адзіноты, ад розных боляў, так напакутвалася ў хваробах, што загарнулася ў коўдру і скінулася з гаўбца. Падобная стома адчувалася і ў паводзінах Кальмаевай... Хай апаненты даруюць мне жорсткасць, але я напішу ў гэтай версіі слова “самагубства”. Без такога слова апавяданне пра цудоўную мастачку, якая зрабіла майстэрню ў старым галандскім млыне, будзе куртатым. Жыццё Людмілы скончылася на скрыжаванні чыгункі і шашы, раптоўна, як сканчаецца жыццё гераіні ў высокай трагедыі.

Сяргей Чыгрын



...Пытанняў вельмі шмат.

Але адказы на іх паціху знаходзяцца...

# Шэсць знаходак пра Гальяша Леўчыка

## Рэдкі здымак Гальяша Леўчыка

У мой прыватны архіў нядаўна трапіў адзін рэдкі і арыгінальны фотаздымкак Гальяша Леўчыка (сапраўднае прозвішча Ілля Міхайлавіч Ляўковіч,1880-1944) – беларускага паэта, калекцыянера, мастака і музыканта.

Гальяш Леўчык быў родам са Слоніма. Пасля павятовай двухкласнай школы ў Слоніме працаваў чарцёжнікам у землямера, потым быў чарцёжнікам на будаўніцтве шашы Беласток-Баранавічы. Калі будаўніцтва скончылася, выехаў у Варшаву. Там таксама ўладкаваўся на працу чарцёжнікам у магістрат Варшавы.

У Варшаве Гальяш Леўчык актыўна ўдзельнічаў у культурным жыцці беларусаў, якія ў той час жылі і вучыліся ў гэтым горадзе. Ён выступаў на вечарынках, дзе чытаў свае вершы, спяваў, акампануючы на гітары, песні на свае словы. Загінуў паэт падчас Другой сусветнай вайны ў Варшаве...

У 1905 годзе паэт знаёміцца з беларускім рухам, шчыра сябруе з многімі вядомымі беларускімі дзеячамі. Дасылае свае творы ў

газету “Наша Ніва”, якая іх друкуе. “Наша Ніва” прывязвае варшаўскага інтэлігента да беларускай справы, уводзіць у свой актыў. Па заданні віленскіх сяброў Гальяш Леўчык збірае сродкі на пасмяротнае выданне зборніка твораў Сяргея Палуяна (1890-1910), сам часта выкройвае са свайго сціплага бюджэту “складкі” на культурныя і выдавецкія мерапрыемствы, вышуквае для “Беларускага календара” заказы гандлёвых фірмаў на платныя рэкламныя аб’явы, выпытвае і выведвае, а часам і выманьвае ў збяднелых арыстакратаў сямейныя рэліквіі, памяткі былой славы, як пісаў Уладзімір Калеснік, – каралеўскія прывілеі, граматы, пячаткі, угаворвае падараваць ці прадаць па сходнай цане віленскаму археолагу Івану Луцкевічу, які арганізоўваў у Вільні Беларускі музей.



*Гальяш Леўчык. Фотаздымак зроблены ў фотамайстэрні Б. Вайнштэйна. Слонім, 1904 год.*

У варшаўскай аднапакаёвай кватэры Гальяша Леўчыка быў сапраўдны музей. Чаго там толькі ні было!.. Эх, заглянуць бы мне хоць на гадзінку туды! А былі там усе гадавікі “Нашай Нівы”, газета “Гоман”, некалькі нумароў “Мужыцкай праўды”, выданні Францішка Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, усё, што выдавала выдавецтва “Загляне сонца і ў наша ваконца”, тамы “Люду Беларускага” Міхала Федароўскага, падараваныя аўтарам Леўчыку. Былі там і розныя фотаздымкі, музычныя інструменты, мапы, паштоўкі і нават слуцкія паясы...

У Слоніме Гальяш Леўчык пабудаваў да вайны невялікую хатку. Летам жыў у родным горадзе, а зімою ў Варшаве. І хатка ў Слоніме таксама нагадвала беларускі музей. Бо і яна была запоўнена беларускімі каштоўнасцямі, асабліва шмат захоўвалася карцін, старых кніг, часопісаў. У лістападзе 1939 года да Гальяша Леўчыка ў Слонім завітаў Янка Купала, калі ехаў з Беластока з Народнага сходу ў Мінск.


*Францыск Скарына. Малюнак Г. Леўчыка*

І варшаўская кватэра, і слонімская хатка Гальяша Леўчыка са скарбамі зніклі бясследна. Тым не менш, па крупінцы шмат гадоў збіраю ўсё, што магчыма, пра свайго таленавітага земляка.

Гэты каштоўны партрэт Гальяша Леўчыка быў зроблены ў Слоніме ў 1904 годзе, калі паэту было 24 гады, якраз перад паездкай у Варшаву. Зрабіў яго слонімскі фотамайстар Барыс Вайнштэйн. На адваротным баку здымка на польскай мове аўтограф самога Леўчыка: “Каханаму Пятру Левандоўскаму на памятку дарую. Эльяш Ляўковіч. 5 студзеня 1904 г. Слонім”. Хто такі Левандоўскі – невядома. А здымак Гальяша Леўчыка сапраўды цікавы і рэдкі. Ён друкуецца ўпершыню.

## Партрэт Францыска Скарыны

У прыватным архіве літаратуразнаўца і краязнаўца Міхася Казлоўскага з Маладзечна захоўваецца ўнікальны і раней нікому невядомы партрэт беларускага асветніка і першадрукара Францішка

Скарыны. Аказалася, што гэты партрэт быў намаляваны Гальяшом Леўчыкам напачатку XX стагоддзя. Партрэт Скарыны мастака Леўчыка Міхасю Казлоўскаму падараваў некалі мой зямляк, энцыклапедыст і літаратуразнавец Янка Саламевіч (1938-2012). Дарэчы, Янка Саламевіч даследаваў творчасць Гальяша Леўчыка і выдаў да яго 100-годдзя невялікую кнігу выбраных твораў "Доля і хлеб" (Мн., 1980). Відаць тады і трапіў да Саламевіча гэты партрэт першадрукара. Як мастак Гальяш Леўчык мала даследаваны, і захавалася не так і шмат яго твораў. Вядома толькі, што свой першы зборнік вершаў "Чыжык беларускі" Гальяш Леўчык сам афармляў.



*Першы зборнік вершаў Гальяша Леўчыка. Вільня, 1912 год.*

## Дадатак "Дух і праўда"

Гальяш Леўчык у першай палове XX стагоддзя жыў у Варшаве і меў непасрэднае дачыненне да метадыстаў, перакладаў псалмы на беларускую мову, выдаваў са студзеня 1927 года адзін раз у месяц дадатак да польскай газеты метадыстаў "Pielgrzym Polski", які называўся "Дух і праўда".

"Pielgrzym Polski" выдаецца да сённяшніх дзён. Нядаўна напісаў рэдактару пісьмо, каб даслаў копію хоць аднаго дадатку да гэтай газеты, які выдаваў наш зямляк Гальяш Леўчык. І сапраўды, хутка прыйшоў адказ за подпісам сакратара рэдакцыі Юзэфа Бартаса. І ён у пісьме паведаміў, што рэдакцыя змагла адшукаць толькі адзін нумар дадатку "Дух і праўда" за 1927 год № 2 (1), які мне даслалі.

Раней даследчыкі творчасці Гальяша Леўчыка пісалі, што "Дух і праўда", які рэдагаваў Гальяш Леўчык, выдаваўся ў газеце "Pielgrzym Polski" па-беларуску. Аказалася, што не. Дадатак выдаваўся на польскай мове. Сёння ўпершыню друкуецца першая старонка гэтага дадатку. Магчыма, псалмы, якія перакладаў на беларускую мову Гальяш Леўчык, друкаваліся па-беларуску, але ў сваім архіве маю толькі адзін нумар дадатку "Дух і праўда", дзе беларускіх тэкстаў няма. Песні духоўныя Гальяша Леўчыка публікаваліся таксама ў спеўніку для беларусаў "Песьні духоўныя з гарфы Сіонскай" (Варшава, 1925) і ў метадычным спеўніку "Божая ліра" (Вільня, 1930). Адну песню прапаную чытачам "Дзеяслова".

### СВЯТЫ БОЖА!

Сьвяты Божа, сьвяты Божа ўсемагутны!
Вось сягоння мы Табе тут шлем ад сэрца весьць;
Сьвяты Божа, сьвяты і ўсюды прысутны,
Тройцы сьвятой даем хвалу і чэсьць!

Сьвяты Божа, сьвяты Божа! Прад Табою
Головы анёлаў нізка хіляцца ў паклон,
І усё тварэнне клоніцца з мальбою,
Бо Ты ўсеўладны і Твой вечны трон!

Сьвяты Божа, сьвяты! Хоць Цябе не бачым,
Хоць не разумее клічу тут твайго наш слух, –
Ты ёсьць у сусьвеце, ў сонейку гарачым –
Ўсюды прысутны, сьвяты й чысты Дух!

Святы Божа, святы Божа ўсемагутны!
Вось сягоння мы Табе ўсе шлем ад сэрца весць;
Святы Божа, святы і ўсюды прысутны,
Тройцы святой даем хвалу і чэсць!


Беларускае Выдавецкае ТАВАРЫСТВО
ВІЛЬНЯ, ~~Казанская~~ д. № 5, кв. 4.
Biełaruskaje Wydawieckaje TAWARYSTWO
WILNIA, ~~Kazanskaja~~ d. № 5, kw. 4.

Паважаны Пане!

Вашага „Чыжыка" аддалі ўжо друкаваць рускімі літэрамі. Будзьце ласкавы прыслаць як найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якіе папраўкі то прышліце папраўлены экзэмпляр.
Астаюся со шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага Выдавецтва Ів. Луцэвіч.

Вільня 7/II–14 г.

P.S. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі-б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВО
Вільня, Каштановая д. № 5, кв.4.

*Пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка.*

## Пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка

У 1912 годзе Гальяш Леўчык выдаў у Вільні лацінкай свой першы паэтычны зборнік “Čyžyk biełaruski”, які адрэдагаваў Янка Купала.

У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага захоўваецца пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка (СКМ КП 5889/Ф1693). Будучы народны паэт Беларусі пісаў яму ў лютым 1914 года: “Паважаны Пане! Вашага «Чыжыка» аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць як найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экземпляр. Астаюся са шчырай да Вас пашанай сакратар Беларускага Выдавецтва Ів. Луцэвіч. Вільна, 7.II.14 г.

*P.S.* Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.”.

На вялікі жаль, кірыліцай зборнік вершаў слонімскага паэта так і не пабачыў свет, бо пачалася Першая сусветная вайна. А вось ліст Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка збярогся да сённяшніх дзён.

## Паштоўка ад пляменніцы

Некалі слонімскі паэт Анатоль Іверс (1912-1999) мне казаў, што нашая гісторыя – побач, толькі трэба яе ўмець шукаць, каб не страціць тое, што яшчэ захоўваецца ў прыватных архівах. І гэта так. Запрасіў на днях мяне старэйшы слонімскі мастак Пятро Фёдаравіч Бурсевіч да сябе ў госці, каб я пераглядзеў ягоны фотаархіў, можа што карыснае для сябе знайду. І што вы думаеце – знайшоў. І знаходка аказалася даволі ўнікальнай.

Сярод усіх сямейных фотаздымкаў у рукі трапілася паштоўка з выявою Слоніма, выпушчаная крамай Бера Любоўскага на Студэнцкай вуліцы ў Слоніме ў 1914 годзе. Цікавай аказалася не толькі сама паштоўка, але і тэкст з адваротнага боку. Ён напісаны па-польску і некалькі адрасных радкоў выведзены па-расійску. У перакладзе на беларускую мову тэкст гучыць так:



*Эмілія Ляўковіч, родная сястра Гальяша Леўчыка. Фота зроблена ў Слоніме не пазней за 1920 год.*

“Любімы Дзядзечка! У нас нічога новага не чуваць. Усе мы здаровыя. Тым часам у нас у Слоніме спакойна. Невядома, як будзе далей. Прашу напісаць нам, што там дзецца ў Варшаве? Калі вельмі небяспечна, то прашу ўцякаць да нас. На тым – да пабачэння. Альжбета Аляшкевіч” (*Elżbieta Oleszkiewicz*).

Зверху паштоўкі няпоўная дата. Са штампа можна меркаваць, што адпраўлена яна была 28 лістапада 1914 года, калі ў



*Паштоўка Альжбеты Аляшкевіч да Гальяша Леўчыка, 1914 г.*

Варшаве пачалася эвакуацыя ўстаноў, заводаў, чыноўнікаў і рабочых на Усход, звязаная з Першай сусветнай вайной.

Аказалася, што паштоўка адрасавалася Гальяшу Леўчыку, які быў родам са Слоніма, а часова пражываў і працаваў у Варшаве. Паштоўку са Слоніма напісала яго пляменніца Альжбета Аляшкевіч – дачка роднай сястры Гальяша Леўчыка. Зварот *wujaszek* (дзядзечка) можа ўказваць, што гэта менавіта дачка сястры Леўчыка.

Сапраўды, у Гальяша Леўчыка была родная сятра Эмілія (Аміля). Сяргей Хмара ў кнізе “Рабінавы хмель” (Мн., 2009. – С. 148) прыгадвае: “Сустракаліся мы з ім (маецца на ўвазе з Гальяшом Леўчыкам. – *С.Ч.*) у Слоніме, у доме ягонай сястры, якая выйшла замуж за нейкага гарадскога ўрадоўца і размаўляла на польскай мове...”

Сястра Эмілія рана памерла ад сухотаў. У яе была дачка Альжбета Аляшкевіч. Значыць і прозвішча сястры Леўчыка было Аляшкевіч. Бачна па тэксту гэтай паштоўкі, што пляменніца перапісвалася са сваім знакамітым дзядзькам, шчыра яго паважала і любіла. Яна і піша, што калі ў Варшаве кепска, дык каб той уцякаў да іх у Слонім.

Як склаўся лёс роднай пляменніцы Гальяша Леўчыка – пакуль невядома. Ці яна жыла ў Слоніме, ці куды выехала – таксама застаецца таямніцай. Пытанняў вельмі шмат. Але адказы на іх паціху знаходзяцца.

## Нявыдадзеная кніга трыялетаў

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык найперш вельмі хацеў выдаць свае трыялеты і шукаў выдаўца. І ён яго знайшоў у асобе Уладзіслава Знамяроўскага, які ў 1920-1930-х гадах меў у Вільні прыватнае выдавецтва.

Больш за тое, у кастрычніку 1927 года паэт заключыў з ім і яго жонкай Марыяй Знамяроўскай пісьмовую дамову на выданне беларускіх кніжак фірмаю “Кніжніца”. Аднак, відаць, з гэтай дамовы нічога не атрымалася. Знамяроўскі, атрымаўшы ад Леўчыка 400 злотых на выданне зборніка трыялетаў, перастаў пісаць да яго. І ў лісце ад 30 лістапада 1927 года паэт накінуўся на выдаўца за тое, што хоча разваліць “Кніжніцу”, і за тое, што не хоча друкаваць творы.

Праз дзесяць дзён прыслаў адказ Знамяроўскі. Ён паведамляў, што затрымка выйшла з-за таго, што завод не адліў новы шрыфт, а стары не варта набіраць. Нарэшце шрыфт быў куплены. І Знамяроўскі ў лісце ад 16 красавіка 1928 года пісаў Леўчыку, што паслаў яму карэктуру трыялетаў, а дагэтуль яшчэ назад не атрымаў. У наступным лісце ад 22 красавіка Знамяроўскі просіць Леўчыка прыслаць яму 100 злотых на паперу, якая закладзена ў банку, і на паперу на вокладку, а “то кніжка будзе ляжаць да канца свету”. Пры гэтым Знамяроўскі зганьбіў трыялеты Леўчыка.


„DUCH I PRAWDA"
DODATEK DO „PIELGRZYMA POLSKIEGO" Nr. 2.
„BÓG JEST DUCH, A CI, KTÓRZY GO CHWALĄ, POWINNI GO CHWALIĆ W DUCHU I PRAWDZIE"
Cena 10 gr. (EW. ŚW. JANA 4,24).


*Выданне, дзе Гальяш Леўчык друкаваў духоўныя вершы. 1927 г.*

Тады паэт звяртаецца па дапамогу да Янкі Маразовіча, Ігната Дварчаніна, Ігната Мятлы, Міколы Шылы і іншых віленскіх

сяброў. Ён піша ім, што Знамяроўскі выпрасіў яшчэ 25 злотых, а кніжку дагэтуль не выдае. Леўчык просіць, каб яны знайшлі нейкую раду на "шахрая Знамяроўскага, які тады енчыў перада мною, што няма работы і няма з чаго жыць".

Пакуль не знайшлося доказаў наконт таго, ці дапамаглі сябры Гальяшу Леўчыку вярнуць грошы, ці не. А кніжка трыялетаў яго ў Вільні так і не пабачыла свету. Вось адзін з тых трыялетаў:

*Жаваранкаў песні носяцца над нівай.*
*Беларуса цяжкі раздаецца стогн –*
*Слёзны пот ліецца з галованькі сівай...*
*Жаваранкаў песні носяцца над нівай.*
*Беларус не мае вольнае, шчаслівай*
*Бацькаўшчыны, толькі вузкі свой загон.*
*Жаваранкаў песні носяцца над нівай,*
*І ратай іх чуе, як прызыўны звон!*

памяць

Юрась Бачышча



...ўсё сваё жыццё я хацеў недзе схавацца на хутары ў нашым лясным зацішку – падалей ад "сацыялістычнага раю"...

# "Люблю цябе, мой край буслiны..."

## *Жыццё і творчасць Геральда Асвяцінскага ў люстэрку архіўных дакументаў*

Сёлета споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння Геральда Баляслававіча Асвяцінскага (1932-2006), які прыйшоў у гэты свет 23 студзеня 1932 г. у пасёлку Ялізава Асіповіцкага раёна. Яго жыццёвы шлях, які працягваўся 74 гады, быў складаны і насычаны падзеямі. Хаця імя Геральда Асвяцінскага не вельмі шырока вядомае беларусам, ён, безумоўна, заслугоўвае ўвагі нашчадкаў, а яго творчы і інтэлектуальны даробак у галінах тэатральнай, літаратурнай і краязнаўчай варты даследавання і памяці.

Геральд Асвяцінскі ўвайшоў у летапіс гісторыі культуры Беларусі як шматгадовы дырэктар Віцебскага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа, а таксама як адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў дзіцячага тэатра "Лялька". Менавіта пры ім на тэатральную сцэну "прабіліся" першыя творы Уладзіміра Караткевіча, які быў яго далёкім сваяком. Пад псеўданімам "Р[асціслаў]. Асвяціч" Г. Асвяцінскі стварыў інсцэніроўку для "Ладдзі Роспачы", якая ставілася на сцэнах Беларускага



*Геральд АСВЯЦІНСКІ.*

тэатра “Лялька” і коласаўскага тэатра г. Віцебска. За свой даробак у тэатральнай сферы Геральд Баляслававіч атрымаў ад беларускай дзяржавы званне заслужанага дзеяча культуры, а ад калег-тэатралаў прызнанне як добры кіраўнік.

Аднак асобу Геральда Асвяцінскага немагчыма спазнаць толькі праз яго прафесійную дзейнасць у тэатры, бо яго здольнасці і зацікаўленасці шматгранныя. Аб гэтым сведчаць дакументы яго творчай спадчыны, якія паступілі ў БДАМЛМ у складзе фонда С. Яновіча (№294), з якім Асвяцінскі сябраваў і меў сталую перапіску. Менавіта яму Геральд Баляслававіч даверыў і клопат пра сваю творчую спадчыну, перадаўшы свае літаратурныя творы з прыпіскай “Няхай будуць у цябе... Надзейней”[1]. Аўтару артыкула невядома, ці паспеў С. Яновіч надрукаваць штосьці з гэтых твораў у беластоцкіх беларускіх выданнях. Прынамсі, акрамя артыкула “Замест маніфеста”, надрукаванага на англійскай мове ў часопісе “Год Беларускі”[2], іншых публікацыяў Г. Асвяцінскага не было выяўлена. У 2007 і 2009 гг., дзякуючы паездкам і старанням дырэктара архіва-музея Г. Запартыкі, С. Яновіч перадаў свой архіў у БДАМЛМ. Такім чынам, кола замкнулася і творчая спадчына Г. Асвяцінскага вярнулася на радзіму.

Акрамя фонда С. Яновіча, творчыя дакументы Г. Асвяцінскага можна сустрэць і ў іншых калекцыях дакументаў БДАМЛМ. У прыватнасці, магчыма першы яго драматургічны твор – 20-старонкавы сцэнар п’есы для дзяцей “Навагодняя казка”, знаходзіцца ў фондзе Калекцыі дакументаў Міністэрства культуры БССР[3]. Дакумент не датаваны, але верагодна п’еса пісалася ў 1960-я гг, бо яна прасякнута ідэалогіяй “халоднай вайны” і з’яўляецца цудоўнай ілюстрацыяй таго, як мастацтва магло выкарыстоўвацца ў ідэалагічных мэтах. Пазнейшыя творы і зацікаўленасці Г. Асвяцінскага паказваюць, што яго ўласныя погляды перажылі пэўную трансфармацыю.

На пасадзе дырэктара тэатра Г. Асвяцінскі праявіў сябе як таленавіты арганізатар. Ён сам асабіста кантактаваў з многімі драматургамі, падшукваў творы для пастановак, апрацоўваў рэпертуарныя планы, дамаўляўся пра гастролі тэатра, збіраў у тэатры таленавітых рэжысёраў і актораў. Так, В. Мазынскі прыгадваў, што менавіта Г. Асвяцінскі запрапанаваў яму паставіць “Званы Віцебска” паводле У. Караткевіча да юбілею горада[4]. У 1976 г. Асвяцінскі дамаўляецца з А. Петрашкевічам пра пастаноўку ў Віцебскім тэатры п’ес “Укралі кодэкс” і “Злыдзень”[5]. У перапісцы з С. Яновічам Асвяцінскі абмяркоўвае планы пастаноўкі яго п’есы “Арышт” пра Браніслава Тарашкевіча і гастролі тэатра па Беласточчыне[6]. Як пісаў Г. Асвяцінскі пра сябе, ён “усё жыццё прысвяціў беларускаму нацыянальнаму тэатру – даросламу і для дзяцей”[7]. І сапраўды, тэатр стаў для яго не проста працай, але і сапраўдным захапленнем на многія дзесяцігоддзі.

Апроч тэатра Г. Асвяцінскі быў апантаны краязнаўствам. Як кіраўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага аб’яднання, Г. Асвяцінскі быў адным з заснавальнікаў гістарычнага навукова-папулярнага часопіса “Віцебскі сшытак” і ўваходзіў у яго рэдакцыйную раду. Узначальваючы мясцовую супольнасць краязнаўцаў, ён і сам

пісаў краязнаўчыя творы. Найбольш значным з іх стала даследаванне “Абарончыя сістэмы старажытнай Полаччыны”[8]. Як пісаў Г. Асвяцінскі да С. Яновіча, яно мусіла друкавацца ў пятым нумары “Віцебскага сшытка”, але гэтага не адбылося, бо ў выканкаме з’явіўся “цэнзар”, які не дазволіў друк[9]. Да 70-гадовага юбілею Г. Асвяцінскага ў 2002 г. яго сябры ўсё ж надрукавалі гэтае даследаванне асобнай брашурай.

Асобна варта адзначыць літаратурныя спробы Г. Асвяцінскага. Апавяданне “Дзеці з таямнічага хутара Рудня” было напісана ў 1983 г. на падставе ўласных дзіцячых успамінаў пра ваеннае і партызанскае мінулае[10]. Частка гэтага твора стала вядомай як навела “Ваўчаняты”. Праявіўся талент Г. Асвяцінскага і ў паэзіі. Ён з’яўляецца стваральнікам паэмаў “Лісты”, “Травень”, шэрагу беларускіх рамансаў “Нашто нам гэты чалавечы тлум?..”, “Ты не кажы, што дальняя дарога...” і інш.[11] Як тлумачыць сам Г. Асвяцінскі, ён заняўся рамансамі, натхнёны У. Караткевічам, каб даказаць, што прыгожыя рамансы могуць быць не толькі “рускімі”[12]. У БДАМЛМ у фондзе С. Яновіча захоўваюцца каля сотні вершаў, баладаў, баек і рамансаў Г. Асвяцінскага, напісаных на працягу паўстагоддзя. Першы верш “Песня жаўруку”[13] датуецца 1953 г., а апошні, які так і называецца “Апошні верш”[14], напісаны ў 2002-2003 гг. Паміж імі дзясяткі вершаваных твораў, створаных у другой палове XX ст. Гэта лірычная паэзія, прасякнутая рамантычнымі ноткамі. Яна паказвае Г. Асвяцінскага як непаўторнага рамантыка, маючага вялікую любоў да прыроды, роднага краю і людзей.

Вершы дапамагаюць зразумець мары і летуценні аўтара, яны раскрываюць сутнасць яго асобы, яго перажыванні і пачуцці. Такім паказальным з’яўляецца верш “Я не ханжа” (1976 г.), у якім любоў да роднай прыроды робіць з Г. Асвяцінскага чалавека, які не прымае мітусню гарадскога жыцця. Горад адштурхоўвае яго “гоманам днём і ноччу”, “бульварным бяздушным жыццём”. У гэтых паэтычных радках аўтара адчуваецца непрыманне ім савецкай рэчаіснасці грамадскага жыцця, калі сеецца зайздрасць аднаго да другога, а шчыры і адкрыты душой чалавек не цэніцца, калі жыццё чалавека мераюць “квадратурай круга”, “квадратным метрам і колькасцю душ на ім”, калі хтосьці імкнецца вызначаць жыццё іншага чалавека, пры гэтым “хаваючы тайком жыццё сваё”[15]. У адным з лістоў да С. Яновіча Асвяцінскі прызнаваўся: “...ўсё сваё жыццё я хацеў недзе схавацца на хутары ў нашым лясным зацішку – падалей ад «сацыялістычнага раю»...”[16]. Падобнае непрыманне жыцця мегаполісаў, у якіх некамфортна чалавеку, назіраецца і ў вершы “Чужыя гарады...”, дзе Г. Асвяцінскі выказвае сваю прывязанасць да ціхіх маленькіх гарадкоў з зеленню і “замкамі сівымі”[17]. У байцы “Дзіравы розум”[18] Г. Асвяцінскі высмейвае чалавечую ганарлівасць і зазнайства, кар’ерызм і “дзіравы розум” тых, хто выбіўся ў начальнікі. Як пародыя на студэнцкае жыццё, а можа і на партыйныя пленумы і з’езды, выглядае верш “З-за трыбуны пазірае”[19].

Сапраўдным прызнаннем у любові да сваёй Радзімы з’яўляецца верш “Беларусь”, напісаны ў 1975 г. У іншым безназоўным вершы, які пачынаецца словамі “А дні ляцяць...”, зноў гучыць яго шчырае прызнанне: “*...Люблю цябе, мой край буслiны, / гатоў забыцца ў верасах, / і песні пець табе няспынна / нібы каханай ў першы раз*”[20]. Любоў да роднага краю і захапленне Г. Асвяцінскім краязнаўствам можна заўважыць у вершы “На Браслаўшчыне”, які пачынаецца радкамі – “*Ганарышся, што ты беларус?.. – / Ты ж яшчэ не хадзіў па Браслаўшчыне! / Наматай сабе гэта на вус – / ты ж не ведаеш бацькаўшчыны*”[21]. У безназоўным вершы, датаваным 1991 годам, калі Беларусь канчаткова становіцца на шлях незалежнага існавання, Г. Асвяцінскі занатаваў, што “*Радзіма – Беларусь, / як бярозка, рвецца стромка / між магутных дрэваў увысь*”[22].

Як рамантычная асоба паўстае Г. Асвяцінскі і ў сваіх лістах, якія пісаў розным прадстаўнікам беларускай інтэлігенцыі. Аддаючы належнае памяці слаўнага творцы, упершыню публікуем некаторыя яго лісты да Сакрата Яновіча. У іх вельмі

цікава раскрываецца гісторыя жыцця Г. Асвяцінскага. У нефармальнай абстаноўцы ён дзеліцца з сябрам сваімі думкамі і ўспамінамі, якія немагчыма было б укласці ў афіцыйную аўтабіяграфію.

Лісты перадаюць гісторыю амаль цэлага XX стагоддзя праз прызму жыцця сям'і Геральда Асвяцінскага, яго дзядоў і бацькоў. У іх адлюстраваны і час панавання Расійскай імперыі, калі ягоныя дзед і бабуля, атрымаўшы вышэйшую адукацыю ў Віленскім універсітэце, добрую працу і маёмасць, мелі досыць забяспечанае жыццё, якое кардынальна перамянілася пасля прыходу да ўлады бальшавікоў. Сям'я яго маці (паходзіла з роду Філіповічаў), была высланая ў Варкуту, а дзядзька па бацькавай лініі – Марк Асвяцінскі – стаў начальнікам штаба Слуцкага паўстання[23]. У лёсе дзядоў і бацькоў Г. Асвяцінскага адлюстраваны пакуты міжваеннага часу – арышты, высылкі, спробы схавацца ад пераследу і рэпрэсіяў, галадамор і смерць старэйшай сястры Лілі ў дзіцячым узросце. Пазней аўтар успамінаў перадае цяжкасці ваеннага часу, калі яго сям'я была вымушана хавацца ўжо ад паліцыі, рызыкавала жыццём, мяняла месца жыхарства, каб не быць схопленай і, нарэшце, была вымушана сысці ў партызаны.

Не ў "ружовых акулярах" бачыць Г. Асвяцінскі і пасляваенны перыяд, калі ён здолеў атрымаць адукацыю і ўладкавацца на добрую працу, але ў той жа час яго спробы творчай літаратурнай дзейнасці былі спынены праз адмову друкаваць яго творы за "пацыфізм", які пабачыла пільнае кіраўніцтва[24]. Асвяцінскі і сапраўды, як кожны думаючы чалавек, выступаў супраць вайны і нагнятання адпаведнай атмасферы ў грамадстве, што ў часы "халоднай вайны" было непрымальна для савецкай ідэалогіі.

Раскрываюцца ў лістах і некаторыя матывы творчай дзейнасці Г. Асвяцінскага, яго сувязі з беларусамі замежжа і асабістыя ўражанні ад падзеяў грамадскага жыцця.

Лісты Г. Асвяцінскага да С. Яновіча падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці, што дазваляе прасачыць пэўную эвалюцыю іх узаемаадносінаў і тэмаў, якія падымаліся аўтарам.

"*Паважаны спадар Яновіч Сакрат!*

*Просіць Вас зрабіць паслугу дырэктар Беларускага тэатра "Лялька" Геральд Асвяцінскі (псеўданім Расціслаў Асвяціч).*

*Паслуга ў тым, што я хацеў бы надрукаваць свае высновы ў год дыялогу нацый (2001 г.) у нашых беларускіх выданнях у Беластоку "Часопіс", "Ніва". Вы прачытаеце артыкул*[25].

*Але чаму я Вас аб гэтым прашу? Мне хацелася б, каб артыкул на французскай мове трапіў на старонкі французскіх выданняў у Канадзе (Квебек), Францыі, Бельгіі. Канешне, гэта толькі жаданне. Я сам, відаць, выязджаю за мяжу ў апошні раз. Можа вы мяне і ведаеце. Я 30 год працаваў дырэктарам Беларускага тэатра Якуба Коласа. Часова працаваў у Гродна. Мяне добра ведае Ніл Гілевіч (і іншыя нашыя хлопцы).*

*Здароўя Вам, шчасця, доўгіх год жыцця!*

***10.06.2001*** [Подпіс Асвяцінскага] ... *(Ніякіх ганарараў мне не трэба)*"[26].

"*Паважаны Сакрат!*

*Атрымаў Ваш падарунак Annus Albaruthenicus 2001. Цудоўна! Своечасова! Злабадзённа! Інтэлігентна! Чытабельна і г.д. Але самы лепшы падарунак для мяне – гэта Вашы намеры выкарыстаць мой артыкул-эсэ. Гэта, дасць Бог, будзе лепшым падарункам да майго юбілею. (У студзені 2002 г.)*

*І засяду я канчаткова таксама на сваёй "віле" – лёце пад Віцебскам, і буду ўпарадкоўваць свае літаратурныя і навуковыя справы. (У мяне працоўная дамова*

*да канца лютага 2002 г.) Бо да гэтага часу ўсе мае высілкі былі накіраваны на беларускія тэатры: дарослы, дзіцячы ... 40 год.*

*А колькі было спраў у іншых накірунках ... Настаў час падводзіць рахункі на паперы.*

*А колькі было сяброў... Напомню толькі некаторых, відаць, таксама Вам вядомых, знаёмых – Генадзь Цітовіч, Алесь Шыдлоўскі, Лявон Баразна, Адам Чопчыц, Валынчык... Гэта можа быць доўгай размовай.*

*У бліжэйшы час, падумаўшы, што-небудзь прышлю. Яшчэ раз дзякуй за ўвагу.*

*Здароўя Вам, поспехаў у Вашай вельмі патрэбнай справе.*

*З павагай, Геральд Асвяцінскі.*

***26.06.2001**, г. Віцебск*"[27].

"*Паважаны спадар Сакрат Яновіч!*

*Хоць трохі са спазненнем, але хачу павіншаваць Вас з Днём нараджэння! 65 – гэта ўжо прыстойна. Дай Бог Вам яшчэ многіх год жыцця на карысць беларушчыны! Здароўя Вам, шчасця. Я ж трохі старэйшы. У студзені 2002 будзе 70. (Кажуць, выглядаю маладзейшым).*

*Калі я атрымаў цудоўны відок Вілы Сакрата ў Крынках, то па-добраму пазайздросціў. Хаця ў кожнага свае праблемы. Але справа ў тым, што ўсё сваё жыццё я хацеў недзе схавацца на хутары ў нашым лясным зацішку – падалей ад "сацыялістычнага раю". На поўны сур'ёз!*

*Але як гэта было зрабіць?! Мой дзед па маці-наследніцы быў надта багаты і адукаваны чалавек з роду Філіповічаў і Пількевічаў на нашай нацыянальнай Случчыне. (Меў 200 дзесяцін зямлі, маёнтак "Чырвоная старонка". У час вайны была поўнасцю спалена разам з жыхарамі). Шчэ раней Філіповічы былі высланы ў Варкуту. Нікога не засталося. А наконт Асвяцінскіх таксама складана. Дзядзька Марк Асвяцінскі быў нач. штаба Слуцкага паўстання. Хто б што мне дазволіў? Канешне, то былі толькі мары пра хутар... я і зараз... Адзіныя ўспаміны пра дзяцінства... У 11-12 год быў "сынам партызанскага вайсковага атрада". Якраз у лясах каля Чырвонай Старонкі. Пра гэты час ёсць у мяне аповесць "Дзеці з таямнічага хутара Рудня" – як у дужках пазначыў – "Дзіцячая аповесць для дарослых". Друкаваць не дазволілі – "Пацыфісцкі твор!" – Не ў рэчышчы палітыкі (1983 год). Уціснуў толькі адну навелу – "Ваўчаняты". Як-небудзь прышлю пачытаць. (<u>А зараз трэба плаціць</u>). Наогул у мяне многа паэзіі, драматычных спроб... Але не мог я пісаць пра <u>маўзалей</u>... Таму друкаваўся вельмі мала. Пад псеўданімам Расціслаў Асьвяціч.*

*Затое ўсё жыццё прысвяціў беларускаму нацыянальнаму тэатру – даросламу і для дзяцей. Нацыянальным праблемам.*

*Яшчэ раз добрага Вам здароўя, доўгіх год жыцця!*

*Прывітанне знаёмым.*

*Віцебск, **27 верасня 2001 г.** (чакаю артыкула)* [Подпіс Асвяцінскага]"[28]

"*Паважаны Сакраце!*

*Рашыў напісаць табе вялікі ліст. Усе гэтыя афіцыйныя звесткі...*

*Карацей. Я беларус. Нарадзіўся 23 студзеня 1932 г. ў пасёлку Ялізава Магілёўскай вобласці (Жыць на сваёй Случчыне не маглі).*

*Дзяцінства маё было складаным. І перш за ўсё, што было складаным жыццё маіх бацькоў.*

*Мой бацька Асвяцінскі Баляслаў быў з вядомых у Слуцку майстроў. Ён быў адмысловым кавалём, слесарам і г.д. Але ўсе праблемы ў савецкія часы былі з-за маёй маці – Філіповіч Марыі. Яна паходзіла з вядомых беларускіх шляхціцаў – Пількевічаў і Філіповічаў. Бацька яе, мой дзед, Філіповіч Адам, закончыў Віленскі*

*універсітэт, юрыдычны факультэт. Бабуля мая Пількевіч Марыя таксама вучылася ў Віленскім універсітэце. Калі яны ўзялі шлюб, то мой дзед Адам Філіповіч стаў упраўляючым і суўладальнікам шклозавода ў Гутніцкім у Слуцкім павеце (Асноўнымі гаспадарамі былі гаспадары з Вільні, – Розенфельды, лёсу іх я не ведаю).*

*Дзед мой Адам Філіповіч меў таксама ва ўласнасці шмат зямлі, сасновага бору. Двух сыноў вучыў у Санкт-Пецярбурзе ў лясной акадэміі. Бабуля займалася хатнімі справамі (хаця была прыслуга). Мелі пяцёра дзяцей... Канешне, усё гэта ў дваццатыя гады дваццатага стагоддзя рассыпалася. Пры арышце дзеда (і яго сям'і) ён практычна памёр на сваіх прыступках (інфаркт). Сыны як бы схаваліся ў С. Пецярбурзе. Бабулю і старэйшую дачку (маю цётку Розу) адправілі на лесапавал у Карэлію. А вось мая маці Марыя збегла (знікла) са сваім любімым хлопцам Асвяцінскім Болекам, уцёкшы на Украіну. Прытым захапіўшы малодшую сястру Калю* [Кацю? – *Ю.Б.*]. *Збеглі ў Днепрапятроўск. Там нарадзілася дачка Ліля, але захварэла (запал. лёгкіх). Ды пачаўся на Украіне вядомы галададмор*[29]. *Ліля памерла.*

*Бацькі рызыкнулі вярнуцца на Радзіму. "Схаваліся" на шклозаводзе ў Ялізава. Але пачаліся таксама праблемы. Ды і я нарадзіўся. Перабраліся ў Бабруйск. Усё ішло быццам бы ціха, але нехта напісаў на маці ананімку ў райана. Гэта быў пачатак 1936 году... За адзін дзень маці і бацька (разам са мной) зноў зніклі на Украіну. Ужо ў самы вялікі горад – Кіеў. Нікога ні аб чым не папярэджваючы і не перапісваючыся. Але і там доўга не пажылі, бо пачалася вайна. Бацьку арыштавала мясцовая паліцыя – быў майстрам! (Ганяў)... Удалося адкупіцца і з вялікімі цяжкасцямі (Нават на платформах ўперадзе цягнікоў з каменнямі. Калі партызаны ўзарвуць цягнік, то мы першыя будзем "лётаць" у паветры). Дабраліся ў 1942 годзе на Радзіму ў Слуцк. Але і тут "наехала" паліцыя!... І вясной 1943 года ўсёй сям'ёй удалося збегчы ў партызаны (атрад імя М. Астроўскага). Я, 11 гадовы хлапчук, таксама быў у вайсковым атрадзе (з бацькам). Маім абавязкам было пасвіць двух коней разведчыкаў і адну карову для параненых і хворых партызанаў...*

*Пасля вызвалення Беларусі бацька пайшоў на фронт. Вярнуўся хворым (кантузія). Я вучыўся. Пасля дзесяцігодкі паступіў у Мінску ва універсітэт, на юрыдычны факультэт (па дзеду). Пасля заканчэння універсітэта працаваў некаторы час у Глыбокім, у Маладзечна. Потым у Гродзенскай вобласці. У многім з-за таго, што я знайшоў сваю жонку Станкевіч Ірыну на Гродзеншчыне (Вёска Макуці, каля Юрацішак). На Гродзеншчыне кіраваў культурай. Адначасова вучыўся ў Маскоўскім тэатральным інстытуце (вядомым Гіцісе), завочна.*

*У 1965 годзе быў накіраваны дырэктарам Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (г. Віцебск). Мне падалося, што гэта "маё". Адпрацаваў дырэктарам тэатра 28 гадоў. Стварыў Беларускі тэатр "Лялька". І там пабыў дырэктарам 7 год. Зараз вярнуўся да сваіх сяброў у тэатр імя Я. Коласа. Нешта ўдалося, нешта не ўдалося...*

*Але ўвесь час нешта пісаў. Некаторым падабалася. Начальству не. Нават абвінавачвалі ў пацыфізме. Гэта цяпер быццам не мае значэння, але тады... Асабліва маю аповесць "Дзеці з таямнічага хутара Рудня". Пісалася яна быццам для дзяцей, але выходзіла для дарослых... А я яшчэ ўзяў ды пад загалоўкам напісаў: (Дзіцячая аповесць для дарослых). Адну навелу надрукавалі – "Ваўчаняты" (яна "выпадала").*

*Вось я і рашыў некаторыя рэчы паслаць табе. (Няхай будуць у цябе... Надзейней).*

*Дарэчы, вершы, якія пасылаю (напісаныя ад рукі) – гэта была спроба даказаць некаторым, што і ў беларусаў могуць быць "цудоўныя" рамансы (Патрэбны кампазітары). Зараз жа лічыцца, што самымі лепшымі рамансамі былі і будуць у Свеце – "Рускі раманс"... Дарэчы, наштурхнуў мяне пісаць рамансы, песні Уладзімір Караткевіч – мой родзіч. Наша сваяцтва ён мне даказаў. Маці яго бацькі Караткевіча Сымона была Асвяцінская. (Караткевіч Валодзя ездзіў у Слуцк, найшоў карані і г.д.). Можа, (ды так яно і ёсць), менавіта наш тэатр паставіў*

*(адзіны ў Беларусі) "Кастуся Каліноўскага" і "Званы Віцебска" Ул. Караткевіча. Але гэта асобная гаворка.*

*Нейкія яшчэ рэчы пасылаю.*

*+ Два фотаздымкі. + трэці прымацаваны да аднаго верша. (Замнога пішу). Да пабачэння.*

*Прывітанне жонцы.*

[Подпіс Асвяцінскага]

*P.S. Пасылаю яшчэ карту Віцебска. Там ва Уланавічах, адзначана птушкай (V), мая дача (лёта). З бярвенняў, вялікія вокны, камін. (Калі прыязджаў да мяне Сяргей Карніловіч з Амэрыкі, то прасіўся штогод прыязджаць на маю дачу адпачываць, бо на дачы ціха... ціха...) (Вось і ўсё. Аказваецца, на Свеце ўсё "ціха" заканчваецца.)*

[Подпіс Асвяцінскага]"[30]

*"Паважаныя Надзея і Сакрат!*

*Вельмі ўдзячны за фотаздымак. На жаль, такога ў мяне няма. Высылаю сваю фотакартку. Гэта я тэрмінова здымаўся ў гэтым годзе, каб прайсці тэхагляд сваёй легкавушкі (У нас патрэбна медыцынская даведка з фотаздымкам).*

*Да іншых спраў.*

*Я зараз ужо не дырэктар лялечнага тэатра, а намеснік* [дырэктара? – Ю.Б.] *дарослага драматычнага беларускага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Хлопцы мяне загітавалі вярнуцца ў свой родны Нацыянальны беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, дзе я адпрацаваў ажно 39 гадоў. (Казалі, што трэба дапрацаваць хаця б да круглай лічбы). Канешне, гэта жарт, але я сапраўды з задавальненнем вярнуўся ў свой любімы тэатр, дзе я многа-многа чаго зрабіў. Вось буду разам адзначаць 75-годдзе заснавання тэатра імя Якуба Коласа. (Дарэчы, на адкрыцці гэтага тэатра прысутнічалі ў 26-м годзе Янка Купала, Якуб Колас, Ян Райніс і многа іншых цікавых асоб).*

*21 лістапада 2001 г. (вось ужо зараз) будзем святкаваць 75-годдзе заснавання тэатра. З гэтай нагоды запрашаем Вас на гэтае свята. На жаль, нам дазволілі па аднаму чалавеку з бліжэйшых краінаў (<u>НАТА</u>?). Мае паплечнікі па працы – дырэктар Шацько Рыгор (з Ракава родам) і мастацкі кіраўнік (галоўны рэжысёр) Віталь Баркоўскі зацікавіліся вашай п'есай пра Тарашкевіча. Прыязджайце, будзе размова. Гатэль, харчаванне за кошт тэатра (акрамя праезду). З Брэста і Гародні ідуць цягнікі на Віцебск. Лепш з Гародні. Заезд пажаданы 20-га лістапада г.г.* [Подпіс Асвяцінскага].

*Прывітанне ад маёй жонкі. (У дзявоцтве Станкевіч Ірыны з в. Макуці, што каля Юрацішкаў, паміж Трабаў і Іўя).*

*З самай шчырай павагай.*

*Геральд Асьвяцінскі.*

***01.11.2001*** [Подпіс Асвяцінскага]

*Дарэчы Вам можна пазваніць у Гародню ў драматычны тэатр. Яны таксама запрошаны ў Віцебск... Магчыма, разам прыехалі б.* [Подпіс Асвяцінскага]"

*"Паважаны Сакрат!*

*Вельмі ж мне захацелася напісаць некалькі слоў. У нас зараз кожны Новы год пачынаецца складана, у тым ліку і ў тэатры...*

*Безумоўна мяне цікавіць, як з выпускам "Annus..."? (Канешне, хацелася б атрымаць студзеньскі нумар).*

*П'еса пра Тарашкевіча, а дакладней, безумоўна, пра нашу беларускую бяду тых часоў, ды і не толькі тых... Ваша п'еса, асобна надрукаваная, і ў часопісе, ляжыць на пісьмовым стале ў мастацкага кіраўніка, рэжысёра Віталія Баркоўскага. <u>Усё вырашаецца станоўча</u>. Патрэбен нейкі час. Многа незавершаных прац. Такія, як*

*“Стрэл у тумане” Васіля Быкава, “Дзівосы пагарды” Лопэ дэ Вэга, “Тарас на Парнасе”, “Сон на кургане” паводле Янкі Купалы, “Бацька” А. Стрынберга... і іншыя.*

*У недалёкім часе “Арышт” Сакрата Яновіча можа размеркавацца як паралель да іншых спектакляў. (У нас вялікая трупа).*

*Тым часам захацелася даслаць Вам яшчэ адну сваю працу. Я нейк пра яе пісаў... Гэта “Абарончыя сістэмы старажытнай Полаччыны”.*

*Менавіта дзякуючы гэтай працы мяне выклікалі на цэлы месяц у ЗША ў 1990 годзе. У асноўным быў у Клійлендзе на з’ездзе беларусаў Свету, але пабываў і ў Нью-Йорку, і ў Нью-Джэрсі, Дэтройце... (гэта ўсё зрабіў светлай памяці Сяргей Карніловіч).*

*(Між тым мая праца “Абарончыя сістэмы старажытнай Полаччыны” ляжыць без зруху ў Нью-Йоркскім Беларускім інстытуце навукі і мастацтва.)*

*Мне захацелася ў мінулым годзе надрукаваць яе ў “Віцебскім сшытку”. (Прыстойны беларускі часопіс). Выдаецца цалкам на нашым энтузіязме. Але гэта нам у 2001 годзе зрабіць не ўдалося... Тады мае сябры таемна ад мяне зрабілі мне да майго юбілею падарунак – надрукавалі гэтую працу асобнай кніжачкай. Невялікі тыраж, але ўсё ж прыемна... Я Вам гэтую працу дасылаю. Дасылаю таксама адзін з нумароў “Віцебскага сшытка”, другі нумар. Думаю, зацікавіць таксама. У гэтым нумары многа ўвагі аддана ўніяцтву ў Беларусі. Ды і не выпадкова. На Віцебшчыне яшчэ 100 гадоў таму амаль 95% насельніцтва былі ўніятамі. Гэта не жартачкі, калі ўлічыць, што ўніяцтва існавала тут каля 200 год. Хаця людзі на вёсках амаль не памятаюць гэтага... Калі Вы будзеце чытаць “Абарончыя сістэмы...”, звярніце ўвагу на назву вёскі Хабаты (азначае як месцы жыхарства герояў). Менавіта тут я ўпершыню сур’ёзна звярнуў увагу на адну акалічнасць. Усе жыхары ходзяць у праваслаўную (расейскую) царкву. Служба вядзецца на расейскай мове... А на могілках скрозь (у тым ліку на свежых пахаваннях) стаяць крыжы каталіцкія (без перакладзіны ўнізе)? Людзі паціскаюць плячыма: “Так у нас здаўна”. Як здаўна, пытаюся? Паціскаюць плячыма – “здаўна”. Ніхто не памятае...*

*Так можна і забыць, да якога народа ты належыш, як забылі на Смаленшчыне. Тым больш, што ў праваслаўных храмах практычна паўсюдна службы вядуцца на расейскай мове. (Хаця ва ўсіх касцёлах ва ўсходняй Беларусі ксяндзы службу правяць па-беларуску).*

*Звярніце ўвагу ў “Сшытку” на адбудову Ўваскрэснай Рынкавай царквы ў цэнтры Віцебска каля старадаўняй Ратушы. Мы доўга вялі барацьбу за ўзнаўленне гэтай царквы. Але зараз абсалютна дакладна можна прагназаваць, што Рынкавую царкву зойме праваслаўная расейская царква, бо аб аўтакефальнай беларускай царкве і заікацца нельга. Прытым і Філарэт – экзарх Мінскі, Слуцкі і ўсея Беларусі аб іншым і думаць не будзе. Экзарх – гэта намеснік Расейскага патрыярха, а Маскоўскі, расейскі патрыярхат знаходзіцца ў падпарадкаванні свецкіх уладаў.*

*Вось такія справы...*

*Прывітанне жонцы.*

*Здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя Вам... і ўдачы!*

*Ваш Геральд Асьвяцінскі.*

***4.02.2002*** [Подпіс Асвяцінскага]*”*[31]

“*Шаноўны Сакрат!*

*Атрымаў другую кніжку “Annus...”*[32] *і хуценька пабег прэзентаваць генеральнаму консулу латышскага консульства ў Віцебску спадарыне Inese Kina. Я ўжо хацеў свой аддаць, а тут Вы даслалі. Вялікае дзякуй! З-за гэтага пастараюся даслаць усе нумары “Віцебскага сшытка”. Іх выйшла пакуль толькі 4 нумары. У пятым, дарэчы, і павінна была быць надрукавана мая “Абарончыя сістэмы старажытнай*

*Полаччыны". Але яе... У нас ёсць зноў "ЛІТ" у аблвыканкаме. Jak kazali -zenzer-... Таму надрукавалі асобнай брашуркай. Дзякуй за гэта.*

*Чаму я панёс "Annus..." латышам? Я глыбока перакананы, што менавіта латышы нашы спрадвечныя сябры, таму што яны напалоў з тых старажытных абарончых сістэм на Дзвіне – Даўгаве (даўгава – па-латышскі гучыць як доўгая рака). Латышы ў мінулым ледзь не загубілі сваю мову, дзяржаву. Жартачкі – 500 гадоў панавалі немцы. Практычна ўсе размаўлялі па-нямецку. І вось узніклі зноў і як прыгожа. Вось чаму немцы не любяць латышоў – "усё ж захавалі сябе і праз 500 гадоў..."*

*Усё гэта нас збліжае. Нездарма ў Латвіі столькі многа жыве беларусаў. (Дарэчы маці Яна Райніса пахавана на могілках у Віцебску). Наш тэатр быў адчынены ў 1926 годзе. На адкрыцці як сапраўдныя сябры беларушчыны прысутнічалі і выступалі Янка Купала і Ян Райніс... Ніколі так ніхто не сябраваў з намі – беларусамі, як латышы. Гэтак жа зараз паводзіць сябе ў нас і латышскае консульства. На жаль, тры нашыя славянскія суседкі заўсёды хацелі нас асіміліраваць, далучыць, раз'яднаць. Да іх нейкім чынам далучыліся і жамойты. Але кожнаму чалавеку, кожнаму народу, я перакананы, трэба мець хоць аднаго сябра. Калі будзе магчымасць, спытайце ў Зянона, што я яму даводзіў (нават пісьмова) даўно і, мне здаецца, яшчэ своечасова аб латышах і беларусах. Але ўсё гэта зараз "лірыка", хаця можа мець добры працяг... Я бясконца даказваю і сваім беларусам і латышам, што дабаўка да нашага народа – "бедны беларус" – не азначае ў прамым сэнсе – матэрыяльнай беднасці. Гэта адносіцца да нас у якасці беднага народа (пакуль) сваім лёсам. Бо калі ідзе размова аб матэрыяльным значэнні гэтага выслоўя, то гэта памылка, можа, знарок ужываемая расейцамі, каб прынізіць нас. Аб якой беднасці можа ісці гаворка? – Аб матэрыяльнай? Або аб лёсе народа?.. Я сцвярджаю – перш за ўсё – аб лёсе народа.*

*Вы не горш мяне ведаеце, што:*

*У Беларусі на 10 мільёнаў столькі тэрыторыі, як у Польшчы на 30 мільёнаў (2/3). – Нас проста тут вынішчалі, або самі разбягаліся і сталі галандцамі, бельгійцамі... амерыканцамі... .*

*Але, кажуць, "не было шчасця, дык няшчасце дапамагло". Сапраўды, на 10 мільёнаў што ў нас ёсць? 4 000 000 (4 мільёны) тон штогод сваёй нафты на Палессі.*

*Радовішча высокаякаснай жалезнай руды на Стаўбцоўшчыне).*

*Сусветныя радовішчы калійных соляў (кожны год 500 мільёнаў даляраў чыстага прыбытку).*

*4 прадпрыемствы сусветнага ўзроўню хімічнай прамысловасці (Мы нават баямося іх). Гэта Наваполацкі нафтаперапрацоўчы гігант. Магілёўскі хімічны камбінат. Мазырскі камбінат (Светлагорск). Сучаснейшы азотна-тукавы завод у Гародні.*

*Радовішча каменнага вугалю пад Шчучынам, сусветныя запасы торфу. Знойдзены агромністыя радовішчы бурага вугалю, звычайнай солі.*

*Ёсць (на Магілёўшчыне) радовішча золата.*

*Ёсць (на Берасцейшчыне) радовішча бурштыну.*

*Адзіная краіна з высокай вытворчасцю ільну і Аршанскім ільнокамбінатам.*

*Развітая жывёлагадоўля.*

*Лясная гаспадарка, – адзіная ў Еўропе, якая носіць характар таварнай вытворчасці (колькі выразаецца, столькі нарастае за год).*

*Сусветнага кшталту металургічны завод у Мазыры. (Усю прадукцыю купляе Амерыка).*

*Сучаснае машынабудаванне (трактары, Белазы, МАЗ-МАН...)*

*Сучасная электроніка (у тым ліку радыё-тэлевізійная).*

*Станкабудаванне.*

*Лёгкая прамысловасць. (Абутковая Гродна, "Белвест" – Віцеб[ск]; Мінск і г.д.)*

*Цэментная вытворчасць (адна Рось што азначае, а ёсць такіх яшчэ).*
*10.000 азёр і 20.000 рэк вялікіх і малых.*
*А шляхі зносін Усход і Захад (сучасныя!)?*
*Нам сорамна жыць дрэнна!!!*
*(Гэта ўсё на 10.000.000 чалавек?)*

*Зараз Беларусі ніхто не дае крэдытаў. Дрэнна. Але было б яшчэ горш (як на Украіне), калі б далі крэдыты, а іх бы расцягнулі (скралі б). Пакінулі б нашчадкам даўгі?*

*Дрэнна, але неяк выкручваемся. Не галадаем, даволі прыгожа апранаемся (хто як можа). Малавата плацяць, але беспрацоўных не шмат. Калі б усё было б пазакону і на добры лад, мы былі б самымі заможнымі, прыстойнымі людзьмі.*

*Але каб ды калі...*

*Адзінае зараз – трэба хутчэй станавіцца нармальнай прававой дзяржавай! Але як?*

*...Вельмі, вельмі добра, што ў беларусаў ёсць такі часопіс як "Annus..."*

*Мы ўпусцілі адзін шанс, то не трэба прапусціць і другі... Ён можа быць, хаця Вялікія Заходнія краіны, можа быць, і патураюць Расіі...*

*Прабач, Сакрат. Напісаў экспромтам і перарабляць не буду. (Зянон не ўлічыў, што палітыка паскудная справа. Трэба хітрыць, хітрыць... і шчыра!)*

*Цяпер пра "Арышт"*[33]*. Нам хочацца, каб "інтэлігентны" польскі следчы захацеў здзівіць Тарашкевіча, паказаўшы яму, "які вялікі Польскі народ!" – адносна да беларусаў. Якія прозвішчы ён бы назваў? (Уключаючы XIX стагоддзе) Дапусцім, пачынаючы з Каперніка... (Дайце, калі ласка) свой варыянт, спіс...*

*Тарашкевіч яму адкажа, і як! Пачынаючы з Міколы Гусоўскага (Песні пра зубра). А, можа, пачнем з Усяслава Чарадзея і Еўфрасінні Полацкай, самай адукаванай жанчыны XII стагоддзя. Па-сутнасці першай такой жанчыны ў свеце, святой...*

*На кожнае польскае прозвішча – дадзім два беларускія і якія! Гэта прытым, што ў нас у чатыры разы менш насельніцтва.*

*Ёсць надзея, што рэжысёр, мастацкі кіраўнік тэатра Віталь Баркоўскі зробіць цікава. Пастараецца. Яго спектаклі ўжо пабывалі 2 разы ў Англіі, у Італіі, іншых краінах. У гэтым годзе, у красавіку, паедзем у Францыю, у Парыж да Кардэна з спектаклем "Шагал... Шагал". У чэрвені-ліпені намячаецца паездка ў Бон. Ідуць размовы з Японіяй... Трэба пра сябе заяўляць. Усе спектаклі ідуць у нас толькі на беларускай мове (за мяжой з сінхронным перакладам па навушніках).*

*Усімі сіламі і сродкамі імкнемся даказаць, што мы своеасаблівая, цікавая нацыя – "Беларусь"... Мы ўпэўнены, што і Вы ўсё робіце дзеля гэтага, і пасяхова.*

*(Божачка, як нам не хапае здароўя, трохі яшчэ гадоў! Дапамажы нам, Божа...)*

*Дасылаю 1-шы нумар "Віцебскага сшытка". Знайду і астатнія (свае ж трохі шкада астатнія адпраўляць. Спадарыня Хмяльніцкая – рэдактар мне ў гэтым дапамагае).*

*Усяго на паперы не выкажаш...*

*Вось паставім "Арышт", то нешта прыдумаем, каб паехаць у Польшчу. То будзе сустрэча! (Без чарак, канешне. Я не п'ю... амаль не п'ю). Шчыра паціскаю руку.*

*Прывітанне жонцы.*

***22.02.2002** Геральд* [Подпіс Асвяцінскага]"[34]

*"Дарагі Сакрат!*

*Дасылаю табе на гэты раз проста некалькі выразак з газеты "Народная воля" (Можа не атрымліваеце яе?). Трэці нумар "Сшытка"*[35] *ў бліжэйшы час дашлю. (Будзе і чацвёрты).*

*Самае прыемнае і спяшаюся аб гэтым сказаць. Я атрымаў "Зямлю св. Лукі" Алеся Чобата. Вялікі, вялікі дзякуй! Прачытаў у два прысесты. Першая частка –*

*цудоўная! Ды і астатнія вельмі цікавыя. Харошы хлапец (Я яго, прыпамінаю, бачыў яшчэ зусім малым. Яго бацька працаваў разам са мной, намеснікам па гаспадарчай частцы). Яны са Скідзеля, а я там бываў... не падлічыць колькі разоў. А вось прачытаўшы яго "скаргу", што рэдактар адной з апазіцыйных газет у Мінску аднойчы, прачытаўшы яго матэрыял, заявіў: "Гэта ўсё цікава, але для чытача ваша думка яшчэ не аргумент" – мяне аж скаланула. Мне ў мінулым годзе ў Мінску супрацоўнік адной з апазіцыйных газет сказаў наконт "Маніфеста"*[36]*, вымаўляючы трошкі іншае: "мы ж гэта ўсё ведаем..." Я ім адказваю: "Па-першае, – гэта ЮНЕСКА аб'явіла год дыялога паміж нацыямі, а, па-другое – я ж не нас з вамі збіраюся пераконваць амаль з дзяцінства перакананых і нешта даказваць! Пераконваць, агітаваць трэба большасць, значную большасць абыякавых беларусаў ды і не толькі беларусаў, якім усе гэтыя праблемы абыякавыя, у тым ліку і беларуская мова!.." Паціскаюць плячыма.*

*Вось мяне Алеська Чобат і прасвяціў: "а ім вельмі цёпла жывецца ў малой апазіцыі... А яшчэ, крый Божа, аб гэтым задумаецца гэты самы...?? І тады гэтая іх невялікая "цёплая" ды і "прыемная", ды і легітымная апазіцыя скончыцца, або неверагодна павялічыцца... і ты становішся шараговым?*

*Вось такія дрэнныя думкі і палезлі зараз у галаву...*

*Даў "Зямлю..." Алеся Чобата чытаць рэжысёру Віталю Баркоўскаму. У наш час ні адзін самы цудоўны артыст самастойна сам практычна (амаль) не зможа зрабіць завершаны мастацкі твор. А тут мастацкія тэатралізаваныя гістарычна-палітычныя, нацыянальныя маналогі. Над гэтым адбіраць, працаваць і працаваць...*

*Няхай чытае. Уважліва!*

*Дасылаю таксама наш рэпертуар для знаёмства (таксама дапаўненне да плана).*

*Выпуск "Арышта" магчымы толькі ў канцы 3-га квартала. Амаль нечакана наш тэатр выязджае ў Парыж з 12 па 23 красавіка г.г.* [2002 – Ю.Б.] *на фестываль "Дзён культуры Беларусі ў Кардэна" (Ён не толькі займаецца вопраткай). Вязём "Шагал... Шагал". Усё гэта адымае многа часу. Да таго ж і Германія запрасіла наш тэатр сёлета ў Бон з спектаклем "Мадам Боншанс" на 10-12 дзён. Гэта будзе ў чэрвені г.г. з 12 па 24. (Пакуль пускаюць...) Канешне, гэта адаб'ецца на тэрмінах выпуску спектакляў.*

*Хацеў закончыць гэты ліст, але хачу выказаць адну просьбу, ідэю, (ледзь не забыў).*

*Калі няма вялікай складанасці прашу перадаць маё прывітанне Міраславу Чэлушэцкаму*[37]*. Мы з ім даволі добра пазнаёміліся ў Кліўлендзе, ды і ў Мінску. Мая просьба да яго, ... хай бы дапамог мне разок – у выдавецтве маіх "Дзяцей" у Аппиse... (У памяць нашых сустрэч і майго сябра Сяргея Карніловіча. Ён таксама прайшоў "кругі ада" ў час вайны ў дзяцінстве).*

*Ну, вось і ўсё пакуль.*

*Прывітанне, паклон Тані.*

*Усяго добрага.* [Подпіс Асвяцінскага]"[38]

*"23.01.2005 г.*

*<u>Шаноўны Сакраце!</u>*

*Дзякуй табе за часопіс. Вельмі цікавы. Адразу ўчытаўся ў Анатоля Сыса...*

> "...і сталі дружна, шчыра, шчыльна,
> як па касьбе ці па сяўбе,
> паэт сказаў: п'ем за Айчыну!
> І кожны выпіў – за сябе..."

*Нічога пад рукой не было. Пасылаю адну газетку і свой "партрэт" на фоне нашага генія Уладзіміра Караткевіча. Мы ў сваім тэатры ўсе яго драматычныя творы паставілі. (Зараз здаём "Ладдзю Роспачы") – У тэатры "Лялька" ставілі*

*раней. Я быў аўтарам інсцэніроўкі. Ну, як я не мог гэта зрабіць, калі У. Караткевіч мой родзіч, хоць у трэцім "калене" (Яго маці была Асвяцінская)?*

*Дарэчы, у гэтым годзе наш Беларускі тэатр выязджае на гастролі ў ЗША, да амерыканцаў габрэяў і беларусаў, бо вязём спектакль "Шагал... Шагал" пра вядомага ў свеце мастака з Віцебска, беларускага габрэя, і, дарэчы, "От цо да..." Сакрата Яновіча. Можа, таксама пад'едзеш?! Гэта папярэдне. Плануецца на верасень 2005 г. Вось бы пад'ехаў на нашы гастролі!*

*Прывітанне жонцы, здароўя ўнукам, прывітанне знаёмым.*

[Подпіс Г. Асвяцінскага]"[39].

Акрамя творчых дакументаў і перапіскі захоўваюцца ў БДАМЛМ і некаторыя візуальныя матэрыялы, звязаныя з Г. Асвяцінскім. У прыватнасці – групавая фатаграфія на вечары памяці А.К. Ільінскага [1973 г.], на якой можна знайсці Г.Б. Асвяцінскага побач з М. Яроменкам і іншымі артыстамі тэатраў Я. Коласа і Я. Купалы[40]. Некалькі фатаграфій Г. Асвяцінскага, асабістых і з сям'ёй, захоўваюцца і ў фондзе С. Яновіча.

Будучы гісторыкам, а не літаратуразнаўцам, я пазбягаю даваць уласную ацэнку якасці літаратурных твораў Г. Асвяцінскага, але спадзяюся, што дадзены артыкул прыцягне да вывучэння яго спадчыны прафесійных літаратурных крытыкаў. У сваю чаргу, лічу змястоўнай і цікавай яго перапіску з Сакратам Яновічам. Думаю, не менш цікавым можа быць яго ліставанне і з іншымі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, пошукам якога варта яшчэ азадачыцца. Упэўнены, што асоба Геральда Асвяцінскага як прадстаўніка беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі савецкага і постсавецкага часу, яшчэ прыцягне да сябе як даследчыкаў культуры, так і гісторыі Беларусі.

**Спіс выкарыстаных крыніц і літаратуры**

1. БДАМЛМ. – Фонд 132. – Воп. 1. – Адз. зах. 22.
2. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 85.
3. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 86.
4. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 87.
5. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 109.
6. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 135.
7. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 260.
8. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 261.
9. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 262.
10. БДАМЛМ. – Фонд 294. – Воп. 2. – Адз. зах. 263.
11. БДАМЛМ. – Фонд 433. – Воп. 1. – Адз. зах. 98.
12. БДАМЛМ. – Фонд 450. – Воп. 1. – Адз. зах. 340.
13. Дашкевіч, С. Непапраўны рамантык / С. Дашкевіч // Культура. – 2002. – 9-15 лютага. – №5. – С. 10.
14. Тамковіч, А. Валеры Мазынскі: Сонца ў любое надвор'е / А. Тамковіч // Новы час. – 2012. – 2 сакавіка. – №9 (281). – С. 14–15.
15. Asviatsinski, H. Instead of Manifesto / H. Asviatsinski // Annus Albaruthenicus / Рэд. С. Яновіч. – Крынкі, 2002. – С. 7–11.

---

[1] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 31.

[2] Asviatsinski, H. Instead of Manifesto / H. Asviatsinski // Annus Albaruthenicus / Рэд. С. Яновіч. – Крынкі, 2002. – С. 7–11.

[3] БДАМЛМ. Ф. 132. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 1-20.

[4] Тамковіч, А. Валеры Мазынскі: Сонца ў любое надвор'е / А. Тамковіч // Новы час. – 2012. – 2 сакавіка. – №9(281). – С. 15.

[5] БДАМЛМ. Ф. 450. Воп. 1. Спр. 340. Арк. 10-11.
[6] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 109. Арк. 4-6.; Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 9.
[7] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 86. Арк. 12адв.
[8] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 263. Арк. 13-22.
[9] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 86. Арк. 108.
[10] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 260. Арк. 1-47.
[11] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 261. Арк. 1-50.; БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 2, 29.
[12] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 31.
[13] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 6.
[14] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 39, 169, 183.
[15] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 16, 170, 171.
[16] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 86. Арк. 12.
[17] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 112.
[18] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 103-103адв.
[19] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 85.
[20] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 15.
[21] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 94.
[22] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 262. Арк. 10.
[23] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 86. Арк. 12.
[24] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 30.
[25] Маецца на ўвазе тэкст артыкула “Замест маніфеста”. – *Ю.Б.*
[26] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 85. Арк. 76-76адв.
[27] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 85. Арк. 83-83адв.
[28] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 86. Арк. 12-12адв.
[29] Маецца на ўвазе галадамор на Украіне ў 1932-1933 гг., які быў справакаваны палітыкай бальшавікоў і прывёў да мільёнаў ахвяраў ад галоднай смерці.
[30] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 27-30.
[31] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 9-10адв.
[32] Маецца на ўвазе часопіс “Annus Albaruthenicus” (“Год Беларускі”), які выдаваўся з 2000 года С. Яновічам у Польшчы, па выніках арганізаваных ім трыялогаў у Крынках. “Сакратаўскія” трыялогі – гэта навуковыя сустрэчы і дыскусіі навукоўцаў з розных краін, якія цікавяцца беларусістыкай. У часопісе тэксты беларускіх аўтараў выдаваліся ў перакладзе на замежныя мовы, а замежных аўтараў – у перакладзе на беларускую.
[33] П’еса пра Браніслава Тарашкевіча, напісаная С. Яновічам і пастаўленая Віцебскім драматычным тэатрам імя Я. Коласа пад назвай “От цо да”.
[34] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 86. Арк. 108-121.
[35] Маецца на ўвазе часопіс “Віцебскі сшытак”.
[36] Маецца на ўвазе артыкул Г. Асвяцінскага, які быў надрукаваны С. Яновічам пад назвай “Instead of manifesto” ў часопісе “Annus Albaruthenicus” (2002).
[37] Міраслаў Целушэцкі – польска-беларускі бізнэсмен, мецэнат.
[38] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 87. Арк. 18-19 адв.
[39] БДАМЛМ. Ф. 294. Воп. 2. Спр. 135. Арк. 39-39 адв.
[40] БДАМЛМ. Ф. 433. Воп. 1. Спр. 98. Арк. 1.

Генадзь Лапацін



...красівы чылавек ідзець,
дак ён і неўмываты красівы...

# Паслядоўніца

***Алена Грэцкая ў расповедах Варвары Грэцкай***

*Заканчэнне.*

*Пачатак у №№3-5 (118-120).*

***«Еслі такую работу дзелаіш, толькі пра яе і думай...»***

* * *

Гаворяць: «Ня ўмею, ня знаю». Усё матка наша казала і баба: «У няўмекі век рукі не баляць».

* * *

<Казлы ў вачах.> Усі так казалі калісь: «Што ў цябе?. Ня бачыш?» Вот што-нібудзь. Я калісь. У ніты матка накідала. Я гаварю: «Мам, дай-ка, я перябіраць буду. Навучуся». – «На... Ну, еслі блізну здзелаіш, не здабраваць табе». Ну, я ўзяла, блізну здзелала. Матка палядзела: «Што ў цябе ўжо казлы ў вачах? Ты палядзі!» Назад ужо тыя ніткі выцігівалі. Ужо нанава. Еслі такую работу дзелаіш, толькі пра яе і думай.

---

Асаблівасці гаворкі захоўваюцца.

* * *

<*Яшчэ вы казалі, што матка вам дала жызнь. А гэта як?*>

Матка дае. Навуча. Я табе так скажу. Дурнога хоць і навуча, то трохі. Матка ж умея і ткаць, і прясць, і вышываць. Яна ж і навуча. Наша матка раз пакажа. Калісь на машыні ўкрадні шыю ад маткі, як маткі німа дома. Яна ж прыдзя і бача ня так. «Ня так закрыла! Ета толькі твая работа!» – на мяне. А я хочу шыць на машыні. «Зінгер» машына ў нас была. Дак я хоць тряпку да буду страчыць. Пастрачу. Матка: «Ні так! Была катушка, поўкатушкі німа! Ета ты пакундрысіла!» Тады ж і нітак не за шта было купіць. Так я хацела. І вот пакажа мне раз, я ўжо запомню. Стаіць яно ў мяне ў вачах. Што ета так. Нада вот так дзелаць.

* * *

Ткач – абы скудлычыў, а ткачыха – тая каждаю клетачку пасчытая, пашчытая, сколькі раз чыўнаком... Кідая чаўнок туда і сюда... Яна пашчытая... У нашай маткі шпылька была, яна той шпылькай нітачкі пашчытая, і ўжо клетка нікуда не пойдзя, будзя роўнінькая... А хто на глаз дзелая... Казала Козырыха: «Ці яно відна? Хто-та будзя прыглядацца?» А ўсё-такі нада прыглядацца ў каждай рабоце, штоб правільна здзелаць... А еслі цяп-ляп...

* * *

Сядзелі, прялі лён, дак яна мне і гаворя, матка наша: «Сядзіця, а то будзіця хадзіць па балоньню, закрыўшы ладонью! Прядзіця!» Туся сядзя, сысолак павешая. Матка: «Бяры ты!» І мне самапряху. У бабы была свая, у маткі – свая, у мяне і ў Машы. Матка пашла работаць бугалцерам, дак Туся пряла. Мы прядом, да дзяржым нітку крэпка, дак ана сукараціцца. Матка: «Ужо парвала... Суколка ўжо вясіць! Во ўжо панавешывалі, нерабатні! Прядзіця! Ой, сучкі етыя, толькі б у «сучку» < класікі> гулялі, кала двара лета і зіму ў гулі б бегалі!» Мы: «Мам, мы на адну мінутку пабягіма!» Дак яна: «Будзіця хадзіць па балоньню, закрыўшы жопу ладонью!» – «Ня будзіма!» Яна: «Такіх сусолак панавешылі». А там вісіць. Я ціхінька вазьму скомкаю і ў грубку ўкіну. Яна агледзя і кажа: «Падбяры! Нада і мех, нада і дзярюга, і посьцілка, і дзярюжка, і ўсё!» Загадая. Я думаю: «Як я буду распутываць? Я ўжо пакачала ўсё».

* * *

Ці вот вышываць пачанеш, матка прыдзя палядзіць, скажа: «Тут ужо не разбяры бяры... Ужо наклычыла, што поп с папом не разбярэ...»

* * *

Во шыя сарочку другая. Калісь рукамы, іголкамы шылі. Прыдзіш, палядзіш. Яна *па аўсіні* сігая – ліш бы скарэй, туды-сюды. Еслі надзеніш, нажмеш, яно відна. Тапорная работа, яна сігая, яно відна. А другая шыла. Калісь наша матка пакажа, яна швейка была, і я шыла на машыні і плацці, і сарочкі. Дак яна прыдзя палядзець, гаворя: «Дай-ка руку!» Руку возьмя, як пачане чысціць: «Я цябе вучыла так!? Па аўсіні пасігала! Ты даўжна медлінічка, і ня то сігаць, штоб нітка відна, а штоб яна акуратненечка».

<*Па аўсіні.*>

Нада, ідзе можна тры-чатыры разы іголкай ўтыўнуць, яно тады плотненька і красівінька, а яна сігне, абы толькі прыляпіла. Пацягні, яно і відна. Дак гаворяць: «А па аўсіні пасігала!»

Казала баба: «Дзетачкі, нядзе па аўсіні ні сігайця». Авёс жа длінны. Мы гаворым: «Баба, а як?» – «Па прасіні». Проса ж малінькая, дробнінькая. Не па аўсіні, а па прасіні. Нада шыць па прасіні. Палож проса і палож авёс, які ён будзя

длінны, ужо ж разніца ё. Усі так гаварылі. Галлё калісь нашы во так пасеклі ні ўпеч, а калісь галлё такоя караціньва, набіраш і ў печ засаджываіш, дак я сваім казала: «Тапораная работа».

<*Вы сказалі: «Як маткі навучылі, так дзеўкі і шылі». А што нельга ад людзей было навучыцца?*>

Напрымер, мяне як матка шыла, мая матка дасцепная была, еслі матка сказала: «Вот так во». Я так ужо і дзелаю. Прыдзя другая: «Мая Анюта ўжо рушнік вышыла». Яна пасігала-пасігала. «На сцяне ніхто ня бача». А наша матка пряверя. Яна возьмя і пряверя, і гаворя: «Вот тут ты харашо здзелала, а тут ты ня так іздзелала. Перядзелай!» Мам: «Ня буду!» – «А я гавару: распары і перядзелай!» І я распару і перядзелаю, бачу, самой красіва. Я бачу, што красіва здзелана.

* * *

Кату хваста завязаць не ўмея... Ё такія людзі... Ну, вот сарочку пашыць альляную яны не сабражаяць, як ета пашыць... Залапіць... Лапік залапя так, што, як хто дзяржыць... Ужо элементарнага дзела яны здзелаць ня могуць... Ета ўжо ня людзі... Я ўжо шчытаю, што ета так... Звіхнутыя... А ё ж людзі такія... Во і нясе... К нам Вуллянка калісь прынясе: «Залапця вы мне...» Сарочка парвалася, там, ці кохта... Ці што... Матка бярэ на машыну... Мінута страху... Залапя: «На, надзявай...» Яна: «Спасіба табе, Полячка, я табе адблагадарю...» Матка: «Ня нада мне благадарнасць твая!..» Сама не ўмеіш, прынось ка мне... Мне на машыну во кругом абалваніла...» І платы ня брала...

<*Вас хто навучыў шыць?*>

Мне матка раз паказала, а ў другі кажа: «У другі раз паказываць ня буду, а ў другі раз мордай наварсаю...» І тады падойдзя, еслі будзіш: «Мам, хадзі-ка, пакажы!» Яна тады падойдзя, бярэ за шкіркі, за шкіркі ўзяла, падвяла і кажа: «Во табе! Во табе!» Наварсае мордай, штоб у другі раз не пытала... Тады я ўжо ў бабы пытаю: «Баб, раскажы мне... Мне ўжо баба пакажа...» Баба скажа: «Мая ўнучачка, во так во здзелай, во так во...» Матка: «Я буду вам па пяць раз паказваць... Мне німа ўрэмя чапацца, буду с вамы маскатуліцца...» Усяк будзя гаварыць. Мы ўжо панімалі, што матка... Ёй некалі было... У магазіні сама сабе атчот дзелала, пакуль усё парясчытыя... Наша матка была вумная... Ой! Вумная была...

<*І рукамі ўсё ўмела?*>

Машыну сама наладжывала... Спорціцца... Толькі спорцілася раз, насіла ў Свяцкую аднаму, там, дзелаць... Прынясла... Кажа: «Калі б жа я знала, я б не панісла, я ж бы і сама здзелала...» Ну, яна яму заплаціла за ета, і ўжо болей не насіла... Ужо спорціцца, яна сама дзелая... Матка, як я, была... Жадная... Еслі ёй што-нібудзь заплаціць чылавеку, яна сагласна неўма як сама здзелаць, штоб не плаціць... Ета нада аддаць із двара што-нібудзь... Такая была жадная на ўсё...

* * *

Калі во гаворяць. І галаву: «Во галаву кудлатаю не расчэшыш». Ета – адно. А ўтароя гаворяць: «Кудлычыш». Я ў маткі... Дак калі матка снуе. Я вазьму не туды палажу, баба прыдзя, яна ж бача: нітка тая. Баба: «Ой! Накудлычыш. Будзя табе ад маткі». Матка прыходзя і кажа: «Ідзі! Накудлычыла! Ідзі січас жа мне бяры і расплутывай! Я расплутываць ня буду! А еслі расплутаю, дак у міне вон – вісіць на сцяне!» На сцяне абора такая вісела. «Супакаіцель», – баба звала. Гаворя: «Дзеці, вон – супакаіцель вісіць на сцяне. Супакаіцель счас знімя. Дак яна вам дасць». Ну, дісцыпліну нада была дзяржаць над намы. Плойма, знаіш, разбалтываіцца.

* * *

Матка казала: «Варя і Маша – ета будуць путныя дзеўкі, а Туся – ета будзя лодырь ад камля». Ад камля – крэпкая. Яе ўжо хоць. Ужо еслі не возьмуцца за работу змалку, дак яны і вырастуць, ня будуць дзелаць.

* * *

Скоры паспех курам на смех... Скора. Неабдумана. Калі што-нібудзь ляпніш. Ці дзелаіш што-нібудзь абы як. Матка ўсё наша казала: «О-о-о! Скоры паспех – людзям на смех. Ты лучшэ здзелай медлінна, но харашэнька».

* * *

І матка на нас... Як плоха дзелаіш, дак яна: «У цябе ўжо чэмер у галаве! Ты ж бачыш, што ета – ні к тому берягу, ні к тому... Чэмер у галаве закруціў ці што?'» Ета – плахоя што-нібудзь здзелаіш, не па яе... «Дзелай так, штоб пазавідывалі людзі і пахвалілі цябе... А ня то што – цяп-ляп і пашоў. Мне ета ня нада!»

* * *

Вырас, а ўма не мае ў галаве. Усё баба калісь: «Павыраслі, а ўма ня вынязлі!» Матка на нас, што-нібудзь нітак здзелаім ці што: «Дурным хоць гавары. Павыряслі, а ўма не павынязлі!» А баба будзя казаць: «Полічка, не крычы ты на іх. Яны ішчэ ў вум войдуць. Чорны вол наступя на нагу, і ўсё будуць: і дзелаць, і знаць, як чорны вол на нагу наступя». Матка: «Ну, наступя! Дурным хоць і наступя, дак усё раўно будуць дурныя!» Матка наша нікалі не хваліла. Там у нас адна была: «Ой! Мае ж та дзеці!» А наша матка, усё ж дзелаім, як і нада: «Хваліць ніхай вас людзі пахваляць, я не я буду хваліць вас».

***«Смашнае не глядзелі…»***

* * *

Што наваря матка. Значыць, даўжны есць.

* * *

Во ў нас, у Галі дзеўка. «Карына ета ня есць!» Што яна нежа яе? Такая і будзя. Яна будзя сама сабе глядзець толькі. Калісь мы не глядзелі. Што наваря матка. Значыць, даўжны есць. Бульба, гуркі. Ета ў каждам дварэ былі.

* * *

Баба гаворя: «Гушча дзяцей не разганяя. А як на жыдкім. Вазьмі, пакрышы. Як у бальніцы боршч і суп. Скрылля ні паймаць. Дак вады тыя сербаніца. Што з вядра напійся, што таго супа...» Матка: «Баба нехарашо дзелая?. Мам, заўтры ляжы, <свякруха ж баба была>. Мама, заўтры штоб ні падымалась. Я пайду на работу, і ты ляжы, пакуль я прыду з работы, і паляджу, калі яны наваряць мне. І я скажу: «Во ета нісмашна, а ета смашна». Я паляджу...» Мы: «Баб, ты ўстаніш?. Будзіш варыць?..» – «Не кажыця матцы, скажыця: «Мы варылі». <...> Як жыдка зварыш, да накорміш. Вот дай табе тога супу. Што ты думаіш. Туды-сюды, зноў есць хочыш. А так будзіш есць хацець, німа лучшага. Зноў ваду тую пій...»Ні смашна! По міру ідзіця. Што вам дадуць, будзя смашна». Ва ўсіх казалі: «Гушча дзяцей ні разганяя». Як скажыш: «Густа зварылі».

* * *

Во мы будзім большыя, а Туся наша – меншыя на два гады. А мы сядзім, а ў Каці Коршунавай, тады ж ражалі адзін за адным. І ўсім хлеба хватала. Смашнае

не глядзелі, паснедаяць да абеда. У абеды, ета толькі, наш малы Ягорка: «Я ні хочу есць!» Баба: «Прыдзіш ты шчэ. Я табе тады ня дам есць». У нас баба пражыла хазяйкай, пакуль ужо: «Мая ўнучачка, я не магу ўжо зварыць». Яна хазяйка была. І матка наша: «Мам, вары, што хочыш». Яна: «Што, Полька, будзім варыць?» – «Што хочыш, то і вары. Што наварыш, то і паядзіма». Яна век не сказала, што вот тое ты ня так, тоя ты ня так. Будзім казаць: «Баба, кашу ўрозмазь варя». А мы любілі жыдзінькаю. Ці ячменную, ці пшонную, якую зваря, грэчкі недзе была ўзяць. Матка: «Жрыця, якую наварыла. Маліцесь Богу, што так наварыла баба. А ня хочыця – па суседзях... Сумкі на плечы і ідзіця ў міласціню. Скажыця: «Дайце нам кашы, якую мы хочым». Во як дзелалі. А ціперя-ка: «Ой, не хочу!» – «А што ты хочыш?..» І ціперяка дзеці, як дзеці, а бацькі да маткі губяць іх.

***«Матка наша не давала нам мінуты пагуляць…»***

* * *

Матка наша не давала нам мінуты пагуляць. «О, будзіця, цоўбы такія, хадзіць да сабак дражніць! На агарод... Ідзіця, на агародзе паліця...» Свіней дзяржалі, травой усё кармілі. То: «У грыбы ідзіця...» То: «У ягады...» Мы ўсё журавіны... Тады матка вазіла ў Гомель, прадавала. Па двацццаць пяць капеяк стакан. А што стакан... Тры жменькі – і стакан. Яна павязе. Тады панакуплівая. Ці абуць што, ці адзець. Баба ўсё казала: «Полька, ну, ніхай пагуляяць. Ішчэ стане чорны воран на нагу, дак нікуды ня ступяць. Ніхай ідуць пагуляяць». А матка: «Ішчэ будуць гулять. Дармаеды. Ніхай ідуць, да дзелаяць!» Ну, матка, я счытаю правільна дзелала. Прыцісківала работай. Штоб мы не былі нерабатні.

* * *

А вот загадая, мы ўжо кажды сваю работу знаў. Ваню тоя загадая, Машы тоя, мне тоя, Тусі тоя, Ягорка малы. Яна Ягорку: «Ты сваю работу знаіш?» – «Мам, знаю!» І як летам... Зімой... Ён венік возьмя. «Ідзі!» – «Рукі пакалелі! Вязёнак німа!» – «Пахукай рукі. Ідзі сцежку падмяці». Яму гадоў сем было. Ён сцежку тую. Выдзя. Прыдзя: «Мам, хадзі, палядзі!» Матка палядзіць: «Ішчэ мягкага снега багата! Ішчэ змятай! І ў хату не заходзь, пакуль да крэпкага».

* * *

У нас Крыўцовы каліcь былі. Козырыха будзя казаць: «Дзеўкі схадзіця вады». – «Сама схадзі!» Будзя сядзець Алёна і Наташа. І будзя казаць: «Ідзі ты к чорту!» На матку скажа: «Ня гаўкай!» Матка наша гаворя: «Яўгіння, вазьмі, аборай урэж. Я б ёй паказала, як матку шануяць». У ніх не шанавалі. А мы сваю матку. Што ты! Матка ідзець. Цішына-парядак. Маткі баялісь. Яна доўга не гаварыла, абору знімая, як секане. А ціперяка ўдарь, пойдзя заявя. І гасударства ішчэ няправільна дзелая. Здзелалі: бацька ня трогай дзіцёнка. Да другога хоць рассячы, усё раўно – чорт. Славамы гавары яму, гавары. Мы баялісь маткі. А ціперь ударь. Гасударства пойдзя. Сіняк. Дзе, што і як? Дак іздзелайця для дзяцей. Лучшы не жалейця. А жалейця, штоб былі дзяшовыя баціначкі і сапожачкі. Штоб дзецкаяе ўсё было.Ніхай узрослае. Каліcь дзяцінае было да разрухі. Дзецкае ў магазіні ўсё дзяшовае было.

* * *

Усё каліcь баба казала: «Вон паглядзіце, Грэцкавы дзеўкі». У Барысавых былі дзеўкі харошыя. Яны і рабілі ўсё. У Крыўцовых харошыя былі дзеўкі, рабацяшчыя. Но за то, шта яны на матку: «Ідзі ты к чорту! Ня гаўкай!» Разве можна на матку так гаварыць? А яны гаварылі. А наша матка. Еслі б я на матку сказала, што ня гаўкай. Яна б біла, сколькі яе душа жалае, сказала б: «Я цябе радзіла, я цябе, як Тарас Бульба і ўб'ю».

* * *

Сем гадоў. Мы ўжо масты мылі полнасцю. Тусі шэсць было гадоў. Калісь драчам... Туся змачывая. Матка прыдзя... Пальцам... Тряпачку возьме чыстаю... Правядзе... «Сёдні ўжо як памылі мост, дак счас вам мост будзя!» – «Мам, мы чыста...» – «Сколькімі водамы?» – «Два разы». – «А чаго ня тры? Перявымывайця. Я вас навучу, дак вы другі раз будзіця знаць». А ціперяка застаў. Туся намачывая тряпкай, а я драчам дзяру. Тады ўжо спускаю. Адну грязь. Тады другой начынаю. Тады зноў спускаіш. І ён тады чысты, белы. І такі мех у нас быў. Выціраць насуха.

* * *

Ярмаркі былі ў Святской. Мы калісь туды і на базар насілі. Цыбуля парасце. Нарве баба. У пучкі, у льляныя нітачкі павяжэ, і панясома. Там дзед адзін лапці насіў: «Варячка, калі мы з табой пойдам у Святскую?» – «Хоць і кажды дзень цыбулю буду насіць». А ён лапці плёў. Дак туды, у Расію, прыходзяць людзі з ганакоў на ярмалак. Куплялі і лапці, і цыбулю, хто што. І мы канфет хочым купіць. «Ой! Не... Панясом матцы. Матка хусцінку купя якую ці што-нібудзь. А то ж бацька не зарабляя – памёр». Прынясом: «Мам! Столькі во! Паглядзі!» Прададзім пучкі тыя. Матка: «Ну, вы ж бы сабе канфетак купілі». – «Не, мам, лучшэ хустачку купіш». Во як жылі. А ціперя яны... Наш халасцяк засраны, гаворя: «Баб, ціпер мода – панасіў два гады – выкідаць нада». Я гавару: «Насі шчэ! Шуляты закрытыя. А то будзіш хадзіць па балонню, закрыўшы ладонню». Шуляты – ляшкі. Баба ўсё: «Будзіш хадзіць па балонню – шуляты накрыіш ладонню».

* * *

Наша Туся... Калісь... Пад’ядзім. Баба дзела загадыя. А яна будзя казаць: «Ой, баб, штось жывот... Палезу на печ, пагрэю жывот». А яна: «Ну, лезь, – баба наша добрая была, – сама здзелаю». А матка гаворя: «Злазь! Ну-ка, злазь лячыць жывот! Дрыслівая срака ўсё ад рэдзькі дрышча! Так і ты. Работаць ня хочыш. Загадаяць табе дзела: падмяці нанач хату, дак ты скарэй на печ: у цябе баліць. Дак давай лячы!» Як увудзя аборай, дак: «Мамачка родная, счас усё буду дзелаць! Ужо не баліць жывот». – «Баліць жывот?» – «Не, не баліць». Во ета такоя зелля ад рэдзькі.

### *«Краса, як сам красівы…»*

* * *

Усё казалі: «Ты Грэцкая як пава». – «А вы ж казалі: я падохну без Сашкі. А раз у мяне галава такая вумная». – «Вой вумная галава». Ва ўсех дзевак была па адном плацці, а ў мяне тры-чатыры плаційкі і ў Тусі, і ў Машы. І матка наша хадзіла красіва. Пава пціца такая. Ходзя... Нарысавалася... Як пава ходзя. Красіва надзеніцца. «Як пава», – кажаць. Ета Чыгуніха. Амерыканчыха ў амерыканская надзеніцца. «Во ты ўжо ідзеш, як пава!» Ета ўжо. Як пціца. Паўліны бываяць? І матка наша сабе пашыя і кохты, і юбкі, і плацці.

* * *

Калісь усі казалі, баба наша і дзяды, і матка. Гаворя: «Красівы чылавек ідзець, дак ён і неўмываты красівы, а як некрасівы ці дурны, ці п’яніца, каток залаты павесь на яго: золата цэннае, усё раўно, як дурак, дак дурак. У нас пан быў Даўгасабураў, у яго калёсы былі: і залатыя каткі, і ўся залатая. У нас гаварылі: «Хоць вазьмі, із панскіх калёс каток павесь, а, як хоць п’яніца, хоць некрасівы, ці які, ён не ўкрася. На золата не глядзяць, а на чылавека, штоб розум у галаве».

* * *

Куплёнага не было... Льляныя кохты насілі... С палатна... І юбкі насілі... І нам матка ў школу плацця пашыя такоя, тады пакрасяць у красцы... Хто якія купя: хто красныя, хто зялёныя, хто якія... Дзе цыгані тыя бралі? Ідзе-та вот даставалі па-дзяшоўцы, па-магазіннаму, а тут ужо шкуру дралі з людзей... «Не так, – гаворя, – ня нада мне твае грошы, кусок сала вынясь...» Яны, парашочык і тыя, казённымы іздзеланы, пазаклеіваны... Вот прыедуць ужо... Карявашнікі тож вазілі... У кіпятак увальлюць, разбаўтаяць у чыгуне, а тады... Із палатна пашыя матка такое ўжо, уродзе, плацце: рукавы... І туды парашка ўсыпае і ўкідае... Поўна накідаяць, штоб ужо плямам не былі, а роўна, памочаць і веряцяном топчаць туда. І паставяць, штоб яно прыкіпела, штоб не прыгарэла ў печы, а прыкіпела... Засцілаяць бумагай, хоць якой тряпкай паверьх, тады скаварадой паставяць, а так прыгарыя. І ў том у школу хадзілі... Хто ў красным, хто ў зялёным, хто ў сінім, хто ў якім... Хто якія краскі набярэ ў карявашніка і ў цыганей.

<*У вас якое было?*>

Матка калісь сіняя краскі купя, дак сіняя плацця і Машы, і мне, і Ягору штаны льляныя дзелала, і Ваню, і сарочку пакрасяць... У белым жа ня будзя... У белым, хто ідзець, кажаць: «Вон ужо, як мяртвяц, ідзець у белым...» І хадзілі ў школу, усі такія, і ты, і я...

<*Чаму, калі ў белым, як мяртвяц?*>

Я ня знаю... Краскі німа... З бані прыдзя, а тоя праврвецца, некрашанае яшчэ: «На, надзявай ета...» Штаны, сарочку дасць... Ета ж ціперь джэмпер надзяе і кохту, і калінкоравую сарочку... А тады ільляную, пакуль абносіцца, тады ўжо абносіцца, пярэш яго да мыш, дак яно мягчэе... А то ж шурпата... Сядзіш, і халодна... А толькі сарочка... Сідзім у сарочках, баба будзя казаць... Баба дак не казала, а матка: «Што вы, як мертвяцы сядзіцё ў белым?» А тады ўжо, як краскі раздабудзя... Наша матка паедзя, Тупуха там жыла, падруга яе, дак яна паедзя, там купя ў цыганей краскі, да прыедзя... Просяць... Дай-прадай ім: «І мне прадай... І мне...» Матка ім ужо прадае капеяк на сколькі болей.

<*Красілі палатно ці гатовае плацце?*>

Із белага палатна, яно белае-белае і тонкае, а тады шыяць, уродзе, плацці, уродзі, сарочкі... Наша матка такія гестачкі дзелала, плацце, штоб красівей... А то цэліком, як мех, сюды рукаў прыгародзяць і пашыяць, і красяць ужо шытае, ці сарочка, ці штаны... Усі ў штанах альляных хадзілі, крашаных... Халасцякі ў лапцях хадзілі... Тады ўжо сталі рязіны... Забыла, адкулься прывозілі, дак прадавалі... Дак яны ўсё прадавалі рязіны... Буркі сталі шыць...

* * *

Будуць гаварыць: «Ну, што ты як кілу на баку павесіў?!» Калісь... Ета ціперь сарочкі навыпуск, а калісь сарочкі навыпуск, да ішчэ і рэмень... Мода такая... Дак гаворяць: «Ну, сарочка вісіць... На чорта табе, як кіла на баку рэмень еты?» А німа, дак? «Купі мне рэмень!» Мая матка лішняга нічога не купляла! Мы за модай не гналісь. Матка і кажа: «Як парасціцё, да будуць у вас дзеці, дак хоць рогі купляйця ім да прычэплівайця... Я вам не укажу... Пакуль я грашамы са свайго кармана расчытыюсь, дак хоць бы цела грэшная прыкрыць, а не буда я вам выстачаць... Як кілля будзя на баку вісець лішняя... Якая краса... Кохтачка, юпачка... А што-та вам вешаць штось ішчэ... Серьгі! Хусту завяжыш – ня відна тваіх тых серьгаў... І някіх украшэній... Краса – як сам красівы... А як сам не красівы... У нас калісь цвяты былі круглыя... Ета ж ціперь усякія цвятушчыя прадаюць... А то гармонькай такой падзелана... І прадавалі, адкулься прывозілі... Вот ужо дзеўкі бралі... Краснымі такімы... Дзеўкі бальшыя бяруць, атарвуць адтуль і румяняцца. Маша наша прышла... Нарумяніная! Матка падышла і кажа:

«Хто табя разряшаў, штоб ты гаўно ета на пысу навязывала? Ты бачыш на сцяне ўсмярыцель? Парассякаю і цела, і морду! Я табе накрашусь! Чужая краска цябе не ўкрася, як сваей німа.... І ня ймеіш права... Вырасціш, ідзі, у Ветцы жывеш, хоць ты там дзёгцем намаж сама сябе... Я не бачу... А пры мне штоб етыя гаўна на мордзе не было! Ні пудры...» Напудряцца... Ё яна цяперь пудра тая? Дак яны ўжо нарумяняцца ды пудрай той... «Ета ўсё іскуствінная яўленія... Умыйся – зноў нанава... Дак папарву і шчокі павырываю табе!» І матка не давала... І мы не румяніліся, паняція не імелі, не пудрыліся. Як толькі замеця і кажа: «Шчас я табе так напудрю, што ня будзя красна... Што ня будуць шчокі красныя, а будуць сінія, а хоць чорныя... Во будзя краска вам...» Ета ўсё паддзелка.

* * *

Яна, то яйцы пазбірая, павязе ў Гоміль, штоб жа плацці былі, па хустачцы купя каждаму, пяцера ж нас, усім жа нада. «Мы, – гаворя, – будзім у старым, а вам навінькая нада к Вялікадню». Садзімся, разгавеімся на Вялікадня, кажды сваё зная. Сундукі такія былі. Мы паложым. Я сваё... Ці платочык, ці туклі матка купя. Матка: «Разгавейцісь, штоб не абкапалі і не абдзелалі». Наряджаімся, кажды сваё. Ваня наш быў такі, як Сярёжка, падхаласцячок, у яго рубашка, у яго брюкі былі, картуз. Як туклі плахія, туклі купя. Большаму лучшая нада, тада Машы, тады мне, тады Тусі, тады Ягорку. Меньшаму і большаму – ета лучшы ўсіх. Вон перад Вялікаднём – Благавешчанне. Баба: «Сёння – Благавешчанне. Можа, ніхай надзенуць?» Матка: «Ня нада! Вялікадня ё Вялікадня! Ета Гасподні празнік. І ета Гасподні, но ета к Вялікадню шыта». І не надзявалі. А цепер яны... У іх ні Вялікадня німа...

* * *

Было празнічная плаццейка і будняя. У будзёнкавым ходзіш, а ў скрысенне сабірэсся, пойдзіш. І то матка агледзіць: «Абдзелала? Ідзе ты абдзелала?..» Пахадзілі. Еслі прыходзім дамоў, раздзіёмся, штоб ні абкапаць.

### ***«Яны з бабай нармальна жылі...»***

* * *

Як пуцявыя, завуць і бацька, і матка, і свёкра, і свякруху. І ціперяка завуць. Вот я знаю, што ё сем'і такія. «У мяне язык не паварачваецца на чужую свякруху...» Дак і мужык гаворя: «Дак во я буду тваіх называць». Ета людзі... Ета ня людзі. Богам дадзена так. Саедзіняісся. І песня ё:

Бацька дзверы адчыняя
І ў маці пытая:
«А што ета за роза
У хаці расцвітая?»
«Бацька, ета ня роза і ні калініца,
А ета будзя ў нас трэццяя дзяціна».
*Залоўка (сястра мужава)*:
Будзь родным дачкою,
А мне роднай сястрою,
А брату майму вернай жаною.

* * *

У сям'ю паступаіш, будзь ім, як родная. А ня то шта прышла, глядзіць, як звер.
<*Матка з бабай, нявестка са свякрухай як жылі?*>
Харашо жылі. Матка на дзвёх работах работала. І ў магазіні таргавала, і кароў

даіла. Ну, я ёй памагала.Туся разу не хадзіла, дажэ разу не хадзіла: «Я ня ўмею! Я ня знаю!» На два гады за мяне маладжэй. А я ўсё знаю, усё ўмею. Пайду, падаю кароў. Прышлі к матцы нашай, сказалі: «Грэцкая! Ты ў Сівенцы таргавала, ты – баба вумная. Станоўся. Большы некага паставіць». Матка гаворя: «Я ж на рабоці. Мне ніхто. Баба ж ні пойдзя за мяне работаць». – «Ну, як-нібудзь... Будзіма і стаяць...» Паднялі рукі, што Грэцкаю паставіць. Хоць, можа, калі яна будзя даіць, дак будама дажыдаць. Ня бягаць жа ў Закружжа. А то ўжо закрывалі магазін. І матка таргавала. А я ўжо бегала. Увечары са школы прыду зімой, кідаю кнігі перядзяюсь. І туда пайду. Дак ёй некалі было. Яна ж. І ў дзень жа нада адкрываць і ў абед, і рана вутрам. А ўсё баба дзелала. Яны з бабай нармальна жылі. Яны не ругаліcь. Баба была хазяйкай над усім. Матка прыходзя з работы: «Мам, што ты варыла?» Баба: «Глядзі. Што ё, то бяры». – «Улівай мне. Я ўтамілася. Налі мне...» Баба ўжо ўлівая і дае «Садзіся са мной есць». Сядуць. Калі баба: «Я пад'ела. Ня хочу». Яны харашо жылі. <*Чужыя людзі. Нявестка. Свякруха.*> Бацька памёр наш. Ета бацькава матка – баба Алёнка. Прышла матка Адарка, Пашкіна матка гаворя: «Полька, я прышла, знаіш, чаго? Мы з Сяргеем пасаветываліся, і я прышла матку забраць». А матка гаворя: «А чаго ты ряшыла?» –Да вот ряшылі, забярём матку. Ета мая матка родная. Вы ўжо хто ёй? Баба з дзедам ня родная». Дзед памёр, мяне на свеці не была. «Дак вот забярём матку». А матка гаворя: «Пытай у маткі. Як матка скажа і рэша. Но с такім дагаворам. Еслі забярэш матку, то бяры наўсягда, на ўсю жызь. Назад я яе не вазьму. Усі скажаць, што Полька выгнала свякруху. Слава пройдзя. Усі будуць гаварыць, што я ўрэдная, ніхарошая. Дак ніхай ряшая сама. Абіжаім мы, плоха тут. Хай к табе ідзець». Яна: «Мам, сабірайся і паедзім». Яны хацелі забраць бабу. І яна прагаварылася: «Трёхсцен табе з дзіцямы, а хату мы перявязом у Закружжа». А баба сядзіць і гаворя: «Мая дачушачка, скажу я: «Вот ты – дачка, ета – нявестка. Яна мне, як родная дачка. Мы з ёй харашо жывом. У вас... Я пайду... Ну, дак... Будзіш жыць... Я дзень буду жыць, другі. Будуць во як туляцца ад мяне. І ўнукі... І ўсі... А ета... Я і жопы ім абцірала, і сопількі выцірала, і сцірала. І яны мяне жалеяць, а я іх. Не пайду я с табой. Па міласціні пайду, еслі выганяць, а с табой не пайду». І яна не пашла. Матка: «Ряшай сама...» Матка з работы прыдзя, сядзя есць. Яна: «Полька, пайду я табе, мая дзетка, унясу сала. Будзіш есць?» Калі скажа: «Ну, унясі». Яна ўнясе: «На, адразай сколькі табе нада». І ўсё ладам была.

* * *

Матка будзя казаць: «Мам, вон тоя здзелаім». А баба сядзіць і кажа: «Не, мая дочачка, <яна ж нявестка была>, давай упярёд тоя здзелаім. Ета прытная дзела. Заўтры нада здзелаць».

* * *

Ета ўсё кажаць: «Ета ты вумная, што мужык ё, а так, дак і хвост абсерыш». І баба Алёнка: «Во, Полячка, як быў Сашка, дак і добря было...» А матка ёй сказала: «Мам, ты мне свякруха, но я цябе не абіджу і не выганю, што будзіма жыць. І ў міне ні бацькі, ні маткі, шэсць гадоў было, як памерла матка, а бацька кінуў, другую ўзяў у Кііві. Дак жыла з дзедам і бабай, у паноў служыла, шаснаццаці гадкоў не было, пятнаццаць з палавінай, замуж пашла. Я і плакала, а дзед і баба: «Ідзі! – Сям'я бальшая: дзед, баба і сын Ілля, дзядзька маткін, і дзядзіна, і Грышка, і Соня, і Павел, і Дуся, – дак яны, – Ідзі. Хлопец дабрэнны, ідзі за яго». І аддалі. Дак наша матка была харошая. Яна матку не абідзіла. Родныя маткі так ня дзелаяць, як яна. Што ня ўмею, дак яна: «Полячка, так во дзелай».

* * *

З маткай яны нармальна. Уранні сядуць, паговоряць. «Тое і тое...» Пасветыяцца, што дзелаць. Яна: «Дзеці». Баба: «Ну, я ім загадаю». – «Ня нада, штоб ты ім загадывала! Што ты будзіш гаварыць, да вон вецір вея. Яны цябе і панімаць будуць». «Ты тоя дзелай», – Тусі. «Ты – тоя. Свіней выганяй, пасі. Жарка будзя, заганяй дамоў». І прыходзя, еслі што ня здзеланая, яна кажа: «Падай-ка абору і не адыходзь». Яна разы тры як урэжа: «Во табе, калі вы ня паніміаця разгавору, дак наце вам боем».

* * *

Гаворяць: «Старая баба, як таўкач у хаці». Таўкач як пачане, і таўчэ, і таўчэ. Хоць і ваду ў ступу ўвалей, і таўчэ, і таўчэ таўкач. І старая баба. Кажаць, у хаці дзелая старая баба, ня дзелая, і ня відна баба старая. І ложкі памыя, і глёк памыя, тут нагнецца, то тоя здзелая, то тоя здзелая. Усё дзелая – дзел ня відна. Што ў хаці тут здзелала, дзяцей дагледзіла. І: «Ой, пайду ж на агародзі што-нібудзь здзелаю!» І на агарод баба пойдзя. І яе работы ня відна. Дак харошая, кажаць, нявестка свякруху не абругая. Усё матка наша будзя казаць: «Вот ты любіш, штоб я з табой пасварылася». А баба і кажа: «Чаго, мая ты Полічка, так кажыш?» Ета свякруха і нявестка. А яна і гаворя: «Ты ж як таўкач – таўчэсся і таўчэсся. Не прысядзіш на мінуту. Дак мы ж на рабоці хоць на дзесяць мінут сядзім...» – «Ты ж утамілася на рабоці». Дак гаворяць: «Харошая нявестка свякруху пажалея, а як дурная нявестка, дак будзя казаць: «Што ты тут дзелаіш?!» У нас былі такія. Манька была. На дзеда на Жаваранку. Ой! Ета ўжо *змяя падкалодная*.

* * *

Мы, можа, бабу Алёну і не слухалі... Маткі баяліся... Матка толькі гляня, будзя казаць: «А ты не скрывай, а ўсё мне далажывай... Дак я з іх сем кож сарву із плеч, тады яны ўзнаяць, што такоя баба, што такоя матка, што такоя бацька». Усё калісь казала: «Бацька сраку атвярнуўшы і ляжыць на кладаўе, і ў вус ня дуя, а нам нада дзяцямы камандаваць да разбірацца...»

* * *

Усё матка кажа: «Сядзі, гніды прышчаміўшы!» Гніды, во ў галаве ё гніды. «Ужо сядзеў бы, « – будзя казаць. Другі што-небудзь скажа. «А сядзі ты, гніды прышчаміўшы!» Калісь усё і на сабраніі, і мы дзевачкі такія большыя былі, нас выганялі, то смяёмся, то гаворым, прыдсідаціль устаня: «Дзетвара! Кыш!» Січас сабіраімся і шмыг-шмыг. Дак яны. Хто-нібудзь пачане, яны там разбіраюцца ў вапросах. «А сядзі ты, гніды прышчаміўшы!» Ці баба наша на нас, што-нібудзь будзіш гаварыць, баба з маткай і мы. Яна: «Сядзі ты, ішчэ малая. Сядзі, гніды прышаміўшы!»

* * *

Нас – пяць. Матка ў дісціпліні дзяржала і гаворя: «Я пушчу вожкі, конь пабягіць куды папала, і я вас не збяру». А ў людзей былі і бацькі. На матку мы слова не скажым... Ці «брэшыш!» У іх ета: «Брэшыш! Ідзі ты к чорту!» У нас бы кроў плыла із морды, еслі б толькі мы на матку сказалі так во. Мы нікалі... Ні на на бабу. Баба ета была ўжо ж свякруха маткі нашае, яна ўжо, счытай, матцы чужы чылавек – свякруха. Яна прыходзя: «Адчытайся перяда мной! – на бабу – Хто не паслухаў?» Яна: «Усі слухалі».

* * *

Вот калі б мы сказалі на бабу: «Ідзі к чорту!» Ці: «Ня гаўкай!» Божа сахрані!

Матка б пазасякала! Во табе! Будзіш навек ета помніць, штоб на бабу ці на матку такоя сказаў. А ўрад жылі. У іх шэсціра дзяцей. будуць на матку: «Не бряшы! Ідзі к чорту! Ня гаўкай!» Мы прыдзім: «Баб, так і так...» Яна гаворя: «Ня вучыцися ў дурной сям'е. Ніхай гаворяць. Іх людзі асудзяць і Бог».

### «Матка наша ўсё чытала кнігі...»

* * *

Святыя вечары. Яны ўсё к нам хадзілі. Дзяды і бабы калісь. Амерыканчыха і кажа: «У маёй кудзелі...» Лён пачэшаць і патрэпяць на грябёнку. «У маіх кудзелях ужо мышы гнёзды звілі». А яе мужык, дзед Амерыканец, сядзіць і кажа: «Я ж іду к Грэцкім гуляць. Чаго ты пляцесся за мной? Ты сядзі, да кудзелю прядзі». А яна гаворя: «Дак жэ Грэцкая ішчэ туую кнігу красівую не дачытала. А я тады суткамы думаю і думаю: «Ой, як-та далей будзя ў кнізе?» Мышы любяць, дзе лён ёсць. Яны перярязаюць яго, іздзелаяць гняздо мякінечкае-мякенічкае. Лён той куда? Нікуда. Тады ўсе казалі. Прыдуць пагуляць к нам: «Да, пагуляй!» – «Пайду, а то мышы ў кудзелях гнёзды паўюць, дак будзім хадзіць па балонню, накрыўшы жопу балонню».

* * *

Калісь дзед Іванюшкаў казаў: «Ну, Палашка!. Ты ж на ўсё...» А чытала! Калі б ты паслухаў. С інтанацыяй. Дзед Амерыканец, Пецькі Амерыканца дзед, дак тэй казаў: «Я чытаю. Но я чытаю, проста чытаю і ўсё. Поля, я к табе іду. Люблю, як ты чытаіш». У нас кніг было, казак усякіх. Матка: «Давайця, я вам пачытаю што-нібудзь інцярэсная». Яны: «Ну давай, Грэцкая, што-небудзь шчэ чытай».

* * *

Ета ж тады ўсё казалі. Амерыканчыха прыходзя. Матка наша ўсё чытала кнігі. Яна з інтанацыяй. Красіва чытала. Амерыканчыха прыдзя: «Ой, вад! Садзіся. Святыя вечары, дак садзіся, да чытай кнігу. Я люблю». І Амерыканец. Ён харашо чытаў газеты і ўсё. «А з інтанацыяй, – гаворя, – я не магу». Сам сабе пачытая. А штоб услух. А матка наша ўслух чытая. Чытая і кажа: «Ужо ўтамілася, усё чытаўшы». Яны: «Ну, аддыхні». Не дачытая што, назаўтряга зноў святы вечар, панаходзяць суседзі. Усі з сярёдку ідуць: ад Амерыканцаў і да Жаваранкаў. Прыдуць, сядзяць і слухаяць. Там, як цар галаву адсякаў сваёй дачцэ. Замуж хацеў за багатага аддаць, а яна ўлюбілася ў беднага. Цілявізараў не было, яны к нам хадзілі. А Верка Барысава Алёніна матка, яна чытаць ня ўмела.

* * *

Ціперь кіно глядзяць, а тады кніжкі чыталі. Еслі Ліда прыдзя, да расказывая: «Чытала кнігу, буду расказываць». – «Мне ета, гаварю, не інцірэсна. Я сама пачытаю, і ўсякаю дробязю чытаю і знаю. А што ты мне з большага скажыш, мне ета не інцірэсна». Яна гаворя: «Я пачытаю, тады табе дам». Іх ці дзве, ці тры кнігі ё пра Раманавых. Дак яна мне ўсё давала, я чытала.

<*Вы сказалі, што раней кнігі чыталі, а ціперь цілівізар глядзяць*>

Калісь цілівізараў не было. Ну, сабіраліся на квацеры дзе-нібудзь. Наша матка ўсё чытала кнігі. Сабіраліся ў вайну, як вайна была, Амераканцы, Коршуніха, дзед Касцючкаў з бабай прыходзяць. Матка наша чытая. Матка чытала, яны сядзяць, слухаяць унімацільна. Матка наша красіва чытала. Мы дак гуляць пойдам, а яны. Хахол з Хахлушай прыходзілі. Суседзі ўсі. Амерыканчыха казала: «Я кала цябе сяду», – на матку. Матка: «Ну, садзісь...» – «А то я не дачуваю. Дак я кала

цябе сяду». Сядзя блізінька. Матка чытае з інтанацыяй. Чытая кнігу, а яны ўжо слухаяць. А ціперь цілівізар гаворя, сядзім слухаіма. А тады ж кнігі чыталі. У нас багата кніг было бацькавых. А тады пагарэлі, ну дак Ліда даставала. Хто не пагарэў, дак яна ўсё брала, прыносіла. Послі вайны ўжо. Ні радзіва не было, ні цілівізараў па дзіряўнях, ні эліктрычаства. Запаля матка лампу і чытая. І яны сядзяць, слухаяць. Тады ідуць: «Ну, Грэцкая, спасіба!» Дзед Жаваранка гаворя: «Ох, як смачнага абеду пад'елі!» А па святых вечарях скрозь прыходзілі. Матка чытая, а яны сядзяць слухаяць. Амерыканец сам браў кнігі. Ну, дак Амерыканчыха кажа: «Ён жа, Ад, пры сабе чытае, а мне нічога не расказывая». Дак яны к нам хадзілі.

<*А што за кніжкі чыталі?*>

Пра калісяшнея ў нас кніжкі былі. Пра царёў, да пра паноў, да пра любоў.

<*А сціхі ў кніжках не чыталі?*>

Чыталі і сціхі, ну, я пазабывала. І пра Пушкіна матка ім чытала. Як на дуэлі на етай... Рака Чорная?..

<*Да, Чорная рэчка.*>

І я чытала. Што матка чытая, то і мы чыталі. Тады ж цілівізараў не было. Ну, вот чытаіш ужо кнігі. Ліда прыносіла. Якія кнігі сама чытала, прачытая і мне прынося. Мы чытаіма. А ціперь гаўкая цілівізар...сю азбуку зналі.

* * *

Ну, вот другі гаворя табе чылавек, дак яго б і ні слухаў, а другі гаворя, як у рот табе ўкладая: красіва... Вот кнігу чытая матка і матка Вася, дзяды будуць казаць: «Поля, вот ты чытаіш, як у рот укладаіш, а Вася – вумная, харошая...» Ета вумней не было маткі нашай і маткі Васі. На вясы не переважыш... – А ўсё раўно, Грэцкая кладзе, як у рот укладая...» «Слухаў бы дзень, – казаў Амерыканец, – слухаў бы дзень і ноч. Прыду, лягу, дома пакуль засну, качаюсь-качаюсь, думаю: «Эх, калі б Грэцкая была ў маём дварэ, сказаў бы: «Чытай... Я табе плаціць буду...» Так люблю, як чытая... Красіва, чотка і ясна...» А матка Вася, яна харашо чытала, но ўсё раўно яны ацэнівалі: матка лучшы.

### *«Зімой вазьмі жніўную запей ...»*

* * *

Зімой вазьмі жніўную запей. Мы калісь с Тусяй сядзім. І пачынаім: «Закацілася жаркае сонейка за лес, за лясок». Баба фортку адчыня: «Ай-я-яй! Дзеўкі, ну, што вы ўжо клычыцця? Разве цяперь пяюць жніўныя? Жніўныя, як жніво, жыта як жнуць». Жніўныя песні. А ўжо ячмень, авёс. У калхозі. Ета ўжо калі сядзім кала абабкаў: «Давайця, дзеўкі, пряпяём. Ці нас хто чуя...» Прыду дамоў, баба: «Ну, што вы спалі? Можа, ляглі, праспалі, нічога ня выжалі?» Я гаварю: «Баб, штоб ня спаць, мы песні пелі». – «Якія?» – «Жніўныя». – «Ні кажы толькі матцы». А матка скажа: «Бяспутныя!. Былі дурныя і ё дурныя. Разве цяперь пяюць?»

* * *

Калісь хрясты, на Кряшчэнне, дак усё баба гаворя: «Дзеці, давайця хрясты». Дак мы наперябой. Матка: «Падаждзіця, я вам падзялю. Ягорка, ты на вокнах пішы, на лутках, а ты – на дворяшных». На мяне: «А ты – на дзвярях». Большанькая, дак на дзвірях. Я пытала ў бабы: «Баб, а для чаго-та?» Яна: «Кряшчэння. Ета, штоб сатана ў хату не прыходзіла». А мы гаворым: «Баб, што ета за сатана?» – «Ну, чорт па-вашаму». Чорт і сатана завуць.

* * *

Павел прышоў, гаворя: «Будзя ў дзекабрэ з пітнаццатава палавіна месяца цёпла, а з пятнаццатава будуць да дваццаці градусаў марозы». Я гаварю: «Хто табе казаў?» – «Я сам чуў прагноз». І Ірка прыехала, гаворя: «Во будуць марозы да дваццаці. Перядавалі па цілівізару». А марозаў жа не было. Атлёга. І цёпла. Збряхалі. А калісяшнія людзі зналі. Гаворяць: «Перяд даждзём куры купаяцца ў зямле». І будуць куры пад сабе грабаць-грабаць – купаяцца. Ужо баба: «Будзя дожч». А будзя матка сядзець: «Што, куры купаяцца?» І мы ўжо зналі: «Куры шчыпяцца!» Яна: «Ну ета дожч будзя». Яны па етаму зналі. Па прыродзі. Куры шчыпяцца – і дожч. Палядзіш: ужо хмара найдзя і дожч пойдзя. А ціпер прагонзы ўзнаюць па космасу і брэшуць.

* * *

*<Мама ваша хадзіла ў «Стрялу»?>*

Хадзіла. У маткі нашае голас харошы быў. Яна і падводзіла, і хадзіла. Замыкая магазін, і ідзець. І хто празявая, мужчыны... Узяць віна. І стрялу кіня і пойдзя, адамкне, дасць, скажа: «Прыпёрла табе!» І дагоня «Стрялу». А ціперь усё забыта.

* * *

На Купалля, напрымер, ціпер, во ночы ня спяць, абы гарэлкі напароцца, а тады ідуць, ну, Купалля, чорныя ягады ўжо ё, чорныя ягады спеяць на Купалля. Вот мы пойдзіма. Баба: «Дзеці, Купалля!.. Ідзіця ў ягады!» Мы ўжо сабіраімся, усі на пасёлку. У нас за гародамі балота перёйдзіш – ягады – вот аж чорна! Ідзе цвяток зрываіма, прыносім, увечары матка нам з цвятоў, тады ж багата – люцікаў, усякіх званочкаў – нарвома на поплаві, у лясу цвятоў. Прынясом, баба і матка ўжо вяночкі плятуць нам на галоўку: мне, Тусі, Машы, Ягору – хлопец – усё адно вяночкі ўсім. Яны сядзяць «Купалінку» ету пяюць.

* * *

Бараду, як усё жыта сажнуць, дак дзелалі бараду, і ў калхозі. А тады нясуць прыдсідацелю. А так дома прынясуць туюю бараду. Ужо стаіць яна: адна на агародзі, а другую ў хату прынясом. І кала ікон паставім. І яна ўся ў цвятах, кругом, як кудзеля, ў цвятах. Дзелаім красіва. Матка наша паказывала нам і сама дзелала. З усякіх цвятоў. Тады рожа была, бальшыя цвяты яны і розавыя, і белыя, і жоўтыя – усякія бальшыя цвяты.

* * *

С подала нельзя есць, патаму шта папрасімка дзіцёнак будзя. Усё матка казала, мы ці бульбы, ці пірага ў подал набярома, карманаў не было, дак яна і кажа, матка: «Не бярыця! А то Козырыха ўсе ідзець, у фартух набярэ, з фартуха бярэ – во і дзеці злыдні такія, усе папрасімкі ходзяць. Вот прыдзя, абы што ўбачыў: «Баба Алена, дай мне! Дай мне!» А наш Ягорка нікагда не папрося».

* * *

Адна ў нас, у Марозаўкі, і ён гадоў пад сорак жаніўся, узяў маладую з Закружжа. Яна – маладая, нічога етага не прызнавала. Дзевачка радзілась, і не бачыла нічыво. Гаворяць, чуць-чуць векі зросшыя. Мая матка гаварыла: «Ну што, налапіла!?» Во, і сляпую радзіла!»

* * *

Вот ацеліцца карова, унясуць... Калісь жа зімой... Ета ж самыя ацёлы зімой. Самыя харошыя ў январэ, у феўрале, у марці, а то ўжо позна, называіцца «пазнякі». Дак ужо ты прыдзіш чаго прасіць, а я табе скажу: «Сёдні я табе ня дам нічога,

сёдні ў мяне пакінулась. <Калісь ацеліцца, дак яны гаварылі: «Пакінулась карова ў мяне».> Ну, чылавек панімае і знае, і гаворя: «Дак я цябе хусціну кіну». Развяжа, кіня хусціну ў хаці. Ну вот, што-нібудзь нада срочна, дак скажа: «Дай».

<*Калі нешта давалі ў гэты дзень, трэба была хусціну пакінуць?*>

Ну вот я табе дам, а яна развяжа хусціну ці фартучок. А после прыдзе і забярэ. Ці фартучок, ці хусцінку, што ёсце-ка, андарак жа. Ня будзя жа іціць без андарака. «Во я расперяжу», – фартучок кіня. А тады ўжо ці на заўтря прыдзя возьмя, можа, калі і нядзелю ляжыць. Ета як карова ацеліцца ці свіння апаросіцца. Калісь жа свіней і зімой злучалі, штоб к Соракам парасяты былі. Еслі яна прыдзя, ну, напрымер, хто-нібудзь прышоў хлеба ці вілак, ну, чаго-нібудзь срочна нада, грошай пазычыць і то. Матка гаворя: «Я б пазычыла, ну, сёдні пакінулась карова». Дак яна расперязая фартучок ці хусціну, кіня.

* * *

Талака. Ета калісь нанімалі. Кормяць ці. Называіцца: ідуць памагаць людзям бясплатна. І ты ідзеш, і я... І ўсі. Сабіраяцца талакой... Як ні малочаная ў чылавека. Ці захварэў. Бяссільныя такія людзі. Сабіраяцца і ты, і я, і ўсі. Ідуць памагуць яму. Мужчыны адно дзелаюць, бабы другоя. Ета талака. Прося чылавек: «Хадзіця памажыця!» Ішлі людзі харошыя. Ня то шта п'яніцы. Ідуць, ізздзелаяць яму. Яны ўжо абед які іздзялаяць. Называіцца талака.

<*На якія працы звалі талаку?*>

Ці памалаціць. Што-нібудь гуртавоя нада. Дак ета талака завецца. У нас адзін дзязька ляжаў хворы. Людзі самы ім сказалі. Матка наша гаворя: «Моця, мы пойдыма, скажым людзям. На талаку пойдуць». Сказалі: «Талаку нада іздзелаць». Сабралісь пашлі. Іздзелалі.

### *«Спасіба Госпаду Богу. І спасіба табе!»*

* * *

Матка на мяне казала: «Спасіба Госпаду Богу. І спасіба табе!.. Што Бог нам даў цябе, што ты з горя нас выручаіш. Што пры такім, пры галодным урэмі (послі ж вайны), а ты ўсё сама дзелаіш, а вазьміка заплаці за ўсё!»

* * *

Калісь матка казала: «На ўсё, ты мой дзіцёнак – атлёт: і шыць, і звязаць, і папець, і патанцэваць – на ўсё!» І я лучшэ ўсіх! Матка цаніла, і баба цаніла. Маша наша ціхая дужа была. Матка: «Во еты мамырь! Усё ходзя, як немка якая! А ета ўжо <Туся>: тряпло дурноя!»

* * *

У мяне розум быў. Мяне не пазваляла сямейная абстаяцільства. Калісь Нінка Сняжкова... Як яна ўгаварывала: «Пайдзём!» Матка: «Ідзіця, кідайця. Баба хворая, старая. У мяне нага зломана. Кідайця». Ну, пажалела, асталась. Нінка перва на журналіста пашла вучыцца. Журналістам была. А тады на мяне гаворя: «Пайдзём». Я гаварю: «Грошай німа, Нінка. І сям'ю некуды кінуць». Нінцы добра было: у Нінкі баба маткіна была здаровая і матка здарова. І сям'я: послі яе былі дзеўкі. Яна пашла па сваей дароге. Гаворя: «Што мне сям'я?» На мяне гаворя: «Варя, ну, што мне ета сям'я... Кажды будзя сабе дарогу прабіваць. Еслі Валодзя наш вумны: ён сабе дарогу праб'е. А еслі я не праб'ю, ну, і буду сядзець у якім магазіне таргаваць ідзе-нібудзь». Нінка дарогу прабіла. Мы з аднаго года з ёй. Дак Нінка дарогу прабіла. Яна стала журналістам. А тады бачаць: яна вумная...

Васіль Аўраменка



…калі маеш свой *шлях* і пакліканне,

то ідзеш ім да самага канца…

# Боль і рацыя

## *Нябачны палёт ці адвечны шлях Алеся Разанава*

*Ёсць такое выслоўе: не вер таму, хто больш гаворыць, а вер таму, каму больш баліць. А каму цяпер баліць больш за ўсіх? Напэўна ж, Украіне і ўкраінцам. Але і беларусы не самы шчаслівы народ, бо жывуць зусім не ў Бога за пазухай, а на даўніх гістарычных скразняках ды геапалітычных разломах, як той бядак у вечна дзіравым, паўразбураным будане. А што, як не паэзія, можа быць люстэркам народных страхаў і надзей і хто, як не паэты, – чуйныя флюгеры бяды і ветразі нацыянальных (з)рухаў? Нават – такога пакручастага і пераменлівага, як лёс Беларусі.*

Боль – універсальны чалавечы феномен, галоўная прыкмета і часам “мера” жыцця, без якой яно было б немагчымым. У значнай ступені гэта можна сказаць і пра паэзію, бо “паэзія шчасця і радасці” (прынамсі ў Беларусі) – з’ява рэдкая, хутчэй выключэнне з правіла, чым трывалая традыцыя. Ад першых беларускіх песняроў боль і пакуты сталі дамінуючым матывам і стымулам творчасці. Пэўна,

так зроблены чалавек: калі ён сыты і задаволены, то не мае патрэбы брацца за пяро, скардзіцца на лёс, шукаць праўды ці паратунку. Любая пакута і дыскамфорт, асабліва душэўныя, стымулююць пошукі радыкальнага “лячэння” ці, прынамсі, суцяшэння, а разам з тым актыўную інтэлектуальную дзейнасць, і літаратура займае тут не апошняе месца. Боль – сінонім няшчасця і гора, спадарожнік хваробаў, пакут ці катаванняў. І аднойчы паспытаўшы (калі ты толькі не мазахіст), будзеш доўга пазбягаць яго ўсімі сіламі душы і цела. Бо мэта звычайнага чалавека ўсё ж – задавальненне і радасць, а боль – толькі стымул і адпраўная кропка на шляху да шчасця.



*Алесь РАЗАНАЎ.*

Даўні боль беларускіх паэтаў – лёс мовы. Калі тутэйшыя сацыяльныя, палітычныя ці гендарныя “балячкі” нейк трансфармаваліся, змяняліся ці нават вырашыліся, то гэтая бяда за апошнія сто год з месца амаль не скранулася. Ад Багушэвіча і Купалы, праз Панчанку, Танка і Гілевіча яна “дацягнулася” да Разанава і Сыса. І калі Анатоль Сыс па творчай манеры, задачах ды чалавечым лёсе можа быць аднесены да кагорты паэтаў “болі, гневу і пакут”, то з Разанавым не ўсё так проста. Нягледзячы на гісторыю 1968 года (студэнцкае выступленне ў абарону беларускамоўнага навучання), у сваёй творчасці, далейшым асабістым і грамадскім жыцці ён не прэтэндаваў на ролю народнага трыбуна, змагара-прарока ці непрыкаянага, “праклятага” паэта. Аднак ад таго не стаў больш папулярны, адзначаны ўладай ці ўсенароднай любоўю. Відаць, быў занадта неартадаксальны і нязвыклы, каб лёгка ўпісацца ў стары літаратурны канон або чыноўны пантэон белліта.

Дык вось, ізноў пра боль.

Чаму боль так патрэбны паэтам, і чым ён прываблівае іншых? Па-першае, гэтак жа, як страх, трывога альбо вусціш, ён знаёмы ўсім і кожнаму. Па-другое, чужы боль у большасці людзей выклікае спачуванне і спагаду. Калі ты не садыст і не паталагічны мізантроп, то эмпатыя, сушеражыванне чужым пакутам – натуральная чалавечая рэакцыя, асабліва распаўсюджаная ў юда-хрысціянскай традыцыі. І па-трэцяе, боль і болеснасць жывуць побач са шчырасцю. Чалавек, якому моцна баліць і які пра гэта кажа, не стане падманваць, выдыгаць, шукаць нейкіх выгод. Боль і яго наступствы – рэакцыя непасрэдная, бадай, рэфлекторная, і таму заўсёды выклікае давер з боку людзей. А шчырасць – гэта наўпрост дарога да праўды, якую адны шукаюць і шануюць, а большасць у яе проста вераць.

Амаль усім беларускім паэтам да Разанава нешта балела: сацыяльная няроўнасць, сялянскі комплекс непаўнавартасці, нацыянальна-моўны прыгнёт і цывілізацыйнае адставанне ад больш “прасунутых” суседзяў, пакуты ад таталітарызму і шматлікіх войнаў, экалагічныя ці эканамічныя беды і катастрофы... І сярод гэтага бясконцага “бядацка-болеснага” кругагляду знайшоўся чалавек, якому балела зусім у іншым месцы. Дый ці боль гэта быў? Мо, то інтэлектуальны “сверб”, індывідуальная прыхамаць, невідавочная, але моцная душэўная патрэба?

А шлях раўнюткі, быццам лісцік,
Ляці – каб вецер у вушах!..

Як гэта лёгка памыліцца
І па чужых пайсці шляхах.
Няхай яны імкнуць, як стрэлы,
Няхай шырокія яны! –
Стаю адзін.
У небе –
  дрэвы
і жураўліныя кліны.
Лісты апалыя на стрэсе...
Але чакай, няўмольны час:
я маю права
ўсё закрэсліць
і потым
  нанава пачаць.

Гэта 1964 год, аўтару 17, і яшчэ амаль нічога невядома пра Рагвалода, Рагнеду, БНР, пакаленне “знішчаных паэтаў”. Далёка наперадзе Чарнобыль, канец СССР, новыя прарывы жыцця і даляглядзы незалежнасці. Але ўжо ёсць свой *шлях*, свой кон, свая дарога. І непахіснае жаданне, а бадай, – перакананне, што ён яго пройдзе. У творчым лёсе Разанава ёсць нешта эзатэрычнае, патаемнае, што не паддаецца звычайнаму аналізу і раскладанню па літаратуразнаўчых “палічках”. І ўсё ж паспрабуем зазірнуць “па той бок словаў” альбо прайсці па ягоных слядах.

Бадай, з першых творчых крокаў паэт не толькі адчуваў сваё пакліканне, але і ствараў сталыя, праграмныя тэксты, якія часам не саступаюць больш позным. Перыяд вучнёўства, набыцця жыццёвага і літаратурнага досведу ён прамінуў нібыта яшчэ ў дзяцінстве. І гэткае “прыроджанае вундэркіндства” не перапынілася ні ў 17, ні ў 27, ні ў 47 гадоў, а цягнулася ці не да канца ягоных дзён. Справа, відаць, у тым, што вытокі творчай няўрымслівасці Разанава хаваюцца не ў сацыяльнай ці маральна-эстэтычнай сферы і нават не ў абсягу нацыянальна-гістарычных падзей, а ў асаблівай індывідуальнай засяроджанасці на метафізічных пытаннях, вострым адчуванні недасканаласці і парадаксальнасці любога жыцця, прыроды самога чалавека і рэчаў. Таму сталенне, узрост ці перамены палітычнага ландшафту не мелі на яго радыкальнага ўплыву, хіба што з цягам часу больш ашчаднымі станавіліся словы і складанымі сэнсы.

Што прайшлі – не ахопіш зрокам,
але доўжацца, лучацца звенні...
Чым далей ад сваіх вытокаў,
тым бліжэй да іх разумення.

Прыроджаная звышчуйнасць да экзістэнцыяльных праблем і талент прамаўлення, жаданне даць адказы на ўсе відавочныя, а часцей невідавочныя пытанні сталі складнікам яго незвычайнага паэтычнага таленту і задалі кірунак літаратурнага шляху. Яго творчы метад можна акрэсліць як: *здзіўленне, здумленне, прамаўленне.*

Непасрэднае, амаль дзіцячае здзіўленне перад светам, пільная ўвага да элементарных рэчаў, шараговых з’яваў і ледзь заўважных драбніцаў ярка праяўляюцца ў жанры пункціраў. Засяроджанае абдумванне, “урастанне” думкі ў рэчаіснасць і разгаліноўванне яе вонкі найбольш дэманстратыўныя ў зномах. Здольнасць увасобіць усё ў словах, нечаканых алюзіях і метафарах найбольш парадаксальна і лаканічна адбываецца ў квантэмах. Першы “этап” у гэтым шэрагу звычайна праяўляецца як пытанне альбо вербальная (слоўна-графічная) візуалізацыя. Другі – асэнсаванне, “ачалавечванне”, перакладанне “ў сябе” праблемы ці з’явы, а напрыканцы (амаль заўсёды) – падагульненне, выснова, часам парадаксальны фінальны акорд.

Ноч гасіць у вокнах агні
і дыхае ветрам і лёдам.

Нібыта ў рацэ акуні,
ўва мне
касякі мелодый.
А я,
непапраўны рыбак,
з няпэўнай надзеяй на ўдачу
хаджу па нямых берагах,
чакаю,
маўчу
і рыбачу.

Гэтая схема даволі ўмоўная, дый тычыцца хутчэй невялікіх твораў (версэты, пункціры, вершаказы), нярэдка ўсё адбываецца адначасна ці непаслядоўна, а выснова можа сама стаць пытаннем і падставай для наступных здумленняў. Аднак у творчым набытку Разанава ёсць шмат опусаў, якія назваць лаканічнымі ніяк не выпадае, гэта тычыцца ягоных баладаў і асабліва паэмаў. Вядома, малады паэт жыў у сваім часе і за Саветамі не прамінуў абавязку пісаць "на зададзеную тэму", гэтаксама як і "моды" на нацыянальна-гістарычных герояў. І тут, як кажуць знаўцы, галоўнае не пра што, а як. Трэба аддаць належнае, пра Рагнеду, князя Вячку ці Каліноўскага ён пісаў тады, калі тое не было мейнстрымам і пра іх мала хто ці што ведаў, дый рабіў тое не "на заказ", а з уласнай прыхільнасці. Нечакана ён напісаў і пра абарону Брэсцкай крэпасці (паэма "Назаўжды", 1974 г.). Не думаю, што хоць адзін літ-спец з пагонамі альбо куратар з ЦК змог дачытаць паэму да канца, а калі б і дачытаў, то наўрад бы што ўцяміў, настолькі доўгая, не па-тутэйшаму складана-метафарычная і далёкая ад узораў сацрэалізму рэч выйшла з-пад яго пяра. Але потым былі яшчэ "Каардынаты быцця" і, нарэшце, "Шлях-360" – этапная кніга, пасля якой усё і ўсім стала "ясна".

...Я моўчкі плакаў, а яны пайшлі,
ад іх прастаўся шлях,
вяло іх сонца,
ім дрэвы зелянелі,
ручаі
звінелі ім,
памерці і ўваскрэсці –
быў сёння першы дзень –
яны ішлі,
накрэсленыя мной –
я дачакаўся...

Так заканчваецца "другая паэма шляху", а квантэмай – *завершаны абшар / начую ў снах / з-за небакраю / дзівіцца / слязіна* – і сама кніга. Што гэта за "сюр"? Дзе ўсё адбываецца – у мінулым, будучым ці ў аўтарскім сне? І што за апакаліптычная "слязіна" вісіць за небакраем у 1981 годзе, калі сацыялізм канчаткова перамог усіх магчымых і немагчымых ворагаў, а сонца савецкага шчасця высушыла слёзы ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва?! Ад многіх тэкстаў (і не толькі паэмаў) Разанава пытанняў застаецца больш, чым адказаў. А хіба гэта добра? Каму ж яно спадабаецца: заслужаным аксакалам і мэтрам? Ці простым чытачам ад сахі і станка? Між іншым, аддамо належнае нашым літаратурным аксакалам, яны падтрымалі маладога "летуценніка", бо толькі пад іх пільнай "аховай" – уступ П. Панчанкі, пасляслоўе В. Бечыка і рэдакцыя У. Караткевіча – кніга "Шлях-360" з'явілася на свет. Трэба сказаць, тое было не зусім па-савецку, а то й наадварот, нешта кшталту "літ-дыверсіі": бачыў, чытаў, не ўсё зразумеў (?), але... ухваліў! Пэўна, асабістая сціпласць паэта, эзатэрычныя творчыя памкненні і прэтэнзіі толькі "на свой шлях" не рабілі з яго кар'ернага канкурэнта для закаранелых акадэмікаў і аўтарытэтаў, а прадчуванне, што белліт нарэшце атрымае нешта нечуванае, пераважылі "бальшавіцкія" страхі.

У вузкіх паэтычных колах “Шлях-360” успрыняўся падзеяй рэвалюцыйнай, і наклад у 7 тысяч экзэмпляраў (сёння падаецца фантастычным) тады разышоўся па бібліятэках і сховах амаль незаўважна. Не думаю, праўда, што шмат чытачоў прачыталі, а тым больш рэальна ацанілі той зборнік, бо рабілася яно “навырост”, дзеля беларускай будучыні і мройных тады перспектыў на рэальнае адраджэнне. Ці ж не “сюррэалізмам” было марыць у 1981 годзе пра духоўную свабоду, беларускую незалежнасць і вызваленне ад камунізму?

Аднак сур’ёзна звязваць Разанава з сюррэалізмам (за выключэннем, бадай, такой аўтарскай формы, як квантэмы) не выпадае, бо стрыжнем ягонай творчасці ёсць рацыя і логацэнтрызм, выкарыстанне ў будове тэкстаў логікі слова і першаснасці думкі, абавязковая прысутнасць сэнсу ці нейкай высновы. Выпадковасці, імправізацыі, спантаннасці тут амаль не сустрэнеш. Усё ідзе нібыта па загадзя вызначаным, выверанымі шляху да пэўнай мэты і выніку. Хіба што не заўсёды гэты шлях наўпросты і часцей ідзе па складанай ці кругавой траекторыі (лічба 360 у назве – спасылка на геаметрычны круг). Калі чытаеш Разанава, заўсёды ёсць адчуванне, што аўтар загадзя ведае, чаго хоча, і што ў выніку атрымаецца, нібыта ў яго ёсць нейкі план, матрыца ці “навуковы” метад, які ўпэўнена вядзе да ісціны, кожны раз нібыта іншай, але ў нечым пастаяннай і нязменнай. То бок ягоныя тэксты амаль заўсёды здаюцца рацыянальнымі, павучальнымі, складзенымі штучна і наўмысна... проста. Але прастата не ёсць эквівалентам банальнасці альбо лёгкай зразумеласці, часцей шматслоўная балбатня бывае павярхоўнай і пустой, а лаканізм і нават паўзы маўчання – глыбокімі і сэнсоўнымі. Вось гэтая знешняя нібыта-даступнасць, а рэальная непадступнасць, закадаванасць многіх разанаўскіх тэкстаў робіць уражанне ірацыянальнай моўнай “алхіміі”. Такі парадокс – прастата, логіка і разважлівасць – можа быць расцэнены ледзь не як містыка і акультызм.

Ёсць меркаванне, што тэксты Разанава маюць медытацыйныя вартасці. Калі сыходзіць з усходняга трактавання медытацыі (а яно разам з распаўсюджваннем усходняй культуры ў свеце цяпер пераважае), то медытацыя мае на мэце выключэнне свядомасці, індывідуальнага мыслення, адыход у стан “пустаты”, “касмічнага розуму” ці нірваны. І тут разанаўскія вершы і проза ідуць “супраць цячэння”, бо іх чытанне вымагае якраз інтэлектуальнага напружання, услухоўвання і ўдумвання ў словы, мабілізацыі памяці і моўнага вопыту, дамыслівання ці дабудовы аўтарскіх вобразаў, то бок патрабуецца нешта адваротнае таму, на чым грунтуецца традыцыйная медытацыя. Але тое, што адбываецца пасля чытання, – здумленне, духоўнае прасвятленне, душэўная раўнавага, адчуванне набліжэння да ісціны (паводле разанаўскага вызначэння “паэтычнае рэха”) – можна ўжо трактаваць як свайго роду інтэлектуальную медытацыю альбо “медытацыю ў свядомасці”. Што ні кажы, а хоць нейкая карысць ад такой непрактычнай “пані”, як паэзія.

Што да сюррэалістычнасці разанаўскіх квантэмаў, то тут сапраўды ёсць пэўная рацыя. Бо гэтыя кароткія творы, што складаюцца з некалькіх візуальных ці гукавых вобразаў, на першы погляд абсалютна выпадковых і ніяк не звязаных між сабой, маюць прыхаваны сэнсавы патэнцыял. Вось напрыклад:

ахвяры абуджаюцца
нажы
з’ядаюцца іржою
чую рэха
хлеб аржаны

Калі ахвяры і сапраўды могуць быць зарэзаны нажамі (а потым ачуняць, бо не памерлі), а нажы ў сваю чаргу становяцца ахвярамі іржы (бо засталіся без працы), то пры чым тут новыя героі гэтай “масакры” – рэха і хлеб? Можа, тое ёсць аўтарскім сном, які ён проста занатаваў без “задняй думкі” (любімы занятак сюррэалістаў)?

Добра, хлеб таксама рэжацца нажом (гэта яго будзённая “ахвяра”), а якім бокам тут рэха? Нож робіць усё ціха, моўчкі. Можа быць, не да канца “зарэзаныя” ахвяры спрабуць нешта “прамаўляць” на *рэха*-мове? Звернем увагу на літары і гукі. ***Ахвяры-рэха-хлеб*** – хэкаюць зусім як паміраючы на апошнім выдыханьні. А*буджаюцца-нажы-іржой-аржаны* – рэжуць, аб***раж***аюць, а магчыма (тыя яшчэ га́ды!) – і***рж***уць. То бок мова забойцаў больш ***жор***сткая і ***жар***сная, чым мова ахвяраў. Можа, пра гэта і паведаміла аўтару рэха? Атрымліваецца, што, акрамя візульна-рэчавага шэрагу, у квантэме прысутнічаюць і чыста гукавыя сувязі, якія хаваюць іншыя сэнсы і нюансы, напачатку нябачныя воку, нячутныя вуху і не зразумелыя розуму. А яшчэ ў квантэмах часта сустракаюцца наватворы, ірацыянальныя вобразы, сутыкаюцца парадаксальныя словазлучэнні, абстрактныя з’явы: *чэрап пячор... вязні зла... месяц у лязе... апрануты ў прамень... жаданняў джалы... твар вераду... цень цішыні... насення вочы... прадонне з крыку...* і г.д. Тут часта прысутнічае эфект алітэрацый, гукавай гульні, але для Разанава гэта не самамэта, а сродак адшукаць іншы паварот думкі, новы сюжэт, небанальны сэнс. Калі казаць пра “ізмы”, то ў яго творах прысутнічаюць элементы не толькі сюррэалізму, але і сімвалізму, экспрэсіянізму і нават абстракцыянізму. Ён адкрыты для розных спосабаў выказвання, але арганічна ўпісвае іх у сваю творчую канцэпцыю. Такія ж прыёмы прысутнічаюць і ў паэмах, вершах, версэтах, вершаказах, хіба што ў квантэмах яны даведзены да ступені крайняй лаканічнасці, слоўнай звышэканоміі, бадай нават да выгляду гука-сэнсавах іерогліфаў, дзе двума-трыма моўнымі рухамі (слоўнымі рысамі) закладаецца некалькі паведамленняў-вобразаў, і, каб іх расчытаць, чытачу прапануецца актыўны інтэлектуальны суўдзел, то бок прайсці праз тое самае *здзіўленне*, *здумленне* і хаця б унутранае *прамаўленне*, праз якія прайшоў аўтар. Правакаванне на супрацу, а не толькі пасіўнае спажыванне чытачом паэзіі, – вось тое новае, што нясе творчасць Разанава.

Што ж такога нязменнага (акрамя веры ў свой шлях-дао і паэтычнае наканаванне) ёсць у ягонай творчасці? Ці існуе нейкая матрыца, скразны прынцып, які выводзіць ягоную думку з цёмных лабірынтаў здумлення да рацыянальна-лаканічных высноў? Тое, што найперш кідаецца ў вочы, – разанаўскі дуалізм ці нават яго амбівалентнае светаўспрыманне.

Палову жыцця падаюся ў свет,
палову – варочаюся са свету,
палову жыцця пішу на дарозе свае імёны,
палову – закрэсліваю напісанае,
палову жыцця расту ад зямлі,
палову – расту з зямлёю:
і ўсё менш у ва мне мяне, і усё больш
бязмежжа.

Існаванне душы і цела, левай і правай паловы, неба і зямлі, мінулага і будучыні прызнаецца ўсімі і для большасці людзей гэта не праблема. Нехта аддае перавагу душы і небу і лічыцца ідэалістам, нехта – зямлі і целу і будзе абазваны матэрыялістам, нехта трымаецца за мінулае і традыцыі і завецца правым кансерватарам, а нехта мроіць будучыняй і хінецца ў левы бок, магчыма, да ліберала ў ці анархістаў. Хтосьці верыць у Бога ці багоў – і мае права звацца вернікам, нехта верыць толькі ўласным вачам, вушам ці “брытанскім вучоным” і кажа, што ён скептык. І толькі некаторыя спрабуюць трымацца “залатой сярэдзіны”, экзістэнцыйнай раўнавагі, той невідавочнай лініі падзелу між супрацьлегласцямі свету: святлом і цемрай, рухавасцю і спакоем, болем і радасцю, праўдай і крыўдай, беднасцю і багаццем, злосцю і мілосцю... Алесь Разанаў з ліку такіх рэдкіх людзей. А паколькі гэтая мяжа празрыстая, як цень, тонкая, як лязо, хісткая, нібы акіянская хваля, то, каб утрымацца на ёй, трэба вялікае майстэрства раўнавагі, духоўнай засяроджанасці і выключнай

інтэлектуальнай рухавасці, як у таго зацятага сёрфінгіста, што шукае-ловіць "сваю" хвалю ледзь не ўсё жыццё, а злавіўшы, трымаецца на яе хісткай паверхні з усіх сілаў і спрыту, каб падоўжыць момант палёту-падзення ў знерухомленую вечнасць. Бо гэты момант-палёт і ёсць для яго галоўная ісціна і апошні сэнс. Сутнасць Разанава-філосафа (а ці можна аддзяліць яго ад Разанава-паэта?) у тым, што ён ясна разумее дваістасць чалавечай (дый любой іншай) прыроды і немагчымасць яе пераадолець, не разарваўшы суцэльнасці жыцця, тонкую тканку штодзённага існавання. Ён хоча захаваць гэтую суцэльнасць хаця б у сваёй свядомасці, у віртуальнай прасторы свайго "Я", бо ў рэальнасці, у свеце фізічных з'яваў і падзеяў скальпель быцця штохвілінна рэжа і раздрабняе суцэльнае на часткі, кавалкі, паверхі, сферы, якія то сутыкаюцца і кахаюцца, то паглынаюць ці канкурыруюць адно з адным. Вось гэтае нежаданне зрабіць "канчатковы выбар", імкненне захаваць дваістую сутнасць, свой амбівалентны патэнцыял (адначасна рухацца ўперад і назад, угору і долу, вонкі і ўнутр), робіць постаць паэта адзінокай на фоне броўнаўскага руху, мітусні і жыццёвага кідання "з агню ды ў полымя" большасці людзей, у тым ліку і творчых. І ў той жа час метафізічная нерухомасць Разанава (вобраз "*палёту стралы ў гліне*") суправаджаецца няспынным унутраным рухам, пошукам новых паэтычных формаў слова і думкі. То бок, знешні метафізічны пакой парадаксальным чынам спалучаецца з інтэнсіўнай духоўнай дыялектыкай, а творчая свабода з шляхам, які даўно наканаваны і вядзе да лагічнага канца.

Хто пытаецца ў мяне дарогу на ўсход, хто –
дарогу на захад...
Нібы раздарожжа, я паказваю ўсім, куды
ісці, а сам застаюся на месцы – на гэтай
зямлі, пад гэтым небам,
занадта лёгкі для глыбіні,
занадта цяжкі для вышыні, занадта цэласны, каб падавацца ў які-
небудзь бок...
Вось мая левая рука, вось – правая...
Я кладу зерне ў дол – і яно вырастае
ў дрэва: на адной галіне ў яго сонца,
на другой – месяц,
рознагалосыя птушкі з усіх канцоў свету
співаюць на ім свае песні і ладзяць гнёзды...
Тут мой захад, і тут – усход.

Але ёсць у гэтай паэтычна-філасофскай гісторыі адзін нюанс, які шмат чаго змяняе. Тая метафізічная, прыроджаная бінарнасць ("дваістасць"), якую прынцыпова спавядае і якой кіруецца Алесь Разанаў, ёсць характэрнай рысай і гістарычнам наканаваннем... беларусаў і Беларусі. "Дзве душы" беларуса, адвечныя ваганні між захадам і ўсходам, поўначчу і поўднем, мінулым і прышласцю – своеасаблівае "родавае праклящце", спадчынны "крыж", які нясе наш народ шмат стагоддзяў. Нават тысячагадовае хрысціянства дарэшты не вынішчыла ў тутэйшым людзе паганства, якое існуе разам з ім у дзіўным сімбіёзе. Нездарма апошні народны паэт Рыгор Барадулін называў сябе "кшчоным паганцам", а некаторыя менш помныя і менш адукаваныя з тутэйшых дасюль ходзяць у "праваслаўных атэістах". Кажуць: чужая душа – цёмны лес, а калі іх дзве? То гэта ўжо лес і балота, выбрацца з якого без добрага павадыра, бадай, немагчыма. Вось так нечакана паэт-наватар, творца новых жанраў, заняты нібыта толькі паэтычнымі праблемамі і ўласнымі духоўнымі пошукамі, стаў выказнікам патаемных плыняў нацыянальнай самасці, самога духу беларушчыны, пра якія раней ніхто не прамаўляў так проста, метафарычна і рацыянальна.

Калі глядзець не толькі назад, але і наперад, мне здаецца, Разанаў высвятляе і універсальныя праблемы быцця і нават намацвае шляхі для іхняга "пераадолення".

Сённяшні свет ужо не бі- і нават не тры-палярны, а шматгалосы, шматвектарны, палінарны. Ніякае *адно* ўжо не можа перамагчы ці навязаць *усім* сваё бачанне, мову, ідэалогію, мадэль ці мэты існавання. Сусветная мара пра манаполію духу і волі засталася ў мінулым. Разнастайнасць, поліфанія, альтэрнатыўнасць і ўзаемапранікненне культураў, моваў, звычак стала нашай рэальнасцю і наканаваннем. І гэта не радасны марш пад фанфары, як уяўлялася камуністам, глабалістам ды іншым аптымістам. Гэта няпросты, малапрыемны, для многіх балючы працэс упускання ў сябе *чужога* і *новага* ды выдаленне альбо здача "ў архіў" *свайго* і *старога*. Шлях – гэта не столькі паверхня, па якой мы ідзем, колькі тое, што аддаем і кладзем сабе пад ногі. Жыццёвы шлях нельга "пераадолець", яго трэба працерабіць сабою, выкласці сабою, стаць ім самім. У гэтым сутнасць разанаўскай "навукі", яе сіла і... слабасць: яна вучыць унутранаму руху, інтэлектуальна-духоўнаму пераўвасабленню, самабудаўніцтву, але не можа паўплываць на знешні свет, дзе трэба пастаянна рабіць выбар, рухацца толькі ў адзін бок, займаць пазіцыю ці апазіцыю.

Можна стварыць бізнес-імперыю, новую навуку, быць героем мас-медыя, а можна быць калгасным пастухом, бамжом ці непрыкаяным паэтам – вынік будзе той жа, кола замкнецца там, адкуль яно пачалося, любы шлях прывядзе да лагічнага канца, да "абнулення", да прорвы ў *нішто*... Уся розніца толькі ў тым, чаго больш было на гэтым шляху – болю і радасці, шчасця і пакут, страт і здабыткаў альбо – роздуму і раўнавагі. Амбівалентвасць азначае, што ўсяго заўсёды будзе пароўну, і як бы многа чалавек ні напладзіў дабра-зла, святла-цемры, розуму-дурасці – прырода-сусвет застанецца на сваім месцы, пры сваіх "інтарэсах". Дык навошта кудысьці імкнуцца, рваць жылы і сэрца, сушыць і плавіць глузды, выходзіць за межы магчымага і немагчымага?.. Гэта ўжо пытанне не да паэта, а можа быць і не да філосафа. І хто ўвогуле сказаў, што на ўсе пытанні павінен быць адказ? Калі маеш свой *шлях* і пакліканне, то ідзеш ім да самага канца, нягледзячы на боль, папярэджанні ці мудрыя парады.

Куды? адкуль?.. – маўчанне...
Не дасць адказу час.
Стаю – і сам пытанне,
іду – і сам адказ.

Так казаў і так вёў свой шлях Алесь Разанаў.

*P.S.* І вось напрыканцы падумалася: наш аўтар – універсальны паэт-думаннік, эксперыментатар і прапаведнік мастацкага слова, візіянер, пратаганіст і настаўнік сучаснага беларускага *дао*... Нібыта нямала, але ж (зважаючы на той самы дуалізм і амбівалентнасць) азначым, якім **не быў** Алесь Разанаў, кім не здолеў (бо не мог) ім стаць: лёгкім, песенным, гумарн*ым*, іранічным, сатырычным, суб'ектыўным, усенародным, меладраматычным, трагічным, непрыкметным, адрынутым, дарэмным... Дзеля ўсяго гэтага (на шчасце) ёсць іншыя.

# Анкета «Дзеяслова»

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным “хросным бацькам”?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх “тэхнічных прыладаў” Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы “творчыя стымулятары”: кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: “Ні дня без радка”? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі “не пішацца”, што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

# Уладзімір Мароз



***1.*** Перакананы – без звышняй прадвызначанасці чалавек не можа стаць творцам, нездарма ж у народзе існуе абсалютна просты і глыбокі выраз: “ад Бога”. Бывае, перачытваеш свой верш ці тэкст і не даеш веры, што гэта напісана табой – быццам нехта ў свой час надыктаваў табе якраз такія словы. Выпадкі адзінкавыя, але яны існуюць. Далей рэй вядзе прафесіяналізм, ты можаш нават злёгку прымушана сесці за чысты аркуш і пачаць пісаць апавяданне, эсэ, сцэнарый. Больш складана з вершамі – тут ролю грае хвіліна натхнення, яе якраз і не прапусціць бы. Так што толькі прызванне і прафесіяналізм, аніяк не абавязак, хобі ці звычка. Варта надзённа адзначыць, што сёння літаратура – справа мужных. Часам здаецца – навошта тваё пісанне, калі свет у бальшыні абсалютна прагматычны, калі ніхто нічога не чытае, калі практычна няма грамадскай запатрабаванасці на літаратуру дый увогуле мастацтва? Але часоваму адчаю не варта паддавацца. Трэба верыць, што якраз тваё слова стане той апошняй кропляй, якая на шалях дабра і зла перахіліць вагу ў бок дабра. Бо насамрэч нікому невядома, чыя будзе гэта кропля. Ды і проста не пісаць ты ўжо не можаш, калі згадаць, што літаратурныя жыццёвыя запісы, якія вяду дасёння, пачаў рабіць з восьмага класа. Мне падабаўся і падабаецца сам працэс пісання, складвання словаў у гожыя сказы, якія спатольна кіруюць за думкай. Вось і развяжы пытанне, адкуль твая любоў да слова на чыстым аркушы паперы? Спрыяла, што ў школьныя гады шмат чытаў – у бацькоў, настаўнікаў мовы і літаратуры, была добрая бібліятэка беларускай, рускай і сусветнай класікі. Калі дадаць метафізіку, адпаведны настрой будзіла Мікалаеўшчына, радзіма маёй маці, у дзяцінстве Міцкевіч, наднёманскі коласаўскі край, які сапраўды намагнічаны паэзіяй. Напэўна, якраз зямляк і далёкі родзіч Якуб Колас стаў “хросным бацькам” будучага пісьменніка, проста яскрава ўсвядомілася гэта значна пазней. Дый іншыя класікі – Янка Купала, Максім Багдановіч, Алесь Гарун. А ў студэнцкія архітэктурныя гады я купляў і чытаў паэтычныя кніжкі Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вяцінскага, Рыгора Барадуліна, Алеся Разанава, Уладзіміра Някляева, адкрываючы для сябе, што такое сучасная беларуская паэзія. І проза – Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Віктар Казько. У гады вучобы ў Літаратурным інстытуце ў Маскве дадаліся імёны рускіх класікаў і сучаснікаў – Інакенція Аненскага, Фёдара Цютчава, Аляксандра Блока, Сяргея Ясеніна, Барыса Карнілава, Івана Буніна, Уладзіміра Сакалова, Юрыя Кузняцова.

Калі гаварыць аб дэбюце, то першае апавяданне “Маскоўскае лета” было напісана ў 1974 годзе. Пры падрыхтоўцы да друку трхтомавіка “Выбранага” я згадаў-знайшоў яго проста ў сваіх запісах і практычна не правіў. Першы раз надрукаванае яно было праз сорак гадоў пасля напісання ў зборніку “Пад зоркай кахання”. Такіяпературбацыі творчага шляху звязаныя з тым, што першую адукацыю я атрымаў як архітэктар у Беларускім політэхнічным інстытуце, у літаратуру йшоў не наўпрост. Тым больш хацелася быць найперш паэтам. Ранейшыя

спробы вершаў выклікалі пытанні з рытмам, але вучоба на архітэктурным факультэце выправіла гэтую хібу, бо архітэктура – якраз найперш рытм. Першы закончаны верш быў напісаны падчас працы над дыпломам у БПІ і потым атрымаў адпаведную назву “Дыпломны праект па горадабудаўніцтве. Год 1975”. У дэбютнай паэтычнай газетнай публікацыі ў 1978 годзе яго няма, надрукаваны ён толькі ў маёй першай уласнай кніжцы “Голас” ў 1993 годзе.

***2.*** Аб адметнасці можна гаварыць толькі ў параўнанні, думаю, што творчы працэс у літаратараў падобны, розняцца адно нюансы. Празаічныя, эсэістычныя тэксты і сцэнарыі кампазіцыйна і змястоўна я прадумваю (выношваю) найперш у галаве, потым надараецца момант, калі застаецца толькі запісаць. З вершамі зноў жа свая гісторыя – тут у любы нечаканы момант можа прыйсці радок, страфа, далей трэба толькі давесці пачатае да канца. Бывае, праўда, для мяне рэдка, здараецца гэта адразу, у большасці выпадкаў вяртаюся да пачатага праз некаторы час. І калі ўдаецца зноў увайсці ў той эмацыйны стан, які і выклікаў першыя словы, то верш будзе напісаны. Нехта вершы якраз піша, стварае, думае іх, а я іх складаю. З’яўляюцца розныя варыянты слова, радка, страфы, але ў чыставой рэдакцыі застаецца тое, што і павінна было там быць. Як так здараецца – невытлумачальна. Адзін з важных складнікаў творчасці для мяне – назвы. Паэту іх даводзіцца прыдумляць непараўнальна больш, чым празаіку. У маім выпадку – яшчэ і назвы дакументальных фільмаў. Я люблю гэты працэс, часам здараюцца вельмі прыемныя знаходкі – “Шляхцянка-восень”, “За брамай забытых мелодый”, “Самотная альба вершніка”. Ад апошняга адштурхнуся для вызначэння найбольш плённага часу для творчасці – якраз ранішняя песня гучыць найбольш чыста і ясна, няхай нават і не мажорная. Для эсэ і сцэнарыяў, калі падціскаюць тэрміны, магчымы іншы час сутак, бывае, і за поўнач перасягае сядзенне за пісьмовым сталом. Для пісання ўжо даўно выкарыстоўваю камп’ютар, тут адразу бачыш не тое слова, неадпаведны стыль, адразу правіш. І толькі вершы па-ранейшаму пішу шарыкавай асадкаю на чыстым аркушы паперы – сакральны момант тут непарушны. Стымулятараў аніякіх не выкарыстоўваю, гэта ўсё манернасць, гульня ў пісьменнікаў. Нават калі яшчэ паліў, цыгарэта не набывала нейкі асаблівы сэнс. Галоўнае – мець ясную галаву. Запомнілася, як кіраўнік нашага паэтычнага семінара ў Літаратурным інстытуце Валерый Дзяменцьеў адзначаў, што Ясенін ніколі не пісаў на нецвярозую галаву. На сваім вопыце пераканаўся ў слушнасці такой высновы. Іншая справа – натхненне. Ёсць яно, як і згаданая звышняя прадвызначанасць. Толькі як зразумець, што яно ўжо тут, пры дзвярах? Не хвалюйся, дадзена будзе адчуць. “Дык садзіся, браток, і пішы”, як зазначыў я ў адным вершы.

***3.*** Калі ў цябе ўжо прадуманы празаічны тэкст, ці калі прыйшло паэтычнае натхненне, то і цяжкасцяў асаблівых няма пры пісанні. Галоўнае, вытрымаць стыль, бо якраз стыль, як адзначае мой калега і сябар Андрэй Федарэнка, робіць адметным аднаго пісьменніка перад іншым. Усе сюжэты напісаны-перапісаны, толькі стыль робіць цябе непаўторным. Адсюль і патрэбная належная ўвага якраз да слова, фразы, рытму твора. Напісаны абзац перачытваеш некалькі разоў, калі недзе спатыкнуўся – значыць, трэба правіць. Калі ўсё гладка, узнікае адчуванне адстароненасці аўтара ад свайго тэкста, значыць, можаш смела пісаць далей. І калі трэба – звяртацца да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедый. Бо трымаць агромністую інфармацыю ў галаве немагчыма, а ў тэкстах усё павінна быць дакладна, калі мець на ўвазе даты, падзеі, геаграфічныя паняцці.

***4.*** Чалавеку, які, паводле Боскага азначэння, вольны ў сваім выбары, нішто не можа перашкаджаць у творчай працы, хіба толькі ён сам і час, які пралятае вокамгненна і нагадвае табе, што далей

адкладваць задуму ўжо нельга. А спрыяе творчы настрой, на хвалю якога ты павінен быць настроены пастаянна, нават калі і не адгукаешся яму штодзённа. То бок ты заўсёды падсвядома ведаеш, што можаш сесці за стол і пісаць. Водгукі сяброў, рэдактараў, чытачоў чаўсёды чаканыя, але на маю творчасць аніяк не ўплываюць. Проста я ведаю, што хачу сказаць, ні пад каго падладжвацца ў любым выпадку не буду. А вось для творчага настрою водгукі важныя, яны падвышаць яго градус.

Што тычыцца вяртання да напісаных твораў дзеля іх удасканалення, то маёй прозы, эсэ, сцэнарыяў дакументальных фільмаў гэта не тычыцца. Напісаны тэкст вылежваецца некалькі тыдняў, потым свежым вокам чытаю яго, рэдактую, дзе трэба. І пасля гэтага да яго ўжо не вяртаюся. Па-іншаму бывае з вершамі, ды і то зрэдчас. Рыхтуючы да друку трохтомавік "Выбранага", з дзясятак ранніх вершаў я перарабіў ужо з гледзішча свайго літаратурнага вопыту. Адзін мой калега ўсё дапытваўся – а які ж тады год напісання ставіць? Стаўлю два, і тады зразумела, што верш я пераствараў у той ці іншай ступені. Так чэсна.

***5.*** У стаўленні да сваёй творчасці я хрысціянскі фаталіст: "Колькі дадзена словаў табе, столькі скажаш – не болей, не меней" (зноў самацытата). У мяне ёсць задума апокрыфа, амаль раман па аб'ёме мог бы атрымацца. Але час ідзе, накіды да твора множацца, а сам тэкст аніяк не пішацца. Вось і думаеш, згадаўшы хуткаплынны час – магчыма, табе і не варта пісаць гэты твор? Адказу на пытанне не ведаю. А вось тое, што далося напісаць, не расчароўвае. І паэтычны даробак, і празаічны, і эсэ з кінаэсэ, і запісы. Аніяк не сорамна. Таму і жыццё пражыць наноў, няхай сабе толькі ў асобных момантах, не хацеў бы. Значыць, такі лёс, такі жыццёвы шлях. Усе мае творы неад'емныя ад майго жыцця. Уласна, гэта і ёсць летапіс жыцця, які я стараўся напісаць у розных жанрах максімальна шчыра, без фальшу. Каб чытачу можна было адчуць душу чалавека і знайсці ў ёй водгук сваёй душы.

***6.*** Аб запісах, якія вяду са школьных гадоў, ужо згадваў. Гэта не дзённік у агульнапрынятым разуменні, хоць літаральна жыццёвыя запісы там таксама ёсць. Гэта больш роздумы, рэфлексіі на падзеі, на літаратурныя імёны і творы, на жыццёвыя з'явы. Штодзённа за іх не саджуся, толькі калі з'яўляецца штуршок занатаваць тое ці іншае. Пасля развагаў аб вызначэнні жанра спыніўся на назве "Згадкі хутаранца". Я сапраўды па псіхалагічным самапачуванні хутаранец, бо м*а*ю хату ад дзеда, якая пачыналася як хутар. І нават цяпер, калі побач суседзі, з ганка я іх не бачу – перада мной лес. Хутаранец і ў цывізацыйным асяроддзі бачыць усё крыху па-свойму. А згадкі таму, што тое, аб чым занатоўваеш, ужо адбылося.

Лянота ўласцівая, як і кожнаму чалавеку. Змагаюся з ёй неабходнасцю набіраць тэксты запісаў, бо да пэўнага моманту пісаў іх асадкаю. Ці раблю якраз запісы, для гэтага натхнення чакаць не трэба. Такой тэхнічнай літаратурнай работай уваходжу ў адпаведны стан, калі можна садзіца за аповеды жыцця, вершы, эсэ.

***7.*** Чытаў і чытаю, праўда, з уростам гэта ўдаецца менш. Кніг практычна не набываю, толькі маіх шанаваных Андрэя Федарэнкі, Валера Гапеева, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Някляева. Ды яшчэ тыя, якія з'яўляюцца з дарчымі надпісамі калегаў па літаратуры. У асноўным трымаю руку на пульсе праз творы, апублікаваныя ў "Дзеяслове" і "Літаратурнай Беларусі". З прачытанага замежных аўтараў не знік з памяці раман Харука Муракамі "Паляванне на авечак". Звычайна зло, з якім мы змагаемся ў сваіх тэкстах, абстрактнае, а тут яно персаніфікаванае. Нешта падобнае я хацеў бы выявіць і ў ненапісаным пакуль апокрыфе. Калі аб перачытанні, то найперш "Новая зямля" Якуба Коласа, геніяльны твор сусветнага ўзроўню. Паэму, як і Новы

запавет, можна чытаць і перачытваць з любога месца. Люблю разгарнуць том Аляксандра Блока, каб ухапіць паэтычны настрой. Цяпер перачытваю “Дзве душы” Максіма Гарэцкага, бо думаю, што з першага разу (даўно тое было) не ўсё зразумеў.

***8.*** Сучасная беларуская літаратура своеасаблівая, адметная, не горшая і не лепшая за літаратуры іншых краін. Асабліва яскрава я зразумеў гэта ў свой час па зборніку “Апавяданне-2005”, дзе прадстаўлены каля паўсотні аўтараў. Вялікая палітра. Прачытайце кнігу ад пачатку да канца – таксама адчуеце гонар за беларускае пісьменства. Нашай літаратуры не хапае толькі адной простай рэчы – розгаласу. Вельмі няшмат у нас водгукаў і абмеркавання напісанага і выдадзенага, няхай сабе толькі ў культурніцкім коле. Зразумела, неадваротна ўплываюць абставіны цяперашняга няпростага часу. Але творы пішуцца, і ў гэтым зарука будучыні. А маладым, якія ідуць літаратурнай сцяжынаю, жадаю мужнасці. Зняверыцца проста, значна больш складана мець змогі застацца на абраным шляху.

# З вышыні птушынага палёту

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***



**Анатоль Брусевіч. Крылы: вершы, паэма. – Гродна, ЮрСаПрынт, 2021. – 208 с.**

У кнізе вядомага гарадзенскага паэта Анатоля Брусевіча пад адною вокладкай сабраныя творы розных гадоў. Тэматычна яны аб'яднаныя ў чатыры раздзелы: "Верныя вершы" – тут пераважаюць творы філасофскага зместу, уздымаецца тэма суадносінаў мастака і мастацтва; "Пад сцягам Мадагаскара" – раздзел, прысвечаны "малой" і "вялікай" Радзіме, "далёкай" і "блізкай" Айчыне, "сваёй" і "чужой" Бацькаўшчыне; "Сумная вакханалія" – тут змешчаны тэксты, якія носяць, так бы мовіць, дыянісійскі характар; "Ты – як зямля" – інтымная лірыка. Завяршае гэты густоўна аформлены том паэма "Крылы".




**Алег Дашкевіч. З вышыні птушынага палёту: апавяданні. — Мінск: Выдавец Раман Цымбераў, 2022. — 120 с.**

Апавяданні Алега Дашкевіча вядомыя чытачу "Дзеяслова". Яны друкаваліся ў розных перыядычных выданнях Беларусі на працягу больш як дваццаці гадоў, але сабраныя разам у кнігу ўпершыню. Гэта своеасаблівыя замалёўкі-рэпартажы з мінулага і нашага стагоддзя (тысячагоддзя!), у якіх дакладна, сур'ёзна і з гумарам перададзены той час, падзеі і надзеі беларусаў, а праўдзівей – само нашае жыццё.




**Альжбета Кеда. Антанёва: кніга прозы. – Гародня, 2021. – 332 с.**

Цудоўная кніга гарадзенскай літаратаркі – аповед-быль пра гісторыю лясное вёскі Антанёва на Карэліччыне, у Налібоцкай пушчы. Гэта працяг цыклу жывой мастацкай гісторыі пра жыццё ў малых беларускіх вёсках, што, на жаль, няўхільна сыходзяць у нябыт, распачаты аўтаркай у кнізе "Шчонаўскія абразкі". Спадарыня Альжбета сабрала яго аскепкі, каб не страцілася, – з вераю, што напісанае застанецца. *Dum spiro, spero.*

**Новы замак. Літаратурны альманах. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2022. – Вып. 10. – 286 с.**




Пабачыў свет дзясяты выпуск гарадзенскага літальманаха “Новы замак”. І вось чым ён радуе чытача. У рубрыцы “Паэзія” друкуюцца творы Рычарда Бялячыца, Уладзіміра Васько, Міколы Канановіча, Мечыслава Курыловіча, Алы Нікіфорскай, Віктара Сазонава, Галіны Самойла, Станіслава Судніка. Проза прадстаўленая імёнамі Анатоля Брусевіча, Віктара Варанца, Уладзіміра Васько, Валянціна Дубатоўкі, Міхася Зізюка, Паўла Каспяровіча, Янкі Трацяка, Уладзіміра Хільмановіча. У выпуску два драматычныя творы – трагедыя Віктара Варанца і “сучасная камедыя-фантасмагорыя” Сяргея Чыгрына. У раздзеле “Дакументальная проза” – гістарычныя хронікі Леаніда Лаўрэша і згадкі Альжбеты Кеды. “In memoriam” прысвечаны кранальным успамінам пра Юрку Голуба, якому сёлета споўнілася б 75 год, ад яго калегаў-землякоў. Раздзел “Спадчына” акурат адкрываюць вершы Юркі Голуба з рукапісу кнігі “Аберуч” (гэты паэтычны зборнік быў падрыхтаваны аўтарам да друку яшчэ ў 2014 годзе). Далей у раздзеле фрагменты яшчэ аднаго паэтычнага зборніка, што застаўся ў рукапісе. Аўтар яго, Яўген Краскоўскі, заўчасна сышоў у 2010 годзе. І гэта далёка не ўсё! Знайшлося ў выпуску месца і дзіцячай літаратуры, і сатыры з гумарам. Асобна адзначым файную рубрыку “Хроніка”, дзе прасочваецца пульс культурніцкага жыцця Гарадзеншчыны.

“Дзеяслоўцы” найшчыра віншуюць шаноўных калегаў з юбілейным выпускам і зычаць не спыняцца і надалей радаваць чытача выдатнымі публікацыямі!

**Андрэй Скурко. Пра сланоў і барсучкоў для дзяўчат і хлапчукоў: вершы. Маст. Р. Гарошка. — Мінск: Тэхналогія, 2022. – 64 с.: іл.**




Дзіцячая кніга Андрэя Скурко выйшла спярша ў аўдыёфармаце – у агучцы народных артыстаў Беларусі, а таксама маладых актораў. І вось нарэшце маем яе ў друкаваным выглядзе – з яскравымі і прыгожымі ілюстрацыямі. Старонкі поўняцца жывымі малюнкамі, вясёлымі і пазнавальнымі вершыкамі. 65 бліскучых вершаў, на кожнай старонцы – цудоўныя, жывыя малюнкі. А ў канцы – QR-код, па якім можна глядзець гэтыя ж вершы ў мульціках! Як адзначаюць выдаўцы, “вершы Андрэя Скурко – скарб для дзіцячай літаратуры, бо налітыя любоўю і ўвагай да малых. Яны лёгка чытаюцца, лёгка запамінаюцца і назаўжды застануцца ў нейкім важным закутку свядомасці, з якога ўсё жыццё будзе чалавек пасля чэрпаць натхненне і ўпэўненасць у сваёй каштоўнасці”. Кніжка прыдатная як для самастойнага чытання малодшымі школьнікамі, так і для чытання бацькамі.

**Тацяна Сапач. Гаспадыня восеньскага дому. Укладаньне і камэнтары Сяргея Дубаўца. – Прага: Вясна, 2022. – 336 с.**




Дзівосныя вершы Тацяны Сапач уяўляюць сабой дасканалую музыку слоў і завяршаюць залатое XX стагоддзе беларускай паэзіі. У кнігу ўвайшлі ўсе вядомыя паэтычныя творы, а таксама пераклады сучаснай літоўскай і польскай паэзіі, эсэ, інтэрв’ю, фрагменты электроннага ліставання.




**Усевалад Сцебурака, Анатоль Сцебурака. Сцебуракаў лёс: гісторыя роду. – Мінск: Кнігазбор, 2022. – 300 с.**

У гэтай кнігі чатыры аўтары – два Анатолі (дзед і ўнук), Мікола (бацька) і Усевалад Сцебуракі. Чатырохгалоссе, што маем на трохстах добра ілюстраваных старонках, – напраўду суладны ансамбль, дзе кожны голас выдатна вядзе сваю партыю. Ніхто не крычыць, не рве на сабе кашулю (я самы галасісты), не перабівае. Паводле стылю – гэта прыклад добрага нон-фікшну (з элементамі экшну). Як тое сталася мажлівым? Маем адно тлумачэнне – праз любоў ды ўзаемапавагу. І вось міні-ілюстрацыя што да гэтай самай галоўнай складовай.

На пачатку раздзела “Мой Казахстан” ёсць абразок, у якім аўтар, спадар Мікола, згадвае эпізод пра глухога казаха, які ахоўваў саўгаснае зернясховішча. *Была глыбокая восень з ветрам і дажджом. Глуханямы, паклаўшы стрэльбу на калені, хутаўся ў ірваны чапан і дрыжэў ад холаду. Баба Зіна заварыла чайнік, адрэзала лусту хлеба, узяла кавалак пілаванага цукру і панесла гэтаму грознаму ахоўніку... Што яна сказала яму і наогул – на якой мове можна было паразумецца з глуханямым казахам? Думаю, на мове дабрыні...* Вось жа, і кніга “Сцебуракаў лёс” тою ж моваю напісана. Моваю любові і дабрыні. Зычым кнізе вялікай чытацкай увагі і – шчаслівага лёсу.




**Штрихи к портрету Ивана Бурсова / подгот., сост. Т.П. Овсянниковой; худож. Б. Комаров, А. Кондаков. – Минск: Издатель Роман Цимберов, 2022. – 408 с.**

Гэтае выданне – вынік працы з хатнім архівам Івана Бурсава і прымеркаванае да 95-годдзя з дня народзінаў пісьменніка, шырокую вядомасць якому прынеслі передусім яго творы для дзяцей. Кніга складаецца з пяці раздзелаў. У першы ўвайшлі эсэ, прадмовы, выступы Івана Бурсава на прэзентацыях кніг. Другі раздзел знаёміць чытача з рэцэнзіямі на кнігі знанага літаратара і артыкуламі пра яго творчасць (шэраг тэкстаў друкуецца ўпершыню). Трэці раздзел прадстаўлены эпісталярнай спадчынай: адрасантамі пісьменніка былі П.-У. Андэрсан, Р. Барадулін, П. Броўка, Г. Бураўкін, У. Караткевіч, І. Шклярэўскі ды іншыя знакавыя постаці. У чацвёрты раздзел увайшлі дароўныя надпісы як Івана Бурсава, так і – Івану Бурсаву. У пяты раздзел уведзены бібліяграфічны паказнік твораў, а таксама – рэцэнзій на кнігі і артыкулаў пра творчасць пісьменніка. У кнізе багата фатаздымкаў, большасць з якіх друкуецца ўпершыню. Выданне здзейснілася дзякуючы ў першую чаргу працы ўкладальніцы, аўтарцы біяграфічнага артыкула, складальніцы бібліяграфіі Тамары Аўсяннікавай, а таксама – жонкі паэта Рыты Маркаўны Бурсавай.

knihi.by
кнігі поштай: беларускія кнігі, музыка, відэа

# ЗМЕСТ часопіса “Дзеяслоў” №1-6 (116-121) за 2022 год

# Нашыя аўтары

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «Яблычны пах цішыні», дакументальнай аповесці «Чорны год» ды інш. Перакладае на беларускую мову вершы нямецкіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх паэтаў. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бачышча Юрый** – гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар навуковых і папулярных артыкулаў па канфесійнай гісторыі Беларусі, гісторыі беларускага руху і літаратуры, пра М. Радзівіла Чорнага, А. Валовіча, А. Вольскага, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка і інш. Нарадзіўся ў 1977 годзе ў пасёлку Крупскім на Міншчыне. Загадчык аддзела ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Жыве ў Мінску.

**Бражнік Вольга** – украінская паэтка, тэлежурналістка. Аўтарка кнігі вершаў «Якщо вона є». Лаўрэатка літаратурнай прэміі «Золотий цап» імя І. Драча. Нарадзілася ў Белаполлі на Сумшчыне.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Ешкілеў Валадзімір** – украінскі празаік, паэт, эсэіст. Аўтар кніг прозы «Візантійська фотографія», «Інше гроно проникнень і свідчень», «Ідеальна У», «Мандри Солтиса та ін. Історії», «Тибет», «Місто термітів» ды інш. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Івана-Франкоўску, дзе і жыве.

**Дуброўскі-Сарочанкаў Алесь** – паэт, філолаг, тэолаг. Аўтар кніг вершаў «Паміж небам і багнаю», «Религия, преодолевающая себя», «Эстэтыка маўчання», «На тонкай нітачцы», манаграфіі «Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша» ды інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Навагрaдку. Жыве ў Мінску.

**Жалязнова Аляксандра** – паэтка. Выпускніца Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Нарадзілася ў 1999 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Жыбуль Віктар** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дыверсант», «Рогі гор», «Прыкры крык», «Дыяфрагма», «Стапеліі», «Дзяцел і дупло» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Козел Андрэй** – паэт. Творы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», газеце «ЛіМ», пераклады ў газеце «Рэспубліка». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў пасёлку Новагарадзейскі на Нясвіжчыне. Жыве ў Нясвіжы.

**Кунцэвіч Яўген** – паэт, перакладчык. Скончыў філасофскі факультэт БДУ. Выпускнік Школы маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў (2021). Перакладае з украінскай, рускай, іспанскай і ангельскай моў. Пераможца Фэсту аднаго верша (2021). Нарадзіўся ў 2000 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лапацін Генадзь** – паэт, этнограф, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі «Лепить из снега», «Без чисел и дат», «Луны преобладанье», «Увидеть дерево», «Около облака», «Поделиться небом». Аўтар шматлікіх публікацый па этнаграфіі, фальклору, дыялектнай фразеалогіі. Выдаў кнігі «“Ікона звалась Свячой...” Абрад “Свяча” ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны», «Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры», «К каждаму разгавору прыказка ё...» Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Мароз Уладзімір** – празаік, паэт, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» ды інш. Аўтар сцэнарыяў больш як 60-ці дакументальных фільмаў. Фільм «Успаміны пра Міколу Равенскага» адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1994). Нарадзіўся ў 1953 годзе

ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Наркевіч Стася (сапр. Лазебная Анастасія)** — празаік, паэтка, публіцыст. Творы друкаваліся ў абласным і рэспубліканскім друку. Аўтарка зборніка апавяданняў «Настальгія», кніг прозы «Камп'ютарны путанчык», «Пырскі» кнігі вершаў «Ты зразумей мяне такую...», твораў для дзяцей, сярод якіх казка «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце». Нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Куляшы Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці.

**Палынская Дар'я** – празаік, гісторык. Творы друкаваліся ў часопісе «Маладосць», зборніку «Першацвет». Сузаснавальніца гістарычнага клуба «Beer&History» (Беласток). Нарадзілася ў 1994 годзе ў Красным. Цяпер жыве ў Беластоку.

**Пшыгодскі Валерый** – перакладчык. Аўтар навуковых артыкулаў па лінгвістыцы, у прыватнасці, па пытаннях мастацкага перакладу. Магістр гуманітарных навук. Нарадзіўся ў 1997 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Сідарук Ігар** – паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона» ды інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сіўко Франц** – празаік, публіцыст. Аўтар кніг «З чым прыйдзеш...», «Удог», «Ягня ахвярнае», «Асіметрыя», «Дзень бубна», «Выспы», «Эдэм», «Раз – шкілет, і два – шкілет» ды інш. Лаўрэат прэміі «Гліняны Вялес» (2015). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Вята на Мёршчыне. Жыве ў Віцебску.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца» ды інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Стывенсан Роберт Льюіс** – шатландскі пісьменнік і паэт, аўтар прыгодніцкіх раманаў і аповесцяў, найбуйнейшы прадстаўнік неарамантызму. На беларускую мову яго творы перакладалі А. Асташонак, В. Гардзей, Я. Семяжон. Нарадзіўся ў 1850 годзе ў Эдынбургу (Шатландыя). Памёр у 1894 годзе на выспе Уполу (Самоа).

**Сцебурака Усевалад** – паэт. Аўтар кніг вершаў «Крушня», «Бег па самаадчуванні», «Сны дарог». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2004). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Жлобіне. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** – паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка», «Павук». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Чыгрын Сяргей** – паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» ды інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка ды інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Шульман Давід** – празаік. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг прозы «Когда мы ездили за носками», «Дзе ўзяць крыху шчасця», «В тёплом городе Эйлате», «Баскетболистка с улицы Жданова», «З вялікай літары «Б», «Особое женское состояние», «Жанчына валіць з ног, жанчына ставіць на ногі», «Не по правилам сыграли», «Краткие истории нашего времени», «Горад без перапынку», «Жизнь без антракта». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Барысаве. Жыве ў Эйлаце (Ізраіль).

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.